Брэсцкае абласное аддзяленне грамадскага аб’яднання
«Саюз беларускіх пісьменнікаў»

# ЖЫРАНДОЛЯ

## ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ

**ЗАСНАВАНЫ Ў 2008 ГОДЗЕ**
**ВЫПУСК 10**




**МІНСК, «КНІГАЗБОР», 2018**

УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-822

Літаратурны альманах Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб’яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў»





*Дзясяты выпуск літаратурнага альманаха «Жырандоля» прысвячаецца светлай памяці яго заснавальніцы — вядомай пісьменніцы Ніны МАЦЯШ, якой сёлета споўнілася б 75 гадоў.*

**ISBN 978-985-7207-17-6**

# ПАЭЗІЯ





## Ігар Шарай

Нарадзіўся 29 жніўня 1964 г. у Салігорску. Вершы друкаваліся ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», Брэсцкай абласной газеце «Заря», у паэтычных зборніках «Дзядзінец», «Першацвет» і «Жарсць кахання». Выдаў кнігу паэзіі «Разумець маўчанне» (2018). Жыве і працуе ў Белаазёрску.

* * *

Свядомасць мудрасцю вянчаць
І не прыспешваць святкаванне.
Пара маўклівасці — прызнанне
Ці непачцівасці пячаць?

Блуканне ўпоперак і ўдоўж,
Напэўна, не наблізіць мары.
І нешта праведнае ў твары,
І неапраўданае ўсё ж.

* * *

Адліга. Сонца. Ветрыку раскрылле.
Прачнуліся, пабеглі побач зноў
Тваё трыванне і маё бяссілле
Да прамаўлення самых чулых слоў.

У чым ён, найвышэйшы сэнс кахання,
Працягласцю ў жыццё?
І як нам быць:

Ты перастала разумець маўчанне,
Калі я страціў здольнасць гаварыць.

* * *

*Ніне Мацяш*

У далеч!
Да яснага сонца,
Да галавакружных вяршынь!
Ды з часам уздых адзіноцтва
Пранізвае ўзнёсласць душы.

І страты знясільвае значнасць.
І вось ужо спелім з табой
Гаротныя думкі і ўдзячнасць
За тое, што зведалі боль.

* * *

Дай моцы мне расправіцца з бядой.
Ёй проста так у твар не плюнеш сыты.
Адзінай доляй мы з табой спавіты,
Ды кожны йдзе дарогаю сваёй.

Дай моцы (гэтак рэдка я прашу)
Узняцца, хмаркай плыць
у паднябессі —
І то дажджом зрывацца ўніз, то песняй
Для тых, хто прагне песень і дажджу.

Дай моцы не скарыцца варажбе
І зноў не перайсці на крык ганебны.
Дай моцы мне, каб не было дарэмным
Капанне штохвіліннае ў сабе.



## Ірына Ляшкевіч

Нарадзілася 7 сакавіка 1969 г. у в. Мачуль Столінскага раёна. Працуе ў Мачульскай школе. Першыя вершы надрукавала ў раённай газеце «Навіны Палесся». У 2000 г. у бібліятэцы часопіса «Маладосць» выйшаў паэтычны зборнік «Сувой», а ў 2018 г. — кніга паэзіі «Вас я чакала». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

* * *

Вас я чакала, пэўна, Вас…
Калі апошні промень згас
Малінавага дня.
А шаты неба нада мной
І вечар сіняю сцяной —
Найблізкая радня.

Вам я шаптала, пэўна, Вам
Кахання словы, а багам
Малітвы ўдзячнасці.
Там сцежка вузкая ў траве
І вэлюмам туман плыве,
Хвіліны шчаснасці.

Вы ўсё ж былі, напэўна, Вы…
Зляцелі гусі на ставы
З нябёс анёламі.
Пяшчотнасць Вашых вуснаў, рук…
А сведкі — той магутны дуб,
Жаўрук над сёламі.

* * *

Ці гэта сон? Ці лёс жартуе?
…Яна ступіла на парог.
Як закаханасць ёй пасуе
І позірк светлы без трывог!

І думаць нават не захочаш,
Дзявочай страчанай красой,
Што прыйдзе пасля грэшнай ночы
Самотны ранак са слязой.

Растане сон блакітнай птушкай.
Праменяў лёгкія сляды
Спадуць на цёплую падушку,
А фея знікне назаўжды.

*** * ***

Мне важна ведаць, што Вы ёсць
У гэтым тлумным, шэрым свеце,
Што ў Вашым сэрцы я не госць,
Як нечаканы снег на квецень.

Што ў вашым сэрцы я — вясна…
З вясной пяшчота і надзея.
Я — ноч жаданняў давідна.
Я — цёплы промень, што сагрэе.

Мне трэба ведаць, што Вы ёсць,
Такі сапраўдны ў маёй мары.
Ваш светлы позірк, маладосць
Ці адшукаю ў нечым твары?

*** * ***

не дакранайцеся ні позіркам, ні словам.
мы ведаем дарэмнасць спадзяванняў.
каханне наша птушкай папяровай
растала ў тым дажджлівым шэрым ранні.
і не было ні жалю, ні самоты,
і згас на вуснах спешны пацалунак,
аледзянеласць, холад адзіноты
і пустата асірацелых мараў, думак.

* * *

Не для нас гэты вечар сіні...
для мяне...
будзе соладка ад марціні,
жаль міне.
дзень шалёны нарэшце змогся,
недзе знік.
над налітым жыццём калоссем
птушкі крык.
між зямлёю і небам пастка
для душы.
маё цела даўно па частках...
на крыжы.

* * *

Каханне трэба заслужыць
ці нават вымаліць у Бога,
Каб на апошняй той мяжы
не вінаваціць анікога.
Лепш адзінота без маны,
паклон адбіць свайму парогу,
Лепш прыхінуцца да сцяны,
чым да пляча, табе чужога.
Лепш побач крочыць, нібы цень,
і не парушыць лёсу нітку.
Уранку сонечны прамень
вянчальнай абаўе наміткай.
І за анёлам прашапчу
малітву ціха, слова ў слова:
— Я быць каханаю хачу
і шчасце перажыць нанова...



## Ірына Сідарчук

Нарадзілася 15 траўня 1974 г. у в. Вельямовічы Брэсцкага раёна. У 1991 г. скончыла Лышчыцкую сярэднюю школу з залатым медалём, у 1997 г. — Брэсцкі політэхнічны інстытут. Цяпер жыве ў аграгарадку Матыкалы, працуе начальнікам цэха ў ААТ «СГЦ "Заходні"».

### * * *

Та осень пахла яблоком с ладони.
Ты сжал рукою тонкое запястье.
Манило небо журавлиным звоном,
И крылья робко расправляло счастье.

Писала осень красочно картины,
А ты творил воздушные сонеты,
Где рифмовал меня с «лясной шыпшынай».
Я пахла ясным яблочным рассветом.

Мы не смогли, увы, решить вопросы —
Зима пришла бела неумолимо.
Но я люблю ту яблочную осень,
Где я была сонетна и любима.

### * * *

Ля пад'езда гітара трэнькае,
Да падлеткаў дзяўчаткі туляцца,
А з акенца бабуля сівенькая
Пазірае на шэрую вуліцу.

І кудысь бы пайшла, ды хворая,
А сяброўкі даўно згубіліся.
Дзесьці ў полі бялюткім пад зорамі
Ссірацелая хатка схілілася.

Там сярпок і кароўка слаўная,
Тут унукі паміж лянотаю,
Пацалункамі, смехам, каваю
Пакідаюць яе з самотаю.

І туды душа паляцела бы,
Там навекі застацца згодная.
Лісце падае з дрэў змярцвелае,
Ахінае туга халодная.

Ля пад'езда гітара трэнькае,
Ціхі смутак да сэрца туліцца.
Я, бы тая бабуля сівенькая,
Узіраюся ў шэрую вуліцу.

* * *

Вусны скусаныя, Маргарыта,
Апраўдання няма — жывая.
Толькі келіх віна разбіты,
Бруднай плямкай адбітак раю.

У зняверанасці без меры,
Дзе пакутлівае навошта
Адчыняе апоўначы дзверы,
Каб надзеі сканаць апошняй.

Палыновыя пацалункі
Не пасуюць ужо да твару.
Пераблыталіся карункі —
І драпежніца, і ахвяра.

І засмучанае сумленне
Напаўночы гвалтуе цела:
Ці то ў багну заве, ці ў сненне
Шэпт змяіны: «Сама схацела».

* * *

А дальше начнутся будни,
В которых меня не будет,
Лишь дождь холодком по коже
На робкий вопрос: а может?..

Ты будешь кормить синицу,
Себе говорить: так надо…
И шарить ревнивым взглядом
В гостях на моей странице.

Мне ж осень, дожди считая,
Покажет дорогу к птицам,
И я с журавлиной стаей
Успею соединиться.

* * *

А возле дома снова дождь,
И я весь день в уюте пледа
Лениво проживаю лето
И не хочу готовить борщ.

Дождя волшебные молитвы
Меня баюкают умело.
И даже если б я хотела,
Не одолеть сакральной битвы

С дождливым голосом тягучим
И вырваться из плена пледа,
Расширив горизонты света,
Где неба нет — всё небо туча.



## Васіль Ермашук

Нарадзіўся 13 снежня 1974 г. у г. Кобрыне. Вучыўся ў Брэсцкім політэхнічным інстытуце (цяпер — БрДТУ). Працаваў будаўніком. Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў абласной газеце «Заря», «Кобрынскім весніку», у калектыўных зборніках «Святло Вялікай Перамогі» (2015), «Пад крылом белага бусла» (2015), «Зямля бацькоў дае натхненне» (2017), Жыве ў Кобрыне.

### Новичок

*Миколе Сенкевичу*

Клавиша белая, клавиша чёрная,
Только два цвета — любить и страдать.
В зале, где прятался я за колоннами,
Мне надлежало всего лишь сыграть…

Мастер печали под стройными нотами
Спрятал тропинку на крохотный трон,
За изумительно скромными, только бы
С сердцем запели они в унисон;

Пусть на бумажной, всё терпящей, плоскости
Мест не осталось восторгам пустым —
Мне же, с моей удивительной ловкостью,
Можно испортить всё жестом одним…

В горле комок не без слёз растворяется,
Первые ноты почти не слышны…
Но, улетая, они возвращаются
Белыми птицами в чёрные сны!

## Встреча

> Буйных гостей голоса покрывают шумящие краны:
> «Ванну, хозяин, прими, но принимай и гостей!»
> *О. Мандельштам*

Умышленная пауза, умышленная вовремя;
Ночь, утро, день, вечер…
Стены коридоров, комнаты, пол, потолок…
Казался вечным этот полусон.
Заходили в гости, словно взрослые,
Заготовленными фразами располагали,
Забывая солнце в прихожей,
Ослеплённое фонарями. Но ветры
Стучались в проёмы оконных рам.
И становилось ясно: что-то не то…
И мы играли, играли в камерном оркестре —
А души, наши растрёпанные души купались в облаках!



## Ігар Сідарук

Нарадзіўся 23 ліпеня 1964 г. у г. Кобрыне. Драматург, празаік і паэт. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Зведаў спецыяльнасці ад заліўшчыка металу да карэспандэнта незалежнае прэсы. Ад 1993 г. — загадчык літаратурна-драматычнай часткі Брэсцкага тэатра лялек. Аўтар паэтычных зборнікаў «Чарнабел», «Саната Арганата», «Моўкнасьць», зборніка прозы «Квадратная варона», кнігі для дзяцей «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» і каля 20 п’ес, пераважна дзіцячых. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## У што я веру

Я веру, што мы прыходзім на Зямлю зрабіць яе крыху
прыгажэйшай. Толькі з часам многія з нас забываюць
пра гэта.
Я веру, што мы сустракаем тых людзей, па якіх сумуюць
нашы душы. І што калі губляем такіх людзей — недзе
высока-высока Бог разрывае белапенныя аблачыны і
ператварае іх у чорную навальніцу. І тады няспынная залева
змывае многае; але не ўсё, не ўсё…
Я веру, што раніца павінна пачынацца разам з той, хто так
асцярожна ўмее кранаць тваю шчэць, безадрыўна глядзець
у вочы.
Я веру, што немагчыма скласці верш проста так — ён або
для цябе, або для Сусвету, які ўсміхаецца ў такія хвіліны.
Веру, што і ўсмешка каханай — намаляваная ў самым сэрцы
кветка, водар якой можна адчуць нават за тысячы кіламетраў,
сярод цёмнай ночы.
Я веру, што не бывае тысячы кіламетраў — калі ёсць ты
і я, калі ёсць неба, калі ёсць адчуванне злучнасці: скрозь
мігатлівыя зоркі і туманныя досвіткі.
Я веру ў трымценне сонечных промняў з дробнымі
часцінкамі пылу: у сакавіцкіх бярозах, у якіх, магчыма, ты і
хацела б схавацца, ды толькі я ведаю, як выглядаюць адбіткі
ўрачыстай хады тваёй.
Я веру, што сёння, як і заўжды, будзе шмат сонца. І будзеш
ты; і святло ад цябе — скрозь сакавіцкія пупышкі, і скрозь
Зямлю, якая робіцца ад гэтага крыху прыгажэйшай.



**Аляксандр Рызо**

Нарадзіўся 27 траўня 1956 г. Працуе на СП ААТ «Брэстгазаапарат». Аўтар паэтычных зборнікаў «Последний лирик» (1999), «Зима тысячелетия» (1999), «Знают взрослые и дети» (2016), «Эпоха» (2017). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## *ПОРУБЕЖЬЕ*

### Герб города Бреста

В цветенье сирени, каштанов
мой город, словно часовой,
свершенья охраняет, планы
и рубежи земли родной.

Из века в век он этим занят,
не расслабляясь ни на миг,
не ради почестей и званий
он дело ратное постиг.

Таков удел наш порубежный:
живём на самом острие.
Мы, как и прежде, неизбежно
готовы послужить стране.

Чтоб указать потомкам главный,
единственный и верный путь,
тысячелетний, трудный, славный.
Стрела и лук — вот наша суть.

*** * ***

По улицам старого Бреста
люблю в октябре я бродить,
и прошлым из жизни контекста
себя без конца теребить,
жалеть, о потерянном плакать,
надеяться, что повезёт.
Я, в сущности, просто зевака,

а жизнь как ползла, так ползёт.
Кленовая щедрость безумна:
сквер словно персидский ковёр.
И птицы кричащими рунами
скользят в забугорный простор.
Но я им теперь не завидую —
иссяк эмигрантский запал,
и, словно смиряя обиду, я
редко хожу на вокзал.
(Закончились поиски рая.)
Ещё одна осень пришла,
и то ли всерьёз, то ль играя,
вновь счастливы наши тела.

*** * ***

Весенняя неразбериха на улицах царит с утра:
прилежно чистит пёрышки голубка,
как вечный двигатель, грохочут флюгера,
раскрепощается народ, короче юбки,
десятком рыбаков усеян шлюз,
велотуристов с каждым днём всё больше,
МИГ рассекает небо жаром дюз,
скользя над Бугом, рядом с Польшей.

Лишь журавли не знают суть границ,
в родном краю для них всё постоянно,
влекут луга и холодок криниц,
укрытых пологом белёсого тумана.
Как возвращения домой, я ждал весну.
И вот свершилось! Небо голубое,
в нём солнца диск, похожий на блесну,
и мир, как подтверждение любови.

## Полония

Над Вислой широкой я словно бы дома.
Небес первозданность в капельках призм,
и, как подтвержденье простой аксиомы,
сквозь серый гранит прорывается жизнь.
Здесь бугские воды из брестских предместий
несут свою память в вислянскую глубь

на протяжении стольких столетий,
поэтому край этот мил мне и люб.

## Замухавечье

Неузнаваемо совсем Замухавечье:
Волынка, Вулька, Ковалёво, Красный Двор —
их естество накрыла флёром вечность,
но прошлого заманчивый узор
запечатлён навеки в поднебесье
средь тысяч милых видов, навсегда.
Как отыскать те брестские предместья
и воскресить минувшие года?
В каких архивах вышних канцелярий
под зорким оком Бога самого
хранится города утраченный гербарий
из детства золотого моего?

## Шпановичи

Пляж опустел. Притихшая река
укрыта пологом белёсого тумана.
Несмелые потуги ветерка
с неуловимым запахом тимьяна
качают на воде лебяжий пух.
Покинула приют пернатых стая,
досрочно эмигрировав на юг.
Осиротела суши часть шестая.
Понурые фигуры рыбаков
прилипли, словно попрошайки,
к ложбинкам и откосам берегов.
Страдают немотой речные чайки.
Торопится, едва начавшись, день
от неуюта спрятаться скорее.
В цивилизацию из сонных деревень
все возвращаются: славяне и евреи.
Удушливый и едкий дым костров
Шпановичи укутал длинным шлейфом.
(От них всего осталось пять дворов.)
Былое предстаёт всё чаще блефом.
И не уйти от наслоенья скорбных дум,
от осознанья скоротечности явлений,

что в мироздании от нас лишь лёгкий шум
и никаких вселенских потрясений.

* * *

В саду городском закипает сирень,
и воздух наполнили счастья флюиды,
забыть заставляя про сон и мигрень,
свои и чужие грехи и обиды.

А жизнь, возрождаясь, главенствует вновь.
И вопреки пессимистам унылым
её лейтмотив, несомненно, — любовь,
что прибавляет мне веры и силы.



**Ала Даніленка**

Нарадзілася ў г. Астрахані. У трохгадовым узросце разам з бацькамі пераехала ў Брэст. Працуе дацэнтам БрДУ імя А. С. Пушкіна. Друкавалася ў газеце «Зара» і на старонках «Неўскага альманаха», у альманаху «Паэзія стыхіі», мае шырокую аўдыторыю чытачоў на прасторах інтэрнэту.

## Полуночница

Не хочу я цепей одиночества
И оков бесконечных надежд.
Я когда-то войду, полуночница,
В твою жаркую ночь без одежд.
Буду жаждой твоей окольцована,
Буду нежностью поймана в сеть,
И глазами твоими прикована,
И в огне твоей страсти гореть.
Буду вновь то раба, то владычица,
То пантера, то нежная лань.
Пусть же плен мой тобой ограничится.
Стань моим вдохновителем. Стань!

## Упаду в твои ладони

А знаешь, лишь тобою дышит утро
И ночь сгорает страстью первозданной.
И нежная заря из перламутра
Зовёт в твой плен — единственно-желанный.
Качается ладья в открытом море,
Кидая нас то к минусу, то к плюсу,
Мечта парит как чайка на просторе,
На жизни нить нанизывая бусы,
И пульс мой запредельный — он тобою.
Тобою — эти крылья вдохновенья.
И даже больше я тебе открою:
Так сладостно мне вечное паренье.
Ты только не роняй с небес на землю.
А если упаду — в твои ладони.

Мы год за годом сеем это семя,
Что нас опять плодами счастья кормит.
«Всё будет хорошо», — ты говоришь мне
И доброй ночи мне желаешь снова.
И веришь: все слова почти излишни,
В безмолвном понимании — основа.

## Весенний вечер

Так выразителен и тих
Весенний вечер —
Уютный столик на двоих…
Каштанов свечи.
За гранью хрупкого стекла —
Блик отраженья.
Прозрачной капелькой вина —
Луны свеченье.
Глаза бездонно глубоки,
Влекут сияньем.
Волнителен изгиб руки
Над очертаньем…
А контуром излома крыш —
Пурпур заката…
И ты задумчиво молчишь,
Чуть виновато.
Вином ли, вечером ли пьян,
От грёз ли смелых,
Так кружит голову дурман
Черёмух белых…



## Мікола Пацяюк

Нарадзіўся 24 снежня 1938 г. у в. Ляхаўцы Маларыцкага раёна. Бацька не вярнуўся з вайны. Гадаваў таленавітага хлопца дзед — разумны, паважаны ў сяле чалавек. Мікола мае за плячыма дзесяцігодку, музычнае вучылішча, педагагічны інстытут, тры гады бадзяння па марах і акіянах тэрміновай службы і паўвека слугавання школе, дзецям, роднаму краю. Друкуецца ў абласных і рэспубліканскіх выданнях. Мае паэтычныя зборнікі «Пад бусліным крылом» і «Душой не пакрывіць». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

### Жыццё — дарога

Шляхі, што лёсам у жыцці
Наканаваны мне пад небам,
Хацеў бы з годнасцю прайсці,
І больш нічога мне не трэба.
Мы ўсе ў дарозе — час бяжыць,
Няхай сустрэчны вецер вее —
Пакуль жывецца, трэба жыць,
Памерці мы заўжды паспеем.
Перахрышчуся ля капліцы:
За вас, сябры, што ў лепшы свет
Пайшлі, не мог не памаліцца
Асірацелы ваш паэт.
Вы за мяжой, я — ля мяжы —
Умоўная ўсяго граніца,
Бо час няўмольны, час бяжыць —
Ні прыпыніць, ні адкупіцца.
Хай Бог даруе мне грахі,
Калі з дарогі часам збочыў
Ці ад працягнутай рукі,
Здаралася, адводзіў вочы.
Няма былой ужо хады,
І спрыт, і сілы ўжо не тыя;
А за спіною ўсцяж — гады,
Нібыта вехі верставыя:
Даўжэзны шлях, каб зразумець,

Што ты на гэтым свеце здаўся,
Каб некага ў жыцці прыгрэць…
Прайсці свой шлях, каб след застаўся.

## Столькі шчасця аднаму

Я, спадарыня, у вочы
Вашы толькі паглядзеў —
І забыў, куды я крочыў.
Знайце: хлопец прападзе,
Бо цяпер я ўжо, здаецца,
Назаўжды згубіў спакой.
Чуеце, як сэрца б'ецца?
Прытуліцеся шчакой…
Вечар выдаўся дарэчы
Сёння ў аграгарадку
Для якраз такой сустрэчы —
Дайце мне сваю руку!
З вамі я ў агонь і воду,
Толькі б вы — навек мая.
Дайце мне, паненка, згоду
Разам слухаць салаўя —
І сягоння аж да рання
У бярозавым гаі
Дзеля нашага кахання
Не задрэмлюць салаўі.
Я вас, каб не застудзіцца,
Абагрэю-абдыму.
Можа, гэта ўсё мне сніцца —
Столькі шчасця аднаму?
Зацалую да знямогі
І скажу, што так было.
Ах, лугі… лугі-мурогі!
Вось і сонейка ўзышло…



## Уладзімір Данілюк

Нарадзіўся 19 мая 1948 г. у в. Чарняны Маларыцкага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў у родным калгасе трактарыстам, электрыкам, шафёрам у пажарнай ахове. Зараз — пенсіянер. Друкаваўся ў газетах «Голас часу», «Заря», часопісе «Вожык», альманаху «Жырандоля». Маларыцкая раённая бібліятэка ў 1996 г. выдала яго кнігу «Сярод людзей». Гэты зборнік адкрыў серыю «Маларытчына паэтычная».

### Не тое

Проза гнецца ад нуды,
Ды занадта ліха —
Муза ў золаце заўжды,
Ёй да твару пыха.
Золатам гарыць смаляк,
Сонца залатое.
Ёсць паэзія, аднак.
Нешта тут не тое.
Залацісты лістапад,
Залатая гала.
Залатых паэтаў шмат,
А сапраўдных мала.

### Не завяла

Паміж пэўна і не
Пераступлена грань:
У мяне на акне
Расквітнела герань.
І хаця ля яе
Пчол не кружыцца рой,
Сумаваць не дае —
Падымае настрой.
Азарыла пакой.
Вельмі пышна цвіце —
Прыгажосці такой
Не пабачыш нідзе.

Нездарма, не за так —
Нібы ўсё неўпапад:
За акном мерзлата,
Галалёд, снегапад.
Сумнявацца ізноў
Пачакай, перастань:
Не завяла любоў,
Раз квітнее герань.

## Вось якая справа

Без агню і стравы —
Не з рукі, нягожа.
Чалавек без справы
Гэтак жа не можа.
А яна заўсёды
Побач: злева, справа…
Не выходзіць з моды —
Вось якая справа.
Смелая. Адметная.
Захаплення поўная.
Гучная. Адметная.
Сціплая. Галоўная.
Кроўная. Вячыстая.
Добрая, сумленная.
Ёсць яшчэ нячыстая,
Не зусім прыемная.
…Любяць ці не любяць,
Ды ва ўсіх дзяржавах
Чалавека судзяць
Па ягоных справах:
Боязна лагодзяць,
Славяць ці смяюцца…
Людзі адыходзяць —
Справы застаюцца.



**Я р ы н а  Д а ш ы н а**

Нарадзілася ў в. Ставы Камянецкага раёна. Філолаг, практычны псіхолаг. Працуе галоўным бібліёграфам у аддзеле краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага. Аўтар кнігі паэзіі «Графіці на сэрцы». Асобныя вершы перакладаліся на рускую, украінскую, польскую, балгарскую, нямецкую і шведскую мовы. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## Кветка

Ты ведаеш, мама, у гэтым вянку
я кветка, зламаная ў пазванку, —
схіляюся долу
пакорліва.
Повязь усіх і ўсяго —
мы нейтралізуем адно аднаго
і робім бясполымі…
Мама!
Здаецца, тут бачыцца дно,
здаецца, што мы памерлі даўно
ў гэтым спляценні.
Здаецца,
мяне ў купальскім вянку
спусцілі, зламанай ў пазванку,
уніз па цячэнні...

* * *

На апошнім паверсе маёй адзіноты —
пад мінус дваццаць.
Так высока яшчэ ніхто і ніколі, ніхто і ніколі…
Адусюль можна ўбачыць трубы электрастанцый,
дымок уздымаецца ў нябесныя столі.
У перыяд распаду на часціны-часціцы,
табою перахварэла, рукі прэч ад майго Бога.
Я вывучыла на памяць усе твае небыліцы:
танную белетрыстыку, папуры-некралогі.

Ад таго, што ў гэтых пачуццяў тэрмін кароткі
дзеяння і гарантый няма фізічных,
у сваёй безвыходнасці, сто адсоткаў,
я памру ад хвіліннай пяшчоты ішэмічнай.
На апошнім паверсе маёй адзіноты —
пад мінус дваццаць.
Я да неба даўно прырасла дагары каранямі.
Мама сніцца балюча жывою. Час прачынацца —
ў сюды, дзе сонца рэнтгенаўскімі прамянямі.

* * *

Занатуй мяне ў сваім сэрцы. Крэйдаю, крывёю, пацалункам.
Кожную хвіліну, кожны подых буду слухаць я яго біццё.
І табе ўжо не будзе балець. Зажыўляю перакісам слова.
Я з табой заўсёды буду побач на халодным нашым страшным
дне.
Мне знаёмая з дзяцінства бездань. Я праходзіла ўсе
лабірынты страху, забівала ў пячорах цмокаў адзіноты і тугі.
Цьмяным і шчымлівым сэрцасумам: успамінам, дотыкам і
пахам занатуй у гэтую рэальнасць…
каб у ёй застацца да канца.

* * *

Цемра — як цішы бясколерны атрыбут.
Успыхваюць душы анёлаў у зорным суквецці.
Мне ўвесь час здаецца, што я ўжо тут,
што я ўжо здарылася ў гэтым Сусвеце.
Высакамоўна цвыркун адпявае ноч
у такт гарадской шашы — пульсуючай вене.

Звярні ў правулак
і моўчкі прайдзі наўзбоч
ценем…

* * *

Бог нешта гаворыць мной і табой,
усёю пяшчотаю і брыдотаю ўсёй,
што паміж намі…

Гэты паверх зямлі
перанаселены тымі,
хто пакуль жывы.

І толькі мы нібыта з табой
усёй пяшчотаю і брыдотаю ўсёй
сябе забілі…

* * *

Анёлы ажурныя крылы свае раскрылілі —
любуюцца, бесцялесыя, у люстра сабой.
У іхняй анёльскай краіне — Белай Крывіі, —
напэўна, зусім не хапае пяшчоты зямной.

А мой, аднакрылы, сядзіць ля нябесных варотаў —
стварае з аблокаў ружовыя вітражы.
Ён быў пакараны Ўсявышнім за бездань палёту
і прывязаны да грэшнай маёй душы…

* * *

Калі ўжо немагчыма быць нічыёй —
прыдумай сабе Айчыну, жыві ў ёй.

У ёй нараджай дзяцей, у ёй памірай…
Калі ўжо немагчыма, то абірай
кім быць, кім здавацца, кім
звацца…



## Аляксей Белы

Нарадзіўся 2 студзеня 1953 г. у в. Міхнавічы Івацэвіцкага раёна. Паэт, журналіст. Аўтар паэтычных зборнікаў «Тридцать второе августа» (1994), «Невольничьи песни» (1997), «Каляровыя сны» (1999), «Боскі вецер правінцыі» (2002), «Кветкі ў стагах» (2010), «Прыватны сектар» (2013), «Жыві, дзе ўдосталь ветру» (2018). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

### Вяртанне

І радасці ў жыцці было, і слёз,
І горыч палыну, і скварка з хлебам.
Ды бацька мой не наракаў на лёс.
І мне не трэба.

У памяці ўсё гэта ажыве,
Нібы ты ў чымсьці вінаваты.
Якія мы панеслі страты…
А шчасце — легчы ўлетку на траве
Пад яблыняй ля роднай хаты!

### * * *

Не дзяліўся кавалачкам лішнім
І тады, калі быў маладзей…
Не спрабуй спадабацца Ўсявышняму —
Ты ж так «шчыра» не любіш людзей…

### Калі нам толькі трыццаць з нечым…

Конь у лузе зоймецца смехам,
Затрасе непадрэзанай грывай.
Разляціцца па лесе рэха.
Лета. Ранак. І ты — шчаслівы!

Добра стомлены, нават потны,
Пакладзеш касу на траву.

Як цудоўна і бесклапотна:
Ні дырэктараў тут, ні ротных —
Кветкі дураць табе галаву!

## Дзяцінства

У канаўцы — вады па лыткі
(Больш бывае, як лёд растане).
Ну, а назва ў месца — Плытке,
І дзятва там ладзіць купанне!

Божа, колькі было там шалу,
Калі дзе ў карчах схавацца:
Там хлапцы выглядалі русалак —
Тыя мыліся пасля працы.

Лёгка ім было распранацца,
Дзень намучыўшыся на сене.
А было ім па год сямнаццаць,
А магчыма, і значна меней.

…Ах, дзяцінства! На лузе танцы,
Усе дзяўчаты бы каралевы!..
Дзед наш Грыша ў добрай фурманцы
Выпраўляецца ў Гашчэва.

Ну а я, без майкі і босы
(Скура — колеру арабіны),
Узбіўся побач з ім на калёсы,
Ногі ўсунуўшы ў драбіны.

Злева, там, дзе шаша, — бярозы,
А наперадзе Бор наш цёмны.
Кажа дзед: «Злазь, унучак, з воза
Ды паціху шыбуй дадому.

Бачыш, сонца як смажыць палка, —
Пэўна, градусаў больш за трыццаць, —
А то выйдзе з жыта русалка,
Дасць табе жалезнае цыцкі…»

…Усё далей пагрукваюць колы,
Ззаду лес сінее палоскай.
Азіраючыся наўкола,
Я лячу да роднае вёскі.

…Зноўку ліпень. Нябёс бяздонне,
Лёгкі ветрык мне скроні студзіць.
Дзе русалачкі тыя сёння,
Як там іх крамянныя грудзі?!

# ПРОЗА





**Віктар Рачко**

Нарадзіўся 10 жніўня 1952 г. у сям'і настаўнікаў. Скончыў пружанскую сярэднюю школу № 3, Баранавіцкі тэхналагічны тэхнікум, служыў у войску. Працаваў дырэктарам хлебакамбіната, дырэктарам хлебапякарні. З 1976 г. у Пружанах, працаваў слесарам на радыёзаводзе, потым леснікам. Быў сябрам рэдкалегіі незалежнай газеты «Пружанскае веча». Артыкулы і літаратурныя творы пра паляванне і рыбалку змяшчаліся ў раённым друку і рэспубліканскіх часопісах ды газетах. Друкаваўся ў «Жырандолі». Цяпер на пенсіі.

## Безбацькоўшчына

— А ў мяне два таты! — заявіў маленькі Віталька сваім безбацьковым сябрукам. Баба Яня, якая падслухала гэтую пахвальбу, хоць і была некалі настаўніцай, не падумаўшы, ляпнула:

— Ведаеш, Віталька, што два, што ніводнага — гэта адно і тое ж.

Пакрыўджанае дзіця, адтапырыўшы ніжнюю губу, адышло ўбок. Па яго тварыку скацілася буйная сляза.

* * *

— Мой тата паехаў на заробкі ў Маскву.

— А мая бабуля сказала, — хваліцца другі хлопчык, — што мой тата паехаў касіць сабакам сена.

— А мой, а мой, а мой… — зайшоўшыся ў гордасці за бацьку, заявіў Міколка, — паехаў у горад ЛТП*.

---

* ЛТП — гэта па-расейску, а па-нашаму — лячэбна-працоўны прафілакторый для акаголікаў.

## Схаваліся

Карэспандэнт-пачатковец атрымаў заданне ад рэдактара з’ездзіць у чарнобыльскую зону. На пытанне, якім чынам ім удаецца выжываць пры такім высокім радыяцыйным узроўні, якое ён задаў бабулькам у вёсцы, пачуў адказ: «А мы под двума одэяламі спымо».

## Ахвяра антрапанімікі

Малады хлопец з Пружаншчыны, будучы ў Баранавічах, вырашыў наведаць свайго сябра, які там вучыўся. Зайшоў у інтэрнат і папрасіў вахцёрку паклікаць Барана.

— А хто яго пытае? — цікавіцца жанчына.

— Скажыце, Казёл.

Раззлаваная вахцёрка выгнала ні ў чым не вінаватага хлопца.

Дарэчы, народная мудрасць гаворыць: «Не прозвішча ўпрыгожвае чалавека, а чалавек прозвішча».

## Перашкодзіў

Зайшоў да сябра.

— Ходят тут и ходят, из-за вас и замуж не выйдешь! — абураецца яго чатырохгадовая ўнучка, якую прывезлі да дзеда з бабай з Масквы.

— А што, — цікаўлюся, — у цябе ўжо і жаніх ёсць?

— Есть.

— І хто ж ён?

Крыху памяўшыся, дзяўчынка прашаптала:

— Мой дедушка! Он меня так любит, так любит!

## Самалячэнне

Заехаў пасля палявання да старога знаёмага ў вёсцы. Нешта даўно не відаць яго.

— Ат, хварэе ўсё! — гаворыць жонка.

— А чаму не лечыце? — пытаюся.

— Лячыліся. Мы ўжо ўсё пераспрабавалі: і віно, і гарэлку.

## Дэкваліфікацыя

Ваенурач другога рангу пасля звальнення ў запас пайшоў працаваць у мясцовую паліклініку. Пасля пытання наведвальніку: «У каго лячыўся? Што прымаў?» — робіць заключэнне: «Працягвайце лячэнне». А што, ваенныя — людзі здаровыя. Глядзі толькі, каб не моцна п’яныя заступалі на дзяжурства — ра-

кеты ўсё ж! Ну а салдату разламаў таблетку напалавіну: гэтая — ад галавы, гэтая — ад жывата. Глядзі, не пераблытай.

## Бяссрэбранік

Жыў бедна ў паўразваленай хаце. Быў дурны да работы. Адначасова быў і інжынерам, і канструктарам, і слесарам. Другі б на яго месцы і кватэру выбіў бы, і аклад.

— Каб да яго ўма ды яшчэ і розуму, — казалі аб ім людзі.

## Дзеці вінаватыя

Да перабудовы пружанскія каталікі маліліся ў капліцы на каталіцкіх могілках. На заўвагу, што яна трымае малітоўнік дагары нагамі, саромеючыся сваёй непісьменнасці, цётка Галена адказала:

— То дзеці дома пшэвернулі.

## Голь

Пры Польшчы маладыя хлопцы на танцах прышчэпку з нагі не здымалі, каб дзеўкі ведалі, што яны прыехалі на роварах. Прыйшоўшы пешшу, Алесь фарсіў з прышчэпкамі ажно на абедзвюх калошах: маўляў, і мы не лыкам шытыя.

## Не дагадзіў

Верасень 1939 года. Пружанцы сустракалі Саветаў. Заможны Кулеша пафарбаваў чырвонай фарбай чобаты і сваю кабылу, якая да гэтага была белай.

Але свае 15 гадоў усё ж такі атрымаў.

## Хітры

Аб'явілі суботнік. Рабочыя незадаволеныя:

— Колькі можна ўжо? Свая работа дома чакае! Не пойдзем!

Адзін Крагдзін пытае:

— Дзе збор? Са сваёю рыдлёўкаю прыходзіць ці выдадуць?

Назаўтра ўсе прыпруцца, акрамя Крагдзіна… Прыдумае, як адгаварыцца. Затое на добрым уліку.

## Электарат

— Чаму ты галасавала за гэтага чалавека?

— А ён Курылы амерыканцам не аддае.

Хто ёй што наплёў? Можа, яна думае, што яны недзе пад Пінскам? Так і жывём.

## Вясковая логіка

У нядзелю мужчыны па звычцы сабраліся каля мясцовай крамы. Прыпёрся і стары Кузьма. І адразу з прэтэнзіямі да Міколы Сёмухі. Маўляў, твой сабака майго пеўня задушыў. Мікола не разгубіўся і, пераводзячы справу ў жарт, кажа: «Варта было б застрэліцца, каб, не дай Бог, твой певень у бойцы перамог майго сабаку!»

* * *

Іванавы пчолы паелі суседскія грушы. Той, вядома, са скаргай.
— То гані! — знайшоў што адказаць Іван.

## Чуткі

Як вядома, людзі, якія недачуваюць, злуюцца, калі ім моцна крычаць. З глухога, як пень, Кузьмы жартавалі, моўчкі шырока раскрываючы рот.
— Ды чую я, чую! Што ты крычыш!

## Крыж на плянце, або Матэрыялізаванае паданне

Паляванне праходзіла няўдала: я маю на ўвазе, што ніякай дзічыны я яшчэ не здабыў. Апошнія гады ўсё больш здавальняюся тым, што знаходжуся ў лесе, на прыродзе. Птушынае рознагалоссе, свежае паветра, кветкавы водар, магчымасць пабываць у новых, яшчэ не зведаных мясцінах прыносіць намнога большае задавальненне, чым здабыча звяроў і птушак. Я здагадваюся, што ў маіх знаёмых, якія ведаюць мяне як даволі паспяховага паляўнічага, гэты лірычны ўступ выкліча справядлівую ўсмешку. Нічога не паробіш: з узростам мы становімся нейкімі супакоенымі, нам ужо так мала трэба для шчасця. Мае рацыю Міхаіл Жванецкі: «Калі раней нам усё больш нечага хацелася, то цяпер усё больш нечага не хочацца».

Нягледзячы на апошнія дні кастрычніка, сонейка яшчэ моцна прыпякала, быццам бы наўмысна стараючыся аддаць сваё апошняе цяпло перад зімовым адпачынкам. Каб крыху адпачыць у цяньку, я падаўся ў бок старадаўніх дубоў і ліпаў, якія ўзвышаліся над наваколлем, зарослым непралазным хмызняком і чаромхай. Падняўшыся на невялікі грудок, што цудам захаваўся сярод балотнай нізіны, я апынуўся пад засенню высачэзных дрэваў. Як грудку ўдалося захавацца? Не ведаю. Меліярацыя Палесся ў 60-я гады зруйнавала шматлікія ў тыя часы выдзьмы і нагорнутыя ледніком пагоркі ў пясчаныя кар'еры, ператварыўшы цудоўны ландшафт у аднастайную раўніну, перарэзаную каналамі на квадраты, быццам шахматная дошка. Цяпер, адумаўшыся, меліяратары пачалі весці размовы, каб нейкім чынам зноў забалоціць гэтыя выдзьмутыя ветрам тарфянікі, якія перасталі быць урадлівымі.

Адразу кінулася ў вочы, што дрэвы растуць не самі па сабе, а пасаджаныя чалавекам і некалі стваралі прыгожыя паркавыя алеі. Дзе-нідзе сярод здзічэлага бэзу і язміну праглядаліся парослыя зялёным мохам рэшткі падмуркаў, што засталіся ад былога панскага маёнтка. Звычайна такія фальваркі ўключалі ў сябе цэлыя комплексы, у якіх акрамя пабудоў абавязкова былі выкапаныя стаўкі, часта з прыгожай альтанкай, пабудаванай на насыпаным востраве, які з берагам злучаў арачны масток. У самым спакойным месцы сядзібы абавязкова будавалася сямейная капліца, дзе можна было схавацца ад паўсядзёншчыны і параіцца з Богам і сваім сумленнем. Бывала, што ў скляпеннях такіх капліц хавалі памерлых (аб чым сведчаць чалавечыя косці і рэшткі цынкавых трун, якія валяюцца на полі за вёскай Доўгае, на месцы былой капліцы Крашэўскіх, злачынна зруйнаванай якраз да 200-годдзя з дня нараджэння знакамітага пісьменніка). Калі паркі і сажалкі яшчэ можна нейкім чынам аднавіць (нават па вядомых малюнках Напалеона Орды можна адбудаваць зруйнаваныя маёнткі), то ніколі ўжо не вярнуць змарнаванае мясцовае наваколле, не вярнуць старажытныя курганы і валатоўкі, якія былі раскапаны дзеля пяску для будаўніцтва дарог. Так і ездзім па касцях сваіх продкаў. Быццам бы пяску больш не было дзе ўзяць…

На мапах XIX стагоддзя такія адасобленыя ад людскіх паселішчаў фальваркі завуцца плянтамі. Чым была абумоўлена такая самаізаляцыя, для мяне застаецца загадкай. Звычайна там і зямлі ворнай было кот наплакаў. А каб даехаць, праз балота насыпаліся грэблі. І не скажаш, каб з беднасці. Узяць, напрыклад, плянту Пуслоўскага каля Казакова. Заможнейшы магнат, граф, буйны землеўладальнік, выкупіў гэтае сховішча ў графа Румянцава, якому належалі Пружаны.

Вось на адну з такіх плянт я выбіўся падчас блукання на паляванні. Хаваючыся ад сонечных прамянёў, разгарнуў галінкі нейкага дэкаратыўнага кустоўя і ўбачыў стары чыгунны крыж, больш чым напалову ўрослы ў зямлю. Над паверхняй віднелася толькі часцінка чыгуннай таблічкі, замацаванай на крыжы. Такія пахаванні даволі часта сустракаюцца ў нашых мясцінах і звычайна не выклікаюць у мяне асаблівай цікавасці, каб не адны абставіны, якія тычацца менавіта гэтага месца. Неяк адразу ўсплыло ў памяці адно ўжо забытае мною паданне, якое я чуў зусім маладым хлопцам, начуючы ў старога паляўнічага родам з гэтых мясцін. Рукі самі сабою пачалі разграбаць падатлівую зямлю вакол таблічкі. Надпіс быў доўгі, па-польску. Пад слоем іржы месцамі праступалі амаль нечытэльныя словы. З цяжкасцю, але можна было разабраць, што тут пахавана маладая жанчына з маленькім дзіцём — хлопчыкам. Старое паданне, якому я не даваў веры, стала матэрыялізавацца ў гэтым крыжы і магіле. Перад вачыма, быццам я сам быў таму сведкам, узніклі вобразы таго часу, тыя падзеі, якія адбыліся ў гэтым Богам забытым кутку амаль 150 гадоў таму.

У 1836 годзе для ўзмацнення заходніх межаў Расійскай імперыі было вырашана пабудаваць абарончую крэпасць на месцы зліцця ракі Мухавец з Бугам. Тое, што на гэтым месцы размешчаны адзін са старажытнейшых гарадоў Літвы-Беларусі Берасце, нікога ў Расійскай імперыі не хвалявала. Адным росчы-

ркам пяра горад быў ушчэнт зруйнаваны, а жыхарам было дазволена сяліцца за дзве вярсты на ўсход ад цытадэлі. Пасля заканчэння будаўніцтва ўзнікла пытанне дастаўкі ў крэпасць ваеннага рыштунку і службоўцаў. Пачалося будаўніцтва чыгункі. (У якасці доказаў таго, што далей Брэста па гэтай дарозе ніхто не збіраўся ехаць, я лічу, служыць і такі факт, як розная шырыня паміж рэйкамі, якія ўжо даўно выкарыстоўваліся на Захадзе).

Насуперак элементарнай логіцы дарожнага будаўніцтва яе вырашылі пракласці не па высокай мясцовасці праз Пружаны, а праз непраходную багну, якая цягнулася ад самых Аранчыц да Харкоў амаль на дзесяць вёрст. Кажуць, што гэта зрабілі назло пружанскім яўрэям, якія быццам бы адмовіліся часткова фінансаваць будаўніцтва. Кіраваў будаўніцтвам граф Пётр Андрэевіч Кляйнміхель. (З 1895 па 1914 год яго ўнучка Вера Уладзіміраўна валодала Пружанскім палацыкам, які купіла ў В. Швыкоўскага.) Было сагнана мноства рабочых. Зямлю пад насып вазілі ў мяхах, коньмі, і запіхвалі яе прама ў балота. Рады мяхоў з пяском месцамі перакладалі бярвеннем.

Будаўніцтва зацягвалася. Узніклі праблемы з аплатай працы вольнанаёмным. Каб зрабіць будаўніцтва больш танным, пачалі выкарыстоўваць працу ваеннаслужачых і катаржнікаў. Для размяшчэння рабочых будаваліся прадзімаемыя ветрам буданы, а вось афіцэраў і інжынераў было вырашана раскватараваць у больш камфортныя ўмовы — па мясцовых фальварках. Трэба сказаць, што вясковае насельніцтва, у тыя часы жывучы ва ўмовах балотнай ізаляванасці, было не вельмі падрыхтавана да такога нашэсця. Дзеці, убачыўшы незнаёмых людзей, хаваліся ў печы, а маладыя дзеўкі забіваліся ў сена ці салому. Не вельмі далёка адышла ад простага люду і мясцовая шляхта, асабліва гэта адносілася да яе жаночай палавіны. Мноства маладых людзей: інтэлігентныя інжынеры, вусатыя афіцэры, — было ад чаго «знесці крышу». Не ўстаяла перад такой спакусай і адзіная дачка ўладальніка багатага маёнтка, размешчанага непадалёк ад будаўніцтва чыгункі. Спачатку ў старога пана была думка адправіць дачку з жонкай да свайго родзіча ў Варшаву, але вырашыў, што дасць Бог, абыдзецца. Не абышлося. Дзіцятка было вельмі падобнае на маладога падпаручніка, які наглядаў за атрадам арыштантаў і пэўны час кватараваў у іх маёнтку. Пану адразу не спадабалася нейкая празмерная фанабэрыстасць маладога афіцэра, яго пагардлівае стаўленне да мясцовай шляхты. Раздражняла нават расійская гаворка, да якой ён так і не прывык за чатыры гады катаргі ў Сібіры за ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Не давала спакою думка, што ён, чалавек з Кракаўскім універсітэтам за плячыма, павінен на роднай зямлі хавацца ад прышэльцаў з усходу ў балотнай твані. Не адну ноч няшчасны чалавек прасядзеў у лампадным змроку капліцы, вымольваючы сабе пакорнасці лёсу. Не дапамагло. Дачка, заглянуўшы ў вочы бацьку, які зайшоў у пакой са стрэльбай, усё адразу зразумела. Схапіўшы на рукі яшчэ не ахрышчанае дзіця, яна выскачыла праз акно ў сад. Стрэл быў трапны, нават занадта трапны, таму што адна куля прабіла сэрца некалі любімай дачкі і ні ў чым не павіннага стварэння, якое яна прыціскала да сваіх грудзей і якое так і не паспела хоць крыху парадавацца свайму з'яўленню на свет.

Сорак гадоў таму, пачуўшы паданне пра гэтае здарэнне ад старога паляўнічага, я ніколечкі яму не паверыў. Не хочацца верыць і цяпер. Напэўна, навыдумлялі людзі. Столькі гадоў прайшло! Пяць пакаленняў жыло. Хапала на нашай зямлі без таго і крыві, і гора. Навошта яшчэ і выдумляць? Ды і не здольны разумны чалавек на такое злачынства. Хутчэй за ўсё знайшоў бы якога ўдаўца ці галотнага шляхцёнка, ажаніў бы, нарадзілі б яшчэ ўнукаў… Гэта я так разважаю з умоў сучаснасці, а тады — гонар. Што людзі скажуць? Без дазволу, без благаслаўлення, з чужынцам…

Але ж факты: маладая жанчына з дзіцём, год пахавання на таблічцы — 1871. Гэта супадае з будаўніцтвам адрэзка чыгункі Смаленск–Брэст, адкрыццё якой адбылося 28 лістапада 1871 года. Сведчыць нават і гільза ад тагачаснай стрэльбы, знойдзеная мной каля крыжа. Лепш бы я ў той дзень замест палявання застаўся ў хаце ці паехаў на рыбалку. А матэрыялізаванае паданне так бы і засталося простым паданнем, на якія так багатая наша зямля.

## Сямейная тайна

*У лютым гэтага года споўнілася 75 гадоў з часу жудаснай трагедыі, якая адбылася на Пружаншчыне падчас Вялікай Айчыннай вайны. Марознай зімой 1943 года было ліквідавана Пружанскае яўрэйскае гета. Многія тысячы мясцовых яўрэяў былі расстраляны немцамі, за выключэннем невялікай часткі, якой удалося ўцячы ў Слабудскі лес і прабіцца да партызан. Вось гэтай трагічнай падзеі прысвечана апавяданне.*

Іду да мамы. Нясу ёй на сняданак манную кашу. Мы жывём у адным двары, хоць і на розных вуліцах. Калі ў 1974 годзе адразалі пляцы на вуліцы Леніна пад вуліцу Міра, то я ўзяў участак пад будаўніцтва дома на сваёй дзедаўшчыне — на бацькоўскім агародзе. Маме 86 гадоў. Жыве адна ў сваёй хаце. За ёй ужо трэба глядзець ды глядзець. Два гады як хаваем ад яе запалкі, цяпер яшчэ прыходзіцца і веснічкі завязваць, каб не згубілася дзе-небудзь ці не трапіла пад машыну.

З узростам у людзей нешта робіцца з памяццю. Мама можа падрабязна расказваць, як чатырохгадовым дзіцём згубілася і зайшла з Пружан аж у Шані, як па дарозе праз лес збірала і складала ў кучкі хваёвыя шышкі. І можа адначасова пытацца, хто быў мой бацька і ці былі ў яго дзеці.

Апошнім часам маму хвалюе пытанне: куды падзяваліся пружанскія яўрэі, нешта даўно іх не відаць? Чаму не прыходзяць пагрэцца Хая з Фейгаю — яе сяброўкі, суседкі? Іхні бацька Лэйзер Гіхман жыў як раз насупраць майго дзеда Станіслава Васілеўскага. Іх вялікі, нават па сучасных мерках, драўляны дом і цяпер яшчэ стаіць на вуліцы Леніна. Гіхман меў невялікае прадпрыемства па перапрацоўцы бытавых адходаў і чацвярых дзяцей. Старэйшы сын Лёва і дачка Ліба ўжо дапамагалі бацьку, ездзячы па сёлах, скупляючы ў сялян рыззё. А дзве малодшыя дачкі хадзілі яшчэ ў яўрэйскую школу, двухпавярховы мураваны будынак якой захаваўся да нашага часу насупраць Белых лавак. Дровы ў

тыя часы каштавалі вельмі дорага. І, каб пагрэцца ў зімовую сцюжу, яны ўсёй сям'ёй прыходзілі да майго дзеда, які хоць і працаваў кавалём, але браў у арэнду частку Мікіцкага лесу, так што ў хаце заўжды было цёпла.

Наогул, Гіхманы былі вельмі простымі і добрымі людзьмі. Ніколі і нікому не адмаўлялі ў дапамозе, дзяліліся апошнім. У майго дзеда былі таксама дзве дачкі — аднагодкі з Хаяй і Фейгаю, і яны вельмі сябравалі, любілі чытаць кнігі, марылі, кім будуць, калі вырастуць. Здаецца, нішто не магло іх разлучыць. Нішто не магло азмрочыць іх яшчэ бесклапотнага жыцця. Ды так яно, магчыма, і было б, каб на двары не ішоў 1941 год.

Усіх жыхароў неяўрэйскага паходжання з цэнтральнай часткі Пружан рассялілі па навакольных сёлах. Цэнтр горада абгарадзілі калючым дротам, куды і сталі звозіць яўрэяў з усяе акругі. Кажуць, што былі нават з Беластока. У адрозненне ад канцэнтрацыйных лагераў, арганізацыю якіх немцы запазычылі ў бальшавікоў, яўрэйскія гета былі ўжо чыста фашысцкім вынаходніцтвам. У некаторых будынках пасялялі да 20 сем'яў. У дварах капалі зямлянкі. Нават у тых абставінах немцы імкнуліся сачыць за санітарыяй у гета: на Хватцы абсталявалі санпрапускнік, праз які праганялі ўсіх прыбыўшых. Такім чынам, сям'ю Васілеўскіх таксама выселілі ў Парасляны. Пазней, калі мяжу гета адсунулі бліжэй да цэнтра, а вароты з вышкамі паставілі там, дзе цяпер афганскі сквер, то хватчанцам было дазволена вярнуцца ў свае двары.

З харчоў у гета дазвалялася пастаўляць толькі хлеб і агародніну. Малочныя і мясныя харчы былі катэгарычна забаронены. Гэтым скарысталіся некаторыя не вельмі добрасумленныя жыхары. Яны, рызыкуючы жыццём, тоячыся ад вартавых, праз агароджу праносілі на тэрыторыю гета мяса з маслам і выменьвалі іх на золата. Некаторыя з іх нават паплаціліся жыццём ці засталіся калекамі.

Вядома, што людзі, пакідаючы пад прымусам родныя дамы, бралі з сабою самае неабходнае і каштоўнае. Немцы ведалі гэта і накладалі на вязняў гета кантрыбуцыю. З надзеяй неяк адкупіцца яўрэі аддалі ім амаль усе каштоўнасці. Толькі некаторыя, бачачы марнасць гэтай справы, на нешта яшчэ спадзеючыся, хавалі сваё золата. Асабліва любілі хаваць у печы: выдрапвалі нажом ці цвіком кафліну, клалі туды чырвонцы, замазвалі глінай і ставілі кафлю на месца. Пасля вайны пячнік з рамбудканторы, рамантуючы печы ў яўрэйскіх дамах ці разбіраючы старыя, ніколі не браў сабе памочніка. Відаць, не дарэмна, калі ўлічваць, што ўжо ў той час ездзіў з Шарашова ў Пружаны на працу на асабістым аўтамабілі. А наогул, тэма яўрэйскага гета ў Пружанах яшчэ чакае сваіх даследчыкаў.

У канцы студзеня 1943 года ў гета нагналі падводы, і пачалася яго ліквідацыя. Частку вязняў пачалі вывозіць і расстрэльваць: каго — у Слабудцы, а большасць — на Броннай гары за Бярозай. Чатыры цягнікі працаздольных вязняў адправілі ў Асвецім, дзе яны амаль усе і загінулі.

Вось у тую студзеньскую ноч у хату маёй бабулі Ганны нехта пагрукаў. На той час ужо аўдавелая, яна адна, у нястачы гадавала дзвюх дачок: Лену і Франю — маю маму. Боязна, але пайшла адчыняць засоў. Баба Ганя вельмі здзівілася, убачыўшы старога Гіхмана. Ён стаяў у двары, пераминаючыся з нагі на

нагу, і, быццам нечага саромеючыся, не спяшаўся заходзіць у хату. На яго чорным зарослым твары блукала нейкая, так недарэчная на гэты момант усмешка. Ён працягваў бабе Гані руку з клункам, у які сабраў нейкі посуд — усё самае каштоўнае, што засталося ў яго сям'і, і нешта мармытаў. І тут мая бабуля заўважыла за яго спіной яшчэ дзве дзявочыя постаці. Так, гэта былі яго малодшыя дочкі: Хая і Фейга, сяброўкі маёй мамы. Нарэшце да бабы Гані дайшло, чаго хоча ад яе гэты забіты горам чалавек. Ён прывёў да яе сваіх дачок з надзеяй выратаваць іх ад немінучай пагібелі.

Сваю тайну баба Ганя трымала ўсё жыццё. Перад смерцю ўжо яна, быццам спавядаючыся, расказала пра гэты начны візіт мне, свайму ўнуку. Я ўпэўнены, што мая мама Франя да гэтай пары не ведае аб тым граху, які ляжыць на нашай сям'і. А што было рабіць бабе Гані? Я ўжо не кажу пра тое, што яна не ведала, чым ужо заўтра будзе карміць сваіх дачок, не ў гэтым справа. Пра жыцці іх яна падумала. Свае ж і данеслі б. Паехалі б усе разам за яўрэямі ў Слабудку.

Цяпер многа можна прачытаць ці пачуць пра гераізм, пра самаахвяраванне, як нехта недзе на хутары хаваў і выратаваў яўрэйскае дзіця, якое падабраў на вакзале ці яшчэ дзе-небудзь. А тут, у Пружанах, дзе ўсе добра адзін аднаго ведалі, шанцаў на выратаванне не было ніякіх. Але ўсё роўна да канца жыцця мая бабуля адчувала адказнасць за трагічны лёс тых яўрэек. Усе свае няшчасці, якіх было шмат у яе далейшым жыцці, яна суадносіла з той вымушанай адмовай старому Гіхману прыняць яго дачок.

Так што дарэмна былая настаўніца Францішка Станіславаўна выглядае ў акно сваіх сябровак. Не прыйдуць яны ўжо ніколі. Але ж не скажаш ёй аб гэтым. Хай выглядае. Нямнога ўжо засталося часу да іх сустрэчы. Вось толькі ці пазнаюць Хая з Фейгай — пятнаццацігадовыя дзяўчынкі — у старой пасівелай і бяззубай бабулі сваю найлепшую сяброўку Франю…



**Генадзь Пясчанскі**

(сапр. Яўген Макарэвіч). Нарадзіўся 11 сакавіка 1944 г. у в. Пясчанка Бярозаўскага раёна. Працаваў выкладчыкам музыкі. Піша вершы і прозу. Друкаваўся ў «Маладосці», «ЛіМе» і ншых выданнях. Цяпер на пенсіі. Жыве ў Бярозе.

## Гукі ў цемры

Ужо ў восем гадоў у хлопчыка пачалі праяўляцца здольнасці да музыкі, асабліва да гармоніка. Не марнуючы часу, бацька купіў Петрыку «хромку», ігрой на якой ён авалодаў вельмі хутка. Пазней быў куплены баян «Іскра» з вельмі галасістым разлівам, гучанне якога было падобна да гуку акардэона. Аднак авалодаць ігрой на такім складаным інструменце Петрыку самому было вельмі цяжка, таму бацька знайшоў яму баяніста з той жа вёскі, дзе і сам працаваў у калгасе кладаўшчыком. Гэты баяніст быў акампаніятарам у мясцовым клубе і валодаў інструментам вельмі добра. Прытым яшчэ быў блізкім сваяком. Паабяцаў сваяк Сяргей наведвацца да Петрыка адзін раз у тыдзень вучыць яго іграць на баяне. Праз паўгода Петрык ужо мог нешта зводзіць на гэтым інструменце. Яшчэ праз паўгода ён стаў знаёмы з музычнай граматай і ўжо мог іграць некалькі танцаў і песень.

Хутка да Петрыкавага бацькі пачала звяртацца мясцовая моладзь, каб Петрык хоць калі пайграў на танцах. Але ж для ролі мясцовага музыканта ён не вельмі падыходзіў з-за сваёй сарамлівасці, асабліва калі ўлічыць, што ў той час яму ішоў толькі дванаццаты год. Яшчэ большая праблема ў тым, што ён дрэнна бачыў. Разумеючы гэта, моладзь прасіла Петрыкавага бацьку, каб ён хаця б даў ім гармонік, на якім змог бы іграць дарослы гарманіст з мясцовых хлопцаў, а Петрык знаходзіўся б побач з ім. Бо майстроў ігры на баяне ў вёсцы не было, і гармонік быў самым запатрабаваным інструментам на танцах. На гэтым дамова была заключана, і Петрык атрымаў ролю ўважлівага слухача і назіральніка за тым, што адбывалася ў хаце гаспадара, арандаванай на момант танцаў, таму што клуба ў вёсцы не было. І таму даводзілася задавальняцца тым, што атрымлівалася. З таго часу Петрык стаў незаменным майстрам сваёй справы. Без яго ўдзелу не абыходзілася ніводная вясковая вечарына.

Адным з восеньскіх вечароў, у час палявання, дзядзька Рыгор і яго спадарожнік, мясцовы калгаснік — трактарыст Сцёпка Сымонікаў, — вярталіся ў вёску, дзе жыў Ігнат Кульбекін. Вечаровы змрок выстудзіў неба, у ім, бледным і пустынным, ужо мігцела вялікая сіняя зорка — першая прадвесніца вечара і ціхай ночы. У тым баку, дзе па аддаленым брэху сабак угадвалася вёска, зайграў баян. Чулася тужлівая, працяжная песня без слоў, поўная смутку аб нечым.

Яна станавілася больш гучнай і выразнай па меры іх набліжэння. Гэта быў напеў знаёмай песні пра чалавечую долю і таго, хто не знайшоў свайго шчасця…

— Петрык скардзіцца, — сказаў Сцёпка і працягла ўздыхнуў.

— Як скардзіцца? — не зразумеў дзядзька Рыгор, здзіўлена пазіраючы на Сцёпку.

— Паўсляпы ён, Петрык, і скардзіцца на баяне на сваю долю, — растлумачыў Сцёпка, чамусьці паскараючы хаду.

Дзядзька Рыгор прыслухаўся: «Доля, мая доля, дзе ж ты?» — выйграваў баян, і гэта сапраўды было вельмі падобна да жальбы няшчаснага чалавека.

Яны ўжо падыходзілі да вёскі, калі песня ціха замерла, але праз хвіліну раптам зноў паплыла ім насустрач.

— Падыдзем бліжэй, паслухаем, — энергічна рушыў наперад дзядзька Рыгор.

— Ну яго! Не слухаў бы, — адмахнуўся Сцяпан. Некаторы час ён крочыў моўчкі, насупіўшы пучкаватыя бровы, потым пераканана, строга і сур’ёзна дадаў, адмахнуўшы надакучлівага камара: — Ты ідзі, калі хочаш, а мне — нельга. У мяне таго… перажытак, запой. Зразумеў? Ад Петрыкавых напеваў я тут жа нап’юся. Так што не прымушай, ідзі сам.

Дзядзька Рыгор пайшоў на гук баяна. Было ўжо зусім цёмна, і ён ледзь разгледзеў за садовым плотам, аброслым палыном і чартапалохам, Петрыка, які сядзеў на лаве спінаю да ўкапанага ў зямлю стала. Баян надрываўся, плакаў, паўтараючы ўсё тую ж жальбу, усё тое ж пытанне або папрок камусьці: «Доля, мая доля, дзе ж ты?»

Мабыць, гэтая тужлівая песня была вельмі суладнай з ціхім сумам, навеяным восеньскім паляваннем. Але дзядзьку Рыгору здалося, што яе спяваў чалавек убогі духам, азлоблены, які не змог адолець сваё, хаця і вялікае, гора. Зразумець даступную ўсім радасць быцця і цяпер у парыве помсціць людзям, не ведаючы, за што і з якім намерам.

Дзядзька Рыгор адступіў ад плота, каб адысці, але паўсляпы раптам абарваў ігру, спытаў спакойна, зразумела, без усякай мітусні:

— Хто тут?

— Паляўнічы з мястэчка Галеч, — адказаў дзядзька Рыгор, — твой сваяк.

— Начлегу шукаеш, пэўна?

— Не, я ў вас буду начаваць.

— Добра, буду вельмі рады, — усміхнуўся Петрык, трымаючы баян. — А тут чаго ходзіце?

— Вось вырашыў наведацца, даўно не бачыўся з тваім бацькам, ды заадно на паляванне хадзіў.

— Зразумела.

Абаіх ахапіла нейкае недарэчнае маўчанне. Было чуваць, як шамацела і пастуквала аб сучча, падала з яблынь сухое лісце. Петрык, апрануты ў шэрае, бачыўся дзядзьку Рыгору бясформенна-мутным ценем. Дзядзьку ўразіў Петрыкаў голас, спакойны, добразычлівы. Ні смутку, які гучаў у песні баяна, ні злосці, пра якую дзядзька Рыгор толькі што падумаў, не пачулася яму ў ім. Маўчанне перапыніў Петрык.

— Ідзіце сюды, я вам вясёлую сыграю, — сказаў ён, уладкоўваючы баян на каленях.

— А ты і вясёлую можаш? — спытаў дзядзька Рыгор. Ён пералез праз хісткі плот і сеў на лавачку побач з Петрыкам.

— А гэта як душа скажа, — усміхнуўся Петрык, — я супраць душы не іграю.

— Скардзяцца людзі, што ад тваіх песень тужліва ім, — сказаў дзядзька Рыгор з засцярогай.

— Хто гэта? — усміхнуўся Петрык.

— А вось хаця б Сцёпка Сымонікаў.

І дзядзька Рыгор распавёў, якое ўражанне робіць яго ігра на запойнага Сцяпана Сымоніка. Дзядзька Рыгор думаў, што гэта прымусіць Петрыка задумацца, можа быць, нават пакрыўдзіцца, але ён толькі засмяяўся, кажучы:

— Вольна яму напівацца, толькі я не наняты яго весяліць. Сцяпанавым словам, калі хочаце ведаць, грош цана. У калгасе хлеб яшчэ не ўвесь абмалочаны, а ён, бач, з вамі, дзядзька Рыгор, на паляванне швэндаецца, каб штонебудзь прыдбаць.

Гэтая мерка ў ацэнцы была нечаканая для дзядзькі Рыгора: «Што гэта? Дзесьці пачутае, чужое, выпадковае ў мове Петрыка або перадуманае, шчырае, сваё?» А Петрык у гэты час нетаропка працягваў, трымаючы на каленях баян:

— Душа, кажу, супраць яе не сыграеш. Няма такога чалавека, каб усё жыццё быў вясёлы, а тым больш я. Сядзіш, сядзіш у цемры, ды абдымае нуда. Каб не адчуваць яе нутром! У мяне гэта таксама накшталт запою. Наляціць вось гэтак на душу, яна і стогне, скардзіцца. Кажа: «Беражы зрок». Яно і правільна. Горшага няма за слепату.

— Так, разумею, — спачувальна адказаў дзядзька Рыгор і знарок пачаў раскурваць цыгарку, каб лепш разгледзець Петрыка. Аранжавае святло запалкі, адбіваючыся ў нерухомых шкляных вачах хлопца, на момант выхапіла з цемры яго твар, у выразных рысах якога заляглі глыбокія цені.

— Вось вы прыйшлі, — працягваў Петрык. — Бачу, чалавек цікавіцца, мне неяк адразу лягчэй стала. Душа адагрэлася. Цяпер і вясёлую сыграю.

Ён падняў з кален баян. Дзядзька Рыгор з насцярожанасцю чакаў, што і ад вясёлай песні ў яго прарвецца той жа матыў тужлівай жалобы. Але не было ў ім ні слова суму і маркоты.

— Усякае, усякае іграў, — сказаў Петрык, скончыўшы песню.

Яшчэ доўга слухаў дзядзька Рыгор Петрыкаву ігру і пявучы баян і не мог наслухацца. А Петрык усё іграў, укладваючы ў музыку ўсе свае сілы і стаpaнне…

Іграў ён усюды, хто ні папросіць, хаця зрок не дазваляў надта напружвацца. Але Петрык не падаў духам, не тужыў. Баян не даваў яму тужыць — у любы час, у любое надвор’е, у любую пару года.

— Такі ён у нас. Гадзінамі можа іграць на сваім баяне. Нават пра ежу забывае, — нібыта з гонарам ці са спачуваннем за Петрыкава здароўе адказаў бацька Ігнат, кранаючы сваяка за рукаў вопраткі. — Яму б куды далей паступіць

вучыцца. Хаця б у музычную школу, а потым можна і пра вучылішча падумаць. Але ж усё ўпіраецца ў зрок. З такім зрокам, пэўна, не бяруць…

Дзядзька Рыгор нерашуча адказаў, зірнуўшы спакойна на задумлівага Петрыка, які ў здранцвелым маўчанні чакаў нейкага рашэння дарослых наконт яго будучыні.

— Так, нешта трэба рабіць з Петрыкавым здароўем і далейшым яго навучаннем музыцы, — адказаў дзядзька Рыгор, звярнуўшыся да Ігната. — Вядома, трэба спярша зрок падлячыць, а потым пра далейшую вучобу думаць.

— Усё так, але ж гэта няпроста, — адказаў бацька Петрыка. — У мяне наконт гэтага ёсць нейкія думкі… А там — як абставіны павернуцца.

Бацька падышоў да сына, які нерухома сядзеў у змрочным задуменні, і ўсе разам, захапіўшы баян, пайшлі ў хату, асветленую яркім лямпавым святлом…

Павячэраўшы, адразу леглі спаць — з думкамі пра Петрыка…

…А на асеннія канікулы бацька павёз Петрыка ў Мінск да сваякоў. Там было ўсё абгаворана, і наступным ранкам бацькава стрыечная сястра, якая працавала ў міністэрстве, павяла Петрыка ў адну з вочных клінік. Там хлопчыка агледзелі і прызначылі лячэнне. Праз некаторы час Петрыкаў зрок палепшыўся, і ён ужо мог бачыць нават пяты радок літар правым вокам. Здавалася Петрыку, што перад ім адкрыўся новы свет. Ён не ведаў, як успрымаць такі нечаканы паварот у жыцці.

Потым была вучоба ў музычнай школе, якую Петрык скончыў з поспехам, далей — паступленне ў музвучылішча, якое таксама скончыў паспяхова. Пасля яго быў накіраваны ў раён, які знаходзіўся за пятнаццаць кіламетраў ад роднай вёскі, на пасаду настаўніка па класе баяна ў музычную школу.

Ішлі гады. Сталеў і Петрык, удасканальваў свае музычныя і тэхнічныя навыкі ігры на баяне, прафесійны ўзровень. Калі прыязджаў да бацькоў на выхадныя, па-ранейшаму радаваў сваёй ігрой, ужо больш дасканалай.

У вачах бацькоў ён выглядаў ужо не такім засмучаным падлеткам, які раней усё іграў на баяне пра «цяжкую долю»… Цяпер перад імі сядзеў пасталелы Пятро Ігнатавіч, іх сын, які вытрымаў выпрабаванні лёсу і выйшаў пераможцам.

Яго душа, як і яго стары сябра баян, пела па-новаму, больш мілагучнымі матывамі, успрымаючы змены новага жыцця…

Летам, у час свайго водпуску, Петрык, Пятро Ігнатавіч, як і калісьці ў падлеткавыя гады, часта выходзіў на падворак у пагодныя вечары. Садзіўся на тую самую лаўку, якая таксама вытрымала ўсе змены часу, ставіў на калені баян і пачынаў іграць, зноў збіраючы сваёй музыкай вяскоўцаў, якія з увагай і цікавасцю слухалі яго ігру.

Чароўныя гукі баяна так і ліліся ў наваколле, напаўняючы яго меладычнымі напевамі, зазываючы кожнага, хто ішоў па вуліцы, вяртаючыся дамоў з работы. Яны, зачараваныя Петрыкавай музыкай, забываліся на момант пра ўсе свае справы і гаспадарчыя клопаты, слухалі баян. Потым пачынаўся іх нястрымны спеў, ад якога разам з гукамі баяна гойдалася ўсё наваколле і пагодны летні вечар, хвалюючы іх сэрцы і душы, даючы надзею на заўтрашні дзень…

Ірына Ляшкевіч

## «…Домоў ворочайса»

…ідзі,чужэ дзіце,
Ідзі нагуляйса
У сенях на порозі.
Домоў ворочайса

*З палескай песні*

Травеньская ноч непрыкметна пасвятлела і растала ў першых ружовых палосках на даляглядзе. Рэдкія дрэвы абапал дарогі, здавалася, кружыліся ў нейкім вальсе і віталі нас маладой пышнай зелянінай. Дрэвы ляцелі насустрач нам, а мы — насустрач світанню. За тры гадзіны дарогі цела пачынала ўжо ныць, галава цяжэла, і сон з непераадольнай салодкай настойлівасцю павіс на вачах.

Я паглядзела на кіроўцу:

— Міхась, не спіш?

— Не, з тваёй кавай не заснеш!

Мужчына лоўка аднаруч націснуў накрыўку тэрмаса, хлёбнуў кававага кіпеню і сутаргава ўхапіў паветра:

— Уух! Кіпень, а не кава! Моцная!

Міхась звярнуў да абочыны і прытармазіў:

— Пяць хвілін на перакур!

Я выйшла з машыны, пацягнулася і зажмурылася! О, гэтае пачуццё вызвалення ад доўгага сядзення і дарогі! Сонца паціху падымалася над небакраем, але лёгкі туман над вербалозам, як коўдрай, яшчэ ўкрываў зямлю, даючы ёй магчымасць дагледзець апошнія сны пад салаўіныя пошчакі-перасвісты. Хвіліны спакою і суладдзя парушыла зязюля:

— Ку-ку! Ку-ку!

Аднекуль з далёкага дзяцінства як рэха даляцеў голас прабабулі:

— Зозулько маленька, мала невалічка, у бор полецела, на каліну села…

— У бор полецела, на каліну села, на каліну села, жальненько запела…— гэта ўжо я адказвала паўголасам-паўшэптам, працягвала гэты да болю знаёмы матыў…

Міхась кашлянуў:

— А на які вакзал прыязджае твой амерыканец?!

Я на хвіліну аслупянела. Аёечкі!!!! Я ж не спытала нават, чым ён будзе з таго Тэрэспаля ехаць — маршруткай ці электрычкай! Напісаў, што зранку будзе ў Брэсце. А на якім вакзале — не!

Ведаючы, што мужчын звычайна раздражняе любая недакладнасць, я, сабраўшы хваляванне ў кулак, спакойна прамовіла:

— Едзем на чыгунку. А там разбяромся.

— Ясна, — уздыхнуў Міхась.

Горад узнік з ранішняга туману раптоўна. Мне так падалося. Глянуўшы краем вока на Міхася і заўважыўшы яго хітраватую ўсмешку, я зразумела, што

праспала добры кавалак дарогі, хаця абяцала весяліць яго ўвесь шлях байкамі, каб ён не заснуў.

Хвілін праз дзесяць мы спыніліся пад густымі зялёнымі дрэвамі.

— Вось і чыгунка! Пайшлі шукаць твайго амерыканца.

Я ледзь паспявала за гэтым высокім хударлявым мужчынам, аднавяскоўцам, які згадзіўся зрабіць няблізкі шлях на сваім аўто, каб сустрэць маіх гасцей.

На вакзале было нязвыкла пуста. У акенцы з надпісам «Даведка» драмала мілавідная дагледжаная жанчынка. Устрапянуўшыся ад майго гучнага «Дзень добры», яна выслухала мой аповед і назвала час прыбыцця электрычкі і патлумачыла, дзе мне чакаць сваіх гасцей.

Часу было шмат. Купіўшы тое-сёе ў нейкай сталоўцы, мы з Міхасём вырашылі перакусіць проста ў машыне.

— Слухай, — раптам спытаў Міхась. — Адкуль ён узяўся, гэты ваш амерыканец?

— З Амерыкі, штат Алабама.

— Я разумею, што не з Аўстраліі. Тады б ён быў аўстраліец. Але як яго туды занесла?

— Гэта даўняя гісторыя. Дзядулю майго ж ведаеш. У вайну яго з сёстрамі прымусова вывезлі ў Германію на працу. У дзеда была сястра Волька. Прыгожая, спрытная. Як кажуць, вайна вайною, а маладосць брала сваё нават у тых умовах. Пазнаёмілася там і пакахалася паляшучка Волька з украінскім хлопцам Іванам Паўлюком. Відаць, моцныя былі пачуцці, калі пасля вайны не вярнулася дадому з радзінай, а засталася з Іванам, падпарадкавалася волі мужа і прыжылася з ім у Нямеччыне, дзе нарадзіла чацвярых дзяцей. А потым усёй сям'ёй яны пераехалі жыць у Амерыку.

— А далей? Яны прыязджалі да вас ці не?

— Якое прыязджалі! Час які быў?! Першы ліст прыйшоў у 1958 годзе! А дагэтуль ніякіх звестак не было, дзе Волька і што з ёй! Канверт быў моцна патрапаны, з мноствам пячатак розных, чытаны-перачытаны. І колькі часу ён праляжаў у розных шуфлядах, колькі рук трымалі і круцілі яго ў руках, колькі вачэй праз акуляры і без іх перагледзелі кожную літару ў гэтых радках, напісаных Волькай да сваёй радзіны, — дакладна невядома! Потым лісты зрэдку прыходзілі, фотаздымкі, на якіх было іншае, не падобнае на наша, жыццё. Прыслала неяк і пасылку. Памятаю, як прабабуля расказвала, што працяглы час пасля вайны жылі ў беднаце і нястачах, таму вельмі ўзрадаваліся, калі атрымалі з Амерыкі ад Волькі тканіну на касцюм ды хромавую скуру на чобаты. А вось гэты старэйшы яе сын Мікола дасылаў маёй маме паштовачкі на ўкраінскай мове. Мама і зараз памятае адзін яго вершык: «Вітер віє, вітер віє, гілочку колише. Здогадайся, моя сестрицо, хто до тебе пише».

А потым раптоўна ўсё абарвалася. Волька захварэла і памерла, пакінуўшы чатырох сірот. Старэйшаму было недзе 14 гадоў… А тыя яшчэ меншыя… Ведаеш, як звестка аб смерці прыйшла? Сястра Вольчына Галена ў Давыд-Гарадку на базары была. І раптам чуе, як адна мяшчанка ходзіць па радах і пытае,

ці ёсць хто з Мачуля! Галена падышла да яе, а тая працягвае ліст з Амерыкі ад свае радні, у якім просяць перадаць у Мачуль, што Волькі больш няма…

Іван ажаніўся ў другі раз, ужо з украінкай. І, відаць, на гэтым і перарваліся ў дзяцей ніці, што звязвалі іх з радзімай маці…

Міхась утаропіўся ў акно і маўчаў. А мне раптам праз шмат гадоў падумалася, колькі болю перанесла мая прабабуля за гэтыя гады, колькі слёз яна выплакала ў падушку, думаючы пра сваю дачку на чужыне, пра яе дзяцей, сваіх унукаў! Як было перажыць яе смерць, не пацалаваць у апошні раз, не прыгарнуць сірат. Нават выкрычацца, вылямантаваць той боль не было дзе!!! Хіба што ў малітвах, якія прамаўляла на польскай мове ранкам і вечарам, прасіла яна ў Божай Маці заступніцтва ды мілосці да яе Волечкі, птушкі, што вылецела з роднага гнязда і ніколі больш не вярнулася. Дзе яе дзетачкі-птушаняты? Ці было іх каму галубіць ды песціць? Цяпер я зразумела, адкуль у бабулі былі такія тужлівыя песні: Зозулько маленька, мала невалічка, у бор полецела, на каліну села….

— На каліну села, жальненько запела, шчо чужая маці гуляць не пускае!

Слёзы здрадніцкі бліснулі ў вачах. Міхась здзіўлена глянуў і засмяяўся:

— Так! Рэпеціруеш слёзы радасці?

— Не! Усё нармальна. Ужо час. Пайшлі.

Голас недзе зверху гучна аб’явіў аб прыбыцці электрычкі. Памежнікі тут жа заварушыліся на пероне. Міхась паказаў рукою ўправа і кіўнуў:

— Стой тут. Адсюль будзе добра відаць, як ён выйдзе з электрычкі. А ты хоць яго пазнаеш? Здымак бачыла?

— Бачыла! Пазнаю! Ты ведаеш, як ён на свайго дзеда падобны?! Адзін у адзін!

— Так, потым раскажаш. Не адцягвай увагі.

На перон выйшаў невялікага росту мужчына ў акулярах… З-пад шапкі выбівалася пасма сівых валасоў. Сівыя вусы неяк гарэзліва злёгку закручаны ўверх. Ён падаў руку сваёй спадарожніцы, маленькай мілай жанчыне з неверагодна прыгожай усмешкай. Мужчына на хвіліну разгублена агледзеўся… А я ўжо скакала як ашалелая, махала рукамі і крычала:

— Дзядзька Мікола!!! Я тут!!!

Яшчэ хвіліну — і я гатова была пераскочыць металічныя поручні засцерагальнай агароджы, каб без усякіх мытнікаў хутчэй абняць свайго дзядзьку. Добра, што побач быў Міхась. Ён моцна схапіў мяне за плечы і прагуў над вухам:

— Да цябе зараз памежнікі падыдуць, ужоназіраюць. Пайшлі да залы мытнага дагляду. Зараз выйдзе твой дзядзька. Пачакай колькі хвілін.

Шчыльныя велізарныя дзверы раз-пораз адчыняліся, і пасажыры электрычкі з сумкамі, заплечнікамі і чамаданамі, выдыхнуўшы з палёгкай, хутка перасякалі залу і накіроўваліся на выхад. Дзядзькі Міколы і яго жонкі Бэт усё яшчэ не было. Час ішоў. Больш ніхто не выходзіў з дзвярэй. У зале пачаў збірацца натоўп людзей, якія рыхтаваліся рушыць гэтай электрычкай назад у Тэрэспаль. Дзверы прыадчыніліся, і жанчына ў форме гучна спытала:

— Хто сустракае Міколу П…?

— Я! Што здарылася?— я проста ўварвалася ў залу.

— Ваш дзядзька незаконна перасёк мяжу Беларусі. У яго віза з пятага траўня, а сёння чацвёртага. Мы вымушаны яго дэпартаваць назад у Польшчу! Растлумачце яму самі!

У мяне перахапіла дыханне… Хвіліну я маўчала, а потым… Мы абняліся з дзядзькам і зайшліся ад плачу. Далей я растлумачвала дзясятку людзей у форме, што гэты амерыканец насамрэч наш, родны. Праз 70 гадоў нарэшце прыехаў пакланіцца матчынай зямлі, а вы яго назад гоніце!!! Але закон ёсць закон, парадак ёсць парадак. Два памежнікі павялі дзядзьку з жонкай назад у электрычку, ён разгублена аглядваўся, а я стаяла акамянелая… Жанчына ў форме падышла і сказала:

— Ёсць варыянт такі. Апошняя электрычка з Тэрэспаля прыходзіць у 23:40. Ён прыедзе, пачакае 20 хвілін на пероне і зойдзе ў залу роўна ў 0 гадзін, калі ўжо будзе пятага траўня…

Я ледзь валаклася па вакзале, зняможаная і абыякавая… Міхась спакойна сказаў:

— Аніякай бяды. Пачакаем да вечара.

— Да ночы.

— Ну, да ночы! Пайшлі ў машыну, трэба паспаць… Ізноў усю ноч ехаць прыйдзецца. Слухай, а як ты яго знайшла? Столькі гадоў, як вы згубіліся ў гэтым свеце!

— Ды цывілізацыя ў вёску ж прыйшла! Падключылі інтэрнэт. Сацыяльныя сеткі. Дачка зарэгістравала мяне ў Фэйсбуку. А мама кажа:

— А паспрабуй Міколу знайсці!

Набіраю, і тут жа мне яго старонка! Як глянула, аслупянела: так падобны на свайго дзеда! Нават вусы гэтак закручаны! Клічу маму. А тая:

— Гэта сапраўды ён будзе! На дзеда ж падобны!

Напісала ліст яму. Так і так… Ваша мама — сястра майго дзеда. Так што па маме вы — беларус, паляшук. Даслала яму здымкі радзіны, расказала пра жывых яшчэ яго дзевяностагадовых цётку і дзядзьку. А потым кожны дзень распавядала яму пра радзіму яго маці.

Міхась здзіўлена і хітравата паглядзеў:

— Ду ю спік інгліш?

— Ага, дую не задую! — засмяялася нарэшце я. — Дзякуй Богу, бацька ягоны прывучаў дзяцей размаўляць дома на ўкраінскай мове. Так што моўнай мяжы ў нас не існуе. Я яму на беларускай, а ён мне на ўкраінскай. І поўнае паразуменне!

— Бач ты! Берaглі яны, лічы, сваю мову і там!

— Так. А яшчэ Мікола прымае ўдзел у розных фестывалях украінскіх, што ладзяцца іх дыяспарай, носіць вышыванку, і нават навучыўся рабіць пісанкі. Але ж ёсць і радзіма яго маці. І ведаеш, Міхась, так хачу, каб ён палюбіў і Беларусь усім сэрцам! А тут бачыш, як атрымалася! Радзіма-маці сустрэла і за парог адразу. Дзясятак гадзін не хапіла, каб у хату пусціць.

— Так, хопіць слёз. Пацярпі, і мы з тваім амерыканцам рванём праз усю вобласць прама на радзіму! Спім!

Міхась адкінуў крэсла і, неяк згарнуўшыся больш зручна, уладкаваўся і праз хвіліну ўжо спаў…

Каля дванаццатай гадзіны ночы я адзінотна блукала па зале чакання, паглядваючы то на гадзіннік, то на вялізныя дзверы. Патруль падышоў да мяне і спытаў, чым мне можа дапамагчы.

— Мне дапамагчы можна толькі адным: калі вы прапусціце майго дзядзьку, які чакае на тым баку на пероне!

Хлопец усміхнуўся:

— Дык гэта вы таго амерыканца сустракаеце, што з візамі не разабраўся?! Ужо хутка яго прапусцяць, праз паўтары хвіліны! Пачакайце.

Паўтары хвіліны цягнуліся вечнасць. Так бывае, калі доўга і моцна чакаеш, час прыцішвае свой ход, амаль спыняе яго, выпрабоўваючы цябе на цярплівасць і самавалоданне…

І вось я вязу дзядзьку Міколу з жонкай па зямлі яго маці. Мільгаюць ліхтары, вёскі, гарады… Мы размаўляем хутка, нібы баімся, што вось зараз раптам здарыцца, што гэта ўсё не з намі, што гэта сон, які пройдзе, а мы не паспелі нагаварыцца. Мікола з цікавасцю паглядае на дарогу, усміхаецца, абдымае адной рукой мяне, другой — цёцю Бэт. Тая не разумее нашай мовы, але, мне здаецца, добра адчувае нашу радасць і хваляванне.

А я ведаю, што ўжо сёння збярэцца ўся радзіна, будуць сустрэчы, успаміны, аповеды. Будуць слёзы радасці і жарты! Будуць засцелены лепшыя абрусы на сталы, згатаваны лепшыя прысмакі. Будуць песні, самыя шчырыя і родныя, зразумелыя і блізкія. І здзівіцца Мікола, што ўкраінскія песні са зборнічка, які ён спецыяльна прыхапіў з сабой у Беларусь, тут, на Палессі, добра ведаюць і любяць! А потым будзе расстанне і зваротны шлях у далёкую Амерыку праз Івана-Франкоўск, радзіму Міколавага бацькі…

Але павязе Мікола назад у Алабаму жменю зямлі з месца, дзе стаяла некалі хата, у якой нарадзілася яго маці. І апране ён беларускую вышыванку, сатканую і вышытую палескай жанчынай… І востры боль асіроцеласці і страты, які суправаджаў яго з дзяцінства, боль, які перарос у мару прайсці сцежкамі, па якіх некалі бегала яго мама, упершыню зменіцца светлым сумам… А шчодрая палеская зязюля за ракою накуе яму шмат гадоў жыцця…

Зозулько маленька,
Мала-невалічка,
У бор полецела,
На каліну села.
На каліну села,
Жальненько запела,
Шчо чужая маці
Гуляць не пускае.
— Ідзі, чужэ дзіце,
Ідзі нагуляйса
У сенях на порозі,
Домоў ворочайса…



**Павел Ляхновіч**

Нарадзіўся ў 1954 г. на Міншчыне. Дзяцінства і юнацтва прайшлі на Ракаўшчыне і ў Ракаве. Навучаўся ў Ракаўскай сярэдняй школе і ў Вышэйшай ваенна-марской вучэльні ў г. Баку. Служыў на Паўночным флоце на субмарынах і надводных караблях. Аўтар зборнікаў апавяданняў «Пачатак сезона», «Золата князёўны», «Ігнась-чарадзей» і «Зялёны дуб». Аўтар перакладу з польскай кнігі В. Цішэка «З Богам у Расеі», перакладчык шэрагу раманаў Л. Рублеўскай на расейскую мову і перакладу з польскай. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## Мера даўжыні…

Метр — мера даўжыні ў рыбакоў, роўная 45 см.

Жоўты водбліск на нізкіх хмарах. Гэта не сонца, зараз палярная ноч, гэта Североморск, ён там, за сопкамі. Вакол адзінай лямпачкі над трапам, перакінутым з плавучага крана на ракетную палубу, уюцца, як машкара, калючыя сняжынкі. Атамны ракетаносец, пару гадзін назад прывязаны да плаўкрана, губляецца на фоне чорнай вады. Аркадзь, камандзір электранавігацыйнай групы, а зараз вахценны афіцэр, мерзне на мосціку ў чаканні змены. Тупае — адзін удар наском ялавага бота ў прыступку ля пеленгатара, адзін — падэшвай па палубе, потым адзін наском — два падэшвай. Бум-та! Бум-та-та! Бум-та! Бум-та-та! Жалеза звініць, як літаўра, і не так маркотна.

На падыходзе да губы Акольнай, месца пагрузкі ракет, да гэтага вось зачуханага плаўкрана, абыходзілі вялікую банку, абстаўленую дзеля бяспекі з усіх бакоў буямі. Аркадзь палічыў, што ідуць яны заблізка да небяспечнага месца, і парэкамендаваў камандзіру курс на тры градусы правей. Камандзір ніяк не адрэагаваў, і пасля нядоўгай перапалкі па трансляцыі ён запісаў у навігацыйны журнал, што рэкамендацыя праігнаравана, распісаўся і даклаў аб гэтым запісе на мосцік. Падзейнічала, курс падправілі. Уладзімір Рыгоравіч, камандзір бэчэ-раз з мосціка спусціўся:

— Дарэмна ты гэта. Хоць, з іншага боку, правільна — трэба кэпа прывучаць, каб прыслухоўваўся да штурманаў…

А пасля швартоўкі і адбою трывогі, што аб'яўлялася для праходу вузкасці, з вахты ў штурманскай рубцы ён адразу загрымеў вахценным афіцэрам на мосцік.

— А як вы думалі!.. Тут вам флот, а не маміна цыца!

Аркадзь грукае ботамі па жалезе і ўзгадвае.

Як жа меў рацыю той старлей! Неяк, таксама ўначы, ён стаяў дублёрам вахценнага афіцэра. Якое там ужо дублёрства — так, абнюхваўся! Ноч была

чорная-чорная, зорная-зорная. На мосціку толькі ён, Аркадзь, той старлей і матрос-стырнавы. Ён — курсант, толькі скончыў першы курс. Эсмінец, на якім яны праходзілі практыку, рассякаў уздоўж крымскага берага. Усё навокал патыхала экзотыкай — і ветрык, што прыносіў з берага пах незнаёмага, цудоўнага жыцця, і спёртае карабельнае паветра — сумесь саляркі, фарбы, гумы, камбуза, дызельнага выхлапу і людзей. На сэрцы было радасна і ўрачыста. А той старлей, вахценны афіцэр, быў прыгожы, як Апалон, прынамсі гэткім здаваўся Аркадзю. У бездакорнай форме адзення, з тонкім прамым носам, акуратнымі дагледжанымі вусамі, з крыху грэблівым выразам твару. Пройдзе не так шмат часу, і Аркадзь абавязкова стане гэткім жа! І яму таксама давераць весці карабель праз цемру!

— Зайздросціш? — спытаў старлей. — Бачу, зайздросціш… Дурань! Не варта тут нічога зайздрасці. Што? Думаеш — ага, мяне дурнем называеш, а сам… Гэткі ж, як і ты, быў, дурны. Ну што я тут — малады, здаровы мужык — раблю? У мяне жонка на беразе, а я бачу яе добра калі раз на тыдзень. Кідай ты гэтую справу, хлопча!

«Ха! — падумаў тады Аркадзь. — Во праблема, жонку ён рэдка бачыць! Якая дробязь!» Старлей адразу страціў адсоткаў восемдзесят бляску. Не той аргумент для сямнаццацігадовага хлапца…

У рубачным люку запыхцела, і на мосцік вылез нампаліт. Вылез у адным РБ, рабочай вопратцы, і адразу завойкаў — марозік градусаў пад дваццаць, і ветрык метраў пяць у секунду…

— Ты, гэт-та, Аркадзь Палыч, не прамухай — тут да мяне генерал павінен прыехаць. З Галоўнай Палітуправы, з Масквы. На лодках ніколі не быў, дзівіцца будзе. Як «Волга» на сценцы з’явіцца, мяне высвіствай, я ў Цэнтральным.

— Чаго вы голы на мост вылезлі, Барыс Аляксандравіч! — няшчыра спачувае Аркадзь. — Маглі па «Каштану»… Прастынеце!

— Надвор’е сам хацеў пaглядзець. Іду апранацца, — з крактаннем палез уніз.

Па карме заміргаў ліхтар. Кропка-працяжнік, кропка-працяжнік… Там, здаецца, дывізіён дэсантных караблёў. Выклікаюць на сувязь. Уключыў сігнальны пражэктар, даў у той бок працяглы прамень. Заміргалі. От, халера, з гэтай ліхтарнай-пражэктарнай сувяззю ў падводнікаў заўжды праблемы. Не ўмеюць падводнікі. Пачаў падлічваць кароткія і доўгія праблiскі, узгадваць марзянку, якую вучыў ажно на першым курсе і з-за непатрэбнасці напаўзабыўся ўжо. «Вы адкуль» — склаліся праблiскі. Відаць, там таксама маркоцяцца і з нецярпеннем чакаюць змены.

— З Аленевай Губы, — адказаў і выключыў пражэктар. Не хапала толькі праблем з «энкавэдзістам».

Падла, але ж і холадна! Асабліва ногі мерзнуць. Анучы маракі не накручваюць, лічыцца непрыстойнасцю, а двое баваўняных шкарпэтак у боце грэюць слаба. Добра, што боцман сваю «канадку» і нагавіцы ватныя пазычыў, а то зусім было б кепска. Нагавіцы, праўда, малаватыя — прыйшлося матузком спераду звязаць, бо не сыходзяцца. Халодзіць крыху праз расхінутыя кліны, але, можа, нічога не адмерзне…

Дзіўная ў Радзімы «вопраткавая палітыка». Марак з Каспія, з паўпустыні, што на Апшэроне, дзе ўзімку снег адзін-два разы выпадае і адразу растае, атрымоўвае гэткі ж шынялёк, як і марак з Арктыкі. Праўда, падводнікі, каму ў моры часам на мосцік прыходзіцца вылазіць, забяспечваюцца футравымі «канадкамі». Рэч гэта дарагая, і, каб не скралі, шмат хто перахоўвае іх дома. Вось і Аркадзь гэтак… Бо як падыдзе час здаваць — не разлічышся.

Далёка на дарозе заскакалі фары. Можа, той замаўскі генерал едзе. Экскурсант, шашок яго тата…

— Цэнтральны — мосціку! Нампаліт у вас?

— Тут я… Што — прыехаў? — хрыпіць «Каштан».

— Нейкія фары. Далёка яшчэ.

— Ляту!..

Захэкаўшыся, выпаўз на мосцік:

— Дзе?

— У «канадцы» і ў футравых жа нагавіцах. На пінгвіна падобны. Няблага экіпіраваны, — Аркадзь пра такія нагавіцы толькі чуў, а бачыць упершыню.

— Ты ж глядзі, не забудзься «Смірна» падаць! — паклыпаў на ракетную палубу, трап з плаўкрана туды кінуты.

— Не забудуся…

Ідуць. Замуля ажно прыгінаецца і ў твар генералу зазірае. Знізу ўверх. Зараз ужо не на пінгвіна падобны, а на фазана, што ў траву шыецца. Спусціліся з ракетнай у агароджу рубкі.

— Дзе мне распрануцца? Але ж тут і холадна!

О-о! Ды ён зусім цёмны, генерал. Няўжо ўсур'ёз думае, што ўжо на ПЛ* трапіў?

— Не-не, ташш генерал! Вось сюды, калі ласка. Асцярожна, трымайцеся за парэнчы, — ліслівым голасам, куды толькі падзелася заўсёдная самавітасць намесніка. На мосцік вядзе. Два «павукі» на пагонах, генерал-лейтэнант. Лампасы, светла-шэры шынель, каракулевая папаха з чырвоным верхам, позірк востры, калючы.

— Таварыш генерал-лейтэнант, вахценны афіцэр капітан-лейтэнант Муляр!

Цесна на мосціку. Аркадзь на прыступцы стаіць, а генерал ніжэй, больш месца няма. Якраз вачыма насупраць расхінутых кліноў.

— Муляр… Бач ты, яўрэі і на стратэгічных служаць… — нібыта пра сябе мармыча генерал.

— Служаць, таварыш генерал-лейтэнант! Толькі я не яўрэй, я беларус. «Муляр» па-беларуску «каменшчык», — кажа Аркадзь.

— Спадзяюся, не «вольны муляр»? — гарэзліва прыжмурвае вочы генерал. — Вам не горача, капітан-лейтэнант Муляр?

Жартаўнік. («Ах ты, хахуля маскалідонавая! Сам бы тут пастаяў пару гадзінак».)

Замуля радасна хіхікае і цісне на педаль «Каштана»:

* ПЛ — падводная лодка.

— Цэнтра-а-альны! Мосціку!

— Ёсць Цэнтральны!

— Праверка сувязі! — І кідае на генерала позірк, поўны трыумфу.

Гэта ён дэманструе высокаму палітработніку сваё валоданне складанымі тэхнічнымі сродкамі.

— Дзе мне распрануцца?

— Зараз распраняцеся, ташш генерал! Вось сюды спусцімся. Дазвольце, я наперад. Буду, так сказаць, страхаваць…

У час экскурсіі, замаскіраванай пад «Карабель да агляду», ці агляду, замаскіраванага пад экскурсію, натрапіў генерал на Шурку Кучара, па мянушцы «Чалавек без дзяцінства». Шурка — адзін з тых апошніх гаротнікаў, што з пятага класа быў нахімаўцам. Апошні набор. Пасля сталі браць з дзявятага. Так што са сваіх дваццаці васьмі гадоў Шурка сямнаццаць — у шынялі. І вось свідруе генерал вачыма-калючкамі Шуру, а той выцягнуўся (галава пад самым подвалакам) і прадстаўляецца:

— Таварыш генерал-падпалкоўнік, камандзір групы… капітан-лейтэнант Кучар!

Генеральскія калючкі ператвараюцца ў сподкі:

— Штосьці я не разумею… — жаласна мямліць генерал, а з-за яго спіны наместнік паказвае Шурку кулак. — Ці то вы мяне павысілі, ці то панізілі?.. Гм… Генерал-падпалкоўнік… Ну, будзем лічыць, што павысілі. Бо падпалкоўнік жа вышэй за лейтэнанта?! Так жа?! Дзякуй, капітан!

Шурка потым, у час разбору палётаў апраўдваўся — маўляў, ведаў толькі, што калі тры «павукі», то гэта генерал-палкоўнік. А тут — дзве! Ну і шляхам нескладанай логікі вылічыў.

Яшчэ генерал меў гутарку «за жыццё» з матросам трэцяга года службы Асташкіным. Разняволенасць простага матроса, адсутнасць трапятання, ягоныя разгорнутыя сказы ў гутарцы з ім генерала здзівілі:

— А што гэта вы, таварыш матрос, гэтак смела са мной размаўляеце? Нібыта кожны дзень з генераламі зносіцеся?

— Чаго баяцца, таварыш генерал? Танк клапа не раздушыць!

Барыс Аляксандравіч ледзьве прытомнасць не страціў ад такога адказу, але генерал вытрымаў паўзу і засмяяўся. Яму дробненька падхіхікнулі «суправаджаючыя асобы» — наместнік з партыйным сакратаром.

Штурманскую рубку наведаў, там у гэты час камандзір бэчэ-раз знаходзіўся. Прадставіўся і пачаў генерала лічбамі здзіўляць, параметрамі навігацыйнага комплексу, сярэднеквадратычнымі памылкамі, квазікаардынатамі… У таго ажно вочы да пераносся. Але пачуў больш-менш знаёмае слова і перабіў:

— Таварыш штурман, а навошта падводнаму чоўну курс?

Тут у штурмана вочы да пераносся. Гэта ж трэба генералу пачаткі навігацыі выкласці, ды пажадана ў трох словах. Пакуль паўзу трымаў у спробе сфармуляваць, вуснамі плямкаў, сам генерал выручыў:

— Мабыць — каб не заблудзіцца ў моры?

— Уф! Дакладна так, таварыш генерал! Каб не заблудзіцца!

Потым генерала кармілі ў кают-кампаніі запечанай куркай, паілі рыслінгам і дарылі эбанітавы макет падводнага крэйсера. Але Аркадзь ужо змяніўся і дрых на цеснай канапцы ў штурманскай рубцы. У каюту не пайшоў — каб меней турбавалі.

* * *

Пятро Мікалаевіч Марцін, з націскам на «а», камандзір бэчэ-два, да ракетна-ядзернага монстра праслужыў вельмі шмат дзе (усё на «жалезе»!), нават на сумнавядомай «Хірасіме». Выслужыў дзве буйныя зоркі на пагон, чатыры шаўроны на рукаво, стаж на пенсію.

— І хто твой татка, сынку? — цікавіўся ён у маладых, толькі з градкі, лейтэнантаў. Потым прагназаваў: — Од сохі… До сохі і вэрнэшся, сынку. На флоце — як у Індыі. Дзіты гімновоза нэ могуць буты брахманамі.

Або:

— О як! Добры струмэнь тобі в транэц! Можэ, флотоводцом будэш…

Найшчырэйшай мрояй Пятра Мікалаевіча была мроя пакінуць карабель, і служыць на беразе. Каб ад і да, каб два выхадныя (і не так, як на «бідоне» — адзін зімою, адзін улетку, а па-сапраўднаму — два на тыдзень), каб тэлефон у кватэры, і — у якасці трызнення — каб службовы «ўазік» з кіроўцам. Але гады ішлі, караблі мяняліся ад дызелюх да атамных крэйсераў-ракетаносцаў, колькасць аўтаномак перавaліла за трыццаць, моладзь за вочы называла яго «старым, як дзярмо маманта» (гэта саракагадовага!), а мроя ніяк не хацела спраўджвацца.

…Пасля пад'ёму сцяга аб'явілі вучэбную трывогу і пачалі грузіць ракеты.

На прычальную сценку прыязджаў ракетавоз, расчынялі пенал-кантэйнер, у якім ляжала, як дарагая сігара, вялізная ракета. Яе падымаў плаўкран, вывешваў над гарбатай тушай, і яна павольна запаўзала ў адчыненую шахту. Працэсам кіраваў Пятро Мікалаевіч, дапамагаў яму Шурка Кучар. Мароз з учарашняга ўзмацніўся, і Пятро Мікалаевіч напераменку з Шуркам спускаліся ў корпус грэцца. Шахт на «параходзе» шаснаццаць, працэс пагрузкі не хуткі, і Пятро Мікалаевіч у час чарговага візіту ўніз кульнуў паўшклянкі спірту. Звычайная справа — мароз жа!

Спірту на «бідоне» шмат. Падводны карабель — складанае інжынернае збудаванне, пранізанае шматлікімі кіламетрамі электракабеляў, напіханы тысячамі электрапрыбораў і машын, і тым спіртам асабовы склад павінен прамываць электрычныя кантакты. Насамрэч беднаму электраабсталяванню дастаюцца ад усёй «шыльнай» ракі мізэрныя адсоткі. Найбольшы паток, можна сказаць, рака — цячэ ў давольчыя органы і ў «шыльніцы» розных правяральшчыкаў-падганялаў са штабоў. Невялічкі ручаёк струменіцца карабельным афіцэрам. Тут чым цяжэйшыя пагоны, чым большы тэрмін службы — тым больш значней цурчыць. Зусім кроплі, ды і то выпадковыя, дастаюцца матросам. Электрычным кантактам — рэшткі.

Кульнуў, значыць, Пятро Мікалаевіч паўшклянкі для цяпла — і наверх, там чарговая ядзерная ялда над ракетнай палубай завісла, а тут намеснік камандзіра дывізіі прыпёрся. І няўдала стаў Пятро Мікалаевіч — на вецер ад намесніка камдыва. З начальствам трэба, як на паляванні ад звера, — пад вецер станавіцца, але бэчэ-другі даўно пакінуў гэтыя прыёмы маладзейшым. Лічыў іх ніжэй сваёй годнасці. Калі пенсія ўжо зароблена, можна асабліва не асцярожнічаць.

Унюхаў адміральскі намеснік, бровы пад брыль заехалі, у іх, у капразаў, шапка з брылём. Называюць яшчэ «шапка з ручкай». Вочы выкаціў:

— Ды вы п’яны!

— Нычого я нэ п’яны… Холодно ж — шчэ на морозі богато стояты…

— Я вам забараняю грузіць ракеты! Я вас адлучаю ад кіравання баявой часткай! Кучар! Капітан-лейтэнант Кучар — прымаеце камандаванне баявой часткай два! А вам, таварыш капітан другога рангу, забараняю сыход з карабля. Вернецеся ў базу — будзем з вамі разбірацца!

— Шо? Ты мэні забороняеш сыход? Страляй у спыну! — Пятро Мікалаевіч спусціўся ў каюту, змяніў спецвопратку на форму, і яго чорны шынель растаў у імгле палярнай ночы.

Астатнія ракеты грузіў Шурка. З’явіўся Пятро Мікалаевіч толькі праз тры дні, ужо на базе. І што? А нічога! Пайшоў у аўтаномку як міленькі. Праўда са спагнаннем «за нетактоўныя паводзіны з начальнікам». А пасля аўтаномкі быў прызначаны памочнікам начальніка штаба. З тэлефонам у кватэры, са службай ад і да, з двума выхаднымі на тыдзень і нават з «уазікам»! Казаў: каб ведаў, як проста пакінуць абрыдлае «жалеза», адмовіўся б ад тактоўнасці шчэ гадоў дзесяць таму.

* * *

Аўрал на стратэгічным падводным чоўне. Памочнік камандзіра — ён жа і начальнік службы «С» — забеспячэння — узмакрэлы і заклапочаны. Пагрузка прадуктаў. Сто трыццаць чалавек трэба карміць дзевяноста сутак. І яшчэ запас мець на ўсялякі выпадак. Мічман па мянушцы Крывадуй, інтэндант экіпажны, на «КамАЗе» матыляецца туды-сюды. Ад складоў прадавольчых да монстра ракетна-ядзернага. Матросы разгружаюць грузавікі і спускаюць прадукты ў дзве трубы — рубачны люк і люк пятага «біс». На прычале расце гара тары — кардонных і драўляных скрынак, бочак і ўсяго, што не праходзіць у люкі.

Каб прадукты не пакралі, за матросамі прыглядаюць афіцэры. Дарэмна. Шмат рознай смакаты ўсё роўна трапіць ў карабельныя «шхеры», якіх там незлічонае мноства. Учора намеснік на камсамольскім сходзе салаўём заліваўся, распавядаў, як партыя камуністаў аб абаронцах радзімы клапоціцца. Асабліва націскаў на выключнасць прадавольчых нормаў для падводнікаў. Тут і чырвоная ікра, і віно, і шакалад, і… celebraрознае. Толькі лётчыкі, казаў, могуць з падводнікамі асартыментам раўняцца.

І што красці іх — злачынства перад радзімай і апошняя справа, «западло». Замуля ў гады лейтэнанцкага юнацтва на зоне служыў, там і ўзбагаціў лексікон.

Ім, палітработнікам, прадстаўнікам арганізуючай і кіруючай сілы, усё роўна, дзе гэтую сілу прадстаўляць — хоць на зоне, хоць у танку, хоць на распрацоўцы цалінных земляў…

Камсамольцы слухалі Барыса Аляксеевіча з каменнымі тварамі, і толькі Аліеў, трумны, прабурчэў нешта накшталт таго, што раз маёмасць усё роўна належыць экіпажу, то ўкрасці ў сябе нельга.

— Што ты сказаў, Аліеў?

— Нічога…

…Чарговы «КамАЗ» ехаў-ехаў на прычал ды і з'ехаў з дарогі ўбок. Там, сярод сопак, ракетчыкі супрацьпаветраныя стаяць, да іх дарога вядзе. Заехаў гэтай дарогаю «КамАЗ» за скалу, там яго ўжо трое «Жыгулёў» чакаюць, Крывадуевы сябры-калегі з суседніх чаўноў прыехалі. Хуценька перакідалі ў легкавікі найбольш далікатэснае ды і развезлі па гаражах. А матросу-кіроўцу — каб язык трымаў на шворцы — літр спірту ды дзясятак бляшанак тушонкі. Хуценька аперацыю правярнулі, ніхто і не заўважыў невялікую затрымку. А што? Падводнікі ў аўтаномках рухаюцца мала, вялікага апетыту не маюць. Ніколі ўсяго не з'ядалі. Нават прыходзілася крупы разам са смеццем праз ДУКі выстрэльваць, бо калі паказаць, што не ўсё спажылі, што па нормах належыць, то нормы зменшаць. Каму гэта трэба?

* * *

…Патэлефанаваў аператыўны дзяжурны і перадаў загад адкамандзіраваць камандзіра ЭНГ на тарпедалоў. На двое сутак. Як штурман, «бычок», ні скуголіў, што яму праз некалькі дзён на кантрольны выхад, а потым «за кут», што ў бэчэ-раз працы варочаць не пераварочаць, адмазаць не атрымалася. Дарэмна скуголіў: хто такі аператыўны? Транслятар.

Затое дадому збегаў. Тыдзень ужо дома не быў, хоць «бідон» у роднай базе стаіць. Прыбег, дома нікога, жонка, відаць, дачку выгульвае. Чакаць няма калі. Схапіў кавалак паперы: «Людачка, я на два дні ў мора на тээле. Цалую». Спартыўны касцюм пад форму апрануў, шынель на канадку замяніў — і да штаба: там праз дваццаць хвілін «скатавозка» ў Гаджыева ідзе, тарпедаловы ў Гаджыева базіруюцца. Сямнаццаць км ад Аленевай. Ля штаба ўжо матрос-сакрэтчык з штурманскімі сакрэтнымі дапаможнікамі ў пераноснай шкатулцы-сейфе чакае. Сакрэты матросу давяраюць, а пісталет — не, пісталет прыйшлося Аркадзю на сябе начапляць. Сакрэтчык у гэтым выпадку — проста насільшчык, адказнасць за захаванне — на Аркадзю.

Нешта апошні год не шанцуе Аркадзю з гэтымі тарпедаловамі. Нібыта прапісаўся там штатным штурманам. Разоў мо трыццаць на іх выходзіў тарпедныя стрэльбы забяспечваць. Калі ўсё да кучы сабраць, цэлая аўтаномка назбіраецца. Але ж ад абавязкаў на родным «жалезе» гэтыя камандзіроўкі ніяк не вызваляюць.

На тээле самы вялікі мараход — мічман, камандзір. Штурманская падрыхтоўка ягоная не дазваляе ў адкрытае мора ісці, вось і прыкамандзіроўваюць штурманоў з лодак.

…З Кольскай затокі выйшлі, а там увесь Кільдзінскі плёс у «баранчыках». Тры балы, гэта для тээла як «амерыканскія горкі». А на траверз Рыбачага выйшлі — там усе чатыры. Праз гадзіну экіпаж — з кіслымі тварамі зялёнага колеру. Апрача камандзіра, гэтаму хоць бы хны. Аркадзь у люстэрку свой твар убачыў — таксама зялёны, хоць у фільмах пра зомбі здымай. І млосна. Але працаваць трэба. Пазайздросціў сакрэтчыку: заваліўся ў кубрыку на ложак, і хоць трава не расці. Толькі пару разоў падымаўся: Аркадзю «Правілы выкарыстання палігонаў» спатрэбіліся.

…Дзякуй Богу, усе тарпеды знайшлі і паднялі. Перад стральбою тарпедалоў займае пазіцыю ля паўднёвага краю палігона. Лодка страляе, усплывае і перадае па УКВ мяркуемыя каардынаты тарпеды. Поўным ходам туды, і глядзець ва ўсе наяўныя вочы. Як знайшлі, пачынаецца сапраўднае радэа. Тарпедалоў на хвалях скача, як мустанг, тарпеда гэтак жа, толькі ў проціфазе, ля леераў матрос з пятлёю на шасце спрабуе яе заарканіць. Як накіне пятлю, тээл ход дае, і лябёдкаю тарпеду на борт зацягваюць.

Ляжаць на кільблоках, маячкамі міргаюць. Практычныя тарпеды, яны без выбухоўкі, пасля заканчэння мотарэсурсу ўсплываюць. Іх потым па-новай зарадзяць і зноў выкарыстаюць. Мінёр экіпажны, Іскандэр Бакуеў, казаў: практычная тарпеда сорак тысячаў рублёў каштуе. Чатыры «Волгі»!

…Чакалі, што дадому загадаюць ісці, ды куды там! Трэба ў губу Парчніху, нейкага капраза забраць. Калімантан-хальмахера! Усё далей і далей ад дому! Гэта ўздоўж мурманскага берага ў бок Ёканьгі. Каб ён здаровы быў, той капраз, эпістрахоз яму ў нырку!

Дацеляпаліся да Парчніхі, ашвартаваліся — няма ніякага капраза. Чакайце, кажуць. Ну, добра што хоць ад гайданкі адпачынак.

Спусціўся ў кубрык — паспаць. Штурманскі лёс такі, што ніколі ўволю выспацца не ўдаецца. Таму ўмеюць штурманы спаць седзячы, стоячы, на хаду… Абы магчымасць.

Спусціўся, а там усе ложкі занятыя, на адным нават двое — сакрэтчык Аркадзеў і матрос з тээла. Нічога не зробіш — спазніўся. У чым быў, на палубу лёг, шкатулку-сейф у сакрэтчыка забраў — пад галаву, і як праваліўся.

Шэсць гадзінаў праспаў! Прачнуўся ад тупату на верхняй палубе. Схадзіў у гальюн, там жа і ўмывальнік, рукі-твар памыў. У рубцы мічман, камандзір тээла, мацюкаецца. Пасажыр прыбыў, капраз той, і адразу яго з камандзірскай каюты выпер. «Я — старшы на борце!» Ну і хрэн на цябе, што ты старшы, а камандзіра з каюты высяляць, хай бы і мічмана, — гэта як, прапаноўваючы руку і сэрца, паветра сапсаваць. Заняў каюту, яшчэ чыстую бялізну патрабаваў — каб і была, не далі б! Распрануўся да блакітных кальсонаў і дрыхне. Туман апусціўся, дабро на выхад не даюць.

Выйшаў Аркадзь на верхнюю палубу — але ж і туман! Метраў трыццаць бачнасць, не болей. Калі гэтак і далей пойдзе, ён тут надоўга закукуе. Спаць болей не хочацца. Даўно ён столькі часу запар не спаў! Чым жа час пабавіць?

— Камандзір! У вас, можа, патроны для пээма ў заначцы ёсць? Хачу ў сопкі схадзіць, пастраляць. А то тут звар'яцееш, чакаючы, пакуль туман рассеецца.

— Штук трыццаць хопіць? Толькі далёка не адыходзьце, а то заблукаеце ў гэтым малацэ… Калі што — я сірэнай тры разы…

Кепскую ідэю прыдумаў. Снег паўсюль глыбокі, не сунешся нікуды. Добра, што адліў зараз, па асушцы адышоў крыху ад прычалаў. Каменне слізкае, заледзянелае, можна і ногі паламаць.

Сярод смецця марскога алюмініевыя шары на беразе валяюцца. Відаць, паплаўкі ад рыбацкіх тралаў. Добрыя мішэні будуць.

Так ужо гэты пісталет хваляць, Макарава! А пастраляў — і ніводнага разу алюмініевага шара не прабіў. Метраў з дзесяці патрапіць не мог. Ну, можа, цалок кепскі. Тады пачаў з двух метраў. І што? Куля толькі ямку невялічкую на алюмініевай паверхні робіць. Не прабівае. Ужо з пары сантыметраў страляў — тое ж самае. Расстраляў усе патроны — і на тээл. Туман рассейвацца пачаў, спяшацца трэба.

Своечасова вярнуўся. «Старшы на борце» ўжо ў рубцы.

— Вы чаму адсутнічалі?

Якая табе справа? Адказаў першае, што ў галаву прыйшло:

— Вывучаў на мясцовасці сістэму навігацыйнага абсталявання.

Задаволіла, здаецца. Засоп і маўчыць.

Завяліся, выйшлі з Парчніхі і давай наразаць уздоўж берага мілі за тры. На тээлах гэтых навігацыйнага абсталявання — толькі гіракампас ды на мосціку нактоўз з пеленгатарам. Ды яшчэ радыёлакацыйная станцыя. Нават лага няма. Пройдзеную адлегласць па абаротах вінтоў улічваюць, ды і то, гэтую інфармацыю — пра адпаведнасць абаротаў і хуткасці — толькі са слоў камандзіра можна мець. Ніякай табліцы нават няма. Як да Цярыберкі падышлі, туман рассеяўся. Узяў Аркадзь пеленг на маяк Цярыберскі, спускаецца ў рубку і напаўголаса — каб не забыцца лічбу — паўтарае: «Дзвесце пяцьдзясят шэсць і пяць… Дзвесце пяцьдзясят шэсць і пяць…» Капраз пачуў, як ён мармыча, і пачалося!

— Што гэта за «Ойча наш» ты шэпчаш, капітан! Ану пакажы — дзе наша месца!

Месца — то калі ласка. Ткнуў у мапу алоўкам:

— Вось тут, таварыш палкоўнік.

Хай паспрабуе праверыць. Месца добрае, хвілін пятнаццаць таму па радыёлакацыі абсервануўся. Хоць гэты, здаецца, з палітрабочых, раз «Ойча наш» згадаў, не паспрабуе.

— Які я табе палкоўнік? Ты капітана першага рангу ад палкоўніка не адрозніваеш?!

— Дык і я капітан-лейтэнант, а не капітан… А калі вам вельмі тыкаць хочацца, то раю патыкаць швабрай сабе ў анус.

Асёкся капраз, вочы збялелыя, вуснамі плямкае і сказаць нічога не можа. Выціснуў праз хвіліну: «Ну, ты ў мяне паскачаш! Усё жыццё ў капітанах будзеш…» І ў камандзірскую каюту палез. Больш да самага Гаджыева не паказваўся.

Дзверы на мосцік адчынены, мічман, камандзір, чуў усё. Спусціўся ў рубку задаволены, як кабель пасля вязкі:

— Ну вы малойца! Дзякуй за помсту!

А Аркадзь ужо не рады. Вось заўсёды так, не ўмее стрымлівацца. Цяпер чакай, што там яму капраз учыніць. У аўтаномку б хутчэй, можа, рассмокчацца з часам…

…У Гаджыева прыйшлі, развітаўся Аркадзь з камандзірам, пайшоў на КПП, патэлефанаваў дзяжурнаму па караблі, што вярнуўся, будзе ў Аленевую дабірацца. Вечар, на «скатавозы» — то бок «Уралы» тэнтаваныя, што афіцэраў карабельных туды-сюды возяць, — спазніліся. Аўтобус з Гаджыева ў Палярны пойдзе, ён паўз Аленевую, можна было б на ім, але з сакрэтнымі дакументамі ў грамадскі транспарт нельга.

— Ну, хлопец, чакаць тут да заўтра не хочацца. Пехатою пойдзем?

Сакрэтчык кажа:

— Пойдзем!

Надвор'е ціхае, чаго не пайсці. Тут усяго тры-чатыры гадзіны ходу, сямнаццаць кіламетраў.

Паварот ля «Нерпы» прайшлі, як дагнаў іх «козлік» начпо дывізіі. Узрадаваўся Аркадзь — употай ужо шкадаваў, што пехатою выправіўся і матроса пацягнуў. Лепей бы пераначавалі на тээле, а раніцою «скатавозам» даехалі. Бо шкатулка жалезная, ды з фаліянтамі тоўстымі, з кожным кіламетрам усё цяжэй станавілася. Па чарзе неслі.

«Галаснуў» рукою. Ляціць «козлік»у снежным пыле, не збіраецца спыняцца. Скінуў тады Аркадзь шапку і давай кланяцца начпоўскай «карэце», паясныя паклоны біць. Абдало іх снегам і смярдзючым дымам, і ўжо толькі габарыты ў цемры .

А назаўтра пасьля пад'ёму сцяга — Аркадзь з інжынерам толькі ў гірапост спусціліся — камандзір бэчэ-раз па «Каштане»:

— Аркадзь Палыч, сонца маё, што за прыгоду ты на маю старую задніцу гэтым разам прыдбаў?

— Не кажыце загадкамі, Уладзімір Рыгоравіч, а то я млею.

— Чаго цябе начпо перад свае вочы выклікае?

— О як! Я ўчора ягонай машыне галасаваў. Можа, хоча прабачыцца — не ўзяў. Мы пехатою з Гаджыева ўчора ішлі. З сакрэтамі.

— Нешта мне падказвае, што прабачэнняў не будзе. Давай, адна нага тут, другая там. Ты мне на караблі патрэбен. Задралі паркетнікі: то на лайбы адпраўляюць, то па кабінетах…

Сапраўды, дзе толькі не штурманіў — на тээлах найбольш, потым на ўсялякіх пасажырскіх і грузавых катарах, на буксірах. Дзе яшчэ? А! На белым адміральскім катары, амаль яхце.

Яшчэ лейтэнантам. Камандуючага флатыліяй трэба было з Гаджыева ў Севераморск даставіць, у штаб флоту. Адміралаў не возяць, іх дастаўляюць. Асенне-зімовы перыяд, частае пагаршэнне бачнасці і ўсё такое… Без штурмана плавучым сродкам па затоцы забараняецца хадзіць. Уладзімір Рыгоравіч, «бычок», інструктаваў:

— Ты, Аркадзь Паўлавіч, не дрэйфі. Галоўнае — камандуючы перад выхадам будзе цябе правяраць на веданне затокі. Спытае, дзе знаходзяцца выспы Вялікі і Малы Бярозавы. Ведаеш? Ну і ўсё, я спакойны. Не, больш нічога ён не спытае. Падазраю — гэта адзінае, што ён сам ведае.

Аркадзь тады моцна мандражыраваў — а раптам адмірал штосьці іншае падрыхтаваў. Але ж даставілі камандуючага на борт, прыняў рапарт камандзіра, мічмана — і на мосцік. Аркадзь прадставіўся, а той адразу:

— Далажыце-тка, таварыш лейтэнант, дзе знаходзяцца выспы Бярозавы?

І ўсё…

У Севераморск тады хвілінаў за сорак дайшлі. Больш за трыццаць вузлоў катар той дае, хоць па Кольскай затоцы абмежаванне — чатырнаццаць, але ж пад сцягам камандуючага флатыліяй…

Ашвартаваліся ля морвакзала, адмірала ўжо чорная «Волга» чакала, паехаў. Аркадзь па прычале соваўся. І вось падыходзіць да яго кабета немаладая ўжо, гадоў мо трыццаць пяць, дагледжаная такая, і кажа, што пазнала катар адміральскі, што яна жонка камандзіра падводнага чаўна, прозвішча называе, і просіць, каб яе ў Гаджыева падкінулі, а то пасажырскі катар толькі ўвечары. Аркадзь кажа — маўляў, не ягоная воля пасажыраў браць, вось вернецца адмірал… А пакуль што, шаноўная спадарыня, адпачніце, калі ласка, у адміральскім салоне.

Падзякавала кабета, спусцілася ў салон. А праз дзесяць хвілін на прычал выскачыла. «А ў вас на падводных лодках — гэтакі ж пах?»

Параўнальна з лодачнымі адсекамі, дык на катары адміральскім паветра як у лясным санаторыі. Ну, пах, натуральна, ёсць. Звычайны, карабельны. Крыху фарбай, крыху гумай, крыху саляркай. Таму глянуў на кабету няўцямна. А яна ўбачыла ягоныя здзіўленыя вочы і адразу зразумела:

— Вы, мабыць, не чуеце тут ніякіх пахаў? Прынюхаліся. Там жа дыхаць немагчыма. Бедныя…

Потым, як ужо назад вярталіся, увесь час на мосціку прастаяла. Адмірал у салоне, а яна на мосціку…

…Ад зоны, дзе падводныя чаўны стаяць, да ваеннага мястэчка ў Аленевай недалёка. Ішоў і думаў, як сябе паводзіць. І ў чым начпо можа абвінаваціць? І неяк жа вылічыў, яйкаклад качканоса! Хоць што там складанага — афіцэр і матрос са шкатулкаю сакрэтнай. Спытаць аператыўнага, хто ў мора хадзіў, — і ўсё следства.

Галоўнае — не ўступаць у спрэчку.

— Вы што сабе дазваляеце!

— Вінаваты!

— Вінаватых б'юць!

— Так!

І выгляд зрабіць дурнаваты.

— …Таварыш капітан першага рангу! Капітан-лейтэнант Муляр…

— Вы што сабе дазваляеце, Муляр?

— Вінаваты!

— Вы не прыдурвайцеся! — (Бач, раскусіў!) — Вы чаму ўчора на дарозе блазнавалі?

— Вам, таварыш капітан першага рангу, што — цяжка было падвезці? Мы двое сутак на тээле, а потым пехатою на базу… — Эх, не варта было. Зноў нястрыманасць.

— Ну вы нахабнік, Муляр! Я не павінен забіраць па дарогах афіцэраў! Дaслужыцеся — ну хоць бы як я — каб Радзіма выдзеліла вам персанальны аўтамабіль, тады паглядзім!

(Цікава — сам зразумеў, што сказаў? Што паглядзім? Ці будзе ён падвозіць, калі раптам займее персанальнае аўто? Ці выказвае сумненне, што Аркадзь даслужыцца да гэткага гонару?)

— Перадайце памочніку камандзіра, што я аб'яўляю вам вымову. Хай запіша ў карту спагнанняў-заахвочванняў.

— За што, таварыш капітан першага рангу?

— А вы не разумееце, за што? — Дагэтуль быў нібыта спакойны, зараз пачынае ўскіпаць.

— Разумею. Але ж у картку трэба запісваць прычыну спагнання.

— Хай запіша: «За неахайнае вайсковае вітанне»…

Апаціт яго хібіны гаць, чупакабра хрэнава!..

* * *

Перад кантрольным выхадам, гэткай трэніровачнай аўтаномкай, экіпаж правяраюць штабы. Штаб злучэння, потым штаб аб'яднання, і ўрэшце штаб флоту. Дзве першыя праверкі ўжо прайшлі, заўвагі збольшага ліквідавалі, сёння апошняя. Флагманскага штурмана ў мора «выгналі» на суседнім «жалезе», і падстрахоўваць бэчэ-раз няма каму. Самастойна прыйдзецца выкручвацца.

Толькі спусціліся ў корпус, аб'явілі па трансляцыі — прыбылі афіцэры штаба флоту. Увесь экіпаж у новых РБ, каўняры белымі анучкамі абшыты, у новых тапках. Чакаюць, нервуюцца.

У штруманскую капдва завітаў, нейкі пакамечаны. З жоўтым партфелем, гэткім жа пацёртым, як і гаспадар. Прыняў даклад ад Уладзіміра Рыгоравіча, кінуў партфель на аўтапракладчык:

— Ну, я ў гірапост. Інжынер там? — І знік.

Уладзімір Рыгоравіч адразу да партфеля. Вымае адтуль капронавую біклагу, літры на тры.

— Аркадзь, даставай шыльніцу з сейфа!

І налівае поўную біклагу. І назад у партфель, і партфель на месца, на стол аўтапракладчыка.

Капдва з паўгадзіны ў гірапасту інжынера ЭНГ катаваў. Потым падняўся ў штурманскую і так быццам ненаўмысна партфель штурхае. А той не вельмі штурхаецца. Прасвятлеў тварам капдва:

— Ну, праверыў я вашу тэхніку, дакументацыю… Было пару заўвагаў, але інжынер іх ужо ліквідаваў. Дапускаю да аўтаномкі.

У канцы дня флагманскі штурман з мора вярнуўся. Якраз яны з другога боку пірса ашвартаваліся. Аркадзь у штурманскай быў, флагманскі да яго заскочыў.

— Ну як? — пытае.

— Нармальна. Дапусціў. Практычна без заўвагаў.

— А хто правяраў?

— Капдва нейкі, прозвішча забыўся… — наморшчыў лоб Аркадзь.

— Капдва? Высокі, пакамечаны, жоўты партфель, капронавая шыльніца?

— Дакладна… — здзівіўся Аркадзь яркім дэталям.

— Кузняцоў…

* * *

— Ты ведаеш, колькі гэтая цацка каштуе? — цэдзіць Уладзімір Рыгоравіч. — Дзве з паловаю тысячы. І тут стаадсоткавая віна асабовага складу. Думаеш, я буду дзяржаве яе кошт кампенсаваць? Не, даражэнькі, твой матрос, ты і будзеш плаціць. І не рабіце тут твар цяжарнай макакі, таварыш капітан-лейтэнант! Вы павінны былі навучыць Данілава, што пры пагружэнні ён закрывае клапан рэхаледамера! Што?! Ты навучыў? Чаму ж тады гідрастат раздушаны? Праз тры дні «за кут», а ў нас тэхніка зламаная! Ды яшчэ самі зламалі! Тут, браце, развальцуюць нам самым тоўстым!

На кантрольным выхадзе матрос Данілаў не закрыў клапан, і гідрастат рэхаледамера, які трымае не болей за пяць атмасфер, быў зламаны забортным ціскам.

— Значыцца, так! — працягвае Уладзімір Рыгоравіч. — Пакуль ніхто нічога не ведае, бяры гідрастат — і ў Североморск, у гідраграфію. Паспрабуй там дастаць. Можа, пазычыць удасца. Можа, памяняць на які ўжываны… Ратуй нашыя задніцы.

…Дзве гадзіны Аркадзь сядзіць у курылцы ля цэха рэхалотаў-рэхаледамераў. Курыць. Ужо амаль пачак высмаліў. Чакае. Нарэшце застаецца сам-насам з мужчынам у сінім рабочым халаце.

— Прабачце. Вы з цэха рэхалотаў? — без усялякай надзеі пытае Аркадзь. І атрымаўшы ў адказківок галавою, дастае з кейса раздушаны гідрастат. — Вось, гляньце, калі ласка. Што можна зрабіць? Можа, як адрамантаваць?

Мужчына дваццаць секунд круціць у руках сапсаваную дэталь і вяртае назад.

— Не, адрамантаваць нельга.

— А што ж рабіць? — жаласна войкае Аркадзь.

— Выкінуць… — абыякава паціскае плячмі мужчына.

— А можа… Вось тут у мяне ёсць вогненная вада… Можа, на які ўжываны? Памяняцца? — Аркадзь лісліва заглядае ў вочы суразмоўцы. Расчыняе шырэй кейс, дзе пазвоньвае шэраг пляшак з «шылам».

— Зараз… — Мужчына падымаецца, заплёўвае недакурак і сыходзіць.

Праз пяць хвілінаў вяртаецца таксама з кейсам. Шэсць пляшак карабельнага спірту хуценька перамяшчаюцца туды. А ў руках Аркадзя з’яўляецца новенькі, запакаваны ў пластык, бліскучы гідрастат. Цаною дзве з паловаю тысячы рублёў!

* * *

Заўтра раніцою «за кут»! Афіцэраў і мічманаў адпусцілі дадому сабрацца-развітацца. Аркадзь з Сяргеем Нэпабійногам, камандзірам электратэхнічнага дывізіёна, суседам па пад’ездзе, прыехалі вячэрнім «скатавозам» у Гаджыева. Пасля кантрольнага выхаду карабель паставілі не ў родную базу, Аленевую Губу, а сюды, бліжэй да штаба флатыліі.

Сцежкай, пратаптанай праз сопку, — гэтак карацей — ідуць на карабель. Вецер сячэ калючымі сняжынкамі твары, прыходзіцца падняць каўняры шынялёў і прыкрывацца далонямі. Ускараскаліся на верх сопкі, і ўнізе адкрылася чорная вада губы Сайда, шэрыя заснежаныя берагі і плавучыя пірсы, пакрытыя шэранню гарбатыя корпусы караблёў. Зона — кавалак берага з пірсамі, абгароджанымі «калючкай», — асветленая. Усё астатняе тоне ў цемры. Ззаду за Аркадзем цяжка дыхае Сяргей. Сцежка вузкая, ісці можна толькі ў патыліцу адзін аднаму.

— Давай перадыхнём, — просіць захэканы Сяргей. — Ляціш, як лось…

Паставілі на снег валізкі з «аўтаномачным наборам». Агледзеліся. Да дзясятага пірса, дзе прытуліўся іхны К-424, яшчэ з кіламетр. Зверху падводны крэйсер выглядае нібыта цацачны. І нават прыгожы страшнаватай прыгажосцю.

— Чытаў, як маракі нечага апынуліся на беразе, а гэтым часам іхны карабель падрываецца і тоне ў іх на вачах. А яны клянуць лёс і імкнуцца загінуць разам з таварышамі… — кажа раптам Сяргей.

— Што за лабуду ты чытаеш? — усміхаецца Аркадзь. — Ці не ў зампаліта разжыўся? Выйдзем у мора, як усё наладзіцца, дам табе прыстойную кніжку. Узяў з сабою. Перакладная, з чэшскай, здаецца… «Псіхагігіена палавога жыцця». Сяброўка з мацерыка прыслала, аднакласніца па школе. Дурында. З-за яе падарунка пад падазрэнне ў жонкі трапіў. Сам не чытаў яшчэ. Так, пагартаў. Цікавая… Можа, удасца і мне пачытаць. Хоць хутчэй — не. Штурманскі лёс — ні хвілінкі вольнай…

— Не веру! — Сяргей не слухае Аркадзя, зацята сціскае зубы. — Не веру! Каб гэтае вось «жалеза» зараз узяло і патанула, пакуль мы з табою тут, — я б з радасным віскам развярнуўся і пабег дадому, у сям’ю. Як можна любіць гэтую бяздушную бочку? Я яе ненавіджу!

Аркадзь прамаўчаў. Нечакана Сяргей сфармуляваў і ягоныя пачуцці, у якіх ён ніколі не прызнаваўся нават сабе.

…Спусціўшыся ў корпус, Аркадзь зайшоў у сваю каюту, пахаваў рэчы ў рундук пад ложкам, пераапрануўся ў РБ. «Пашанцавала» з каютай, у другім адсеку, насупраць камандзірскай, дзверы ў дзверы. Большасць экіпажу жыве ў пятым біс, там жа і кают-кампанія, і сталовая асабовага складу. Але затое блізка бегаць па трывогах: праскочыў пераборачныя дзверы — і ты ўжо ў трэцім, падняўся па трапе — і ўжо ў цэнтральным. Разам з ім у каюце інжынер ЭНГ, Саша Шэміт, і двое «маслапупаў» з першага дывізіёна.

У цэнтральным уся група камандавання — камандзір, зампаліт, абодва старпамы, памочнік. Толькі ўвайшоў — старпам па баявым кіраванні прычапіўся: чаму камандзіра бэчэ-раз няма?

— Таварыш капітан другога рангу! — на экіпажы сярод афіцэраў прынята звяртацца па імю і імю па бацьку, але старпама па БК маладзейшыя афіцэры дружна не любяць, і таму да яго па-статутнаму. — Вы ж ведаеце, што я падначалены Уладзіміру Рыгоравічу, а не ён мне! І з гэтай простай прычыны ён не абавязаны нічога мне дакладваць. Можа, толькі што-небудзь давесці, калі палічыць патрэбным.

Падзейнічала, адчапіўся.

Дзверы са штурманскай у цэнтральны пост выходзяць. Пакінуў іх адчыненымі. Не зашкодзіць быць у курсе, што на караблі і вакол робіцца. Свае ўсе на месцы, апрача штурмана. Саша Шэміт, малойца, ужо навігацыйны комплекс запусціў.

Мапу Сайда-губы на пракладчык усталяваў, наступныя — паўночнай часткі Кольскай затокі, Кільдзінскага плёса — выняў са скрыні, каб пад рукамі былі.

Мікола Буткоў, партыйны сакратар, улюбёнец намесніка, галаву ў штурманскую прасунуў і напаўголаса:

— Я зараз штурмана пераганаў. Набухаўшыся, нават вертыкаль не трымае. Так і нырае ў гурбы! Праз кожныя тры крокі! Метраў за пяцьсот-шэсцьсот ад зоны.

Гаўнюк ён, гэты Мікола. Мог бы сам дапамагчы на карабель дабрацца. Не — баіцца запэцкацца, каб, калі што, «прычэпам» не пайсці. Трэба ратаваць Уладзіміра Рыгоравіча, бо калі да КПП зоны дойдзе, то там яго павяжуць бербазаўскія матросы. І ў камендатуру здадуць. Вечная, здаецца, вайна базаўскіх з карабельнымі. І нічога, што ён каптры, што заўтра павінен весці карабель «за кут». Ім за затрыманне карабельных афіцэраў адпачынкі абяцаюць, за гэта яны, што хочаш…

…Як былі — у РБ, у тапках — выскачылі з Шэмітам і бягом на КПП. Паспелі — не дайшоў яшчэ метраў пяцьдзясят. Сапраўды, вертыкаль не трымае. Пад рукі, павалаклі. Кэпэпэшнікі не паспелі зрэагаваць. Цягнуць Уладзіміра Рыгоравіча, ён ледзьве нагамі паспявае перабіраць, больш прабуксоўвае. І пытае — а ў голасе проста акіян годнасці: «Куды спяшаемся?» Куды-куды! Сам прыдумай! У рыфму!

Падвалаклі да чаўна. Верхні вахценны сціпла адвярнуўся. Па трапе на корпус завялі. Саша ў цэнтральны на разведку спусціўся. Там як тусавалася на-

чальства, гэтак і тусуецца. Далей складаней. Трэба штурмана да люка пятага біс давесці, і каб за борт не ўпаў. Кавалак шляху туды зусім вузкі.

Як у люк спускалі — Аркадзь знізу страхаваў, Саша зверху накіроўваў, — штурмана на смех прабіла. Сеў на комінгс люка, ногі ўнутр спусціў і давай смяяцца! От жа клямка! Раптам якая халера намесніка прынясе ці старпама па БК! Ледзьве пераканалі спусціцца. У каюту завялі, распранулі, на ложак паклалі. Заснуў на паўслове.

З Сайды выходзілі гадзіны дзве. Пад трыма буксірамі. Пасля апоўначы вецер сціх і мароз узмацніўся. Ад вады туман падняўся. Пласт таўшчынёй метраў дзесяць, з мосціка на небе зоры відаць, а па гарызанталі носа карабельнага не відно. Торкаліся, не маглі ў праход бонавы трапіць. Уладзімір Рыгоравіч, гранічна хворы, але здагадаўся камандзіра папрасіць, каб паставіў два буксіры бонавую браму пражэктарамі абазначаць. Майстэрства, кажуць, не прап’еш.

Выйшлі ў кропку А1, пагрузіліся, камандзір у штурманскую пакеты прынёс, асоба сакрэтныя. Пакеты ад радзімы. Радзіма загадвала ісці ў Нарвежскае мора, прарваць процілодачны рубеж Нордкап-Мядзведжая, прайсціся непадалёк ад архіпелага Шпіцберген, потым прарваць фарэра-ісландскі рубеж і выйсці ў Паўночную Атлантыку. Там пакруціцца ў нарэзаным раёне агнявых пазіцый і вяртацца назад. Дзевяноста сутак, дзень у дзень.

* * *

За пятнаццаць хвілін да Новага года Аркадзь заступіў на вахту. Будзённа прысунуўся з разводу, з чацвёртага адсека, у штурманскую, прыняў у Рыгоравіча абстаноўку на мапе, навігацыйны журнал, прапанаваў:

— Давай папросім кэпа пагрузіцца на восемдзесят адзін метр і легчы на курс восемдзесят адзін градус? Папярэднюю пракладку я зараз перараблю.

Тысяча дзевяцьсот восемдзесят першы год — на курсе і глыбіні восемдзесят адзін… Святло ў рубцы выключана, затое падсвечаны ўсе рознакаляровыя кнопкі і клавішы на прыборах. А яшчэ на пракладачным стале малюсенькая, сантыметраў дзесяць, пластыкавая елачка, жончын падарунак.

«Гэта ж колькі разоў я праводзіў навагоднія ночы на вахце, на варце, на дзяжурстве? — думае Аркадзь, цікуючы праз адчыненыя дзверы за цэнтральным пастом. Там размаляваныя «русалкі» і «чэрці» чапляюцца да старпама, ён вахценны камандзір у першай змене. — Першы раз, курсантам першага курса вартаваў нейкія запячатаныя пластылінавай пячаткай дзверы на тэрыторыі вучэльні, відаць, то быў склад. Потым, здаецца на трэцім курсе, быў патрулём у пасёлку. Начальнік патруля, капітан другога рангу з кафедры навігацыі, за чвэрць гадзіны да Новага года азірнуўся туды-сюды і зацягнуў да сябе ў кватэру. Частаваў шампанскім, і было страшэнна няёмка. Потым, тут ужо, на «жалезе» пад мянушкай «бэдээр», адзін Новы год дзяжурыў па караблі, другі, летась — стаяў вахценным афіцэрам у Акольнай. Якраз трыццаць першага снежня выперлі грузіцца. Перайшлі тады, ашвартаваліся, але грузіць ракеты

пачалі толькі другога студзеня. Пасля вахты спусціўся ў кают-кампанію, з'еў святочны грэйпфрут, выпіў чвэрць шклянкі рыслінгу — і ў ложак.

Пасля з цэнтральнага русалкі ўвальваюцца ў штурманскую, не павярнуцца. А добра загрыміраваныя! Аркадзь пазнае іх толькі па голасе — Валера Анісімаў і Сяргей Лукашоў. «Чэрці» і «русалкі» дурэюць, а за імі паўсюль нампаліт, як жа без яго! Галоўны масавік! Грэецца ў промнях славы экіпажных «артыстаў». Дакладна гэтак жа паводзіцца інтэндант, Крывадуй — калі на абед падаецца запечаная курка, прыходзіць у каюткампанію, урачысты, ловіць словы падзякі. Затое яго ніколі не бачна, калі «квадратныя яйкі» — яечня з парашку.

…Дарэчы, пра Крывадуя. За першыя пару дзён аўтаномкі абышоў афіцэраў, апрача групы камандавання, і пасыпаючы галаву попелам каяўся, што закруціўся, не паспеў загрузіць на човен віна. Дакладней, паспеў, але не ўсё. Прасіў не падымаць вэрхал і прапанаваў замест віна бражку з яблычнага соку. Такім чынам, на абед на камандзірскі стол ставяць віно, на астатнія — бражку. А каб надзейна заткнуць раты, у вольны час таемна частуе ёю сасмяглых. Невядома, ці ведаюць пра бражку камандзір, намеснік, старпамы. Лічыцца, што не ведаюць.

Пахіхікаў з жартачак, памацаў у «русалак» цыцкі… Навагоднія нячысцікі павіншавалі і пайшлі далей па адсеках. Усё. Скончана свята.

* * *

Паціху пераадолелі рубеж паміж мысам Нордкап і выспай Мядзведжай. Тут падводныя чаўны перахопліваюць натаўцы. Нічога, не перахапілі. Кожную вахту праводзіцца адсочванне, нікога за сабою не заўважылі. Адзінае, што непакоіць камандзіра, — у Нарвежскім моры акустыкі пачалі дакладваць аб незразумелых гуках. З розных кірункаў чуюцца ці то шчоўканне, ці то стукі. Часам некалькі адначасова. Камандзір лічыць гэтыя гукі працай актыўных гідраакустычных апаратаў, якімі НАТА нібыта засыпала ўсё Нарвежскае, Грэнландскае моры і Паўночную Атлантыку. Ён называе іх «квакеры». Каб зашкодзіць ім вызначэнне элементаў руху чоўна, загадвае кожныя пятнаццаць-дваццаць хвілін мяняць курс на некалькі градусаў і глыбіню пагружэння. Навігацыйная пракладка на мапах выглядае дзіўна — плаўнымі дугамі. З кожнай пройдзенай мапы Аркадзь павінен зняць дзве калькі. Яшчэ не прайшоў і месяц, а шоргат калькі стаў для яго ненавісным.

Камандзіра на экіпажы за вочы клічуць Мікалай Крывавы. Крыклівы, нервовы, чапляецца да ўсялякай драбязы. Папярэдняга называлі Пан. Перавёўся на бераг, а замест яго — вось гэты. Рыхтаваўся здаваць «штурманію» на допуск да кіравання караблём, зайшоў у штурманскую:

— Таварыш капітан-лейтэнант, атрымайце ў сакрэтчыка алгарытмы навігацыйнага комплексу і перадайце мне.

А гэта таўшчэразная кніжка, і ў ёй матэматычныя формулы — адна формула на тры-чатыры старонкі.

Разгарнуў, а там інтэгралы, лагарыфмы, дыферэнцыялы, трыганаметрычныя функцыі… На ўсю старонку. Чытэльнага тэксту, можа, дзясятак словаў. Глядзеў туды хвіліны дзве. Загарнуў, уздыхнуў: «Што такое сінус, памятаю, здаецца, а што арккосінус — хоць страляй…» На гэтым скончыў вывучэнне алгарытмаў. Нічагусенькі, допуск атрымаў!

А перад аўтаномкай паліць кінуў. І адразу пачаў барацьбу з курцамі ў экіпажы. Раней як: ёсць вольная хвілінка — збегаў у пяты біс, у курылку, яна насупраць лазарэта, пасмаліў. А тут увёў кэп расклад, ды такі, што адразу ля дзвярэй курылкі чэргі пачаліся. Ключ доктару, і асабіста сочыць, каб адчыняў курылку ад і да. Што хоча гэтым дабіцца — невядома.

18 студзеня. На вахту заступае першая змена. Аркадзь прыняў ужо абстаноўку, прыняў даклад з гірапаста, даклаў у цэнтральны. Старпам, Барыс Фёдаравіч, з камандзірам зайшліся. Камандзір старпаму вахту здае, таксама з абстаноўкай знаёміць. Нарвежскае мора, побач з архіпелагам Шпіцберген. Ад сталіцы — Барэнцбурга — трыццаць міль на зюйд-вэст. Пaглядзелі на мапу, на папярэднюю пракладку, і пайшлі. Старпам у крэсла, камандзір за дзверы.

Хвілін праз пятнаццаць аварыйную трывогу зазванілі. Звычайная рэч, можа, дзе які прыбор перагрэўся, засмярдзеў паленым. У такіх выпадках кожны, хто ўнюхаў, аварыйную аб'яўляе. Нічога, калі дарэмна, лепей сто разоў дарэмна па трывогах пабегаць, чым адзін раз фактычную прапусціць.

Праз хвіліну Уладзімер Рыгоравіч прыйшоў. Зачыніў дзверы, удакладніў, ці ўсе ў гірапост прыбеглі, даклаў у цэнтральны, маўляў бэчэ-раз да бою гатова. Потым дастаў з сейфа журнал баявой падрыхтоўкі, запаўняць пачаў. Чаго час дарэмна губляць, калі ўжо затрывожыліся? Такіх трывог даволі шмат бывае — прывыклі ўсе.

Хвілін яшчэ праз дзесяць Аркадзь — проста так, фармальна, бо нешта задоўга адбою трывогі няма, — пытае ў гірапаста:

— Гірапост — штурманскай! Як абстаноўка?

А адтуль адказ, Жэня Баламакаў, старшына каманды:

— Абстаноўка шызая…

Адчыняе Аркадзь дзверы ў цэнтральны, а там насамрэч шызае паветра ад дыму. Камандзір плаксівым голасам нешта з механікам сварыцца. І чуе Аркадзь слова ЛОХ. Некалькі разоў.

ЛОХ — гэта сістэма пажаратушэння, калі ў адсек адмысловая вадкасць распыляецца. Імгненна звязвае ўвесь кісларод у паветры. Небяспечная для жыцця, бо як жа без кіслароду… Ды і якасці мае наркатычныя — адзін-два ўдыхі, і «кайф ламавы». Прымяняецца ў выпадках, калі месца загарання невядомае ці калі іншымі сродкамі не тушыцца.

— Рыгоравіч, — кажа Аркадзь, — здаецца айцы-камандзіры вырашылі ЛОХ даваць. Трэба ІДА надзяваць, пакуль не позна.

І цягне з-пад пульта кіравання «параванамі», ён побач з дзвярыма штурманскай, у цэнтральным, два ІДА-59. Ізалюючы дыхальны апарат узору пяцьдзясят дзявятага года. Адзін бэчэ-першаму, другі на сябе надзеў. Дыхальны мяшок на шыю, затрымаць дыханне, маску на галаву, вентылі балонаў адкруціць, вы-

дых. Мяшок надзьмуўся, праз загубнік гарачае паветра пайшло, працуе. Глянуў на штурмана, а ён спалоханымі пальцамі па балонах перабірае, відавочна, не ведае, як вентылі адкруціць. І клапан на масцы фыркае. Крутануў Аркадзь вентылі непасрэднаму камандзіру, падумаў пра сябе, што даўно, відаць, той не трэніраваўся. Задыхаў Рыгоравіч, пальцы перасталі скакаць.

У цэнтральным боцман нешта бубніць, відаць, дакладвае змены глыбіні пагружэння. Зараза, шкельцы запацелі ў масцы. Зусім нічога не відно стала. Знайшоў нейкую драпіну незапацелую, на глыбінамер паглядзеў адным вокам — успылі на перыскопную. Адзначыў кропку на мапе, над журналам схіліўся, запіс спрабуе зрабіць. І тут — тугі ўдар у плячо. Павярнуў галаву —з фарсункі ЛОХа, разыходзячыся, струмень б'е. ЛОХ далі. А каманды не было, здаецца. Запрасіў зноў пра абстаноўку ў гірапаста. Ото ж і гаўняная канструкцыя, як аказваецца, гэтага ратавальнага апарата! Ад знешняга асяроддзя нібыта ізалюе. А вось як у ім перагаворвацца? У масцы трэба загубнік у рот браць. А як з загубнікам у роце размаўляць? Вось паднёс мікрафон да твару і «бу-бу-бу…», а з гірапаста ў адказ таксама «бу-бу-бу…». Паказаў Рыгоравічу знакамі, што ў гірапост сходзіць, паглядзіць, што там і як. Той галавою кіўнуў: ідзі, маўляў.

Ішоў асцярожна і думаў — як дзіўна, ад смерці зараз, можа, толькі вось гэтая тонкая гума на твары аддзяляе. Варта аб нешта зачапіць, парваць — і гамон. Але страху не было, толькі здзіўленне. Спусціўся ў гірапост, там усе ў ІДА, і толькі Саша Шэміт ляжыць з сінімі вуснамі на палубе, а нехта на яго спрабуе маску надзець. І шыя ў Сашы расслабленая, паддаецца, і ўсё ніяк тую маску надзець не могуць. Падняўся назад у штурманскую, бэчэ-першаму даклаў:

— Кепская справа. Саша невядома ці жывы…

«Каштан» з баявой рубкі ажыў, выклікае:

— Штурман! Штурман! ЛОХ у адсеку?

— У адсеку!

— Што ты бубніш, ЛОХ у адсеку? — гэта старпам па БК.

— Ды пайшоў ты!

— Што? Кажыце разборлівей!

— Далі ЛОХ!

Мацюкнуўся і адключыў.

Пад ніжнім рубачным люкам камандзір са стырнавым. Нешта вошкаюцца, у баявую не лезуць. Камандзір даўно ўжо павінен ля перыскопа быць, надводную абстаноўку ацаніць. А то можна напароцца на надводных калегаў.

Потым выявілася, што ў баявой рубцы старпам па БК закрыўся і туды камандзіра не пускаў — баяўся баявую рубку лохаўскім фрэонам загазаваць. Ну, з дапамогай нейкай клёпанай матары, трапіў камандзір да перыскопа, хоць і не адразу.

У цэнтральным Барыс Фёдаравіч, старпам і механік. Механік у ПДУ. Гэта такі маленькі аналаг ізалюючага процівагаза. Хапае на дваццаць хвілін жыцця. Так па інструкцыі. Ха! Механік хвілін сорак у ім правёў. Усё з-за таго, што ў ІДА камандаваць нельга, а ў ПДУ маскі няма, толькі загубнік. Механік загубнік вынае, пакрычыць у «Каштан», і зноў яго ў рот — дыхаць. Як закончыўся

адзін ПДУ, у другі ўключыўся. Урэшце наглытаўся-ткі фрэону, ап'янеў. Але да той пары човен ужо ў надводным быў, вентыліраваўся ў атмасферу.

Сашу Шэміта беспрытомнага, але жывога да люка падцягнулі. І пачалі падымаць. Удваіх. Гэта вельмі цяжка — беспрытомнае цела ў трубе ды па пажарнай лесвіцы ўгору. Адзін Сашу знізу падтрымліваў, другі — цягнуў зверху. Галава Сашы пад прыступку трапіла, ледзьве шыю не зламалі. Але ўрэшце выцягнулі наверх, там на паветры ачуняў.

Жэня Баламакаў таксама фрэону дыхнуў, але цалкам не выключыўся. Нагамі перабіраў крыху. Падцягнулі да ніжняга рубачнага люка: «Лезь!» Таксама наверсе аддыхаўся, апрытомнеў. Пазней распавядаў так:

— Стаю пад ніжнім рубачным, мне кажуць лезці… А я думаю: мы ж у аўтаномцы, куды лезці?! Потым гляну ўверх, бачу — верхні адчынены, неба відаць. Што такое? Ага! Гэта мы, відаць ужо вярнуліся, і я з гэтага выпадку напіўся так, што нічога не памятаю! Ну і палез…

Камандзір першага дывізіёна, Валера Мароз, перад дачай ЛОХу знаходзіўся на пульце кіравання рэактарам. На каленях расклаў маску ІДА, падрыхтаваўся на выпадак, калі дадуць каманду ўключыцца. І тут без усялякай каманды з фарсункі — струмень фрэону. На галаву, плечы, у маску трапіла. Мароз адразу дыханне затаіў і маску на галаву. А там фрэон ад цяпла выпарыўся, і дыхнуў яго камдыў-раз. І адразу прытомнасць страціў.

Усяго пяць чалавек ад фрэону пацярпелі. Мароза і яшчэ дваіх у карму вынеслі, іх у лазарэце доктар ратаваў.

З тых пяці аказалася, што курцы цалкам прытомнасць не гублялі, былі толькі вельмі п'яныя, а хто не курыў, тыя знепрытомелі зусім. Можа, выпадковасць, а можа і звычка да атруты…

У надводным становішчы знаходзіліся дзве гадзіны трыццаць дзве хвіліны. Правентыляваліся. Аркадзь папрасіў дазволу на мосцік вылезці, пакурыць. Калі яшчэ можна будзе ўвачавідкі тое Нарвежскае мора ўбачыць? Цёмна. Ціха. Хмары нізкія. Вада чорная з белай пенай бурунаў. Нідзе нікога, апрача іх. І ніводнай ільдзінкі — Гальфстрым, іцішкін бабай. Сашка Шэміт з Баламакавым мерзнуць у адным РБ — абодва сур'ёзныя і маўклівыя.

Пакурыў хуценька — тут камандзір «усім уніз» закамандаваў. Спусціўся. А ў цэнтральным весела. Усе смяюцца, як звар'яцелыя. Жартуюць і смяюцца. Віця Вашкоў з пульта ГЭУ заходзіць: «Папярэджваць трэба, як ЛОХ на адсек даяце!» — усе ў смех! Насамрэч — не было папярэджання. Сакрэтчык, што павінен быў каманды па баявых пастах рэпетаваць, уцёк з адсека. Таму і далі фрэон для баявых пастоў нечакана, таму і людзі патруціліся, чакалі каманды ўключацца ў ІДА, ды не дачакаліся.

Пагрузіліся, і далей па маршруце. У трэцім адсеку доўга яшчэ стаяў пах гарэлага і непрыемна-салодкага.

А гарэў вугальны фільтр у гальюне. Там дзверы ў гальюн, а побач — дзверы ў вентылятарную выгарадку. Фільтр гарыць у гальюне, а дым з вентылятарнай ідзе. А ўся вентылятарная скрынкамі з ЗІПам і бляшанкамі з рэгенерацыяй застаўлена. Пачалі выкідаць скрынкі — дзверы гальюна завалілі, што не ад-

чыніць. Так і не знайшлі, дзе гарыць, таму і ЛОХ давалі. Каб знайшлі, фільтр пенай залілі б. Але ж гэта «каб»…

Контрвыведчык, іх у кожную аўтаномку прыкамандзіроўваюць, у гумовых пальчатках сметніцу з гальюна перабіраў, знайшоў сярод паперак некалькі недакуркаў. Выснову зрабіў такую, што нехта курыў у гальюне, а недакурак, відаць, у фільтр ткнуў. А мо іскра заляцела. А там вугаль…

Гэткі ж дакладна фільтр і ў курылцы стаіць — каб пахі адсарбіраваць.

Хутчэй за ўсё, з-за строгага раскладу выкарыстання курылкі пачалі курцы гальюнамі карыстацца.

Хто курыў? А хто ж прызнаецца? Так і не знайшлі. Ды і не шукалі асабліва…

Намеснік партыйны сход склікаў. Аркадзь якраз на вахце стаяў, але распавялі, як старпама па БК і сакрэтчыка валтузілі. За баязлівасць, за пакіданне аварыйнага адсека. Асабліва на старпаме народ «адтапырыўся», шмат у каго на яго зуб быў. Дачакаліся хвіліны помсты.

Афіцэры і мічманы вырашылі: вернуцца дадому — жонкам ні слова пра пажар, пра ЛОХ, пра атручаных. Няма чаго паплечніцам нервовую сістэму псаваць. Яны і так нялёгкі лёс маюць.

* * *

Праз трыццаць тры гады атрымаў Аркадзь мэйл ад Уладзіміра Рыгоравіча: «Пачытай, што наш кэп пра той пажар Чаркешыну наплёў. Набяры ў пашукавіку “Пажар пад вадой”…»

Прачытаў, натуральна. Там і «магутны пакавы лёд», і «палонка з усяго метровым лёдам», якую няйначай паслаў сам Госпад, і матрос-сірата-падпальшчык, якога знайшлі і даравалі, і нават птушкі ў каюткампаніі. Тое, чаго насамрэч зусім не існавала.. І «запіска» камдыва-раз, Марозава. Аркадзь спытаў яго наконт запіскі — дзякуй інтэрнэту — той адказаў: «Нафіга запіскі пісаць, калі “Каштан” ёсць? Не было нічога такога…» Невядома толькі — ці гэта фантазія марыніста Чаркешына, ці кэпава.

* * *

Тыдзень ужо, як вярнуліся. Жонка на Аркадзя накінулася: «У цябе хоць каліва сумлення ёсць? Што ў вас там было, у аўтаномцы? Усе ў пасёлку ўсё ведаюць, жонкі з нашага экіпажа абмяркоўваюць, і толькі я адна — як апошняя дэбілка! — нічога не разумею!»



**Віктар Губарэвіч**

Нарадзіўся 20 лістапада 1944 г. у в. Вулька Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Мінскі тэхналагічны інстытут. Працаваў у Сібіры, служыў на субмарыне. З 1969 г. на СП ААТ «Брэстгазаапарат». Інжынер, сакратар партыйнай арганізацыі, начальнік участка. Паэт, эсэіст, публіцыст, краязнаўца. Друкаваўся ў «Жырандолі» і «Нашай ніве». Цяпер на заслужаным адпачынку.

## Казка пра сонца

Аднойчы ўранку ўзышло сонца. Частка людзей лічыла, што гэта тое ж самае сонца, якое было ўчора. Але большасць была ўпэўнена, што кожны раз ўзыходзіць новае сонца. Бо ўсе ж бачылі, што старое, учарашняе сонца ўпала ў дрымучы лес і з таго боку больш не выходзіла. Дык да таго ж і сонцы кожны раз былі розныя. Адны свяцілі і грэлі. Другія хаваліся за хмары і цяпла не давалі. А былі і такія, якія насылалі грымоты, палілі і забівалі.

Усе людзі вельмі радаваліся сонцу. Яно прыносіла на зямлю святло і цяпло. Расціла ўраджай на палях. Паднімала зялёную траўку на лугах, на якіх пасвілася скаціна. Прыносіла спакой і дабрабыт у хаты.

Сонца пабачыла, як людзі яму радуюцца, і захацела яшчэ больш дапамагчы людзям, даць ім яшчэ болей цяпла. Таму яно, падняўшыся ўгору, спыніла свой бег і пачало прыграваць зямлю. Людзі ўзрадавана загаманілі і яшчэ больш руплівa пачалі шчыраваць на сваёй зямліцы. Былі і такія, каторыя ўстрывожыліся і казалі, што калі сонца запыніла свой бег, то гэта да дабра не давядзе. Але ж большасць іх не слухала і прасіла ў сонца, каб яно свяціла ім бесперапынна заўсёды. Праз якісь час пад яркім сонцам трава стала выгараць і скаціне не стала чаго есці. Палі і агароды сталі марнець. Усё больш людзей пачало лічыць, што гэтаму сонцу трэба сысці з небасхілу. Даць зямлі і людзям адпачыць ад яго. А назаўтра хай узыдзе новае сонца і зноў усіх абагрэе. Але ж сонца не слухала людзей. Не слухала нават тады, калі яны пачалі праклінаць гэтае сонца. І настаў на зямлі голад. І ад чалавечай роспачы памеркла неба, і багі скінулі сонца ў глыбокую яму, бо нельга парушаць Законы Сусвету. Гэтую яму людзі засыпалі і сталі чакаць новае сонца.



## Мікола Ільючык

Нарадзіўся 10 красавіка 1966 г. у в. Багданаўка Лунінецкага раёна ў сялянскай сям'і. У 1993 г. скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працаваў у калгасе на пасадзе інжынера. З 1995 г. узначальвае аварыйна-выратавальны пост Міністэрства па надзвычайных сітуацыях. Аўтар кніг «Дзе жыве душа» (2004), «Шматкроп'е кропель» (2006), «Роспач і надзея» (2007), «У памяти в долгу» (2017), «Верагоднасць цуду» (2017). Сябра Саюза беларускіх пісьменьнікаў.

## Дажыць да Спаса

Штогод, яшчэ задоўга да Спаса, вёску ахопліваў яблычны бум. Яблыкі толькі пачыналі наліваецца, есці хіба што можна было нешта з ранняга — белы наліў ці малінаўку, але ніхто не хацеў чакаць, калі яблыкі канчаткова даспеюць. Яблыні трэслі, яблыкі збівалі кіямі, збіралі паданку на зямлі, насыпалі ў мяхі і везлі, хто на чым, у сярэдзіну вёскі да мясцовай крамы. Там стаяла вялізная машына. Мяхі збольшага важылі і высыпалі яблыкі насыпам у агромністую жалезную скрыню грузавіка. Здзек з вясковых садоў паўтараецца колькі год запар, столькі ж гадоў доўжыцца алкагольнае шчасце мясцовых выпівох.

З самай раніцы Мішка Дальнабой валок па цэнтральнай вуліцы гружаны мяхамі ровар. Адзін мех замацаваў на багажніку, другі ляжаў пасярэдзіне веласіпеднай рамы, а трэці — ажно на стырне. Мішка ледзьве трымаў ровар у руках, узмакрэў увесь ад натугі, але ягоныя вочы свяціліся неймаверным бляскам. Святло радасці і прадчуванне нечага самага прыемнага, што толькі можа быць на гэтым свеце, таго, без чаго яму ўжо немагчыма абысціся, прыдавала сілы. Мішка ведаў, што застаўся зусім кароткі адрэзак, і ён здасць нарыхтоўшчыкам тры мяхі яблык, здабытых у чужым садзе.

Мішка Дальнабой атрымаў сваю мянушку з прычыны, што некалі сапраўды працаваў шафёрам на вялікіх машынах, шмат паездзіў па свеце. Але добрая праца і заможнае жыццё раптам скончыліся. Некалькі залётаў па п'янай справе выліліся ў вялікія непрыемнасці. Вытурылі Мішку з працы, ад чаго ён запіў ужо па-сур'ёзнаму. П'янкі, а пасля іх сямейныя сваркі сталі звычайнай справай. У жонкі цярпенне скончылася хутчэй, чым настолі часы, пра якія ён увесь час казаў сваёй суджанай: «Усё! З панядзелка завяжу». Не ўдакладніў толькі, з якога панядзелка, бо тыдні міналіся, праходзілі месяцы і нават гады, а ў ягоным жыцці нічога так і не змянілася. Жонка турнула Мішку і падала на аліменты.

Так апынуўся ён у бацькоўскім доме і стала сеў састарэлай матулі на шыю. Мала таго, што карміла і апранала, час ад часу бегла старая на пошту, каб даслаць нейкія грошы ягоным дзецям. Каб толькі сыночка не пасадзілі і не пры-

мусілі адрабляць тыя аліменты. Суседкам казала: «Што ж будзе, як мне жыць на свеце, калі дзіцёнка ў турму забяруць?»

Побач з машынай стаялі некалькі чалавек: Вадзік Эстонец, дзед Піліп і Шчаслівая Пара — Петрык з Ганначкай. Мішка Дальнабой прыпаркаваў свой ровар з каштоўным грузам, папросту падпёршы роварам задняе кола грузавіка. Крысом даўно не мытай кашулі абцёр узмакрэлы твар і замест прывітання прамовіў:

— А што, нарыхтоўшчыка няма?

— Міша, можа, з людзьмі вітацца трэба, — сказаў дзед Піліп голасам строгага настаўніка.

— Добрай раніцы, дзядуля, — Мішка правёў далонню па той жа бруднай кашулі і працягнуў старому руку для вітання.

— Вось, зусім іншая справа, з гэтага трэба было пачынаць, а нарыхтоўшчык хутка прыйдзе, — задаволена адказаў на прывітанне дзед, — паспееш яшчэ, за дзень дзвюма, альбо нават трыма навaратамі пад плотам паляжаць.

Мішка ніяк не адрэагаваў на словы старога і стаў вітацца з іншымі.

— Здароў, Эстонец, а чаму толькі адзін мех натрос?

— Не твая справа, — незадаволена адказаў Вадзік.

— І вам прывітанне, маладажоны! Што, не прыдумалі яшчэ, чый сад сёння бамбануць?

— Абы ты паспеў бамбануць, — незадаволена буркнула Ганначка, — пэўна ж не ў старой Настулі столькі яблык вырасла!

— Супакойся, дарагая, не хвалюйся, — Петрык дакрануўся да пляча сваёй пасіі, потым прытуліў Ганначку да сябе, — зараз мяхоў парожніх возьмем і мы з табой нешта заробім.

— Вой, вой! Шчаслівая Пара, пусі-мусі, толькі не цалуйцеся прылюдна, — кпіў з іх Мішка. Шчаслівая Пара адышла ўбок, далей ад граху. Яны стаялі, узяўшыся за рукі, і проста чакалі.

— Добрай раніцы, добрыя людзі, — нарыхтоўшчык абвёў позіркам прысутных, — зараз толькі дастану з кабіны паперы і пачнём працаваць.

— Эстонец, кладзі свой мех на вагі, ты ж, напэўна, першы прыйшоў, — азваўся Дальнабой.

— Не, мы першыя прыйшлі, — у адзін голас вымавіла Шчаслівая Пара.

— О, як вы ўмееце, быццам усё жыццё хорам размаўлялі, — зарагатаў Мішка. — Канешне ж, чаргі парушаць не будзем, парадак ёсць парадак, тым больш, што вам толькі мяхі парожнія і трэба, а ці будуць яны поўнымі — яшчэ не факт.

Шчаслівая Пара глянулі адно аднаму ў вочы, нягучна абмяняліся паміж сабой некалькімі словамі, а потым Ганначка нясмела прамовіла: «Ой, людзі, дзеда Піліпа трэба прапусціць наперад, шанаваць трэба старых».

— Дзякуй табе, Ганя, за турботы, але я так сабе стаю, я не па гэтых справах, вось купіў бохан хлеба, будзе нам з Бобікам дні на два. Дома сумна, самотна, а тут, як кажуць, у віры падзей.

Шчаслівая Пара атрымалі мяхі і няспешна рушылі, узяўшыся за рукі. Наперадзе насычаны дзень і шмат важных спраў. Адна з галоўных — затарыць мяхі

і ажыццявіць справядлівы абмен, мех недаспелых яблык на пляшку пладова-ягаднага, ці, як кажа Мішка Дальнабой і яго сабутэльнікі, «простага бырла». Але яны не такія, яны ўмеюць атрымаць сапраўдную асалоду ад гэтага напою. Шкада толькі, што за цэлы мех яблык будзе толькі малая — нуль пяць. Канешне ж, лепш было б, калі б нуль сем. Але дзякуй і за тое. А букет і водар пладова-ягаднага яны ніколі бырлам не назавуць. Яны ж не такія.

Неўзабаве і Вадзік Эстонец упэўненым крокам рушыў у бок крамы, балазе гэта зусім побач. Першая на гэты дзень доза ўжо, можна сказаць, у кішэні, а потым яшчэ нешта намалюецца.

— А што, ён сапраўды з Эстоніі? — нарыхтоўшчык паглядзеў услед Вадзіку.

— Ха-ха, ну які ён эстонец, з нашых, — адказаў дзед Піліп. — Жыў некалі недзе ў Прыбалтыцы, там жонка засталася і дзеці. Калі спіўся канчаткова, то вытурылі яго з таго Еўразвязу. Цяпер не толькі віно, але яшчэ і кроў бацькам састарэлым п’е.

— А гэтыя, блажэнныя, ці як вы іх называлі?

— Шчаслівая Пара — Ганя з Пятром? Таксама мясцовыя. Ён стары халасцяк, бабыль. Каму такі трэба, калі жлукціць амаль з дзяцінства, ды і яна недалёка ад яго адышла. Абое рабое. Аб’ядналіся ў адзінай любові да алкаголю, жывуць дзень да вечара, бацькоў ні ў адной, ні ў другога ўжо нямашака, браты і сёстры паз’язджалі. А яны то ў адной хаціне валяюцца покатам, то ў другой. Нічога ім у жыцці не патрэбна, акрамя паўлітры, адзіная радасць у жыцці. Паводзяць сябе, як юныя закаханыя, вось і сталі Шчаслівай Парай, курам на смех…

— Ну хопіць добрых людзей абгаворваць, — падаў голас Мішка Дальнабой, — і пра мяне, калі пайду, будзеш языком малоць. Нейкі ты надта правільны, дзед Піліп!

— Буду, бо і ты, Міхась, усё ўтапіў у бутэльцы. Яна ж зусім невялікая, паўлітра ўсяго, але ў ёй прапала і сям’я твая, і праца, і ўсё астатняе.

— Не трындзі, дзед, калі захачу толькі, то ў любы момант кінуць магу, завяжу. Я ж не алкаш кончаны, як некаторыя. У мяне сіла волі! Калі хочаш ведаць, стары, я некалі цэлы тыдзень не піў.

— Ага, ведаю, як ты не піў. Вавёрачку злавіў, і на тыдзень цябе зачынілі тады ў наркалагічным аддзяленні.

— Хопіць табе, стары, давай лепш пра што-небудзь прыемнае пагаворым, а то знайшоў жа ты тэму.

— Чаго ж не пагаманіць аб добрым з добрымі людзьмі, — лагодна адказаў дзед Піліп.

— А вось скажы ты мне, добры чалавек, — Мішка Дальнабой звярнуўся да нарыхтоўшчыка, — куды нашы яблычкі павязуць? Няўжо праўда, што на вінзавод? Гэта так разумець трэба, што яны неўзабаве вернуцца да нас у вёску. Але ўжо ў выглядзе бырла пладова-ягаднага?

— Э, хлопча, загнуў ты. Сокі ды дзіцячае пюрэ будзе з вашых яблычак. Нічога, што недаспелыя яшчэ. Там тэхнолагі папрацуюць з імі, і атрымаецца ўсё, што патрэбна, — смаката. А бырла зробяць вам са спірту самага таннага, развядуць вадой водаправоднай, дададуць туды рознай хіміі: араматызатары,

узмацняльнікі смаку, фарбавальнікі ды яшчэ якой трасцы, і ўсё будзе выглядаць як натуральнае. Чытай тое, што дробнымі літарамі на этыкетцы напісана.

— О, ты чуў, Мішка, — уступіў у размову стары, — але ж не ўсё там згадваецца на той этыкетцы.

— Ха-ха-ха, — зарагатаў Мішка Дальнабой, — хімік знайшоўся, Мендзялееў недароблены!

— Грэх са старога смяяцца, — строга прамовіў дзед Піліп. — Дажыві яшчэ да маіх гадоў.

Нарыхтоўшчык зацікаўлена слухаў размову гэтых людзей, вясковых прадстаўнікоў двух розных пакаленняў.

— Дык што ж там яшчэ бырла змяшчае, а дзед? — голас Мішкі стаў больш лагодным.

— Там шмат чаго. Напрыклад, ёсць «разбуральнік сям'і», «дэградантасобы», «мачанетрымальнік», «імпатэнтавітальнік», «алкаголезалежнік», «усягодобрагазаменнік»…

— Цьфу на цябе, так і думаў, што падкалоць хочаш, — Мішка вылаяўся і са злосцю паглядзеў сваімі вачамі-свярдзёлкамі прама ў выцвілыя зрэнкі старога, — клывай ужо дадому, правільны знайшоўся! Вучыць мяне ён, я памятаю, як ты кляў мяне, смерці маёй хацеў.

— Не кляў я цябе, вы самі жыццё сваё губіце, наўмысна скарачаеце. Нішчыце і сябе, і тых, хто побач з вамі, — не жывуць, а пакутуюць. Радуйцеся, што пакуль маткі вашы жывыя, кормяць вас, даглядаюць.

— А гэта ўжо не твая справа. Кормяць, даглядаюць… — Мішка наўмысна перадражніў старога Піліпа. — Дрэнная тая маці, што сына да пенсіі не пракорміць! — Мішка зноў зарагатаў з удалага, як яму падалося, жарту.

— Сапраўды, пайду я ўжо, пара мне. Бобіка карміць трэба, а я языком мялю тут з вамі, час марную на размовы.

Дзед Піліп паклонам галавы развітаўся з нарыхтоўшчыкам і няспешнай старэчай хадою пайшоў сваёй звыклай дарогай. Мішка Дальнабой нарэшце вярнуўся да справы. Паклаў мяхі з яблыкамі на вагі, потым высыпаў з іх яблыкі ў скрыню грузавіка.

— Э, браце, забудзь пра пенсію, што ты там старому пра пенсію казаў? Цяпер усё па-іншаму. Ты што, газет не чытаеш? Не бачыць вам пенсіі, як уласных вушэй. Ды і дажыць цяпер праблема, нават непітушчым, пенсійны ўзрост павысілі і яшчэ, кажуць, будуць павялічваць, — выказаўся на пачутае нарыхтоўшчык.

Мішка нічога не адказаў на пачутыя словы. Хацеў ужо ісці ў краму, але нечакана ля машыны з'явіўся Вадзік Эстонец з паўлітрай у кішэні старых нагавіц.

— Дальнабой, ты яшчэ ўсё тут чухаешся? Бяры «малую» ды даганяй, пасядзім разам, — прапанаваў ён Мішку.

— Дык я ўвогуле нікуды не спяшаюся, паспею.

— А стары Піліп што, дадому пайшоў? Звычайна да апоўдня стаіць тут. Нешта не так. Пасварыліся хіба зноў?

— Пайшоў, што яму тут рабіць, прапаведаваць мне тут уздумаў, жыццю вучыць стаў, вось і паслаў я яго.

— Ну гэта ты дарма, Мішка, ён добры дзед, разумны.

— Добрага знайшоў. Ведаеш, нічога яму не зрабіў благога, а ён смерці маёй хоча, — з крыўдай прамовіў Мішка.

— Слухай, Дальнабой, так што там за гісторыя, што ты ўвесь час яе згадваеш? — Вадзік Эстонец праявіў шчырую зацікаўленасць і прагнуў яснасці.

— Ды старую сваю я некалі паганяў па п'янай справе. Я скалыміў крыху грошай, а яна прыхавала. Мне трэба было паўлітру тэрмінова ўзяць. Прасіў падобраму, як на лекі. Сама вінаватая, вось і хадзіла тыдзень з фінгалам. Потым, шчыра кажучы, яшчэ пару разоў было, што старая з сінякамі хадзіла. І што з таго? А ён, Піліп гэты, уяўляеш, заступіў мяне на вуліцы і кажа, уяўляеш, прылюдна, што памру я, не пражыву доўга. Маўляў, у кнізе нейкай напісана, што трэба паважаць бацькоў і даглядаць іх да скону. А раз я руку на маці падняў, то ўсё — смерць мне, капец! Вось так! Піліп гэты і пракурор, і суддзя, і Бог! Уяўляеш? Кладзіся, Міхаіл Іванавіч, на лаву і памірай! Што, па-твойму, гэта правільна?

— Правільна, Мішка, праўду ён сказаў. Грэх гэта вялікі — крыўдзіць бацькоў. Ён не сам гэта прыдумаў, не ад сябе казаў. У Бібліі напісана: «Паважай бацьку і маці, каб падоўжыліся дні твае…» А калі не паважаць, ды тым больш, біць матулю, то чакай адваротнага — зменшацца дні. Я так мяркую.

— Заткніся, Эстонец, і ты туды ж. Што мне Піліп твой! Я вунь зараз другі рэйс навярну, будзе мне і на дзень, і на вечар, а можа і на заўтра, і на трэці дзень, калі хочаш! Усё ў мяне будзе! А ты ідзі да Піліпа, няхай цябе жыццю павучае, толькі папярэдне паўлітру дастань з кішэні.

— Не кажы на яго нічога, Дальнабой. Ён добры чалавек і не алкаш, як мы з табою, ён правільны, жыццё пражыў як след, і словы ягоныя правільныя.

— Пайшоў ты! Я не алкаш, чуеш! І не Дальнабой, а Міша, Міхаіл Іванавіч! Зразумеў, ты, прыбалт недароблены? І дажыву я і да Спаса, і да Каляд, і да Вялікадня! І вас усіх перажыву!

Вадзік Эстонец махнуў рукою і пайшоў сваёй дарогай, абы далей ад граху. Чаго добрага, і пабіць можа гэты Дальнабой, рука ў яго цяжкая. Але ж бач, яшчэ ні ў адным воку, а як разышоўся, што будзе, калі закладзе за каўнер?

* * *

На вялікай хуткасці, разразаючы святлом фар цемру ночы, пранёсся па вясковай вуліцы легкавік. З яго даносілася музыка, што заглушала нават роў рухавіка. Вярталася з нейкай гулянкі п'яная кампанія. Можа, таксама яблыкі здавалі. Пасля легкавушкі, што праляцела імклівай стралой, на абочыне дарогі застаўся ляжаць нікім пакуль не заўважаны пакурочаны ровар.

Шчаслівая Пара вярталася ў адзін са сваіх дамоў, каб адпачыць і пачаць раніцу таксама, як і сённяшнюю. Дзень будзе добры, бо сёння нагледзелі колькі неабтрэсеных яблынь у закінутых садках, а машына з яблыкамі будзе стаяць

яшчэ колькі дзён, пакуль загрузіцца яблыкамі, што не дачакаліся Спасу. Як і трэба закаханым, крочылі яны, узяўшыся за рукі.

Вадзік Эстонец мірна спаў на старым ложку, які быў прадбачліва засланы матулінымі рукамі галубовага колеру цыратай. Яму снілася Балтыйскае мора і сады, поўныя прыгожых і спелых яблык.

Па хаце тупала туды-сюды старая Настуля, што не змагла заснуць, бо не дачакалася сына.

— Прыйдзе, не раз такое было, — супакойвала сябе гаротная маці, — і гэтым разам прыйдзе, абавязкова прыйдзе, дачакаюся.

## Аблізаны анёл

Цімафей Лук’янавіч Лысы толькі прачнуўся. Спяшацца не было куды, але і ўставаць з ложка не хацелася. Тут увогуле ніхто і нікуды не спяшаўся. У прытулку для знямоглых і састарэлых ніхто нікуды не бег. Адбегаліся.

Сягоння асаблівы дзень. Прыедуць новенькія. І можа, Цімафею Лук’янавічу пашчасціць і ў яго будзе сусед, а можа і два. Будзе з кім перакінуцца словам. У яго пакоі пустуюць два ложкі, акуратна засланыя яшчэ з мінулай вясны, чакаюць яны новых гаспадароў. Цімафей Лук’янавіч ведае ўсе асаблівасці гэтай установы. Шосты год, як-ніяк, жыве тут. Толькі позна ўвосень тут шматлюдна. Бо з вёсак прывозяць усю старэчу, што паціху дажывае свой век. Улады баяцца, каб не пагарэлі за зіму са сваімі абшарпанымі печамі і трэснутымі комінамі. Вось і вязуць сюды ўсіх, каго змогуць угаварыць.

А гэта не так проста. Большая частка пенсіі застаецца дзяржаве на іх утрыманне, а дзецям гэта ой як не падабаецца. Самім даглядаць старых бацькоў не надта хочацца, але ж, бываючы ў іх рэдкімі наездамі, ад грошай ніхто не адмаўляецца. Колькі іх трэба тым старым? Вопратку носяць тую, што засталася з мінулых гадоў, а на ежу трацяць зусім мала, бо кожны, пакуль ёсць сілы варушыцца, стараецца і бульбачку вырасціць, і, як кажуць, да бульбачкі.

Цімафей Лук’янавіч мог бы доўга разважаць над гэтай тэмай, але хутка снеданак, і будзе сорамна перад персаналам, калі прыйдзе ў сталоўку няголены. Не, гэта не ў ягоных правілах. У гэтым плане нічога не змянілася ў яго жыцці. Тут ён бескампрамісны — галенне раніцой праз дзень. Нават адэкалон яму купляла загадчыца, пэўна ж, за ягоныя грошы. Няхай сабе і не самы лепшы.

Стары паглядзеў на сябе ў люстэрка, што вісела на сцяне побач з ракавінай. Густая шавялюра сівых валасоў нервова ўздыбілася за ноч. Іх таксама трэба змачыць вадой і ўтаймаваць іхнюю непаслухмянасць расчоскай. Гэта таксама адна з ранішніх працэдур, што стала звычкай.

— Вось табе і лысы, — прамовіў, як і ўчора, як і кожны мінулы дзень, быццам насміхаючыся з уласнага прозвішча, што ніяк не адпавядала рэчаіснасці.

Цімафей Лук’янавіч выканаў усе гігіенічныя працэдуры. Напаследак пырснуў з бутэлечкі на далонь і задаволена паляпаў па шчоках. Яшчэ раз глянуў на сваю выяву, што глядзела на яго з прыгожай багетнай рамы, і пайшоў у сталоўку.

Павітаўшыся з прысутнымі, Цімафей Лук'янавіч узяў паднос са сняданкам і сеў на сваё ўлюбёнае месца ля акна. У сталоўцы было таксама шмат пустых месцаў. У прытулку было нямала знямоглых. Такіх кармілі ў пакоях, дзе тыя жылі. На адмысловым вазку санітаркі вазілі ім ежу, а калі хто не здужаў есці самастойна, кармілі іх, быццам маленькіх дзяцей.

Наконт назвы памяшканняў, дзе жылі старыя, адзінага меркавання ніколі не было. Нехта называў іх адпаведна нумарацыі боксамі, хтосьці палатамі. Але Цімафею Лук'янавічу бліжэй было слова «пакой». Так неяк больш душэўна, па-хатняму, чым казённае «бокс» альбо бальнічнае «палата».

Вяртаючыся са сталоўкі ў свой пакой, у калідоры Цімафей Лук'янавіч сустрэўся з загадчыцай.

— Прывітанне, Вера Сяргееўна, — ён элегантна нахіліў галаву і ўзняў руку, быццам спрабуючы прыўзняць нябачны капялюш.

— Вітаю, Цімафей Лук'янавіч! Вы, як заўжды, элегантны і сапраўдны прыгажун.

— Вера Сяргееўна, сёння ж новенькія прыедуць, а ці мне сусед будзе?

— Будзе, Цімафей Лук'янавіч, а калі пашанцуе, то, можа, і два.

— Вось і добра, а то здзічэю зусім тут у вас. Пагаманіць няма з кім, хіба што з радыёпрыёмнікам.

— А вы не сядзіце ў боксе са сваімі кнігамі, пахадзіце. Вы ж яшчэ вунь які зухаваты кавалер. Спусціцеся на другі паверх да дзяўчат. А то ім самотна.

— Эх, Вера Сяргееўна, каб тым дзяўчатам хто гадкоў пяцьдзясят адрэзаў, то была б размова, — Цімафей Лук'янавіч гучна засмяяўся, на што загадчыца таксама адрэагавала звонкім рогатам…

Цімафей Лук'янавіч узяў са стала кніжку, у якой прыкладна на палове замест закладкі ляжаў фотаздымак. З яго ўсміхаўся прыгожы малады чалавек у форме лётчыка грамадзянскай авіяцыі. Хтосьці мог падумаць, што гэта фота самога Цімафея Лук'янавіча з часоў маладосці. Але не, гэта быў сын. Ягоны Вадзік. Як жа даўно яны не бачыліся! Як яны з жонкай любілі яго! Ён любіць яго і зараз. Гэта ж адзіны сын. «Анёлак наш», — любіла казаць Марыя. А ён і сапраўды лётае ў небе на вялізных і прыгожых лайнерах. У яго іншае жыццё, жыццё без хвароб і адзіноты. «Няхай будзе яму добра, барані яго Божа», — нячутная штодзённая малітва з бацькавага сэрца паляцела ў неба.

Прастаяўшы ля стала ў нейкім асаблівым настальгічным роздуме, Цімафей Лук'янавіч так і не наважыўся чытаць пачатую кнігу. Узгадаліся нейкія эпізоды з мінулага жыцця, з часоў маладосці, з тых шчаслівых дзён і гадоў, калі ўсе яны былі разам — Марыя, Вадзік і ён…

Цімафей Лук'янавіч падышоў да акна. Зіма паціху ўступала ў свае законныя правы. На газонах і счарнелай клумбе шэрань. Дрэўцы зусім голыя, ім холадна і адзінока, бо нават птушкі недзе падзеліся і не хочуць сядзець на аголеным голлі.

У двор прытулку заехала машына — бела-чырвоны фургон хуткай дапамогі. Цімафей Лук'янавіч, як ніхто іншы, ведаў, што ў гэтай установе ніхто і нікуды не спяшаецца, і нават надпіс на бачыне аўто «Хуткая дапамога» выглядае не-

дарэчна. Звычайны аўтамабіль з гаража раённай бальніцы. Можа, лекі нейкія прывезлі, ці, можа, бялізну з пральні, а можа, дактары на чарговы, для галачкі, медагляд прыехалі. Што тут аглядаць? Косці старэчыя ці збрыжавелую скуру.

Бывае, што і чыноўнік нейкі завітае, асабліва перад выбарамі, каб зрабіць справаздачу пра клопат дзяржавы аб старых і сацыяльную абарону хворых, самотных і знямоглых. Але тыя едуць на вялікіх чорных машынах — у доўгіх седанах, хоць едзе адзін, толькі з кіроўцам, ці ў высокіх джыпах, хаця едзе ўвесь час па асфальтаванай дарозе.

Цімафей Лук'янавіч тупаў па пакоі і перыядычна пазіраў, каб ведаць, што там робіцца на двары. Ён знаў са свайго ўласнага досведу, што дзесьці паміж сняданкам і абедам павінен прыехаць аўтобус з новенькімі. Вера Сяргееўна не магла яго падмануць. Сёння ў яго абавязкова будзе сусед, а можа і два. Няхай сабе і два, але калі нават адзін, то гэта таксама вельмі добра. Хоць нейкая разнастайнасць у ягоным жыцці, у якім кожны новы дзень падобны на папярэдні. Хто ведае, можа, нехта і са знаёмых трапіцца. Цімафей Лук'янавіч доўгі час працаваў на розных высокіх пасадах, шмат ездзіў па раёне і ведаў многіх.

Цімафей Лук'янавіч пстрыкнуў пімпачкай на панэлі радыёпрыёмніка. З яго палілася нейкая рытмічная музыка. Пакруціў кола настройкі. Наступная радыёстанцыя аж залягалася ад смеху з нейкага глупства, сказанага ў прамым эфіры. Крутнуў зноў. Кіраўнік дзяржавы бэсціў мясцовых карупцыянераў і замежных ворагаў. Крутнуў яшчэ. З дынаміка палілася прыемная мелодыя. Але Цімафей Лук'янавіч не мог уцяміць, Бах гэта ці Гендэль. Такога маху ён не даваў ніколі, і прабачыць сабе такога проста не змог, тузануў шнур і выключыў прыймач. Зразумеў — гэта нервовае, і зноў стаў тупаць па пакоі, раз-пораз паглядваў у акно.

Раптам у двары неяк па-добраму, прывітальна прасігналіла машына. Цімафей Лук'янавіч паглядзеў скрозь шыбу. Там стаяў невялікі аўтобус. І гэта былі сапраўды яны — новыя, няхай сабе і часовыя жыхары ўстановы, што для яго стала сапраўдным домам, бо ягоны ўласны дом, дом ягонай сям'і належаў цяпер іншым людзям.

Казырок над уваходам у будынак замінаў разгледзець усё, што там адбывалася і колькі дакладна людзей прыехала на засяленне. Але ж сэрца ўсхвалявана і радасна затрымцела ў грудзях. Цімафей Лук'янавіч дакладна ведаў: у яго будзе сусед па пакоі, і зіма, што хутка набліжалася, не будзе для яго такой сумнай і доўгай.

Цімафей Лук'янавіч падумаў, што для афармлення новенькіх патрэбен нейкі час, але вырашыў сёння нікуды не ісці са свайго пакоя, каб самому сустрэцца з новымі жыхарамі. Праз сілу, але прымусіў сябе ўзяць у рукі кнігу. За кнігай і не заўважыў, як прайшоў час. Неўзабаве ў дзверы пастукалі. Першай увайшла Вера Сяргееўна, за ёю, крыху нерашуча, двое мужчын.

— Ну вось, Цімафей Лук'янавіч, дачакаліся нарэшце, — у голасе загадчыцы адчувалася радасць.

— Добры дзень, — амаль у адзін голас прамовілі новенькія.

— Вітаю і вас, — Цімафей Лук'янавіч працягнуў кожнаму руку.

— Іван Яўхімавіч, — лаканічна назваў сябе першы.

— Юзік, проста Юзік, — бадзёра вымавіў другі.

— Вось і пазнаёміліся, займайце плацкарты, — Цімафей Лук’янавіч паказаў на вольныя ложкі.

— Уладкоўвайцеся, тут вам будзе добра, а я пабегла — справы. Не буду вам замінаць, — скорагаворкай выпаліла загадчыца, а праз імгненне пра яе нагадваў толькі цокат абцасаў недзе ў калідоры.

Новенькія нерашуча наблізіліся да ложкаў і пачалі распакоўваць свой скарб і раскладваць яго на паліцах тумбачак. Цімафей Лук’янавіч не наважваўся першы пачаць размову і чытаў, зрэдку адводзячы позірк ад кнігі. Новенькія сціпла, амаль шэптам, размаўлялі аб нечым паміж сабой, стараючыся не турбаваць Цімафея Лук’янавіча. Атмасфера насцярожанасці і лёгкага недаверу захоўвалася, і толькі пасля таго, як мужчыны разам схадзілі на вячэру, яны пачалі гаварыць так, быццам ведалі адзін аднаго доўгі час.

Цімафей Лук’янавіч ні з кім з іх ніколі раней не сустракаўся. Іван Яўхімавіч — настаўнік-пенсіянер з аддаленай вёскі. А Юзік, таксама вясковец, з ліку перасяленцаў. Уся іх вёска закапана ў зямлю разам з пабудовамі, садамі і агародамі. А насельніцтва рассялілі ў чыстую зону. Вось пакуль і ўсе звесткі, якія сталі вядомыя Цімафею Лук’янавічу за гэты кароткі тэрмін знаёмства.

Пра сябе ён шмат чаго распавёў. Хоць асабліва і не было чаго расказваць, хіба пра сына, пра сваё ўдаўство і што прытулак стаў для яго сапраўдным домам. Што ўласны дом давялося прадаць, бо ў сына былі цяжкасці, трэба было набываць добрую кватэру, знайшліся людзі, што былі гатовыя заплаціць добрыя грошы, і ён пагадзіўся. Ведаў, што Марыя была б таксама не супраць такога рашэння, бо яны любілі Вадзіка і былі гатовыя для яго на ўсё. Сын абяцаў, што купіць бацьку аднапакаёўку ў горадзе альбо дамок у прыватным сектары. Але ў выніку — ні дамка, ні кватэры, а ён у прытулку дажывае свой век. Можа, і зашмат чаго ён расказаў гэтым зусім малазнаёмым людзям. Але ж што тут такога? У гэтай установе амаль у кожнага нешта падобнае. Цімафей Лук’янавіч нават фота паказаў свайго сыночка — Вадзіка-анёлка, што недзе лётае па сваіх нябесных маршрутах.

Вечар у прытулку настаў імгненна. Лёгкі змрок насунуўся на зямлю, а ў пакоях пачалі запальвацца лямпачкі. Але хутка яны пачалі тухнуць. Не любяць тут яркага святла. А яшчэ старыя, быццам дома, эканомяць і вядуць свае ціхія размовы ў прыцемку. Канешне ж, тады, калі ёсць з кім размаўляць.

— Іван Яўхімавіч, а што вы выкладалі ў школе? — запытаўся Цімафей Лук’янавіч.

— Прасцей будзе сказаць, што я не выкладаў, — весела адказаў той. — Выкладаў усё, нават пабыў завучам і нейкі час у дырэктарскім фатэлі пасядзеў.

— А вы, Юзік, кім працавалі, — Цімафей Лук’янавіч звярнуўся да другога свайго суседа, — чым займаліся?

— Я? Я з простых. Да перасялення на трактары працаваў, а пасля Чарнобыля на новым месцы ў брыгадзе калгаснай рознымі справамі займаўся, а потым ужо і пенсію далі.

Мужчыны ціха размаўлялі паміж сабой, распавядалі нейкія падрабязнасці са свайго жыцця. Нават тое, пра што не гаварылі ніколі і нікому. Тут можна, тут усе ў аднолькавым становішчы. Тут ніхто не абгаворыць і не насмяецца. Тут у кожнага свой боль, свая крыўда і ўласнае асэнсаванне жыцця, што амаль прайшло.

— Мабыць, я адсюль ужо і не паеду, — прамовіў Іван Яўхімавіч, — тут добра, ніхто мяне не будзе папракаць кавалкам хлеба.

— А што ў вас здарылася? — Цімафей Лук'янавіч яшчэ падумаў, ці не пакрыўдзіў малавядомага чалавека такім пытаннем, але зваротнай хады не было. — Як вы тут апынуліся? Прабачце, калі пакрыўдзіў вас, можаце нават не адказваць на маё пытанне.

— Чаму ж не адказаць, што было, тое было.

Ён крыху памаўчаў і пасля кароткай паўзы загаварыў. Пачаў амаль з юнацтва. Пра вучобу, працу ў школе, сям'ю. Пра тое, што рана аўдавеў, што дзеці з'ехалі за мяжу яшчэ пасля распаду Саюза. З-за акіяну не так проста і прыехаць. Ды і свае праблемы, што ў сына, што ў дачкі. Даглядаць састарэлага пагадзіўся пляменнік, які быў таму бліжэй за сына. Той рана застаўся сіратою, і Іван Яўхімавіч клапаціўся пра яго, як пра ўласнае дзіця. Вывучыў, ніколі не шкадаваў грошай. Але зараз у таго падраслі дзеці, і жыллёвая плошча была не лішняй. Таму і ўгаварылі перапісаць жытло на пляменнікавага сына з умовай, што будуць даглядаць старога да скону. Толькі нейкі тыдзень прайшоў пасля афармлення папер, як Іван Яўхімавіч зразумеў, што новыя гаспадары ніколькі не рады ягонай прысутнасці. Пачаліся абразы, крыўды і папрокі, якія было нельга перанесці старому, улічваючы, колькі дабра ён зрабіў для гэтых людзей, як заўсёды стараўся ім дапамагчы, падтрымаць ці проста вырашыць нейкія іхнія праблемы.

Ён рабіў кароткія паўзы ў размове. І калі б у пакоі гарэла больш яркае святло, можна было заўважыць слёзы на ягоных вачах. То, можа, і добра, што свяціла толькі настольная лямпа і старэчых слёз не было відаць. Мужчыны, нават у такім узросце, не павінны плакаць, нават калі гэта слёзы крыўды ад пакут за дабро, якое той зрабіў, лічы, староннямy чалавеку.

Іван Яўхімавіч сядзеў на ложку, глядзеў некуды ў сцяну, а потым нібыта падсумаваў:

— Таму я тут і, мабыць, застануся тут ужо назаўсёды…

Усе прыціхлі. Кожны думаў пра сваё. Раптам закашляўся Юзік і, нібыта нават выбачлівым тонам, сказаў:

— Я што хачу вам сказаць, паважаныя. Чалавек я просты і прабуду тут з вамі толькі да вясны. Бо ў вёсцы ў мяне і хата, і сад з агародам. З гаспадаркі, праўда, толькі куры засталіся, суседка пракорміць, зерня хапае. Не магу я без зямліцы. Ды і царква мая там, у вёсцы. Не перайначу я ўжо сябе. Але, дальбог, скажу вам, вы людзі адукаваныя, разумныя, але ж нешта не тое вы рабілі ў сваім жыцці. Я б і не паехаў сюды, але дачка кажа: «Тата, зімуй у прытулку. Бо я так агледзець цябе не змагу». А тут цёпла і сытна. Чаму б і не зімаваць, як птушцы ў выраі? А потым да сваіх берагоў, а як жа інакш.

Яму ніхто не пярэчыў. Тут умеюць слухаць адзін аднаго. Інакш нельга. І нават калі ты не скажаш нешта сёння, то ў цябе будзе магчымасць расказаць гэта заўтра, ці ў нейкі іншы доўгі вечар. Пасля кароткага перадыху Юзік адгаварыўадспавядаў:

— Што ж вы, хлопцы, усё жыццё дагаджалі людзям. Адзін свайму сынуанёлку, другі чужога аблізваў усё жыццё. Але ж гэта людзі, яны такія. Ты яго ўсё жыццё аблізваеш, а калі адзін раз не абліжаш, не дагодзіш, то крыўдуе на цябе, ставіцца варожа. Хіба не так? Хіба з вамі не так было?

Ён ставіў пытанні, але не чакаў на іх адказу, а таму працягваў:

— Таму і век вам свой дажываць не з тымі, каго ўсё жыццё любілі і каму нічога не шкадавалі, а тут, няхай сабе і ў добрым, але чужым казённым доме. Таму што дагаджаць трэба было не людзям, у першую чаргу, бо яны ж проста людзі, а таму, хто там.

Юзік узняў руку і паказаў пальцам недзе ўгару, у неба. Ён больш нічога не гаварыў, але пальца не апускаў. Цімафей Лук’янавіч з Іванам Яўхімавічам узнялі вочы, але там была толькі столь.



**Вадзім Жылко**

Нарадзіўся ў 1967 г. у г. Лунінцы. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Працаваў у Лунінецкім раённым музеі, цяпер — журналіст. Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы «Ассорти» (1995), «Оборванная нить» (2006), «Права на пошук» (2002), брашуры «Размова з прысутнымі. Уладзіслаў Нядзведскі: старонкі жыцця і творчасці» (2001). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## ПРОЗдумы

* * *

Горад Лунінец фактычна падзелены чыгункай на дзве часткі. Усходняя, меншая — Залессе. У часы майго дзяцінства — амаль вясковыя вуліцы, па якіх вечарамі пастухі гналі з пашы статак кароў. Дзе цяпер тыя каровы? Затое машын стала шматкроць больш…

На «маёй» Лясной побач з бабуліным домам рос вялікі дуб. Адзінае такое высокае дрэва на гэтым баку вуліцы, а вось уздоўж супрацьлеглага боку расло шмат вольхаў і ліпаў. Калі я з бацькамі пераехаў жыць за чыгунку, у «асноўную» частку горада, пастаянна хадзіў да бабулі і дзядулі. І кожны раз з пешаходнага моста над чыгуначнымі пуцямі адшукваў позіркам «свой» дуб. Нібы маяк, які ўдакладняе курс.

Адну з першых сваіх публікацый у мясцовай газеце прысвяціў гэтаму дрэву. Магутны дуб бачыў і войны, і мірныя часы, і змены ўладаў, але выстаяў і вытрываў усе нягоды.

Калі летам 2001 года на Лунінец абрынулася бура з вялізным градам (памерам амаль з кулак), дрэва ўратавала бабулін дом, прыняло ўдар на сябе.

Цяпер у таго дома новы гаспадар. Выкарчаваў стары сад, знёс гаспадарчыя пабудовы, перабудоўвае дом на сучасны лад. Няма і дуба — спілаваны. Больш не шукаю яго позіркам з моста, калі крочу на Залессе. Ды і крочу вельмі рэдка. А на Лясную заходзіць не хочацца тым болей…

* * *

Дашкольнікам еду ў цягніку з бацькамі да маміных сваякоў ва Украіну. Чую з размоваў, што вось-вось пачнецца за вагонным шклом ужо не беларуская зямля. Але, да майго расчаравання, не бачна ні памежнікаў з сабакамі, ні слупоў з кантрольна-следавой паласой, якія так прыгожа выглядаюць у фільмах.

Прайшлі гады. На жаль, тыя дзіцячыя думкі сталі рэчаіснасцю…

* * *

Дарэчы, наконт мяжы. Лунінец у савецкія часы сябраваў з украінскім райцэнтрам Сарны, між гэтымі станцыямі хадзілі дызелі без перасадак. Па інерцыі ў 90-я гады яшчэ працягваўся абмен living рознымі дэлегацыямі, збольшага ў галіне культуры.

І вось аднойчы з калегам па музейнай працы вяртаемся ў Лунінец з Сарнаў. Дызель набліжаецца да мяжы, і цётачкі-гандляркі пачынаюць мітусіцца, хаваць пад сядзеннямі сумкі і пакеты з пляшкамі (алкаголь — іх галоўны «бізнес»). Апранутыя ўсе бедна, амаль у рызманы — мабыць, наўмысна, каб мытнікі менш чапляліся, былі не надта прыдзірлівыя.

Насупраць нас на сядзенні — маладая і прыгожая жанчына. Шырокае моднае паліто вольна раскінулася па лаўцы, на галаве — модная шапачка, у руках — маленькая дамская сумачка. Сядзіць спакойна, разняволена, з доляй пагарды паглядаючы на мітусню суседак.

Неўзабаве мытнікі пачынаюць выцягваць са схованак сумкі з бутэлькамі. У прыгажуні ж памежнікі толькі правяраюць пашпарт.

Праз колькі хвілін вагон рушыць далей. Прыгажуня прыўздымае з сядзення полы шыкоўнага паліто і пачынае перагружаць у пакеты схаваныя пад ім шматлікія пляшкі. Псіхолаг, ды і толькі!

* * *

Між іншым, на самым пачатку незалежнага існавання Беларусі і Украіны, калі мяжа нейкі час была яшчэ празрыстай, двухлітровымі бутэлькамі са спіртам пачыналі ў Лунінцы гандляваць адразу ж па прыходзе чарговага дызеля — на пероне і нават на рэйках паміж імі, дзе збіраўся натоўп пакупнікоў. Прыкмета «ліберальных часоў»…

* * *

Вярнуся да дзіцячых, дашкольных, уражанняў. Па радыё дзесяць разоў на дзень гучыць песня «Вологда». Настолькі западае ў душу, што і цяпер, калі чую, адразу ўзгадваю дзяцінства.

Значна пазней даведваюся, што спяваў тую «Вологду» беларускі гурт «Песняры». А нядаўна прачытаў на нейкім сайце: маўляў, прымусілі нашых спевакоў выконваць песню пра расійскі горад, каб прапагандаваць такім чынам інтэрнацыяналізм і сяброўства між народамі. Лепш бы, маўляў, «Песняры» спелі пра які Ельск ці Бераставіцу.

Логіка, што і казаць, надта сучасная і «свядомая». Але песня мне дагэтуль вельмі падабаецца. І я рады, што яе выконвалі мае суайчыннікі.

* * *

Паступіў ва ўніверсітэт, на гістарычны факультэт. Што праўда, вучуся завочна, але не камплексую, бо вучыцца падабаецца, гісторыяй цікаўлюся даўно. Факультэт лічыцца прэстыжным, адсюль нярэдка выходзяць кадры для розных ідэалагічных партыйных ці камсамольскіх інстанцый. Але мне тое не надта цікава.

На факультэце ёсць і аддзяленне філасофіі. Неяк у час сесіі жыву ў адным пакоі з яго навучэнцам. Той ужо адслужыў у войску, скончыў фізкультурны тэхнікум, выкладае ў вясковай школе. Хлопец энергічны, хвацкі, уступіў нядаўна ў партыю. Наколькі ведаю, на аддзяленне філасофіі і паступаюць па накіраванні партыйных органаў.

Сусед мой любіць распавядаць розныя байкі са свайго жыцця, шчодра карыстаецца ненарматыўнай лексікай. Часам рыхтуецца да экзамену, чытае ўголас тэксты з падручніка. Прамаўляе прозвішчы выдатных мысляроў мінулага.

Міжволі ўяўляеш: вось хутка скончыць вучобу, атрымае дыплом з запісам «філосаф». Будзе калегам Канту, Гегелю і Платону з Арыстоцелем…

Урэшце, мне ў дыпломе напішуць: «гісторык». Калега Герадота і Тацыта.

* * *

Ужо з дыпломам гісторыка не адразу прыходжу да гэтай прафесіі, а толькі праз пару гадоў пачынаю працаваць па профілі — у краязнаўчым музеі. Усё больш вабіць і газетная праца, пішу ў тым ліку на тэмы гістарычныя, краязнаўчыя. Неяк рэдактарка пытаецца: «Калі мы пад тваім артыкулам, акрамя прозвішча, напішам, што ты краязнавец, не пакрыўдзішся?» Памятаю, тая прапанова не выклікала вялікага імпэту.

Гэта цяпер спакойна стаўлюся да «звання» краязнаўца: хапае артыкулаў і нарысаў, ёсць брашуры і кнігі, удзельнічаў у шматлікіх канферэнцыях з дакладамі. На міжнародных «Берасцейскіх кнігазборах» неяк пажартавалі ў размове з калегам і суаўтарам Васілём Туміловічам (таксама гісторыкам па адукацыі і вядомым далёка за межамі Лунінеччыны даследчыкам нашага краю), што ўдзел у канферэнцыі бяруць некалькі прафесараў, дактароў навук, дзясяткі кандыдатаў, дацэнтаў, загадчыкаў кафедраў. Краязнаўцаў жа, па нашых падліках, тры-чатыры. «Значыць, мы на ўзроўні акадэмікаў», — іранізуем з сябе.

* * *

Гісторыю люблю са школьных гадоў і дагэтуль. Ды толькі што ўвесь час робяць з ёю, як здзекуюцца, перапісваючы па сто разоў! А тут яшчэ наша эпоха «постмадэрну», калі нібыта і аб’ектыўных ісцін не засталося, толькі асабістыя меркаванні. «Гісторыя — не навука», — чуў неаднойчы. На жаль, тая гісторыя, што дзясяцігоддзямі «ліецца» на галовы шараговых беларусаў ці расейцаў, — сапраўды ўжо не навука.

Тым больш прыемна прачытаць кнігу ці артыкул сумленнага навукоўца-гісторыка. А такіх, на шчасце, яшчэ нямала.

* * *

У якасці музейнага супрацоўніка неаднойчы давялося ўдзельнічаць у розных мерапрыемствах разам з ветэранамі… Звычайна штогод у ліпені раённыя ўлады ладзілі вандроўку для былых партызанаў па «мясцінах баявой славы».

Адна з такіх паездак запомнілася асабліва. Згодна са сцэнарыем падарожжа на кожным прыпынку — ці то на былым месцы дыслакацыі, ці то каля помніка або брацкай магілы — нехта з ветэранаў дзяліўся сваімі ўспамінамі пра вайну. І што цікава: успаміны тыя не проста розніліся, а былі супрацьлеглыя. Адзін ветэран згадваў, як летам 1941-га фронт на Лунінеччыне стаяў тыдзень, як снарады з абодвух бакоў лёталі над ягонай вёскай. Другі — што немцы занялі раён за адзін дзень і без бою, была хіба што перастрэлка каля адной з вёсак… Трэці выкладаў іншую версію падзей. І пра лета 1944-га ўспаміны таксама вельмі адрозніваліся. А чаму, урэшце, здзіўляцца?

У час працы ў музеі я быў аднойчы ў складзе камісіі райвыканкама. Паехалі ў аддаленую вёску, дзе, згодна з выданнямі пра партызанскі рух, адбыўся калісьці разгром варожага гарнізона, размешчанага ў мясцовай школе. Вось толькі былы дырэктар школы, які прыехаў сюды адразу пасля вызвалення, не бачыў на сценах ніводнай драпіны ад куль, нават шкло ў вокнах ацалела… Тое, што ніякага бою тут не было, пацвердзіў і адзін былы партызан. Хутчэй за ўсё, пазней нейкім чынам зблыталі гэтую вёску з іншай, у суседнім раёне, дзе напад на гарнізон меў месца. Камісія склала адпаведны акт. Але некаторыя з лунінецкіх ветэранаў (якія, дарэчы, ваявалі не ў нашых мясцінах) так і не пагадзіліся з «аднаўленнем гістарычнай праўды».

Дарэчы, прачытаў неяк успаміны беларускага журналіста, які «дапамагаў» пісаць мемуары былым партызанскім начальнікам (як тое называлася, рабіў літаратурны запіс). Ён згадвае, як перакручвалі гэтыя мемуары ў выдавецтвах. Перанесці нейкі бой з лета на зіму або наадварот было звыклай справай. А пасля выхаду кнігі ўспаміны ж тыя набывалі афіцыйны статус, на іх спасылаліся, абаранялі дысертацыі.

Цікавыя словы пачуў аднойчы ад былога партызана, які выступаў у музеі перад школьнікамі: «Наш атрад быў такі сакрэтны, што з немцамі ўступаць у бой нам забаранялася». Дзеці з павагай глядзелі на «сакрэтнага партызана». А служыў ён, між іншым, у спецатрадзе НКУС ці НКДБ. З немцамі не ваявалі, а з кім тады?

І яшчэ, калі ўжо закранулі партызанскую тэму. Дырэктара нашага музея ўключылі ў камісію па прысваенні статусу ветэранаў вайны. Распавядала, што некаторыя «партызанскія сувязныя» раптам згадвалі пра свой удзел у вайне праз 50, а то і болей гадоў, прыносілі пацверджанні сведкаў… А было тым хлопчыкам у ваенныя часы гадоў 10–11.

* * *

Што да журналісцкай працы, то яна паступова стала маёй асноўнай прафесіяй. Хоць хапае там розных «падводных рыфаў». Ды і праца ў рэгіянальным выданні — пастаянны канвеер, які патрабуе вялікіх высілкаў. Неяк у размове з Васілём Жуковічам, які сам зведаў журналісцкага хлеба, згадаў я пра стому ад «газетчыны», што не спрыяе творчасці. Шаноўны пісьменнік адразу пагадзіўся: «Разумею. Сам прайшоў праз тое».

* * *

Рэдактару, а цяпер я працую на такой пасадзе, гадамі даводзіцца чытаць, без перабольшанняў, кіламетры чужых тэкстаў, бясконца правіць і рэдагаваць. Сваё ж пішацца ўрыўкамі, фактычна ў вольны час, ды трэба яшчэ і прымусіць сябе сесці за рукапіс ці да камп'ютара. А як жа натхненне? А вось неяк так…

Між іншым, даўно пераканаўся ў справядлівасці выслоўя, што дапамагаць трэба талентам, а шэрасць сама праб'ецца. Чым больш «графаманісты» аўтар, тым больш актыўна лезе на старонкі газет ці нават кніг. Нехта выдае свае творы за ўласны кошт, але большасць патрабуе: надрукуйце мае шэдэўры!

Ды і часы цяпер такія, што «творчая планка» паступова набліжаецца да ўзроўню плінтуса.

* * *

Зараз, на шчасце, менш маю стасункаў з чынавенствам, чым у часы працы ў дзяржаўным музеі ці раённай газеце. Але ў невялікім горадзе ўсё роўна ведаеш многіх насельнікаў «Белага дома» (так у Лунінцы называюць будынак райвыканкама). Пры выпадковых сустрэчах з кімсьці вітаешся, а хтосьці робіць выгляд, што незнаёмы з табою, супрацоўнікам недзяржаўнага выдання. А пра аднаго знаёмца мой сябар Віктар Філатаў калісьці заўважыў: «Ён кожны раз пры вітанні адводзіць позірк усё далей убок».

* * *

Трапнае выслоўе прачытаў ці пачуў не так даўно: «Маладосць жыве пад дэвізам «Хачу!», а старасць — «А навошта?». І насамрэч, з пэўнага моманту ўсё больш ашчадна разлічваеш сілы і час. Хочацца займацца тым, што табе цікава, прынамсі пакуль цікава. Але не заўсёды так выпадае…

* * *

Закончу ж «на філасафічнай ноце». Бадай, кожны чалавек рана ці позна задумваецца: ці так жыў, як трэба, ці тое рабіў? Што было ў жыцці заканамерным, а што — выпадковым? Дык вось, вельмі спадабаўся мне афарызм: «Выпадак — гэта псеўданім Госпада Бога». І гэта не жарт. Адукаваныя праваслаўныя багасловы разважаюць пра тое самае. Так што жыццё — гэта зусім не збег нейкіх выпадковых акалічнасцяў…



## Я ў г е н   Б я л а с і н

Нарадзіўся 9 чэрвеня 1954 г. у в. Грынявічы Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў (1975). Працаваў у Брэсцкім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя А. С. Пушкіна (1979–2001). З 2001 г. самадзейны германіст, журналіст і літаратар. Пераклаў Зыгмунда Фройда «Дыскамфорт ад культуры» (2001), Себасцьяна Хафнера «Гісторыя аднаго немца. Успаміны 1914–1933» (2006), Чарлза Дыкенса «Олівер Твіст» (2010), Гайнрыха Гайнэ «Праз Польшчу» (2014). Выдаў кнігі «Подземелья Бреста, крепости и...» (2014). «На пераломе» (2015), «Шчупакабра» (2016) і «Кароткая граматыка нямецкай мовы» (2012) сумесна з Л. Баршчэўскім. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Брэсце.

## *КАРА́ЦЕЛЬКІ*

Знайсці грошы — гэта (не) проста.

## Версіі і падказкі

### 1. Як беларускія літаратары падымаюць грошы на выданне кніг

Ехалі неяк разам два такія.

— Учора падняў дзесяць рублёў, — кажа адзін. — Паперык такі сіні з карычневым. Ляжаў на дарозе, унутры квартала, ходнік там заезд перасякае. Падумаўшы, напісаў на каляровай рэкламцы, на адваротным чыстым баку, сінім па зялёнаму: «Хто згубіў г…, набярыце тэл.» (і далей нумар мабільніка). Паклаў, дзе была банкнота. Ніхто не патэліў. Ну дык маё сумленне чыстае.

Чыстае сумленне паслужыла спускавым кручком другому.

— Знайшоў аднаго разу папернік. А там і пашпарт, і правы, і каля трохсот даляраў. Знайшоў па базе тэлефон, набраў, дамовіліся на перадачу. Але палова грошай, кажу перадаючы, мне. І — абодва бакі засталіся шчаслівыя! Мне якраз трэба было дакласці палову, каб выдаць кнігу».

Пачынальнік тэмы не затрымаўся з працягам:

— Дык я гадоў колькі таму, адзін да аднаго амаль, меў. Падняў на шашы за выездам на запраўку на другой паласе нават, па дарозе на лецішча. На веліку ехаў, аж бачу: ляжыць. Папернік. Невялікі такі. А ў ім правы, тэхпашпарт на «Фольксваген Джэта». Накладныя на будматэрыялы — на сто з нечым мільёнаў. І грошы. Каля ста еўра.

Далей фабула пад'ёму гэтага літаратара адрозніваецца.

— Прабіў адрас уладальніка праз знаёмага ў ДАІ, — распавядаў ён. — Тады гэта можна было яшчэ. За Кацельняй Баярскай недзе аказалася. Гэта кіламетраў

пад трыццаць. На выходныя паехаў. Ледва знайшоў. Новабудоўля. Суседзі сказалі, наездамі бывае. Напісаў цыдулку, маўляў, забярыце сваё, што знайшлося на дарозе, у суседзяў. Паклаў на рыштаванні. А папернік суседзям аддаў. Усё, акром грошай. Кніжку выдаць не было на што, і тут як зверху хто скінуў.

«Мабыць, я і ўсё аддаў бы, але неяк выглядае неадэкватна. Што я ім, кур'ерам наняўся?» — нібы выбачыўся літаратар і падмацаваў расповедам, як калісь аддаў мабільнік жаночы:

— Памаранчавы, «Samsung», падняў каля крамы. Даляраў за дзвесце. Абаненты падпісаныя — думаў, крымінальнік нейкі. Прыйшла дзявуля хабзарнага выгляду, з сястрою-школьніцай. Для падстрахоўкі, ці як, каб абаненты не насмяяліся. «Этавынашлі-спасібадосвіданія». То лепш бы я пакінуў, хай ляжаў бы там далей. Няма чаго мне рабіць — толькі развозіць-разносіць-раздаваць іхнія прапажы. А мне другую частку коштаў праз месяц гасіць, кніжку выдаць трэба было.

Пад гэтыя размовы пад'ехалі яны да мясцовай уніяцкай царквы. Мелі тут літаратурную прэмію ўручаць дастойніку з іншага горада, — у царкве яму больш даспадобы, бо вернік. І братам/сёстрам па веры прыемна.

Напрыканцы ўрачыстасці падымае той з двух фартовых знайдаў, якому на чарзе было нешта з гэтай серыі распавядаць і тлумачыць, пашпарт. Наўпрост тут, у царкве. На падлозе. Згублены нядбайным уладальнікам. Калі той за нечым паспяшаў-мітусіўся. У храме.

Глядзяць яны ў чатыры вокі, а хто такі. Авой! — карэспандэнт «Свабоды».

— Гэты не з бедных будзе. Акурат час прыспеў мне кніжку выдаць.

### 2.1. Як правільна падняцца на Джамалунгму (Эверэст)

Наймаеш за 5 тыс. долараў верталёт, падымаешся, робіш фотасесію. Апускаешся і на розніцу ў 5 тысяч паміж коштамі альпінісцкага і абранага табою спосабу выпраўляешся ў круіз на выспы Палаў. Там млееш двайным млівам: ад таго, што не загінуў на схілах Джамалунгмы (Эверэста), і ад таго, што тропікі — гэта дужа цёпла і вітальна.

### 2.2. Як адбіць грошы на экспедыцыю на Джамалунгму (Эверэст)

А вось гэта ўжо зусім простая задача. Бярэш купу фатаграфій, ідзеш у нацыянальнае прадстаўніцтва National Geografic або Discovery. Ну не ў мясцовыя афіцыёзы ж ісці. Пусты нумар. Або звяртаешся па «электронцы». А найхутчэй яны самі цябе знойдуць, яшчэ на Палаў. Бо шуму ж будзе, шуму!.. І прапануеш ім, па дзве тысячы за штуку. Або эксклюзіўны рэпартаж, за паўмільёна. Тады мінус дзвесце пяцьдзясят тысяч за дазвол урада Непала. Плюс газетны рэпартаж у «НВ» за 150 рублёў і «БК» за 15. На атрыманы прыбытак купляеш сена зубрам БП (частка PR-кампаніі), патаемна рассылаеш па тысячы дапамогі ўсім звольненым за нянавісць да феадалізму тутэйшым прафесарам і афіцыйна запрашаеш Харукі Муракамі на вірджыннае спатканне інтэлектуальнага клуба

пры ЖЭС-5 Брэста, дзеля абмеркавання тонкасцяў будучага перакладу на беларускую яго апавядання «Yesterday» (наступнай падрыхтавацца Эльфрыдзе Елінэк, верагодная тэма «Дэвальвацыі вагіны праз віртуалізацыю жыцця не будзе»).

## 2.3. Як падняць стартавую суму на экспедыцыю на Джамалунгму (Эверэст)

Памятлівы чытач, няйначай, ужо задаваўся гэтым пытаннем, і ён памятае: гэта дзесяць тысяч сапраўдных, з прэзідэнтамі, грошай. Або бліжэйшых сапраўдных, пажадана з лічбамі «500» на кожнай купюры — гэта штук 19 такіх трэба. Дарэчы, шалёна падобныя на нашы, апошнюю іх версію. Асабліва іхнія 100 і нашы 50 — яны так апетытна, сакавіта зялёныя!..

Дык вось, як іх заатрымаць. Затрымаць. Каб яны ў кішэнях затрымаліся неяк.

Таксама даволі проста. Усё не адыходзячы, фактычна, ад Берасця. Ляжыш на спіне ў вадаёме, конкурс на імя якога нядаўна аб'яўлены быў у нас. Правільна, у Красным Двары. Млеўка. Вада лашчыцца, песціць. Лена так перабіраеш нагамі, падвясельваеш цела, каб не грузла. І разумееш дзве рэчы. Першая: ну дык гэта ж выліты Егіпет! Карм-аш-Шэйх!! Другая: але ж ты туды не паехаў!! Ты ж тут, дома, праз пару хвілін будзеш піць з тэрмаса квас за руб. дваццаць, а дома з'ясі бясплатны абед, паспіш «за так» у сваім ложку. Салодкая рэальнасць! А паслязаўтра не паедзеш на сафары. Гэта яшчэ восем тысяч, да папярэдніх трох. І хоць грошай ужо з запасам, па дарозе назад не завернеш на Мадагаскар. Гэта яшчэ чатыры з паловай. Адтуль не паедзеш на дзесяць дзён у круіз з заездам на Кубу. Яшчэ чатыры тысячы. То колькі можна. І так як жаба мулу наеўшыся. Ты рашуча гартаешся да берага, упэўненай рукой цягнешся ў кішэню шортаў. Правільна, пуста. Грошы сюды браць не варта. Цяжкая якніяк эканомія. Нетаропка прыязджаеш вечарам дахаты — вось яны, грошыкі. Любімая жанчына ТАКІЯ аргументы завярнуць не зможа, вылучыць частку з гіганцкай велічы зэканомленых сродкаў — і вось ты ўжо ляціш на Джамалунгму (Эверэст).

* * *

Мовы нераўналежныя. У нямецкай мове прыдомак «фон» перад прозвішчам кажа больш, чым у беларускай суфікс -ск- у ім. Затое нямецкаму паэту немаведама куды дзяваць даводзіцца аддзяляльныя прыстаўкі, якія матляюцца па тэксце тут і там. Паводле правіла, іх часцей за ўсё мусова ставіць на канец сказа, і прыстаўка ператвараецца ў смецце, якое заляпляе сабой жаданую рыфму. Нямецкія паэты іхняй мовай вырачаныя на тое, каб парушаць яе правілы. Мабыць, таму яны асабліва схільныя да французскага першапачатковага способу пісання вершаў, да верлібра.

## Невыканальнае

Аптымісты кажуць, з любой сітуацыі ёсць як мінімум два выйсці. Тут дык дакладна недаінфармаваныя яны. Бо ёсць, ёсць становішчы з маркерам «mission impossible». Прыклады? Вось яны.

— Вельмі блізарукаму закласці акуляры і не знайсці.

— Бязрукаму спрабаваць зрабіць пратэзы канцавін.

— Карамзіну-Каракумскаму стаць Каравайчыкам.

* * *

Што ў імені маім?

Бяласін так сама натуральны ў Беларусі,
як Франсуа ў Францыі.
Але ж Hollande?

* * *

У кожнага ёсць свая «планка», звыш якой ён падняцца не можа. Але і ніжэй коўзацца навошта?

* * *

Кожны раз, калі вару рыс і ён, пасля таго як вада закіпіць, праходзіць стадыю здранцвення, думаю, як данесці гэтае ўспрыманне да веганаў.

## Розная рэйтынгавасць

Свабодны і шчаслівы — дэмакрат.

Шчаслівы і свабодны — анархіст.

Няшчасны і свабодны — мазахіст.

Несвабодны і шчаслівы — раб.

Несвабодны і няшчасны — чарвяк на кручку.

Няшчасны і несвабодны — гэта, пэўна, нехта хворы, каму баліць не перастаючы.



**Яніна Грыгаровіч**

Нарадзілася ў в. Відомля Камяненцкага раёна. Скончыла Мінскі кааператыўны тэхнікум Белкаапсаюза. Працавала ў будаўнічым трэсце г. Брэста галоўным бухгалтарам генпадраднага ўпраўленьня. Аўтар сямі паэтычных зборнікаў: «Вачыма дабрыні», «Калі сэрца поўнае натхнення», «Жадаю шчасця», «Я люблю гэты свет», «У гармоніі з людзьмі і прыродай», «Высокіх пачуццяў душа поўная» (песні) і «Чатыры кіты».

## Муж па… замове

Гэтую невысокую, пасівелую ўжо, але яшчэ даволі прыгожую жанчыну я сустрэла выпадкова на прывакзальнай пляцоўцы, чакаючы электрычку з Мінска. Яна таксама чакала гэты цягнік: сустракала дачку з унукам. Мы разгаварыліся, і Людміла, так яна назвалася, расказала мне гісторыю пра тое, як выходзіла замуж.

Гісторыя аказалася сапраўды цікавай. Старэйшая сяброўка Людмілы Зіна доўга хадзіла ў дзеўках, усё ніяк не магла выбраць сабе будучага мужа. У аднаго характар не падабаўся, у другога — знешнасць, у трэцяга — прафесія… І раптам сустрэла Паўла. Каханне закруціла-завіхурыла, вырашылі пажаніцца. Сведкай на вяселле Зіна, вядома ж, запрасіла Людмілу. Тая згадзілася, але пры адной умове: сведка з боку жаніха павінен быць прыкладна аднаго з ёю ўзросту, не намнога вышэйшы і не аматар алкаголю. Задача аказалася не з простых, тым не менш Зіна паспяхова яе вырашыла.

Калі Людміла ўбачыла Мікалая, сэрца яе так і самлела. Прыгожы, сціплы, прыветны… І танцаваў выдатна. А яшчэ вельмі цікавым аказаўся апавядальнікам. Дзяўчына заслухоўвалася яго гісторыямі пра службу ў марфлоце. Тут жа, на вяселлі, пазнаёміў са сваімі бацькамі, з сястрой. Яны таксама спадабаліся Людміле тактоўнасцю, ветлівасцю.

Між тым вяселле спявала і танцавала. Людміла радавалася за маладых, а Мікалай увесь час не зводзіў вачэй з Людмілы. Яна ледзь не фізічна адчувала на сабе гэты погляд, аж сэрца калацілася. А калі вяселле падыходзіла да завяршэння, нечакана заявіў:

— Нікуды я цябе не адпушчу, выходзь за мяне замуж!

Людміла разгубілася:

— Што, прама цяпер?

— А чаму не? — узрадаваўся Мікалай. — Сярод гасцей на вяселлі ёсць старшыня сельвыканкама, а таксама сакратарка, якая рэгіструе шлюбы. Зараз іх папросім, яны нас тут жа і распішуць.

Вёска не горад: сказана — зроблена. Госці гурмою рушылі ў сельсавет, і праз нейкую гадзіну Мікалай і Людміла сталі мужам і жонкай. Вяселле працягвалася, толькі цяпер ужо віншавалі адразу дзве пары маладых.

— І як склаўся ваш шлюб? — цікаўлюся ў Людмілы.

— Сорак гадоў ужо разам жывём душа ў душу, — шчасліва ўсміхаецца жанчына. — Вось дачку чакаю з унукам. У сталіцы жывуць, да нас на канікулы хлопчыка вязе. Хвалююся, даўно не бачыліся… А яшчэ сыночка выгадавалі, дырэктарам завода ў Маскве працуе. Так што ўсё добра ў мяне з Мікалаем склалася.

…Сапраўды, не ўгадаеш, дзе сваё шчасце сустрэнеш. Іншыя гадамі прыціраюцца, прыглядваюцца адно да аднаго, а потым усё роўна разводзяцца. А тут у адзін дзень і пазнаёміліся, і распісаліся, і вяселле згулялі. Ды поруч у радасці і згодзе праз усё жыццё прайшлі.

## Такі лёс

Людскія лёсы раскіданы па белым свеце — у кожнага з нас ён свой.

Іван Сцяпанавіч доўгі час жыў у Літве, працаваў нарыхтоўшчыкам на прадуктовай базе. Да грошай адносіўся вельмі ашчадна — усё, што заставалася пасля неабходных расходаў, захоўваў у банку. А вось асабістае жыццё ўсё неяк не складвалася. Перабраўся ў Мінск. Уладкаваўся на працу ў транспартную арганізацыю вадзіцелем — дапамагла цётка, Клара Аркадзьеўна, якая працавала загадчыцай магазіна. Ды асаблівых намаганняў ёй гэта не каштавала — у Івана Сцяпанавіча былі вадзіцельскія правы, якія дазвалялі працаваць на вялікагрузных аўтамабілях.

Клара Аркадзьеўна, дарэчы, жанчына з цікавай біяграфіяй. У гады Вялікай Айчыннай вайны была ў падполлі, дапамагала партызанам, пакінуўшы маленькага сына ў бацькоў Івана Сцяпанавіча. Пасля вайны пэўны час працавала на ваенным заводзе, нават была ўзнагароджана ордэнам, потым — у дзяржаўных органах, а пасля выхаду на пенсію — у ветэранскай арганізацыі. Праўда, ужо на грамадскіх пачатках.

Пасляваенны час быў цяжкім, даводзілася і на рынку пастаяць. Магчымасці ў загадчыцы магазіна былі: такія-сякія прадукты яна магла пры наяўным дэфіцыце ўзяць па фіксаванай цане, а прадаць па рыначнай. Іван Сцяпанавіч таксама карыстаўся гэтай магчымасцю: браў у цёткі тавары бясплатна, а разлічваўся потым, пасля іх рэалізацыі. І ў Мінску прадаваў, і на Украіну вазіў.

Жыў, аднак, не ў цёткі, а ў інтэрнаце. А потым, таксама дзякуючы сувязям Клары Аркадзьеўны, атрымаў аднапакаёвую кватэру.

Тым не менш да цёткі адпаведнай павагі не меў. Магчыма, тут нейкую ролю адыграла і тое, што яна сына свайго сама не гадавала, а бацькам Івана Сцяпанавіча перадаручыла. Паўлік і на службу ў армію ад іх пайшоў.

Іван Сцяпанавіч на выгляд быў сімпатычным, рослым мужчынам. Праўда, з саркастычным, прыдзірлівым і скрытным характарам. Таму і з жанчынамі

ўжыцца не мог. Ды і хто з ім мог сысціся, калі той да хатняй працы не здольны — кожнай бабе санітарную кніжку паказваў: маўляў, хворы.

Аднойчы пазнаёміўся з вясковай жанчынай Верай. Ёй мужчына спадабаўся, і яна прывозіла з вёскі яму малако, тварог ды яйкі. Падумаў-падумаў Іван Сцяпанавіч і вырашыў з ёй ажаніцца. Пражылі некалькі гадоў, а дзяцей чамусьці не было. Астыў Іван Сцяпанавіч. Можа, з-за дзяцей, а можа, і проста з-за свайго цяжкага нораву. Развёўся і з кватэры сваёй выпісаў. І тут цётка дапамагла.

Пачаў сустракацца з другой — Сняжанай. Яна працавала ў прыватнай фірме, якую стварылі сын з нявесткай. У Сняжаны была свая кватэра. Іван Сцяпанавіч прапанаваў ёй гэту кватэру прадаць, а пераехаць жыць да яго. Так і зрабілі. Аднак жыццё без сюрпрызаў не бывае. У Сняжаны ў Пінску захварэла маці, і яна паехала на некаторы час яе даглядаць.

Іван Сцяпанавіч доўга сумаваць не стаў і пазнаёміўся з Кацяй. Невысокага росту, смелая. Ён паабяцаў ёй, што, дзякуючы цётцы, сваю аднапакаёўку памяняе на двушку…

Цяжка сказаць, колькі б працягваліся яго любоўныя паходжанні, калі б не бяда. Пайшоў аднойчы ён у паліклініку, а там нечакана прыхапіла сэрца. І ўсе жаданні ды надзеі абрынуліся.

Калі Івана Сцяпанавіча не стала, яго цётка Клара Аркадзьеўна прапанавала Сняжане забраць з яго кватэры свае рэчы, але тая горда адмовілася: маўляў, кахала Сцяпанавіча шчыра, а не дзеля нейкіх матэрыяльных даброт.

Пра нябожчыка ж расказвалі, што ў свой час ён працаваў нарыхтоўшчыкам, многім здатчыкам жывёлы недаплачваў грошы (заніжаў вагу). Яшчэ пазней таемна ўспаміналі, быццам у яго жыцці быў нейкі грэх. Які? Ніхто дакладна не казаў, аднак намякалі, што вялікі.

Карацей кажучы, жыццё не абхітрыш і не абскачаш, а, як у той прымаўцы гаворыцца, калісьці за ўсё заплаціш. Іван Сцяпанавіч таксама заплаціў: самым дарагім, што ў яго было, — сваім жыццём.



**Сяргей Цыплюк**

Нарадзіўся ў 1937 г. у Камянецкім раёне. Аўтар рамана «Белый свет не околица», аповесцяў «Дитя природы», «Сохатый», «Большая тайна чукчи», зборніка апавяданняў «Лестница в небо». Жыве ў Брэсце.

## Прекрасное танго любви

### Леци

— Её звали Леци. Страна, в которой она жила, маленькая, народ гордый, красивый, добрый. В молодые годы судьба забросила меня в эту страну в составе дружеского визита военных кораблей, — так начал свой рассказ Михаил Васильевич, с которым я познакомился в далёком поселке Усть-Хачкане на северо-востоке нашей страны. — Я в это время служил на корабле офицером связи. По прибытии в портовый город нас тепло встречал народ, а вечером по этому случаю готовился большой бал.

Время было смутное. И хотя к власти пришли левые силы, но многие политзаключённые томились ещё в тюрьмах. Среди них были люди, преданные революции и народу. Простые труженики встречали нас дружески, как представителей большой страны, победившей в войне с фашизмом. Благодаря этой победе и их маленькая страна стала независимой.

До вечера времени было много, и я решил познакомиться с городом. Захватив с собой фотоаппарат, отправился бродить по улицам и площадям. Мой фотоаппарат щёлкал без конца, вызывая улыбки окружающих. На одной из небольших площадей, которая вплотную примыкала к городской тюрьме, я присел на корточки и начал кормить голубей, плотным кольцом окруживших меня. Увлёкшись кормлением и воркованием птиц, отнимавших друг у друга еду, я услышал песню. Мелодия и голос меня очаровали. Нежный голос приковал меня к месту, и я боялся подняться, чтобы не нарушить, а вернее — не спугнуть прекрасное пение. Мне казалось, что стоит только пошевелиться — и пение прекратится навсегда. А голос звучал звонко и так нежно и трогательно, что я, поворачивая голову на звук песни, боялся разрушить то состояние, в котором находился. Я плохо знал английский, но песня была о любви, о радости жизни, и в то же время в ней звучала печаль, что эта жизнь уходит навсегда.

Была весна, цвели магнолии и вишни, щебетали птицы. Когда голуби поняли, что у меня кончился корм, стали стайками разлетаться. Я поднялся и посмотрел на тёмное серое здание с массивными решётками. Голос звучал из маленького окошечка третьего этажа. Пение продолжалось долго, и всё это время я стоял как зачарованный, не обращая внимания на окружающих. Одна песня сменялась другой. Потом всё стихло, оборвалось, как иногда обрывается

жизнь человека — вдруг и навсегда. Я подумал: за какие провинности такой прекрасный голос и та девушка-певунья попали за решётку?

В течение дня я ещё несколько раз появлялся на этой площади, кормил голубей, но больше никто не пел. Я уже начал думать, что это мне почудилось, но голос незнакомки словно преследовал меня и не отпускал из своего плена до самого вечера.

**Танго**

Политзаключённых уводили на расстрел обычно на рассвете. Расстреливали их за городом над обрывом на скале, после чего трупы сбрасывали в море. Потом их вылавливали в лодки и увозили километра за четыре в лес, где и сжигали. Так было всегда, и все к этому привыкли.

Казнённый человек омывал своё тело в морских волнах, после чего останки сжигали, а душа с дымом уходила в небеса. Так было и на этот раз, накануне прихода наших кораблей.

Среди тех, кого вели на берег моря, была и она, девушка с прекрасным голосом. Вины у неё не было, но, казнив её родителей, решили расстрелять и её.

Много было различных правил в тюрьме, но единственное, которое выполнялось беспрекословно, — это последнее желание заключённого. Желания были разные: одни просили сигарету, другие — передать письмо родным, некоторые отказывались вообще от всяких желаний, отводя взгляд от ненавистных тюремщиков.

Когда политзаключённых построили на тюремном дворе, начальник тюрьмы спросил о последнем желании у каждого осуждённого.

Наконец-то очередь дошла до неё, она упала на колени, подняла свои глаза к небу и стала о чём-то говорить. Желание её было необычным и странным: «Я хочу станцевать на балу с тем, кого я сама выберу, одно единственное танго — танго любви. Пусть господин начальник распорядится, чтобы мне принесли чёрное длинное платье, чёрные туфли и красную розу, помогли одеться».

Просьба была необычной, но мольба в голосе и нежность, с которой она просила, поколебали сердце тюремщика, и он уступил.

— Отвести в камеру! — распорядился он. Жизнь её продлилась ещё на одни сутки. Она знала, что расстреляют её завтра на рассвете.

Если бы не это последнее желание, её убили бы сегодня, и я никогда не услыхал бы этот волшебный голос из тюремного окошка.

Вечером того же дня для офицеров нашей эскадры был устроен приём. После официальных речей и тостов начался бал. На приёме было шумно и весело. Но вот из боковой двери в зал вошла хрупкая девушка среднего роста. Чёрное платье из шёлковой ткани облегало её тонкую фигуру, длинные чёрные волосы спадали на плечи, а голубые глаза с чёрными длинными ресницами были печальны. Её губы, словно лепестки роз, были открыты для поцелуя. С левой стороны на груди была приколота красная роза. Двое мужчин в штатском вошли вслед за девушкой и стали по обе стороны двери. Руководитель эстрадного оркестра объявил:

— Танго любви! Танцует прекрасная Леци.

Девушка прошла мимо сидящих офицеров и остановилась возле меня. Она сделала реверанс, чуть-чуть склонив голову, приглашая меня танцевать. Когда мы сделали несколько движений и выпад на па, она запела мелодию прекрасного танго любви, и знакомый голос, как током, пронзил всё моё тело. Это был голос девушки, певшей сегодня днём. Хотя слова песни были незнакомы, но столько в них было молодости, тоски и печали, ожидания несбыточной мечты, одиночества и прощания с жизнью, что я слушал, затаив дыхание. Пела она вполголоса, и лёгкость, с которой она танцевала, ритмичность движений, обаяние, молодость, гибкость её тела, близость его пьянили меня сладостной истомой так, что я, на миг забыв всё на свете, думал только о том, чтобы это танго никогда не кончалось.

— Как тебя зовут, моя богиня? — спросил я, пристально вглядываясь в её глаза.

— Леци. А тебя, мой рыцарь?

— Миша, — ответил я.

— Мишель, — переиначила она.

После этих слов она положила голову мне на плечо, и крупная слеза покатилась у неё по щеке. Она запела дальше слова песни из танго, но сейчас песня звучала только для меня.

— Мишель, это последний танец в моей жизни…

— Леци, почему ты пригласила именно меня?

— Завтра я умру, и я поверила тебе. Увидев тебя, я хочу, чтобы ты каждый год в память обо мне заказывал танго любви и танцевал с самой красивой девушкой, а после танца дарил ей красные розы.

— Клянусь! — прошептал я, находясь под обаянием красавицы. — Слово офицера! И поверь мне, богиня, что я сумею сдержать свою клятву!

Леци сняла красную розу, заколотую у неё на груди, и приколола к моему мундиру, улыбнувшись одними лишь глазами. Оркестр умолк, танец кончился.

— Прощай, Мишель! — воскликнула Леци, направляясь к выходу, потом неожиданно повернулась, подошла, несколько секунд смотрела мне в глаза, как бы убеждаясь, что я не обману её надежд, спрашивая, сдержу ли я её клятву; потом порывисто обвила своими руками мою шею и крепко поцеловала в губы. Это было так неожиданно, что зал зааплодировал. После резко и быстро отстранилась от меня, что я еле удержал её руку в своей, поднёс к губам и нежно поцеловал, оттягивая момент расставания. Она, гордо вскинув свою прекрасную голову, направилась к боковой двери. Двое штатских вышли вслед за ней. Стук её каблучков с каждым шагом отзывался в моём сердце.

Чуть позже в зале я спросил одного из офицеров национальной гвардии:

— Кто она?

— Политзаключённая, — ответил он. — Это было её последнее танго, последнее желание перед казнью. На рассвете её расстреляют.

Я, сославшись на головную боль, ушёл с бала.

## Верность

Рассвет начинался рано. Далеко на востоке красные брызги будущих солнечных лучей озарили мрачные скалы. Их было шестнадцать, кого в это раннее, ещё не начавшееся утро, последнее утро в их жизни, привели на расстрел и поставили на краю обрыва.

Леци стояла предпоследней с левого края. Взор её прекрасных девичьих глаз нежно касался далёкого небосклона на востоке, где начинался рассвет. Чёрная одежда облегала тонкую фигуру. Её бил озноб, губы дрожали, но она старалась справиться с собою, гордо вскинув голову. Полуоткрытая грудь поражала своей белизной. Офицер национальной гвардии, обходя нестройный ряд заключенных, на некоторое время остановил свой взгляд на необычной красоте Леци, а потом, резко повернувшись, отошёл в сторону и отдал конвоирам команду. Прогремел залп. Несколько заключённых, в том числе и Леци, упали с обрыва в море. После этого в её сознании ещё дважды отдавались залпы отдалённой приглушённой болью, и она потеряла сознание. Михаилу, ожидавшему на шлюпке возле скалы конца расстрела, не стоило большого труда выловить и перенести её тело в шлюпку и, пока не опомнились конвоиры, почти не касаясь вёслами воды, быстро грести в сторону военного корабля. Вахтенный матрос помог Мише перенести Леци в один из боцманских трюмов и надёжно там укрыть. Леци нужна была срочная медицинская помощь, так как, раненная в левое плечо, она постоянно теряла сознание. Миша умчался искать корабельного врача. После расстрела охрана, изрядно выпив и закусив, начала вторую часть своей работы — вылавливать трупы, грузить на баркас, отвозить их в лес, для того чтобы сжечь.

Через несколько дней на столе начальника следственного отдела лежала справка о том, что одного тела нет. Но к этому времени эскадра военных кораблей была далеко за пределами этой маленькой страны. В те немногие минуты, когда Мише удавалось побыть наедине с Леци, он не думал и не хотел думать, что ожидало его в будущем, но он твёрдо знал, что никто и ничто его не разлучит с любимой, даже смерть.

## День памяти

Солнце всходило медленно из-за горизонта. Его лучи отражались в быстрой речушке точно так же, как взгляд человека, одиноко маячившего на берегу реки. И если оно поднималось, чтобы дать жизнь всему живому на земле, то мысль человека возвращалась к прошлому, где воспоминания, без которых его жизнь, в прошлом бурная, угасала, как пламя потухшего костра.

Утренний ветер трепал его седые волосы, освежая лицо, как поток воспоминаний освежал те представления и живые образы, которые оживляли его теперешнее существование. Начинался новый день, светлый и прекрасный, но всё это было уже не для него. Сегодняшний был днём его памяти, а значит, он

поступит так же, как всегда, чтобы почтить ту единственную, которую он любил всю свою жизнь.

Каждый год в один и тот же день в поселковом клубе он заказывает танго и танцует с самой красивой девушкой. После танца дарит ей розы и уходит. Вначале это было смешно, потом привыкли, а после уже ждали, кто будет его избранница «Дама-Красная роза».

Так было и на этот раз.

Мы заканчивали строительство нового клуба в посёлке Устъ-Хачкан, что на Севере, а старый клуб нужно было снести, и мы ждали, когда разрешат это сделать.

В один из дней нам сказали, что сегодня будет последний вечер танцев, а завтра можно сносить клуб.

Вечером поселковый клуб был переполнен. Большинство на вечере составляла молодёжь из студенческого строительного отряда. Играл эстрадный ансамбль. Когда вечер был в разгаре, в зал, не привлекая особого внимания, вошёл человек среднего роста, приятной наружности. Длинные седые волосы свисали до плеч. Он был в костюме синего цвета, который аккуратно сидел на его фигуре. По залу прошёл шумок: «Михаил Васильевич!».

Кто же будет сегодня Она? Он прошёл к ансамблю и заказал танец. Руководитель объявил: «По просьбе Михаила Васильевича исполняется “Танго любви”».

Он прошел через весь зал и поклонился местной девушке, лет девятнадцати, она была узбечкой. Начался танец, плавные движения, такт и неожиданным выпадом на па. Девушка запела песню на мелодию танго на узбекском языке. Многие, зная эту девчонку как сорвиголову, которая доставляла немало хлопот неудачливым женихам, услыхали её голос впервые. Он звучал гордо и смело на незнакомом языке южанки, и танго вышло на славу.

Когда танец закончился, Михаил Васильевич преподнёс девушке букет красных роз, поклонился и вышел из клуба. Все зааплодировали.

Он ушёл на берег быстрой реки и там простоял в одиночестве до рассвета. О чём думал этот человек, никто не знал, как не знали его души и сердца. Жил он один и мало с кем общался. О нём известно было только то, что он вольнопоселенец и на всю жизнь приписан к этому посёлку. Его уважали за хорошее обращение с людьми и честное отношение к своей работе.

Утром я увидел одиноко маячившую фигуру на берегу реки и пошел навстречу. Было ещё очень рано, мы с ним разговорились, мне не терпелось узнать о дальнейшей судьбе Леци, но я чувствовал себя неловко и ждал, когда он продолжит свой рассказ.

— Леци была ещё очень слаба, и перевезти её на берег было очень трудно. Но мне повезло. За помпой торжественных встреч в Севастополе, за шумихой и допуском родных и близких на военные корабли это удалось. Был воскресный день.

Я взял отпуск на две недели и незаметно, вместе с толпой, сошёл с корабля. Леци сошла раньше и ждала меня на набережной.

Мы взяли такси и отправились в Осетию. Там в одном из посёлков купили маленький домик. Возле домика рос небольшой сад, и на клумбе росли цветы. Леци сказала тогда: «Я буду выращивать красные розы и встречать тебя со службы с букетом». Две недели прошли как один день. Лунная ночь дышала морской прохладой. Мы сидели на камне на берегу моря, прижавшись друг к другу. Говорили о будущем, оно казалось радостным и беззаботным.

А получилось всё наоборот. Измена ударила жестоко кинжалом в грудь. Мой друг — матрос Виктор, помощник в моих делах, — не выдержал пытки и выдал меня с головой. Я был осуждён и отправлен на Колыму в посёлок Устъ-Хачкан на пожизненное поселение. Жизнь прошла здесь без неё. Я исчез из её жизни, даже не попрощавшись. В душе моей горько, её босые ножки прокладывают след по тропинке без меня. За двадцать лет ни одной весточки, ни одного слова. Только память, память и клятва верности — это всё, что нас связывает.

Я стоял рядом и завидовал этому человеку. Человеку, не сломившемуся перед жестокой судьбой, человеку, через всю жизнь пронёсшему верность своей чистой любви.

Попрощавшись с Михаилом Васильевичем, я ушёл, так как начинался новый рабочий день, и не знал, что это последняя наша встреча. Вскоре, закончив работы, сняв студенческие палатки и свой белорусский флаг, мы уехали домой. Начинался новый учебный год.

**Эпилог**

Прошло два года. Шёл рейсовый автобус по Магаданской трассе. Вдруг на весь автобус прозвучало объявление: «Граждане, в нашем автобусе едет строитель-белорус. Какой это замечательный человек, жемчужина Колымского края. Поаплодируем ему». Люди начали дружно аплодировать, в том числе и я, не зная, к кому относятся эти слова. Вдруг ко мне подошёл бывший бульдозерист по кличке Сталинский Сокол. Не знаю, что в нём соколиного, но помню, что он работал у нас на строительной площадке и в течение месяца угробил новый бульдозер, за что и был уволен с прииска. Мы пожали друг другу руки.

— Зачем этот цирк? — спросил я.

— Пусть все знают, какие люди работают на Колыме, — ответил он.

За этим шумом я пропустил свою остановку Усть-Хачкан. Проехав километров десять, автобус остановился. Водитель объявил: «Остановка на полчаса». Пройдя метров сто от трассы, я увидел могилу, убранную красными розами. Возле могилы сидела женщина, вся в чёрной одежде. Я подошёл поближе и на табличке прочел: «Здесь покоится тело и душа замечательного человека Снежко Михаила Васильевича».

— Вы Леци? — спросил я у женщины.

Она подняла лицо, и я по рассказам Михаила Васильевича понял, что это она.

— Вот и свиделась со своим суженым. Только он там, а я здесь. Господи, прими душу этого человека. Человека чистого, непорочного, доброго и всеми любимого. Пусть ангелы охраняют его вечно.

Я поклонился праху и поцеловал ручку Леци.

— Прощайте!

И я со слезами на глазах подошёл к автобусу.

— Кто это? — спросили меня.

— Русская женщина, хотя по национальности албанка. Настоящая русская женщина, каких много на Руси.

Мы сели в автобус и поехали дальше по своему маршруту. Молодые люди, если вам придётся быть в ресторане, кафе или других увеселительных заведениях, закажите оркестру албанское танго и даме, которая станцует с вами, подарите красную розу. Это будет лучшей памятью о вечной любви и верности.



## Мікола Пашкевіч

Нарадзіўся 5 ліпеня 1958 г. у в. Рубель Столінскага раёна. Вучыўся ў Рубельскай сярэдняй школе (1965–1975), служыў у войску (1976–1978). Закончыў філалагічны факультэт і завочна аспірантуру Брэсцкага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. З 1988 г. працаваў на кафедры беларускага мовазнаўства, з 2013 па 2014 г. — на кафедры журналістыкі Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна. Асноўныя працы: «Рыторыка: метадычныя рэкамендацыі» (2004); дапаможнік «Рыторыка: практыкум для філалагічных спецыяльнасцей універсітэтата» (2006); вучэбна-метадычныя дапаможнікі «Праца з тэкстам на ўроках беларускай мовы» (1993; у суаўтарстве), «Праблемы транслінгвістыкі» (2010); «Рубельскі лексіка-фразеалагічны слоўнік»; кнігі «У родным слове адгукаецца душа…» (2012), «Вера» (2014).

### Рэха

Маці робіць шырокія мазкі квачом, старанна забівае пабелку ў шчыліны паміж дошкамі і бэлькамі. З кожным рухам мамінай рукі столь абнаўляецца, святлее і пакой, здаецца, становіцца вышэйшым. У чарговы раз маці абмоквае квач у пабелку. Я з цікавасцю гляджу на матчын твар: ён усыпаны белымі «вяснушкамі».

— Ма, ты ў побелцы.

— Нічого, помыюса. Буду і я чыстая, і хата хорошчая стане.

Маці зноў увішна адбельвае дошкі і бэлькі. Нарэшце, як спрактыкаваны мастак, наносіць апошнія мазкі на столь.

— От і ўсё, — з палёгкай прамаўляе яна і, яшчэ раз ацаніўшы сваю працу, дадае: — Столя чысценькая.

Я эмацыйна далучаюся да матчынай высновы і спрабую пачуць рэха свайго голасу ў амаль пустым пакоі.

— А-а-а! — коратка і адрывіста выгукваю я.

— Годзі «акаў», — незласліва кажа маці. — Лепш пыдсунь слончыка до стола, шчоб я могла злесці.

Я з радасцю адгукаюся на просьбу і па-даросламу, клапатліва перасцерагаю дарагога мне чалавека:

— Ма, осцерожно — не ўпадзі.

Маці, задаволеная клопатам «памочніка», звяртаецца да мяне:

— Ну, то подай мне руку, бо, і праўда, можна выдоўжыцца на пыдлозі…

І праз дзесяцігоддзі чую тое рэха…

Чыста ў бацькоўскай хаце, і хораша на душы…

## З людзей людзі…

Няспешна іду па вуліцы роднай вёскі, гляджу на звыклыя для маіх вачэй краявіды…

Насустрач тупае з кіёчкам жанчына. Наблізіўшыся да мяне, старая запаволіла хаду, а праз момант увогуле спынілася, чакаючы незнаёмца.

Я прыязна, паважліва вітаюся з жанчынай:

— Добры дзень, цётко Лена!

— Дзень добры, — адказвае старая і пачынае сваімі выцвілымі вачамі пільна ўглядацца ў мой твар.

Разумею засяроджаны погляд бабулі: хоча пазнаць мяне, даведацца, чый гэто чоловек. Раблю выгляд, што не заўважаю бабуліну заклапочанасць, і цікаўлюся:

— Як пожываеце?

Твар жанчыны ажывіўся, яна ветліва адгукнулася на маю зацікаўленасць:

— Дзякаваць Богу. Жыву помаленьку. Ногі слабоватые, але шчэ носяць…

Не стрымліваюся, удакладняю:

— Цётко, а вы познаеце мэне?

— Чому ж не познаю… — неяк няпэўна, не жадаючы прызнацца ў сваёй бездапаможнасці, адказвае старая.

Дагэтуль яна добара ведала мяне. Але памяць стала падводзіць стомленую гадамі жанчыну…

Яшчэ нейкі момант — і нарэшце старая знайшлася, што адказаць на маё пытанне:

— А як жэ я цебэ не знаю: то ж з людзей людзі…

Прыемна здзівіўся: вось яна, народная дыпламатыя… Жанчына і сама не асаромілася, і суразмоўцу пахваліла.

## Яка доля…

Бабка Оля, па мянушцы Комуліха, як і многія жанчыны шаноўнага веку, бліжэй да вечара ў будзённы дзень ці ў нядзелю любіла летам пасядзець на лаўцы, што прытулілася да сцяны хлява, які ганарліва выпінаўся тарцавым бокам на нешырокую вуліцу. Вядома ж, на дварэ куды вальней, чым у хаце, ды і навінаў дачакаешся хутчэй.

Вяскоўцы паважалі бабу Олю, не абміналі яе сваёй увагай…

— Добры вэчор, цётко Оле! Доброго здороўечка вам!

— Дзякаваць, дзецятко! І тобе хай Бог здороўя дае!..

На банальнае пытанне «Як, бабо, пожываеце?» доўгажыхарка разважліва адказвала:

— А шчо ты, дзецятко, не знаеш, як я жыву?.. Жыву, як Бог дае…

Потым, унутрана засяродзіўшыся на сваіх думках, рабіла філасофскае padагульненне пражытаму, перажытаму:

— Яка доля, така і воля; яка жытка, така і бытка…

## Які сам…

— Чула? Андрэёў сын жэніцца…
— Шчо ты кажэш… А чыю ж вон будзе браць?
— Кажуць, шчо до Любіной дочкі пойдзе ў сваты.
— То ж вона нека нехорузна. Мог бы і хорошчую собе выбраць дзеўку.
— А вон які? Чого ему пэрэбіраць дзёўкамі…
— Мо і праўда: які сам, такі і крам…

## Золак у Рублі

Золак.

Хата. Акно. Касцёр дроў. Плот. Дарога. За ёю нябачная маім вачам рака Чаква. Толькі віднеецца мост, які пасля начной дрымоты гатовы зноў увесь дзень трываць на сваіх плячах цяжар вясковых турбот.

Скрозь шэрань праступаюць сінія купалы Успенскай і Свята-Міхайлаўскай цэркваў.

Няспешна ажываюць вокны хат: яркае святло лямпачак пакуль мае перавагу над дзённым святлом, якое хутка падыме ўсіх вяскоўцаў на ногі.

На дарозе паяўляецца фурманка. Конь мерна цокае па асфальце, некуды вязе свайго ранняга гаспадара. Гэтае гулкае цоканне ў яшчэ соннай вёсцы здаецца своеасаблівай пабудкай: маўляў, людзі, хопіць спаць — пара ўжо ўставаць, зямнымі клопатамі дзень пачынаць…

Добрага дня табе, мой Рубель!



**М а р ы я   Я к і м у к**

Нарадзілася ў в. Ліпінкі Брэсцкага раёна. Скончыла Брэсцкі педагагічны інстытут, працавала настаўніцай пачатковых класаў. Аўтар некалькіх паэтычных і празаічных кніг. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў вёсцы Кавярдзякі Брэсцкага раёна.

## Як мужык ехаў на базар

Будзільнік зазвінеў пасярод ночы. Гаспадар хуценька сабраўся, паклаў у торбачку лусту хлеба і шматок сала, запрог коніка, паставіў скрыню з парасятамі на воз і паехаў на рынак.

Дарога няблізкая, таму і выехаў ноччу, каб раніцай быць на месцы. Седзячы на возе, каб бавіць час, нешта мармытаў сабе пад нос, драмаў. Дарога праходзіла ля могілак. Людзі казалі, што ў гэтым месцы як-калі нешта лякае, але чалавек, праязджаючы міма, нічога асаблівага не заўважаў. Вакол стаяла цішыня.

Раптам нешта грукнула, бы ўпала з воза. Конік заіржаў і панёс. Мужчына ўспомніў і адразу ж пашкадаваў, што каня не закілзаў. Цягнуў за лейцы, імкнуўся стрымаць яго. А той імчаў з усіх капытоў. Кідаўся з боку ў бок. Некалькі разоў, як яму здалося, фурманка разварочвалася на лузе, але не перакулілася.

Урэшце конік стаміўся і сцішыў бег. Наперадзе паказаліся хаты. «Але куды гэта мяне занесла?» — занепакоіўся фурман. Угледзеўшыся, мужчына пазнаў сваю родную вёску і развярнуся. Спыніў і закілзаў каня.

На гэты раз каля могілак ён злез з воза і ўзяў каня за аброць. Ступіў усяго некалькі крокаў і на нешта натыкнуўся… Пачуўся парасячы віск. Мужчына дастаў з кішэні і ўключыў ліхтарык, убачыў парасятка і давай яго лавіць. Зачапіўся за нейкі камень, расцягнуўся прама на дарозе. Ляжыць задыханы.

А тое падбегла і пачало тыкацца яму ў твар. Злаўчыўся і ўхапіў парася за нагу — малое крычыць, вырываецца. Адчыніў чалавек скрыню, запіхнуў туды ўцекача, сеў на воз і паехаў. Едзе, а сам сабе кумекае: «Як парася магло выскачыць, калі скрыня была зачынена на зашчапку?» І выспявае здагадка: «А мо гэта не маё?»

На рынку пакупнікоў было многа, таму гаспадар хутка прадаў парасят, засталося толькі тое, што знайшоў ля могілак. А яно такое ладненькае, хвосцік кручком, вочкі бліскучыя — як намаляванае.

Вось і пакупнік падышоў, пачаў прыцэньвацца. Хутка дамовіліся, гандляр пералічыў грошы, разважыў: «Калі знойдзецца гаспадар, аддам грошы, але без магарычу не абыдзецца. А не дык не».

На зваротным шляху на пад’ездзе да могілак мужчына загадзя злез з воза і павёў каня за аброць. Конік зрабіў з дзясятак крокаў, стаў — і ні з месца. І цягнуў яго, і прасіў, і бізуном замахнуўся, стаіць — і ўсё. Што ж рабіць?

Тут мужчына ўспомніў: старыя людзі ў такіх выпадках раілі абысці каня з малітваю і перахрысціць перад ім дарогу. Так і зрабіў. І вось дзіва — конь пайшоў. Дадому чалавек даехаў спакойна ды ў добрым настроі.

# КАЛЯРОВАЯ КАРОВА



Я ў г е н   Б я л а с і н

## Расказкі дзядзькі Жам-жамяровіча У-носе-закалупай-дзірку*

**Расказка 6**
**Пра травінку Мальвінку**

Аднойчы я са сваёй дачушкай Аленай ішоў сабе так па адной старой вуліцы. Нічога сур'ёзнага мы рабіць не збіраліся, шпацыравалі папросту. Старыя дам*ы* былі з тоўстымі сценамі і невялікімі вокнамі. Месцамі сцены парэпаліся, дождж вымыў з іх тынкоўку, і часам у шчылінах бачны быў мур. У адным месцы Алена прыкмеціла зялёную травінку. Вытыркалася тая з прамыіны ў сцяне каля падмурка. Відаць, вецер нанёс туды пылу, і карэньчыкам травінкі, хоць яны і цягнуліся ва ўсе бакі несхавана, бы пальцы, перападала-такі нейкая спажыва. Травінка была падобная да альпініста, які досыць высока забраўся па стромкай гары ды вось засеў у разломе і ні на вяршыню не можа падняцца, ні апусціцца да сваіх.

— Што гэта? — спыталася Алена. Я прыгледзеўся. Травінка была незвычайная. У яе акрэсліваліся малюпасенькія паўкруглыя мясістыя лісцікі. Нешта знаёмае было гэта, але пэўна адказаць я не мог.

— Яшчэ маладая. Не ведаю. Падрасце, бачна будзе.

— А чаму яна тут расце? — пацікавілася малая. — Тут жа нядобра — на сцяне!

— Сюды занёс яе вецер, калі яна яшчэ семечкам была. А што нядобра — дык гэта факт. Але пайсці дзе лепш, яна не можа, — адказаў я.

— А ці вырасце вялікая? — дапытвалася цікаўная дачушка.

— Хто яе ведае. Паглядзім. Праз месяц.

---

* Працяг. Пачатак у «Жырандолі» № 9.

Праз пару тыдняў надарылася нам зноў быць разам на той вуліцы. Падышлі мы да дома з травінкай — а тая бачная здалёк! Выстраліла ўгару, ушыр, але выглядала блага, была тонкая ды бляклая. Цяпер я апазнаў травінку. Гэта была кветка мальва. Як гузічкі, абапал сцябла туга сядзелі пад лісцікамі нераскрытыя кветачкі.

— На днях мальва зацвіце, — прыкінуў я ўслых.
— Гэта не мальва, — запярэчыла дачка.
— Але ж ты і разумная! Разумнейшая ад бацькі! Калі гэта не мальва, дык што гэта, па-твойму?
— Мальвінка! — Алена не раздумвала доўга.
— Сказала як прышыла! — мусіў даць ёй згоду.

— Хачу такую ж кветку. Хачу Мальвінку, — папрасіла маленькая ў наступную нашу праходку. Мальва сапраўды зацвіла. Кветкі былі фіялетавага колеру.
Гэта мой любімы колер. Прызнаюся, што і мне захацелася мець фіялетавыя мальвы. Але не разбураць жа дзеля гэтага сцяну дома!
— Мы зробім хітрэй, — вырашыў я. — Прыйдзем потым. А пакуль зачаруем кветку ў нябачнасць.
— Дык ты чараўнік? — здзівілася Алена.
— Нейкім чынам, — часткова пагадзіўся я. — Глядзі і вучыся.
Я ўзяў з кучы металалому ў двары жоўтую бляху з чорнай ламанай стралой і надпісам «НЕ КАПАЦЬ! ЗАБ’Е!» і закрыў прамыіну ў сцяне ды кветку.

Праз два тыдні Мальвінка адцвіла. Фіялетавыя пялёсткі апалі, і зноў засталіся колішнія гузікі, толькі сухія. Мы іх абарвалі, высушылі, і налета з гэтага насення ў кветніку пры нашым лецішчы выраслі цудоўныя фіялетавыя мальвы. Цэлае лета Алёнка іх даглядала: рыхліла зямлю, падсыпала курынага памёту, палівала, прапалвала ад пустазелля. Выраслі мальвы аж у тры метры вышынёй і цвілі да самых маразоў.
Цяпер, дзятва, ці зразумела вам, чаму Мальвінка расла, нягледзячы на цяжкае, кепскае жыццё ў трэшчыне на сцяне?
Яна дала жыццё другім, — пражыла хоць цяжка, але не марна. А вам, пэўна, жывецца лепш, чым Мальвінцы? Дык будзьце здаровыя, і да наступнага разу.

## Расказка 7
## Пра вожыка і вужыка

Бачыў ты хоць раз вожыка? Шарык такі калючы коціцца, лапкі знізу ледзьве відаць. Пра аднаго з іх сённяшняя расказка.
Клікалі гэтага вожыка Шурыкам за тое, што ён увесь час шураваў-шнураваў то туды, то сюды. Рухавы быў такі мячык, зацяты ў працы. Вожыкі ўсе вялікія працаўнікі; яны і называюцца вожыкі, ведаеце, драбяза, чаму? Бо возяць увесь час нешта на сваіх калючках, то лістоту ў гняздо, то яблыкі малым дзеткам.

Аднойчы Шурык прагаладаўся і выйшаў на паляванне. А ядуць вожыкі мышэй ды змей. Гэтым разам злавіў вожык ля балотца вужа. А той пачаў прасіцца: «Вожык-вожык, пусці мяне дахаты, я табе паслужу!» Вожык адказвае: «Як жа я цябе пушчу, фух-фух. Сам галодны, і мае дзеці плачуць з голаду». А вуж яму ў адказ: «Як жа ты мяне будзеш есці? Мы ж амаль сваякі. Ты — вожык, а я — вужык». Шурык рагатнуў нават крыху, настолькі нечаканымі былі словы вузкага гэтага ды доўгага чарвяка. Дапраўды, якія яны сваякі? Вожык — звярок на лапках, круглы, бы мяч, а вуж — паўзун, доўгі, бы стужка. Але адказ яму спадабаўся. Адпусціў ён вужыка. Праз паўгадзіны злавіў мыш, ёю і здаволіўся.

Праз месяц бег вожык па сваіх справах, а яму насустрач ліс. Заступіў вожыку дарогу. Быў ліс галодны, як воўк або нават як мядзведзь, і вырашыў з'есці вожыка. Але той скруціўся ў клубок і натапырыў іголкі. Толькі ліс кране вожыка пашчай, а той як заварушыць іголкамі, як зафукае: «Я вожык, я вожык, голкі вострыя, бы ножык!» Ліс і так, і сяк — няўдача. Поўны правал. Але нездарма славіцца ліс хітрасцю пракаветнай. Давай ён каціць вожыка па сцежцы. Прыкаціў да азярка і запіхаў у ваду. Мусова вожыку раскрывацца: вада дыхаць не дае. А лісу толькі таго і трэба: хапае Шурыка вострымі зубамі.

Як тут раптам нейкая галоўка маленькая на доўгай шыі паднялася з вады, зяпка адкрылася, адтуль высунуўся двайны язык. «Гадзюка!» — жахнуўся ліс. Маленькая галоўка на доўгай шыі захадзіла пагрозліва туды-сюды, грозны плывун-паўзун пачаў сыкаць. Ліса ахапіў жах, ён падабраў хваста і ўцёк. А вожык, паранены, але жывы, выграбся да берага і лёг аддыхацца.

Выпаўз з вады і грозны гад. Вожыкаў паўзуны баяцца, але гэты дык вось не. Прыглядзеўся Шурык — і пазнаў колішняга вужыка!

Справа ў тым, што вужа цяжка адрозніць ад гадзюкі. У той узор крыху не такі на спіне, галава іншага крыху колеру і формы. Згадаў вожык першую іх сустрэчу і падумаў: «Сапраўды, паслужыў мне вужык! Выратаваў жыццё».

А ты можаш адрозніць вужа ад гадзюкі? Чым яна небяспечная для чалавека? А чым карысная? Схадзі з татам у заапарк або ў краязнаўчы музей. Ён навучыць.

А цяпер бывайце здаровенькія, шчаслівенькія ды смяшлівенькія. Да наступнага разу.

**Расказка 8**
**Пра хлопчыка небаяку**

Міхаська з татам пайшлі ў лазню. Пры той у двары ляжалі цурбалкі, іншыя дык і надта вялікія.

— Як называецца гэтае дрэва? — пытае малы.

— Вольха, — адказвае тата.

— А гэтае?

— Бяроза.

— А гэтыя дзіравыя?

— То не дзіравыя — дуплістыя, — тлумачыць тата. — Асіна гэта. У камля ўнутры выгніла дупло.

— А чаму ўсе не дуплістыя, а асіны дуплістыя? — дапытваецца хлопчык.

Тата крыху задумаўся, а потым знайшоўся:

— Вось прыйдзем у лазню, і, пакуль будзем распранацца, я табе ўсё раскажу.

У лазні тата пачаў:

— Усе дрэвы як дрэвы, а асіна не такая. Чуць вецер павее — дрыжыць уся, аж калоціцца. Гэта ад страху. Спачатку малая дрыжыць, баіцца, што вялікія дрэвы не дадуць ёй святла і зачэзне, змарнее яна ўнізе. Потым, калі выцягнецца, мала не вышэй за ўсіх, зноў дрыжыць-калоціцца, што затонкая. Што можа сагнуцца пасярэдзіне, трэснуць.

Тата ўжо ў споднім, а ў Міхаські і да футболкі справе не дайшла — разгапіў рот, слухае. Тата дапамагае сцягнуць апранашку і працягвае:

— Дык вось, калі асіна пастарэе, заімшэе ўжо, усё адно ліхаманка яе бярэ. Маўляў, а як жа такой высокай — у навальніцу пярун толькі такіх і шукае. Уперыць і раструшчыць на трэскі! Яно і праўда, вады ў асіне, а мо хіба слёз, багата. Драўніна сырая, колкая, да сякеры падатлівая, пра гром не кажы. Калі гарыць, жару куды як менш дае за бярозу нават, пра хвойку або дуб і гутаркі няма. Можа, ад гэтай баязлівасці спракаветнай і выгнівае ў асінкі сэрца, дупліцца нутро.

Тата змоўк. Міхаська скідае майку, трусікі, думае. А тата працягвае асветніцтва сваё лазеннае:

— Вось сёння асінай палілі, і па́ры, напэўна, не будзе.

— А чаму хвойкамі не паляць? Што, іх мала хіба? — цікавіцца хлопчык.

— Найперш таму, што хвойка — спраўная драўніна, — з выглядам прафесара кажа тата. — З яе робяць дошкі, з дошак спраўляюць мэблю, падлогу, вокны, дзверы. Сталярка лепшая з масіву, чым з ДСП — драўнінна-стружкавай пліты. Гэта прасаваныя апілкі, склееныя хіміяй, смярдзючыя. — Тата хвілю маўчыць, потым дадае: — І з-за смалы яшчэ, мабыць. Смольныя дровы гараць інакш, больш дымныя, дым іх едкі…

Пасля яшчэ адной кароткай паўзы ён з задаволеным выглядам майстра лектарскага жанру ставіць кропку:

— Што да мэблі і падлогі, то пра асіну не кажам увогуле — яна не трымае форму, карабаціцца. Таму хвойка. А за хвойку лепшы толькі дуб.

Бацька і сын распрануліся і пайшлі ў парыльню. Міхаська доўга не парыцца, таму што ён малы, да таго ж баіцца. Вось і сёння ён гундосіць:

— Та-ту, я не хачу бо-олей… Та-ту, ба-а-ю-у-ся…

Тут хлопчыка працінае імгненная здагадка. Ён адразу вяртаецца са стану кісялю ў норму і хутка кажа:

— Тата, а я не выгнію знутры ад таго, што баюся?

Тата смяецца:

— Можа быць, можа быць…

Па дарозе дахаты Міхаська паведамляе:

— Тата, я вырашыў не баяцца.

І ён у першы раз не плача, калі да яго кідаецца з брэхам сабака ад дома ў суседнім завулку. Малы не трымціць і не спрабуе схавацца за тату, а чыніць так,

як той яго вучыў: нагінаецца і робіць выгляд, быццам падбірае камень. Сабака палохаецца і, падцяўшы хвост, трухае назад у двор.

### Расказка 9
### Каханне аўтамабіляў

Добры вечар, дзяўчынкі і хлопчыкі! Вось мы ізноў разам. Ма́ю сёння ў сваім мяху расказку пра зусім мёртвыя, здавалася б, рэчы. Але дзе там! Нізашто не паверыў бы, каб сам не падслухаў гэтую гісторыю, гісторыю кахання аўтамабіляў, у адной паважанай старой «Таёты». Дык слухайце і вы.

Найперш, каб ты машыны далей не блытаў: якія маркі аўтамабіляў ты ведаеш? Так, «Аўдзі». Вядома, найперш «Мерседэс». Прымаецца, «Волга». Ёсць такія, «Жыгулі», «Фіат», «Опель», «Масквіч». «Міцубісі», кажаш? Правільна будзе «Міцубішы», але кажуць і так. «Міцубішы Лансэр». «Пежо», «Рэно» і нават «Шкода». А грузавыя, як у цябе з грузавымі? «МАЗ». Правільна. І «Мерседэс» бывае грузавы, калі фура. «КамАЗ»? Ёсць такая марка. А найцяжэзныя? Не ведаеце? «БелАЗ». Расшыфроўваецца «Беларускі аўтамабільны завод». А ў чым розніца паміж «МАЗам» і «КамАЗам»? Вось у Петручка бацька шафёр, дык ён ведае. «МАЗы» выпускаюцца ў Беларусі, у Мінску, а «КамАЗы» ў Расіі, ля ракі Камы. Ад нас туды дзве тысячы кіламетраў.

Дык вось, старая «Таёта» стаяла аднойчы ля шашы і прыкмячала, якія машыны па ёй едуць. Ехалі ўсё вядомыя маркі, пакуль нарэшце «Таёта» не ўбачыла ў першы раз Яе, «Аіну». «Аіна» была надзвычай прыгожая легкавая машына. Так назваў яе Канструктар у гонар сваёй дачушкі, вашага, дзеткі, раўналетка. І выпрасіў Канструктар у Дзяржаўтаіспекцыі нумар з літарамі КР, так што ззаду лёгка чыталася КР — АІНА, краіна, а на шыбе ззаду літара «**B**» ў кружочку. Гэта значыць, BELARUS, але па-англійску — англійская літара **B** пішацца як беларускае «В».

Справа ў тым, што Канструктар часта ездзіў за мяжу, і яму хацелася, каб яго землякі там лягчэй прызнаць маглі. Так яно, дарэчы, і здаралася. Потым. Але цяпер здарылася іншае. Машына заглохла. Сур'ёзна зламалася. Канструктар «прагаласаваў» — падняў руку ўверх і насустрач нейкаму «МАЗу». Той спыніўся. «Аіну» прычапілі на трос і пацягнулі ў гараж. Магутны «МАЗ» вельмі спадабаўся «Аіне». Ён так лёгка і далікатна даімчаў яе куды трэба! Калі «МАЗ» паехаў, «Аіне» было самотна і нецікава. Хутка яна зразумела, што… закахалася ў грузавік!

Неўзабаве «Аіну» падлячылі, і яна борздзенька ездзіла па вуліцах. Але каханага «МАЗа» яна больш не сустракала. Ён у той час цяжка працаваў у кар'еры, вазіў пясок.

Аднойчы на шашы «Аіна» здалёк пазнала «МАЗа». І ён яе пазнаў і весела замігаў фарамі. «Аіна» так узрадавалася, што страціла кантроль над сабой. Ёй так захацелася сустрэцца з каханым, што легкавушка выехала на сустрэчную паласу дарогі. Завішчалі тармазы, але было запозна. Машыны сутыкнуліся. Аўтамабілям сустракацца няможна. «Аіна» пра гэта забылася і — такая

бяда! — забілася! Перастаў біцца сэрца-матор, твар у машыны пакамечыўся, з радыятара выцекла вада. «МАЗу» нічога не было: ён цяжкі. Што яму нейкая легкавушка! Але яму было вельмі цяжка і крыўдна, бо і ён, — так, дзеткі, — і ён закахаўся ў «Аіну»!

Абедзве машыны зацягнулі ў Дзяржаўную аўтаінспекцыю на пляцоўку аварыйных аўтамабіляў. «Аіну» не хацелі аднаўляць, бо не было запчастак. Але «МАЗ» прыдумаў план, і ён удаўся, таму што ўсе добрыя планы рана ці позна спраўджваюцца. Ён зрабіў выгляд, што зусім сапсаваўся. Яго здалі на металалом, завезлі на ліцейны завод і там пераплавілі на метал. Прадпрымальнікі нарабілі з таго металу запчастак да легкавушак, і «Аіну» аднавілі. Яна зноў ажыла ды весела бегае па дарогах і сёння. Яна ведае, што яе каханы «МАЗ» жыве надалей у ёй. Спраўдзілася яе каханне. Пра гэта яна, шчаслівая, распавядае тым, хто на паркоўцы стаіць побач. Так гэтую гісторыю пачула старая «Таёта»; ад яе пачуў гісторыю кахання «Аіны» і «МАЗа» я. А хто наступны ў гэтай чарзе? Правільна, дзеткі, вы. Дык перадайце гэтую гісторыю далей, раскажыце яе вашым татам і мамам, брацікам і сястрычкам.

А мне пара ісці збіраць новыя гісторыі. Бывайце, і да наступнага разу.

**Расказка 10**
**Чаму тралейбусы плачуць**

Ці бачылі вы, дзеці, як ноччу кладуцца спаць тралейбусы? Тушаць фары, складваюць на дах свае рукі, якімі трымаюцца за правады, — людзям зусім нельга, поўная забарона, бо драты б’юць токам насмерць, а тралейбусам дык вось трэба, каб ехаць — яны адтуль сілкуюцца. Потым гэтыя моцныя машыны заміраюць, прыткнуўшыся ля бардзюра дзе-небудзь пад дрэвамі.

Аднойчы так сама ўладкаваўся ля майго акна новы вішнёвы тралейбус нумар 5. Ён зусім ужо быў заціх, але раптам падкаціла шыкоўная маршруткатаксічка і прыпаркавалася перад тралейбусам. Тралейбус ніколі яшчэ не бачыў такой зграбнай машынкі. Ён сабраў рэшту току ў сілавіку і запаліў фары. Выдатная постаць! Якія абводы! Якая новая, прыгожая фарба! Але сілы ўсе выйшлі, і тралейбус праваліўся ў глыбокую спячку.

Ранкам яны прачнуліся разам. Тралейбус, не доўга думаючы, прапанаваў таксічцы: «Давай сябраваць!» Тая развярнулася, паглядзела на яго і з пагардай сказала: «Фі, звычайны тралейбусяка… Боўдзіла гарадское. Боўдаешся па горадзе сюды-туды. А выехаць з яго пэнду няма. Спыняешся праз кожныя сто метраў, папіхач няшчасны. А я не тое што міжгародняя — бяры вышэй, я міжнародная!»

Тут у таксічку селі нейкія мажныя паны, яна рэзка ўзяла з месца і знікла.

А тралейбус застаўся стаяць, засмучоны. Пайшоў дождж. Гэта было тралейбусу пад настрой. Ён заплакаў ды так вось і ехаў па горадзе. Слёзы беглі па ягоных шыбах, ён нязграбна выціраў, а болей размазваў іх па твары.

Назаўтра надарылася ў тралейбусным парку забастоўка. Вадзіцелі патрабавалі, каб у тралейбусах для іхніх пасажыраў наладзілі продаж праязных та-

лонаў, бо талоны цяжка было купіць, і шмат хто ездзіў без аплаты, «зайцам». Адпаведна, тралейбуснай фірме мала паступала грошай, і заработная плата ў вадзіцеляў была мізэрная.

Цэлы дзень тралейбус разгублена прастаяў ля выезду з парка. Шмат хто з людзей не трапіў на работу. Таксічку перавялі з міжнароднага маршрута на горад, і ад перагрузкі яна пад вечар зламалася.

Таксічкін дом, гараж адным словам, быў якраз каля тралейбуснай лініі. Панад плотам высокі тралейбус бачыў ганарлівую бядачку. Стаяла тая пасярод двара на жалезных падстаўках, бо апала на ногі і ёй іх зусім аднялі. Тралейбус не радаваўся нядобразычліва гору той, якая яго так балюча абразіла ў час першай сустрэчы. Зусім наадварот, ён плакаў усімі шыбамі, калі ішоў дождж, і плакаў знутры, асабліва калі было многа людзей. Хацеў, каб як мага больш людзей бачылі, што ён спачувае бядзе маршруткі.

А ты бачыў хоць раз, як коцяцца пярлінамі па сценках тралейбусаў слёзы? А можа, твой тата працуе ў гаражы? Прасі яго, няхай хутчэй адрамантуе таксічку, можа, яны-такі пасябруюць з тралейбусам. Які ягоны нумар? Правільна, пяць. А цяпер ідзі спаць. Да наступнага разу.

## Мікола Пашкевіч

### Сонейка

Расплюшчыла сонейка вочы:
Няма ўжо на вуліцы ночы.
Хутчэй узнялося на неба:
Зямлю саграваць яму трэба.

### Пчолкі

На беленькіх кветачках вішань
Пчолкі працуюць увішна,
Збіраюць салодкі нектар —
Удзячны ім будзе пчаляр.

### Вожык

На спінцы ў вожыка — калючкі;
Яго не гладзь: параніш ручкі.
Лепш паглядзі, як ён ідзе
І дзетак за сабой вядзе.

### Кабачок

На градцы ляжыць кабачок
І грэе на сонцы бачок.
Вырасце жоўты цукіні —
Трапіць на стол гаспадыні.

### Кроп

Развесіў свае парасоны
На тоненькіх дубчыках кроп,
Нібы веліканы-вазоны
Запоўнілі наш агарод.

## Гарох

Разросся кудлаты гарох —
На градцы разлёгся, бы мох.
Сталі цяжкія ў гароху стручкі:
Тырчаць, як на дрэве сучкі.
Зрываю зялёны стручок:
Гарошынак — поўны дамок.

## Сланечнік

Ці птушка зярнятка згубіла,
А можа, знарок пасадзіла,
Яго у маім агародзе.
І сталася цуда ў прыродзе:
Вырас дзівосны сланечнік —
Магутнага сонца падсвечнік.

## Камарык і Жэнька

Камарык звініць і злуецца:
Ніяк ушчыпнуць не ўдаецца
За ручку рухавага Жэньку:
То радасна хлопчык смяецца,
То возьме пясочак у жменьку
І сыпле яго у вядзерца.
То весела Жэнька заскача,
То раптам спаткнецца,
заплача…
Стаміўся камарык кружыцца,
Ужо не звініць, а журыцца,
Няма болей моцы лятаць —
Ён стаў на лісточку драмаць.



**Н а т а л л я   К у х л і ч**

Нарадзілася ў 1980 г. у г. Камянцы. У 2002 г. скончыла факультэт нямецкай мовы Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта, у 2003 г. — магістратуру (там жа). З 2004 г. працуе ў Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце выкладчыкам нямецкай мовы, а з 2010 г. — перакладчыкам міжнароднага аддзела. Друкавалася ў зборніках «Сила слабости» (2013), «Літаўра» (2015).

## Лісток таполі

Ліпкі, далікатна-зялёны лісток нясмела прабіўся на галінцы маладой стройнай таполі.

— Харашыня! — усклікнуў лісток, азірнуўшыся вакол і ўбачыўшы свежую пасля зімовага сну прыроду.

Спачатку лісток захапляўся ўсім, што было вакол яго: халаднаватымі кроплямі дажджу, што яго ўмывалі; блакітным небам і аблокамі, што павольна плылі ў вышыні; яркімі заходамі сонейка і бялявымі ранішнімі туманамі. Ён з цікавасцю назіраў, як спяшаліся кудысьці людзі, прабягалі немаведама куды сабакі і як галубы нешта дзелавіта збіралі на зямлі.

З часам ён пасябраваў з ветрам, які шмат вандраваў па свеце і часта распавядаў лістку цікавыя гісторыі са сваіх падарожжаў. Тапаліны лісток зразумеў, што свет насамрэч велізарны. Але ён, лісток, прымацаваны тут, на галінцы таполі. І яму стала вельмі сумна ад немагчымасці вандраваць па свеце. Аднойчы ён папрасіў:

— Вецер, дапамажы мне, калі ласка, узляцець! Я хачу даведацца, куды сплываюць аблокі, дзе начуе сонца, на каго брэша сабака за вуглом дома, што робяць людзі за завешанымі вокнамі. Мне вельмі цікава даведацца, што там, за небакраем, дзе знікаюць галубы і хуткакрылыя ластаўкі.

— Зараз паспрабую! — абнадзеіў вецер. З тых часоў ён, пралятаючы міма, кожны раз спрабаваў дапамагчы свайму зялёнаму сябру здабыць волю, але так і не змог адарваць яго ад галінкі. Паступова лісток змірыўся са сваім лёсам. Адкуль маладзенькаму лісточку было ведаць пра існаванне лагоднай восені і бязлітасна-халоднай зімы?

І вось у самым канцы жніўня тапаліны лісток убачыў у гародчыку расквітнелую белую астру. Яна, як адзінокая яркая зорачка, запалілася на апусцелым, даўно закінутым кветніку. Пустазелле з усіх бакоў варожа атачыла «інтэлігентку-недатыку», як яны яе паміж сабой называлі. З надыходам цемры астра дранцвела ад страху і холаду.

Толькі яна зусім не здагадвалася, што зверху за ёй неадступна сочыць тапаліны лісток, трапяткі ад любові і трывогі за яе. Яму так хацелася абараніць

прыгажуню ад зласлівых нахабнікаў, што ён ажно пажаўцеў ад перажыванняў і свайго бяссілля хоць у нечым дапамагчы ёй.

Аднойчы халодным дажджлівым вераснёўскім вечарам астра зусім знясілела ад пастаяннага страху і крыўд пустазелля. Яна ўжо была гатовая зламацца. Тут рэзкі парыў ветру сарваў тапаліны лісток і аднёс яго да астры. Усю ноч лісток беражліва ўкрываў яе ад дажджу, засланяў ад калючак пустазелля і іх з’едлівых нападак і нашэптваў словы суцяшэння і захаплення. Астра адагрэлася, падбадзёрылася і на раніцу ўскінула сваю высакародную галаву. Лісток пакорліва і мякка саслізнуў да яе ног. Ён быў шчаслівы, бо змог дакрануцца да сваёй мары і нават выратаваць яе ад непазбежнай гібелі. І яму не было горка паміраць пад нагамі мінакоў, куды закінуў яго гарэзлівы вецер, бо лісток усё яшчэ адчуваў на сваёй шчацэ пацалунак удзячнай астры.

# ПАД НЕБАМ АДЗІНЫМ





**Атыла Вэг**
Нарадзіўся 13 лютага 1962 г. у Будапешце.
Вугорскі паэт, філосаф і эсэіст.

## Адраджэнне

*Прысвячаецца Вользе*

Лёс, як яліну, даверыў Цябе Табе самой.
Згушчаюцца арктычныя масы ў паветры.
Арлы сядаюць адпачыць у вобразе духаў,
адчуваеш дотык абыякавасці лядовай прасторы,
і не суцешыць, што шмат нас такіх, каго мала.

Дзяўчынка пачала вучыцца цуду існавання,
памацала свежы малінавы ліст
на пабураных каменных прыступках,
чакала сінія цені часу, схаваныя сярод лістоты,
і не верыла яна, што смерць існуе,
не чула болю ад бязмоўных скаргаў жывёл сучасных
дый ад праклёну ветру, запоўненага прасторай.
Яшчэ хапіла ёй сіл, каб быць слабай,
з адкрытым сэрцам прымаць цёмную плынь.

Усё ж, якое гэта пачуццё — вырасці паміж нікчэмных
людзей?
Быць ветлівай да дарослых прывідаў?

Ці вялізны гэта цяжар — адмовіцца ад ілюзіі,
выкінуць мару з дырыжабля,
гонячыся да сэрца вагі?
Як могуць тыя, хто без ілюзіяў, цуды нараджаць,
калі ўжо назаўтра забудуць, што бацькі яны,
і свабоду жудасцю назавуць?

Няма іншага шляху, ідзі да старога парку,
як бы ні згушчаліся арктычныя масы,
сядай у вобразе духаў там адпачыць,
дзе пачала вучыцца цуду існавання.
Ён — гэта таксама ты. І май мужнасць быць слабай,
не дазваляй моманту адхлусіць цябе з абдымкаў, выхлусіць
бо каменныя прыступкі — гэта ты,
і крокі, што іх пабурылі, таксама,
як і малiннік, — гэта ты,
дый зламанай рыфмы праклён.
Гэты верш ты пісала сабе сама,
каб больш анічога марнага не было.

*Пераклад з вугорскай Пэтэра Бараса*



## Васыль Слапчук

Нарадзіўся 23 снежня 1961 г. у в. Новы Зборышаў Гарохоўскага раёна на Валыні. Украінскі паэт, празаік, літаратурны крытык. Лаўрэат Нацыянальнай прэміі Украіны імя Тараса Шаўчэнкі (2004), заслужаны дзеяч мастацтваў Украіны (2001).

### Сорам

Адкрыў мне бацька, што зямля круціцца.
Як было не паверыць, калі ён,
Толькі два крокі ступіць — падае.
Рукі дрыжаць, запалкі ламаюцца.
А ўжо як прыкуру бацьку — да плачу даходзіць.
«Сынок, я табе ровар куплю».
І хто яго ведае, мо й купіў бы…
На вёсцы хлусяць (у кожнага па тры языкі),
Што згарэў бацька ад гарэлкі,
Ды яшчэ і ў загадчыцы клуба ў ложку.
Лепш бы ў яе хата згарэла.
Няма цяпер у мяне ні бацькі, ні ровара.
Ровар мне яшчэ хтосьці і паабяцае,
А ад бацькі нават маці мая адмовілася.
Праз лета мне ў школу.
А чаго я туды пайду?
І так ведаю больш, чым трэба.

*Пераклад з украінскай Сяргея Амельчука*



**Ольга Ляснюк**

Нарадзілася ў Нававалынску на Валыні. Украінская пісьменніца, аўтар зборнікаў «Босоніж у вічність» (2000), «Третє бажання» (2003), «АНАЛОГіЯ» (2006), «Поцілунки у скло» (2010), «[без іронії]» (2016). 3 чэрвеня 2016 г. абрана старшынёю Валынскай арганізацыі Нацыянальнай суполкі пісьменнікаў Украіны.

## Да вясны

Дастаю з пакут рыфму, а яна кажа дудкі і не рыфмуецца, і колецца так, што кроў выступае на сэрцы.

А проза просіцца, а я яе таўку, як куццю ў ступе, і нават словам не даю выпрастацца.

Выбачайце, сёння я не пісьменнік, убогая на вобразы і тым больш метафары. Сёння я легкадумная, як дождж пасярод зімы, магу сесці ў лужыну і занадта правільным смехам запырскаць чаравікі.

А лепш буду гандляркай: заходзьце, у мяне сезонны распродаж пачуццяў ці яшчэ чагосьці.

Я ведаю, што ты прыйдзеш і купіш штосьці не зусім свайго памеру, такое непатрэбнае, але яно табе пасуе. Сапраўды.

А яшчэ вазьмі ў рамачку сваё каханне, пастаў на бачным месцы і любуйся. А трэцяе вока выкалі, каб не заглядвала ў чужыя долі, як пад спадніцы.

Мы будзем разам пераходзіць свае пачуцці ў недазволеным месцы. Так трэба.

Таму што мы адно без аднаго як распарованая пара ботаў. Таму што без цябе неяк так, нібы замест валідолу канец жыцця пад языком.

Давай растрынькаем мары, а каб жыць далей, возьмем крэдыт чаго заўгодна, каб было што аддаваць з адсоткамі.

Сёння я такая. Як пад'езд з разбітай лямпачкай або ліфт, што захраснуў паміж паверхамі.

А заўтра зноў стану пісьменнікам.

Падбяру пасечанае слова і буду яго выходжваць. А ты мне будзеш дапамагаць.

Увесну яно…

Ну добра, да вясны…

*Пераклад з украінскай Сяргея Амельчука*



**В і с л а в а  Ш ы м б о р с к а**

Нарадзілася 2 ліпеня 1923 г. у в. Бнін (цяпер Курнік блізу Познані). Польская паэтка, лаўрэат Нобелеўскай прэміі па літаратуры 1996 г. Памерла 1 лютага 2012 г., пахавана ў Кракаве.

## Жаночы партрэт

Мусіць быць на выбар.
Змяняцца, каб толькі нічога не змянілася.
Гэта лёгка, немагчыма, цяжка, варта спробы.
Калі трэба, вочы мае — ці блакітныя, ці шэрыя,
чорныя, вясёлыя, беспрычынна поўныя слёз.
Спіць з ім бы першая сустрэчная, адзіная ў свеце.
Народзіць яму чацвёра дзяцей, ніводнага дзіцяці, аднаго.
Наіўная, але найлепей парадзіць.
Слабая, але ўздыме.
Калі не мае галавы на плячах, будзе мець.
Чытае Jasper і часопісы для жанчын.
Не ведае, што такое шруба, і збудуе мост.
Маладая, як заўсёды маладая, усё яшчэ маладая.
Трымае ў руках верабейку са зламаным крылом,
уласныя грошы на далёкае і доўгае падарожжа,
сякач для мяса, кампрэс і кілішак чыстай.
Куды так спяшаецца, хіба не стамілася.
Ды не, толькі трошкі, вельмі, ды нічога.
Альбо яго кахае, альбо ўпарціцца.
Назаўсёды, на нядоўга і наколькі злітуецца Бог.

## На Бабілёнскай вежы

— Каторая гадзіна?
— Так, я шчаслівая, не хапае толькі званочка на шыі,
які б спяваў над табой, пакуль спіш.
— Значыць, не заўважыла буры? Мурам ірваўся вецер,
вежа зяхнула, як леў, вялікаю брамай
на рыпучых завесах.
— Як гэта забыў?
Была на мне звычайная шэрая сукенка,
зашпіленая на плячы.

— Адразу потым нябёсы раскалоліся ў стобляску.
— Як жа я магла выйсці, ты ж быў не адзін.
— І заўважыў раптоўна колеры яшчэ да з’яўлення відовішча.
— Шкада, што не можаш мне паклясціся.
— Маеш рацыю, мабыць, гэта быў сон.
— Чаму маніш, навошта клічаш мяне яе імем, кахаеш яе яшчэ?
— О так, я б хацеў, каб ты засталася са мною.
— Не маю крыўды, павінна была сама здагадацца.
— І гэта ўжо ўсё?
— Цябе адзінага.
— Ты шчырая, прынамсі.
— Будзь спакойны, я пакіну гэты горад.
— Не хвалюйся, я адыду адсюль.
— У цябе такія прыгожыя рукі.
— Гэта старая гісторыя, лязо прайшло, не зачапіўшы касцей.
— Няма за што, мой дарагі, няма за што.
— Не ведаю і не хачу ведаць, якая зараз гадзіна.

*Пераклад з польскай Алесі Фагот*



## Міхаіл Лермантаў

Нарадзіўся 3 (15) кастрычніка 1814 г. у Маскве. Расійскі паэт, празаік, драматург, мастак, афіцэр. Памёр 15 (27) ліпеня 1841 г. у Пяцігорску.

### Ветразь

Бялее ветразь адзінокі
У моры мораку сівым!..
Што ў краі знойдзе ён далёкім?
Што ў куце кінуў ён сваім?..

Бушуюць хвалі, чоўн шугае,
І шчогла гнецца і рыпіць…
Але! Ён шчасця не шукае,
І не ад радасці імчыць!

Пад ім струмень святлей лазуры,
Над ім прамень скончэння дня…
А ён мяцежны просіць буры,
Як бы ў тых бурах суцішня.

*Пераклад з расейскай Міколы Папекі*



## Альбін Дзяконскі

Нарадзіўся 28 красавіка 1892 г. у маёнтку Пятровічы Кобрынскага павета. Паэт міжваеннай Польшчы. Памёр у 1940 г.

* * *

Паведай,
якое шчасце быць каханай
Праўда? Калі абуджаешся рана
згадваеш сны свае, бачанні палахлівыя,
толькі сполахі іх — я як той дурны паляўнічы
ў вачах якога раяцца зоркі, але парожнія зрэнкі
не трапіў у глушца, трапіў у аблокі
скрозь месяц куля праляла навылёт
Бачыш, я, таксама зрэдку,
Нябесны такі пілот.
Жадаеш чаго — анёл ты ці Бес;
усю ноч шукаў дзевак — душы
сярод знічак і зорных пралесак
але вяртаюся сам адзін — стомлены
таму, што ў дзевак мышыныя вушы
і чорна шэрае апярэнне вароны

Ты адзіная, якой яшчэ давяраю,
пойдзеш за мною шляхам шалёным
адзіная, з якою ўяўную кветку раскрыю
Зоркі! так нясцерпна хацеў стаць каханым!

*Пераклад з польскай Міколы Папекі*



## Ганна Свіршчынска

Нарадзілася 7 лютага 1909 г. у Варшаве. Польская літаратарка, перакладчыца, аўтар кніг для дзяцей. Памерла 30 верасня 1984 г. у Кракаве.

### Падаю на зямлю

Падаю на зямлю,
вуснамі да чорнай зямлі.
Кажу: Божа, якога няма,
не дай мне пакрыўдзіць
чалавека.

Няхай мая рука перш адпадзе,
няхай мяне спапяліць
пярун.

Падаю на зямлю,
вуснамі да жывое зямлі.
Кажу: Божа, якога няма
на самай далёкай зорцы,
які ёсць ува мне,
Божа беззаганны, я такая нікчэмная,
Божа жахлівы,
прыношу ў крывавую ахвяру
найкаштоўнейшае шчасце
майго жыцця.

### З дна акіяна

Я бясцэнная, пакуль ты са мною.
Купаюся ў ванне твайго захаплення,
тваё захапленне стварыла мяне.

Я крыніца, ты п’еш з мяне
шчасце.
Быць крыніцай шчасця —
што за хараство.

Ты спяваеш мяне,
твой спеў стварае мне цела.

Яно прыгожае і несмяротнае,
бо не існуе сапраўды.

Я даю табе шчасце,
магу даць боль.
Ты ахвяраваў мне гэтую ўладу,
я расцвітаю, ты зрабіў мяне каралевай.
Маё цвіценне цябе захапляе,
маё цвіценне дорыць асалоду
табе і мне.

Я магу даць табе боль, баішся,
ты бяззбройны, я чую твой страх.

Той страх абудзіў маю лютасць,
я гляджу на яе пагардліва,
як на звера са дна акіяна.
Мы абое завабленыя
яго электрычнай гнуткасцю,
твой страх яго чаруе.

Яны гуляюць разам, бы маладыя каты,
спакушаючыся, прыгажэюць.
Якія ж яны зараз прыгожыя,
мая лютасць
і твая бяззбройнасць.

Гэта цудоўная гульня, мой мілы.
Спынім яе.

## Вельмі сумная размова ўночы

— Ты мусіш мець шмат каханкаў.
— Ведаю, мілы.
— У мяне было багата жанчын.
— У мяне былі мужчыны, мілы.
— Я прапашчы чалавек.
— Так, мілы.
— Не давярай мне.
— Не давяраю, мілы.
— Я баюся смерці.
— Я таксама, мілы.
— Ты не кінеш мяне.
— Не ведаю, мілы.
— Я самотны.

— І я, мілы.
— Прытуліся да мяне.
— Дабранач, мілы.

## Галавой уніз

Цалую Цябе і плачу,
Ты цалуеш мае слёзы і вусны,
закаханы ў мае вусны
і ў мае слёзы.

Мы, прытуленыя, нерухомыя,
слухаем, як сцякаюць
кропля за кропляю
ў адно наша сэрца.

Правальваюся
ў любоўную роспач,
якая шматае шчасце,
імкнуць мяне прэч
вадаспады асалоды і болю.
Лячу галавою ўніз,
пеністая вада, пеністае валоссе,
лісце, плёскат хваляў,
падаю,
дзе разаб'юся, на якой скале,
дзе раструшчуся,
аб якое дно.

Падзеннем сваім я вымяраю
велічыню сусвету,
які ж цудоўны гэты свет,
калі можна так пакутаваць.

Сваім няшчасцем вымяраю
шчасце свету,
якое ж ладнае мае быць шчасце,
калі няшчасце
такое прыгожае.
Толькі падаючы
з вяршыні ў процьму
можна спазнаць вяршыню і процьму.
Вучуся
гэтай жахлівай праўдзе.

Ты цалуеш мае слёзы
і мае вусны.
Ты дрыжыш, мы разам дрыжым,
працінае нас
раскоша любоўнай пакуты

## Сумую

Сумую вантробамі й горлам,
мае валасы сумуюць,
мая скура
зроблена з самоты.

Але найбольш
сумуе святло ў маёй галаве.
Яно не памірае
нават ува сне,
калі паміраюць валасы, вантробы і скура.

## Душа і цела на пляжы

На пляжы душа
вывучае падручнік па філасофіі.
Душа пытаецца ў цела:
— Хто нас з табой злучыў?
Цела кажа:
— Трэба апячы калені.

Душа пытаецца ў цела:
— Ці праўда,
што нас зусім няма?
Цела кажа:
— Я апякаю калені.

Душа пытаецца ў цела:
— Паміранне пачнецца
ў табе ці ўва мне?
Цела смяецца.
Апякло калені.

## Дзякуй табе, лёсе

Напаўняюся вялікай пакорай,
напаўняюся вялікай чысцінёй,
кахаюся з маім мілым,
нібы кахаюся, уміраючы,
нібы кахаюся, молячыся,
слёзы абліваюць
мае плечы і яго плечы,
не ведаю, ці гэта радасць,
ці смутак, не разумею
таго, што чую, нічога
не разумею, плАчу,
плАчу, пакора,
нібыта я ўжо памерла,
удзячнасць, дзякуй табе, лёсе,
я не галодная, якое добрае
маё жыццё.

## Жанчына распавядае пра сваё жыццё

Вецер гоніць мяне па дарогах,
вецер, боства перамен,
увесь час абдзімае шчокі.
Люблю гэты вецер,
радуюся пераменам.

Хаджу па свеце
ўдваіх альбо сама
і адначасова лю́быя мне
самотнасць і смерць самотнасці,
якая завецца спаўненнем.

Чагосьці ўва мне зашмат.
Пераліваюся цераз край,
як дрожджы. Дрожджы маюць
свой уласны гатунак шчасця.

Іду, увесь час іду,
часам далучаецца да мяне мужчына.

Мы ідзём разам,
ён кажа, што гэта да смерці,

пазней губляецца ў змроку,
як непатрэбная рэч.

Іду сама,
пазней на павароце зноў
з’яўляецца новы таварыш.

Іду, увесь час іду,
вецер гоніць мяне дарогамі.
На маіх дарогах
заўсёды дзьме вецер.

## Такая самая ўсярэдзіне

Ідучы на любоўны баль да цябе,
на рагу вуліц я пабачыла
старую жабрачку.

Узяла яе за руку,
пацалавала ў далікатную шчаку,
мы размаўлялі, яна была
такая самая ўсярэдзіне, як я,
таго самага гатунку,
адчула я гэта адразу,
як сабака чуе
іншага сабаку.

Я дала ёй грошы,
не магла з ёй расстацца.
Чалавеку ж трэба мець
кагосьці блізкага.

А пазней я ўжо не ведала,
навошта іду да цябе.

## Звыклыя роды

Дваццаць гадзін
вые, як звер.
Лекар хоча ёй дапамагчы.
Надразае нажніцамі жывое цела
без анестэзіі.

Ён гэтага не зважае.
Занадта моцнае
катаванне растрэсканых касцей.

Які д’ябал
прыдумаў свет.

## Брытва

Я здрадзіла табе.
Якое шчасце, якая палёгка.
Радуемся ўдваіх,
бо цяпер
я змагу кахаць цябе, як раней.

Радуемся ўдваіх,
што мусіла табе здрадзіць,
як тапелец
мусіць схапіцца за брытву.

Ненавіджу цябе,
таму што мусіла здрадзіць.
Радуемся ўдваіх,
што я цябе ненавіджу.

## Заўсёды адчыненыя дзверы

Не, не хачу цябе прыручаць,
згубіш сваю звярыную чароўнасць.
Мяне расчульвае твая трывожнасць і хітрасць,
гэта ўласцівыя рысы экзатычнай пароды.
Ты не знікнеш,
бо дзверы заўсёды расчыненыя.
Ты не здрадзіш мне,
бо не патрабую вернасці.

Дасі мне руку,
хадзем танцаваць
цераз цемру, якая смяецца.
Эратычныя званочкі
на руках і нагах,
жэст танца,
гнуткі, як малюнак
са стараарабскага альфабэту,

класічна задыханы
спеў валасоў.

Стыхія раскошы,
змешчаная ў таямніцу.
Даволі абрахманеная,
як ты.

## Расчыненае акно

Мы абдымаліся задоўга.
Мы дакахаліся
да касцей.
Чую рыпенне касцей, бачу
два нашыя шкілеты.

Зараз чакаю,
пакуль ты знікнеш, пакуль
грукат ботаў
пагасне на лесвіцы.
Ужо ціша.

Сёння ноччу буду самотна спаць
на чысціні пасцелі.
Адзінота —
гэта першая гігіенічная працэдура.
Адзінота расшырыць сцены пакоя,
расчыніць акно,
і ўварвецца шырокае, марознае паветра,
здаровае, як трагедыя.
З'явяцца чалавечыя думкі
і чалавечыя справы,
чужыя няшчасці і чужая святасць.
Яны будуць размаўляць ціха і строга.
Не прыходзь больш.
Я вельмі рэдка
бываю зверам.

*Пераклад з польскай Алесі Фагот*



## Дамінік Собаль

Нарадзіўся ў 1988 г. у Бяла-Падлясцы. З дзяцінства жыве ў Тэрэспалі. Вершы публікаваліся ў шматлікіх мясцовых выданнях, у беларускім часопісе «Маладосць». Ён лаўрэат VII Агульнапольскага паэтычнага конкурса імя Уладзіслава Себылы (2013, Клобук), XVIII Агульнапольскага літаратурнага конкурса імя Рамуальда III Мікашэўскага (2013, Лосіцэ) і Агульнапольскага літаратурнага конкурса імя І. Ю. Крашэўскага (Бяла Падляска — Рамануў, 2014).

## *НЕ ПАКОРА?*

### самародак

я першы
як такі паэт
радзіны

раней
ніхто быць не схацеў
або не мог

належала ім
сеяць гараць баранаваць
і гэтак далей

таленты вязнілі
пазногці брудныя
запрацаваных рук

маё выломванне
сябе азначыць можа
як катэгорыя дзівос

ці непрыстасавання
да відавочнага чагось
такога як чыгуначнік
або настаўнік

# Мушка

**I**

малым любіў я збегчы
ад праблем
на луг пры лесе
дзеіў апасля снядання
калі былі сканцэнтраваныя ўсе змыслы
на спаталенні чагось іншага
чым поўнасць пуза

свой паўтараў штодзённы рытуал
з усёй абрадавасцю асабовай я

па-першае — садзіўся па-турэцку
ўдыхаў і выдыхаў
дзесяцікротна цераз нос паветра па-другое,
той ранні мікраклімат сельска-сцанскі,
выпадкова каб не падзабыць
адкуль паходжу
і па-трэцяе маліўся
па-свойму на ўсход
а па-чацвёртае нязвыкла жыва
ўсчынаў дыскусіі з суседскай Мушкай

**II**
**Муууууууууу**

…
нам таго было даволі
каб паразумецца
з яе аднога простага таго
двухлітарнага слоўка
ўдавалася шторазу ўсё глыбейшыя
мне сэнсы здабываць

ніхто не патрапляў чуваць так як яна
найбруднай лаянкі
якая лезла ў галаву маю тады
а ведаў выразы хіба чатыры
на с х к…. і …й
прымала гэта з разуменнем вартым
зайздрасці адно што

**III**
**чуць мусіла**
**як сам сябе я чысціў**

памінкі

ненавіджу традыцыйныя цырымоніі
звязаныя са смерцю

заўсёды сыходжу па-ангельску
ў хадзе сямейных п’янстваў і абжорстваў
пад час якіх плач па памерлых ператвараецца
ў дадатковую атракцыю да ахвярнага дыспуту

сядаю тады пад прадзедавым
дрэвам у роздумы ўпаўшы
ўсе тут вось ірцякі ўяўляе сабе
як варушацца-кажуць яны нацвяроза

хоць раз развітаймася
з блізкай асобай кілішкам
вады асвячонай!!!

у крыку зайсціся хачу ці загадамі грымнуць
расставіць кутамі
таго не раблю як зазвычай
і прага прычыннікаў біць не праб’ецца ані
на паверхню
усохне

як доўга шчэ буду сыходзіць?

дуб гаварыць не жадае,
стаіць у маўчанні

## праправабабця Эўфемія

*прысвячаю Кантарукам і Паплаўскім*

не патраплю сказаць напэўна ці сам сабе тое
намовіў
хоць падсвядомасць
падпраўлена трохі цяпер
ужо месяц каторы як цвердзіць
спрыяе табе ўсё і ўдзень і ўночы
мушу ёй верыць

цягнем урэшце ўжо колькі гадоў супольна
воз той
жыццё

сілу жыццёвую апасля Д (дэпрэсіі — ціха ні слова
пра тое) здабыць можна ў момант
найменш спадзяваны
меў кансультацыю з бабцяю бабці маёй
на рэцэпце яна напісала сябе палюбі
гэта ўсё? і адно толькі гэта? не веру…
зноўку той боль
зноў халерны той лоб

заляцанкамі мусіш заняцца больш час не марнуй
на сядзенне па-над магілай маёй
шчаўбана бо дастанеш

дастаў ужо — таленту трохі адроблена
шчасця
й надзеі…
што пасунецца штось у канцы
ўперад
мусіць мушу хачу…

## над труною дзеда Яна

не не застацца ў жыцці
ад стварэння мне перфекцыяністам
на твой кшталт

размылася ўсё гэта
надта дачасна
не знікала дыстанцыя
нігды

сабою напоўна падскурную
чуў незалежнасць

развальваў мне цела
творчы вэрхал
ад шэрасці ставіў аслону

артысты ў сабе
«незалежную першаснасць» маюць
да рэчаіснасці недапасоўнасць

робяць усё ў т. зв. свой час
самавіта

цяпер да карэння вярнуся
спакойна магу азірнуцца назад

выпадала б няхай
папрасіць прабачэння за нелюб

прашу прабачэння

а Дзяды ўласна прайшлі ўжо
часу назад не павернем

## тоеснасць

Паўднёвае Падляшша?
Люблінішчына?
Польшча A, B ці C?
Паляк некаталік антыклерыкал ліберал
вернік глыбокі не ходзіць да цэрквы
жыве ў кансерватыўным горадзе
ў адной шаснаццатай нашчадак
падляшскіх татараў?
прынамсі няма ў дакументах

антыфашыст антыкамуніст
і яшчэ пару анты
традыцыйна кахае
не асуджае каханкаў ніяк іначай чым ён
вызнае за найбольшую вартасць
свабоду асобы
любіць германцаў з расейцамі за пэўныя рысы
за пэўныя не
дзесь гэтаксама і што да французаў
ангельцаў
і нацый мо з дваццаць яшчэ

усё гэта хіба няважна
найважна каб быў хтосьці такі
хто кахае

* * *

лепш жыць з курваю чым самотнаму
*В. ван Гог*

маеш хаця б эрзацы
повязі
чуласці
кахання

не клянеш на чым свет бо пуста

а гэта ўжо нешта

* * *

ішлі з Каралінай трымаючыся за рукі
як міма прамчаўся сабака
з адцятым хвастом
і эрэкцыяй відавочнай

не выйшла нам здымак зрабіць
не іначай што прашыбавала
першая прэмія конкурсу фота
у нас міма носа

так як і ўчора шэсць лічбаў
лато

* * *

вуліцай тым бокам
першае йшло каханне маё
з выразна акругленым пузам

трэцяя яе цяжарнасць была непасрэдна перад развязаннем

трэцяя запар якою прычынай не я
не мая як яна не мая
і не будзе ніколі навекі

непапраўнасць?

## Пані Смерць з малой вёскі

не горшая
за тых дам
якія ўпраўляюць бег трушком
у
Варшаве
Познані
Кракаве

можа і больш грубыя
ў яе косці
але гэта не мае значэння

паўсюды дзее востра
і з такой сама
выніковасцю

## * * *

У Брэсце над Бугам
спадзяваўся што спасцігнуць
якіясь прыступы болю
нечаканыя атакі псіхікі
а было зусім іначай

арганізм мой заскнарыўся
піць алкаголь
з іншымі славянамі

не было часу хварэць
паміраць
ігд

## паэтычны акт стварэння

не маю гатовага рэцэпта
ані рэгуляміна

актывізуюся без запаведзі:
учора пасля аргазму
сёння на ачку
заўтра перад абедам

анічога не пэўна
акрамя самаго акта
часам безбалеснага

зазвычай жа баліць як халера

## прастора артысты

сюды аніхто не мае доступу
сыдзіце!

спаўняю творчы самагвалт
шматкротна

разблакаваны

рушыла
на добры шлях
назад няма дарогі
падрыхтавацца трэба
да ўрачыстых выступаў
гарнітураў
ушанавальных адрасоў
чэкаў
а можа нават і аўтамабіляў

*** * ***

шостая ранку
групуюцца мухі нанова
ўспрымаю паўторна атакі
на частках адкрытых сябе.
коўдра бароніць нядзейсна
не ў стане стрымаць уварванне

*** * ***

пэўны Пан з паважанага Выдавецтва
мэйлам прыслаў мне сваё меркаванне
ніхто не чытае больш вершаў
бывайце здаровы.

## ты хацеў бы

вар'яты роспачнікі дэпрэсанты
нешчаслівыя каханкі
літаратуразнаўцы
прафесары
завершаныя і не самазабойцы
а таксама
слынныя і не надта графаманы
прдстаўляюць процілеглае бачанне

яны ўсё яшчэ хоць як чытаюць вершы
наперакор

## былыя курортнікі санаторыя (ў Рабцы — Здрою)

*Караліне*

патрапілі абгаварыць

алкагалізм бацькоў
нястачу кіслароду
парэзы жылеткамі
усёўладнасць спажывецтва
пры гэтым не выконвалі
ніякай канструктыўнай
дзейнасці па ўрабленню эрагенных
зон

фэйкавая повязь
канчэльных гаўнюкоў
такі належала б напэўна загаловак
даць месяцу таму

*23.04.2017*

*Пераклад зроблены Яўгенам Бяласіным з ласкавай згоды аўтара па: Dominik Sobol. marzeniodajnia. Towarzystwo miłośników Podlasia, Biała Podlaska, 2014*



**Фрыдрых Шылер**

Нарадзіўся 10 лістапада 1759 г. у Марбах-на-Некары, герцагства Вюртэмберг (цяпер у зямлі Бадэн-Вюртэмберг, Германія). Нямецкі паэт, філосаф, гісторык і драматург, прадстаўнік рамантычнага кірунку ў літаратуры. Памёр 9 мая 1805 г. у Веймары, герцагства Саксен-Веймар (цяпер у зямлі Цюрынгія).

## Шырыня і глыбіня

На свеце блішча шмат людзей,
У іх усяведнікаў слава,
І дзе што благога, і добрага дзе,
Адкажуць вам, вось дык праява.
І цяміш, чуючы іхні зык,
Нявесту пэўне ж прынёс ім язык.

Ды ціха іх час да канца дабяжыць,
Жыццё іх не ўдалося.
Тарнуецца годнае хто спарадзіць,
Значнае штось каб знайшлося,
Сабрацьме збыт не тужачы жыл
У пункт найменшы найболей сіл.

Камля галіны ў неба свае
Раскошныя шаты ўзвышаюць.
Лісты бліскучыя, паху стае,
А плоднасці вось жа не маюць;
Дрэва, гонар лесу, хавае
Адно сарцавіна яго малая.

## Метафізік

«Ляжыць глыбока пада мною свет,
Капошацца ледзь бачна ўнізе людзі!
Як мая змога вынесла, вышэй якой не будзе,
На неба дах, амаль што да планет!»

Крычыць так з даху свае вежы, з усяго гарла,
Страхар, гарлае так малы вялікі
Ганс Метафізік ад свайго стала.

Малы вялікі, патлумач, а вежа,
З якой так годна спрамяняеш позірк твой,
Яна з чаго — што мае
пад сабой?

Як сам туды залез? Вышыні тыя голы
Табе нашто, акром глядзець як
долу?

## Living Рознае прызначэнне

Мільёны шчыруюць, каб віду працяг забяспечыць,
Ды толькі адзінкі працяг даюць чалавецтву.
Восень тысячы сее насення, ды ледва якое прыносіць
Плады, у прыроду вяртаецца большасць, на самы пачатак.
Але варта аднаму хоць з іх разгарнуцца, рассее яно
Свет вечных кшталтаў сабой.

## З цыклу Tabulae votivae*

### Розніца станаў

І ў свеце маральным ёсць шляхта;
Прасталюдзіны
Тым плацяць, што яны робяць,
Прыўкрасныя — тым, што яны ёсць.

### Шкаленне

Праўда ніколі не шкодзіць,
Карае яна — пакаранне ад маці
Кшталціць пахібка-дзіця
Й падлабуннай служанцы пярэчыць.

---

* Tabulae votivae (з лац. «рэгістры абяцанага») — цыкл кароткіх афарыстычна-іранічных вершаў, вылучаны з вялікай падборкі «КСЕНІІ» (XENIEN) па прыкмеце іх большай мяккасці, «утаймаванасці». Гэтымі карацелькамі Шылер і Гётэ, з прапановы апошняга, адказвалі на варожыя выпады на адрас часопіса «Оры». — Заўв. перакл.

### Метафізікі і фізікі

Вось жа памкнёнае ўсё чалавека знутры патлумачыць
і звонку,
Праўда, ад дзікага дзе палявання ўратуешся ты?

### Апошні прытулак

Шчасна-паблажліва вы гледзіце на сляпога эмпірыка ўнізе,
Але ў нявыкрутцы вам ён
аракул Дэльфійскі.

### Балбатуны пра мараль

Як жа яны нас, брудасаў, замучалі чыстай сваёю мараллю!
Праўда, які там да грубай быць можа прыроды давер!
Трэба ў саменькі ім прывідаў свет адарвацца,
каб збегчы ад звера,
Кшталтам рабіць чалавечым
не могуць а найчалавечае нават яны.
Каб не было ў іх сумлення, і не прамаўляй абавязак так
свята,
Выдралі б то далібог нават з ложка і скралі б нявесту.

### Богажэрцы

Ім асалодай усё. Пажыраюць ідэі і нават
Нож і відэлец на неба яны валакуць.

### Глузды і розум

Той баязлівы занада, а гэты засмелы;
Геній спадобіўся толькі
Ў цвярозым разліку быць смелым і верным ў свабодзе.

### Прывілея

Толькі багацце дае
для папрокаў слабіны,
беднасцяй ніц не кіруе

благога, і добрага
ў ёй анічога не бачна.

**Непакліканыя**

Лёгка папрокі грувасціць, ствараць дык вось цяжка;
Вы, папракайлы слабога,
Маеце духу, а і ўзнагародзіць шэдэўр?

**Благая грамада**

Арыстакраты так-сяк яшчэ пойдуць,
бо гонар у іх куртуазны,
Але вось ты, пахвалёны народ,
аж вось як поўны ты пыхі і грубы.

*Пераклад з нямецкай Яўгена Бяласіна*



**Таццяна Якавенка**
Нарадзілася 16 траўня 1954 г. у в. Сабаліўка Цепліцкага раёна Вініцкай вобласці. Паэт, літаратуразнавец, педагог. Сябра Нацыянальнай суполкі пісьменнікаў Украіны (1988). Заслужаны работнік культуры Украіны (2004).

## Што ж… Надыходзіць яшчэ адна восень…

Што ж, надыходзіць яшчэ адна восень,
яшчэ адзін дзень нараджэння.
Час прыхаваць стужку лета ў архівах запаслівай памяці.
Што падрыхтуе мне заўтра? Рамантыку кінатэатраў?
Холад кавярань ці вартую жалю эротыку бараў?
Ці адзіноту, што ў бібліятэчных падвалах спрадвеку чакае?
Што ж, надыходзіць яшчэ адна восень,
як шчэ адзін крок да бязмежнасці,
Шчэ адна восень — каштоўны каменьчык у скарбніцы сэрца.
Божа, я ж гэта ўсё ведала, тое, што скончыцца лета,
І расплывецца аблічча тваё у будзённых дажджах і балотах
І ў рацыянальных пытаннях, такіх, як напрыклад,
«а ўласна, навошта?»
(Іх нараджае хіба толькі восень, нібыта апенькі)…
Божа, я ўсё гэта ведала, толькі ці змог хто
схавацца ад восені?
Ці ад бязлітаснай смерці? Або ад кахання,
Што падступае няпрошана і непрыкметна,
Быццам світанак у дождж, і нячутна знікае,
Скрозь затуманены морак душы праплываючы,
быццам Лятучы Галандзец.

## След ад твайго чоўна

Пахнуць твае далоні мятай і дзікім хмелем.
Што прыгадаю зімою з соладу палкага лета?
Час перасее памяць. Час усё перамеле.
Час не знаёмы з болем… Што прыгадаю зімою?
Можа, твае вусны? Позірк твой прамяністы?
Можа, бязмежны давер?

Сонечна-залацісты россып тваіх вяснушак
Плаўна ляціць уверх…
Што там цвыркун варожыць? Дзе мне знайсці разгадку…
Ў тым, што дні карацеюць, нашай віны няма.
Можа, і сапраўды ты шчыра кахаў мяне летам.
Што прыгадаю зімою? Ад чоўна твайго след…
Кожны ў сваіх сценах, з кубка ўласнай самоты
Вып’е па кроплях зіму, за гранню дабра і зла.
Снегам завее душу,
Толькі зрэдку ты прыснеш з памяці сонечным промнем,
Як вада з-пад вясла.

## У гэтым доме старым…

У гэтым доме старым, у састарэлым доме,
Мы яшчэ незнаёмыя… мала знаёмыя…
На трухлявай верандзе, засыпанай лісцем бярозы,
Мы ўглядаемся ў неба, пранізліва і асцярожна.
У гэтым доме, дзе лісце й прыступкі сапрэлі, дзе восень,
Мы не можам паверыць у тое, што лёс нам прыносіць,
Нас з табой у гэтым свеце адно і яднае —
Маем рацыю ў тым, што праходзіць усё і мінае…
Мы не верым… Мы мудрыя. Мы да жыцця падыходзім
сур’ёзна.
У гэтым доме старым нам дваім неспакойна і млосна.
Нешта з намі не тое. Не так. Нешта ў куце скрабецца, пужае.
Можа, вера ў тое, што ўсё ўсё роўна мінае.
Мы з табой асцярожныя. Усе мы ўлічылі нюансы.
І не чуем мы, як вастрыём дысанансу дакранаецца нешта
да шчэму ў пальцах.
Да ледзь чутнага ўсхліпу, як быццам бы вецер гайдае галіны
даўно састарэлай ліпы,
Быццам вецер гайдае, ці плача пакінуты гномік
У тым доме старым…
У састарэлым доме…

## Ужо памяць пачарнела…

А памяць пачарнелая, сухая…
О, як страшаць яе падвальныя хады.
Мужчына гэты мне не раз казаў «кахаю»,
Ці, можа, так яму здавалася тады…

Так і застаўся для мяне ён неспасціжным,
Хоць і дагэтуль нашых зносін не забыў.
Мужчына гэты для мяне… Казаць залішне,
Кім быў ён для мяне… О, кім ён быў…
А што ж цяпер? Паўзмрок кафэ старога.
І не знайсці ніяк патрэбных слоў.
Мужчына гэты… Больш няма такога.
Ды, дзякуй выпадку, сустрэліся мы зноў…
Мужчына гэты… І навошта без яго я?
Як без яго… Адзіны ён, як лёс…
Бывай!
Бывай!
Натоўп нас зноў раздвоіць.
Бывай! На ўсё жыццё…
Не вымавіць без слёз!

## Стары раяль

А потым ужо, калі зоркі знікаць мусілі
І водгук спалоханых слоў у празрыстым паветры згас,
Павольна прыйшла таямнічая, ціхая музыка,
Павольна прыйшла і навек раз’яднала нас.

А човен плыве, і да берага хваля лашчыцца,
І непадуладная часу рака дзесьці ў Вечнасць цячэ,
І толькі ніколі, ніколі ўжо не заплачацца
Ад шчырай пяшчоты тваіх незабыўных вачэй.

Чаму мне заўсёды бракуе парывістай мужнасці,
Што бурыць плаціны, зрынае старыя масты?
Лунае-лунае-лунае павольная музыка,
Павольна-павольна-павольна знікаеш і ты.

Становіцца месяц празрыстым, нібыта падробленым,
Вось ён растае… растае… растае і яго ўжо няма…
На водах самоты гайдаецца чоўнік напаўзатоплены,
Абрысы яго паглынае глыбокі туман.

У светлую даль сакавік той адносяць імклівыя ветразі,
Дзе болей не маюць значэння ні боль, ні пакута, ні жаль.
Хіба толькі хатка на стромкім, высокім беразе,
Як быццам пакінуты кімсьці стары раяль.

*Пераклад з украінскай Валянціны Осіпавай*

# ДРАМАТУРГІЯ





**Мікола Пракаповіч**

Нарадзіўся 1 лістапада 1948 г. у в. Пугачова (цяпер — г. Брэст). Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут. Працаваў настаўнікам, рэдактарам Брэсцкага абласнога радыё, загадчыкам аддзела Брэсцкай студыі тэлебачання, Брэсцкага тэлерадыёаб’яднання. Аўтар кніг «Белая вежа» (у зб. «Нашчадкі», 1979), «Неад’емнае» (1982), «На кругі свае» (1986), «Мяжа надзеі» (1993) і інш. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## Прытулак памяці

*П’еса для батлейкі*

Двухпавярховая батлейка (Зямля і Неба). Магчымае вонкавае афармленне зачыненай батлейкі: рака — вёска (падворак) — пушча. Музыка. З-за батлейкі выходзяць Гаспадыня і Гаспадар з лялькамі-сімваламі ў руках (Марусі і Майстра).

Г а с п а д ы н я

Воля. Волька. Стараволя…
Блізкі свет.
Далёкі час.
Доля ўзносіла,
нядоля
да зямлі вяртала нас.

Г а с п а д а р

Розна мералі набытак:
хто ў каморы,
хто ў душы.
Сам Ярыла сеяў жыта,
вёў матыў напаўзабыты
і з Купалінкай грашыў.

Г а с п а д ы н я

Залаціўся мёд у сотах,
а які без песні мёд?
…На пагорках і ў балотах
карані пусціў мой род.

Г а с п а д а р

Вастрыё стралы і рала,
грозны вершнік і ратай…
Воля прывідна лунала,
спеўна вольніца гуляла
і курэўся небакрай.

Г а с п а д ы н я

Захлынецца сэрца болем:
родны свет,
няўцямны час.
Воля. Волька. Святаволя… —
Вёскі, як вярнуць нам вас?

Гаспадар з Гаспадыняй адчыняюць аканіцы батлейкі і знікаюць за ёю. Абмалёўка аканіцаў можа працягваць змест паверхаў — Зямлі і Неба.

Неба: купальскі карагод з вогнішчам пасярэдзіне; гучыць фрагмент з купальскай песні: «Сёння Купайла, а заўтра Йван, яснае сонца, зайграй нам!»

Зямля: вясковая вуліца з калядным гуртом; гучыць фрагмент з каляднай, дахрысціянскай песні.

Купальскае вогнішча і калядная зорка гаснуць. Іх змяняе сонечнае святло.

Неба: пушча, алені, дзікі…

Зямля: сцэнкі з вясковага жыцця.

А п а в я д а л ь н і ц а. Жыла-была сабе вёска. Адным бокам прытулілася яна да вірлівай рачулкі, што вясною разлівалася паводкай аж да самых хатаў. З другога боку падступала пушча з трубнымі клічамі аленяў, якія восеньскімі ранкамі сыходзіліся ў шляхецкіх двубоях. У рачных вірах не выводзілася рыба, у пушчы ставала звярыны. А на лапіках палёў, адваяваных у пушчы яшчэ прапрадзедамі, каласіліся жыты, красавала грэчка ў пчаліным гудзе, сінявока пазіралі ў нябёсы гонкія сцяблінкі лёну.

Яшчэ стагоддзе таму вясковец, каб выжыць, мусіў быць майстрам на ўсе рукі, упраўляцца ў полі і ў лесе, у хаце і каля хаты. Ён сам сябе апранаў-абуваў, быў рыбаком і паляўнічым.

Неба. Міхаль у пушчы.

А п а в я д а л ь н і к. Не складаў выключэння і Міхаль, з якога і пачынаецца наша гісторыя. Але, апроч усяго гэтага, меў Міхаль адказную і зайздросную па тым часе пасаду — даслужыўся да палясоўшчыка.

Чуцен стук сякеры.

М і х а л ь. Ну вось, зноў нехта гаспадарыць на чужым. Нездарма кажуць: калі мужык не ўкраў хоць якую дзеравіну ў лесе, ён сам сябе паважаць перастане. Але ж нашы пабойваюцца, бо ведаюць: не злаўлю ў лесе, дык на сяле пападзецца. Бо ладная ж хваіна — не іголка. Пэўна, галасяцінскія дапялі. Зараз атрымаюць прачуханца!

Даносіцца тарахценне воза ўцекачоў і стрэл наўздагон.

Глядзі ты, якія шустрыя — дапільнавалі-такі! І на якую яліну замахнуліся — распілаваць, дык дошак на пару пласкадонак хапіла б…

Але ж і натупаўся я сёння. Прыкархну трохі ў цянёчку… (*Кладзецца, засынае.*)

Міхалёў сон: палясоўшчык, а перад ім чалавек не чалавек, прывід не прывід: Імпал з посахам у руцэ.

І м п а л. Добрага дня табе, Міхаль!

М і х а л ь. А нягож ён добры? Вунь якую яліну зладзюгі спусцілі, у ляснiцтве па галоўцы не пагладзяць. Але ж нешта я не пазнаю цябе — скуль будзеш, чалавеча?

І м п а л. Не прыглядайся, Міхале, не пазнаеш. Бо я адтуль, адкуль буслы на тваю клуню штовесну вяртаюцца.

М і х а л ь. З вы-ы-раю?..

І м п а л. А гэта хто як разумее. Адным свой край раем здаецца, а іншыя яго ў трыдзявятым царстве шукаюць, у вырай падаюцца. І цябе, Міхале, разам з усёй радзінай бяда-нягода неўзабаве на чужыну пагоніць.

М і х а л ь. Што ж гэта за бяда такая, што прымусіць і хату новую пакінуць, і гаспадарку, і ніўку ўробленую?

І м п а л. Вайна, Міхале, вайна. І не адна яна навалай пройдзе па гэтай зямлі. Але ўсе тыя наступныя навалы не табе ўжо, а ўнуку твайму, Міколку, перажыць давядзецца.

М і х а л ь. Пра якіх унукаў ты гаворыш? Сыну старэйшаму, Васілю, толькі-толькі нагавіцы справілі…

І м п а л. Будуць у цябе і ўнукі, і праўнукі. Але станецца так, што разляцяцца яны, разам з іншымі вяскоўцамі, хто ў рай, хто ў вырай. Спарахнеюць хаты без людскога цяпла, здзічэюць сады, зарасце зямля бур’янамі. І толькі на самотным хутары будзе векаваць апошні жыхар, твой Мікола. Застанецца, як прытулак памяці сваёй Бацькаўшчыны.

Вазьмі, Міхале, гэтую сякерку, прыхавай на сядзібе ў добрым месцы: прыйдзе час — і Мікола сам яе знойдзе.

Імпал знікае, пакінуўшы сякерку. Міхаль прачынаецца.

М і х а л ь. І прысніцца ж такое! Унукі, праўнукі, бур’яны… Калі такое было, каб у мужыка зямля бур’янамі зарасла? Хіба ў ладарыска якога… А што гэта там паблісквае — сякерка? Так драпалі гора-лесарубы, што і сякерку пакінулі. Ладная, для сапраўднага майстра робленая. Аднак не лес жа ёю валіць! Можа, і сапраўды той Імпал пакінуў? І не сон быў гэта зусім… (*Сыходзіць*.)

Неба. Чуцен гук пастушковай дудкі. З’яўляюцца каровы, за імі пастушок Міколка.

М і к о л к а. Ногі пазбіваў аб карэнне, пакуль гэтых аблудных кароў пазбіраў. Гэзуюць, плішчацца ў гушчар ад слепакоў, а тыя джаляць няшчадна. За дзень разбрыдуцца каровы па лесе — паспрабуй іх сабраць! Малайчына дзед Міхаль — навучыў мяне, як дудку скруціць. Як дунеш на поўныя грудзі — пагудка ракою аж да Галасяціна ляціць. І каровы мае ўжо ведаюць — збіваюцца ў статак. Каб не дудка, ці пазбіраў бы тых кароў…

Ад хутара бяжыць дзяўчынка.

Д з я ў ч ы н к а. Мікола, заварочвай кароў!

М і к о л к а. Дык іх жа выдаіць трэба…

Д з я ў ч ы н к а. Няма як! Жаўнеры наехалі са стрэльбамі. Сусед наш, Баханок, кажуць, у камуністыя запісаўся, водзіць іх па сяле, падказвае, дзе каторы багатыр жыве. Да Сініцы прывёў, кажа: «Кулак ён, восем кароў дойных мае». А якраз дойка, сталі забіраць, дык і малако тое вывернулі. Сініца за вілы ўхапіўся, але дзе ж там — скруцілі яго, на воз кінулі. Зараз і да нас дабяруцца…

М і к о л к а. То ты адгані кароў у гай, а я пабягу, можа, чым бацьку дапамагу…

Зямля. На вясковым падворку. Жаўнеры з Баханком, які ўжо валачэ барану. Бацька Васіль, маці, сястра. Чуецца жаночы лямант. Убягае Міколка.

Ж а ў н е р. Успокойтесь, гражданочка, иначе… Согласно постановления сельсовета, у вас изымаются излишки живности, птицы, зерна. Открывайте сараи!

В а с і л ь. Адкуль у нас тыя лішкі? Абы да новага хлеба дажыць…

Б а х а н о к. Не прыбядняйся, Васіль! Я сваё свінчо яшчэ на Каляды закалоў. А ў цябе поўныя хлявы жыўнасці…

В а с і л ь. Яны мне што — з неба зваліліся? Ці, можа, ты, Баханок, спіну на маім полі гнуў, мазалі нажываў? Ага!.. Ты ўсю вясну на рацэ з вудаю прасядзеў, а цяпер на чужое паквапіўся…

Б а х а н о к. Не на чужое, а на калякцыўнае. Савецкая ўласць усё пароўну падзеліць, і не будзе больш ні багатыроў, ні беднякоў!

В а с і л ь. Так ты мне, Баханок, збіраешся за зямлю аддзячыць, якую я табе пад хату саступіў? І што гэта за ўласць такая сялянская, што саміх сялян і рабуе?

Ж а ў н е р. Рабами вы были при панской Польше, а советская власть принесла вам свободу.

В а с і л ь. Асвабадзіла, як папа ад кадзіла…

Ж а ў н е р. С попами мы ещё разберёмся. А за оскорбление советской власти ты, кулацкая сволочь, ответишь: узнаешь, где Макар телят не пас. Приступайте к реквизиции!

Чуюцца далёкі гул самалётаў, выбухі.

М а ц і. А божачкі мае, няўжо зноў вайна!

Разбягаюцца ў розныя бакі. Падворак пусцее. Гучыць нямецкі марш, у які ўплятаецца спалоханае квактанне курэй, гагатанне гусей, лопат крылаў.

Неба. На месцы купальскага вогнішча гараць вясковыя хаты, гучаць аўтаматныя чэргі, крыкі людзей, дзіцячы плач.

Зямля. Ноч. На падворку з’яўляюцца партызаны, якіх прыводзіць Баханок. Стук у акно.

Б а х а н о к. Адчыняй, Васіль, а то дзверы выб’ем!

Выходзяць Васіль, спалоханыя сямейнікі.

В а с і л ь. Што гэта ты, Баханок, прыляпіўся да нас, як слата балотная? Тыдзень таму сала з хлебам торбу напакаваў, вунь морду ад’еў, у зямлянцы седзячы…

П а р т ы з а н (*апрануты пад кубанскага казака*). Тише, мужик, тише, а то, глядишь, и пульку схлопочешь. Знаем мы, как ты фашистских прислужников рыбкой подкармливал…

В а с і л ь. Дык жа і яны спраўна стрэльбамі пад носам махаюць, вы ноччу, яны — днём. І самагонку не горш за вас хлебчуць.

П а р т ы з а н. Ты что нас с оккупантами равняешь — мы Родину защищаем!

В а с і л ь. Ты, можа і бароніш свой СССР, а мне ад каго бараніцца? Пад Польшчай жылі, дык тыя, куды ні паткніся — адно «хам» ды «хам». А як Саветы прыйшлі, то мяне з хамаў у нейкія там «кулакі» запісалі. І каб не наляцелі самалёты з крыжамі, то я, Баханок, з тваёй ласкі, валіў бы цяпер сібірскі лес. Ужо і не ведаю, хто тут вызваліцель, а хто акупант…

Б а х а н о к. Шкада, не паспела цябе раскулачыць наша, народная ўласць. Але не доўга чакаць засталося — Чырвоная Армія ўжо пагнала немцаў ад Масквы.

В а с і л ь. Ага, праходзілі тут паўз вёску такія ж «пачакальнікі», адзін, ажно з Шанёў, вершыкі складае, нагадай, Міколка…

М і к о л к а (*урачыста*)

Нашы рукі як з жалеза,
Нашы грудзі быццам печ,
А за намі Белавежа:
Можна ўдарыць, можна ўцеч!

В а с і л ь. Вы зараз воза напакуеце і схаваецеся ў сваіх зямлянках, а мне куды загадаеш уцякаць?

П а р т ы з а н. Давай к нам, в лес, фашистских гадов бить!

В а с і л ь. А хто ж вас карміць будзе? Ды й набілі вы ўжо фашыстаў… Нейкія прыхадні пукнулі пару разоў з Ліскаў у бок немцаў, а тыя наляцелі і ўсё сяло разам з людзьмі агнём пусцілі.

С я с т р а. Адна дзяўчынка, кажуць, цудам уратавалася, дабегла да лесу, глядзіць, а побач на дрэвах тыя партызаны, бы гракі паселі і пазіраюць на гэтае крывавае пекла.

Ж о н к а. А з Дзедаўкі, за тое, што вас карміла, сагналі людзей, хто ў чым быў, і вывезлі ў Нямеччыну. (*Енчыць.*) Вось і нас могуць гэтак жа…

Б а х а н о к. Заткніся, а то зараз куля заткне. Кажы малому, Васіль, хай каня запрагае — трэба яшчэ ў пару двароў заехаць. І мяшок бульбы ўкінь. А кабанчык твой хай пакуль падрастае…

Выязджаюць з двара. Зноў гул самалётаў, выбухі, раскацістае «ўра-а!».

Неба. Школка: дзеці і настаўніца.

Н а с т а ў н і ц а. Учора, дзеці, мы з вамі перапісалі ў сшыткі верш пра тое, як цяжка жылося вашым бацькам пры панскай Польшчы. Праверым, як вы яго вывучылі. Міколка, ідзі да дошкі.

М і к о л к а (*выходзіць да дошкі, голасна дэкламуе*)

**Пры панскай Польшчы**

Мы нічым так не багаты,
Як багаты мы бядой,
Нашы хаты — ў шыбах латы,
Сцены сыплюцца трухой.

В у ч а н ь з к л а с а. Рыхтык, як у нашага Баханка хата, праўда, ён цяпер у Сініцыну перасяліўся…

Н а с т а ў н і ц а. Сініца быў кулаком, ворагам савецкай улады. А таварыш Баханок — партызан-герой.

В у ч а н ь з к л а с а. Мікола, а нашто гэта твой бацька зямлянку выкапаў каля канюшні?

М і к о л к а. Ён начуе там пасля таго, як нашага Дэрыша ў калгас забралі. Перажывае, што конюх не дагледзіць як след… Бо ж кажуць, схуднелі вельмі коні…

Н а с т а ў н і ц а. Хутка ў калгасе замест коней будуць трактары, а замест цэркваў — клубы. І зажывём мы тады пад кіраўніцтвам таварыша Сталіна вольна і шчасліва! А заўтра, дзеці, мы будзем з вамі дапамагаць калгасу — падбіраць каласкі на полі. Бо хлеб — усяму галава!

Зямля. Апусцелы вясковы падворак. Калектывізацыя.

М а ц і (*галосіць*). А божачка ж ты мой, а што ж гэта робіцца! Зямлю абрэзалі пад самыя хаты, жывёлу — у калгасныя канюшні ды кароўнікі пазаганялі.

В а с і л ь. А за брыгадзіра — Баханок, як жа, партызан! Яны ўсе, як павыходзілі з лесу, то ў начальнікі і падаліся — хто ў сельсавет, хто ў кантору, хто яшчэ куды.

М а ц і (*галосіць*). А як жа мы жыць будзем, а чым дзетак карміць!

В а с і л ь. Ты ж бачыла, якія яны багатыры былі, калі перад вайною сюды прыйшлі, з сала нашага дзівавaліся, казалі, што клеенае.

М а ц і. А ў шарашоўскай краме ўсё, што было, паскуплялі. Нашы дзеўкі ад смеху клаліся, калі жанкі іхніх камандзіраў у споднiх сарочках з карункамі на шпацыр павыходзілі.

В а с і л ь. Баюся, не да смеху будзе, калі за тыя палачкі, што брыгадзір за работу праставўляе, плаціць пачнуць…

Неба.

Ж а н ч ы н ы (*вядуць Кусту*)

Прывялі мы кусту з зялёнага клёну,
Ой, дайце ж нам, пане, хоць па залатому…

Зямля. Куста рухаецца па вясковай вуліцы.

Неба. З’яўляецца хата, каля якой сядзіць самотны Майстар. З вышыні пражытых гадоў ён углядаецца ўніз, на Зямлю — там ягонае дзяцінства, юнацтва, там усё ягонае жыццё. Сцэнкі з вясковага жыцця: хлопчык вядзе каня, за ім бацька за плугам; з адваротнага боку іх змяняе сейбіт; жнейкі з сярпамі, снапы ў бабках.

М а й с т а р. Маці казала, што нарадзіўся я ў полі. Можа, таму і суджана мне было век векаваць у гэтым полі. Але я не журыўся ніколі, я люблю працаваць. Гэта ж якая любата, ажно сэрца млее, калі бачыш, як рунь зелянее, як картопля на загонах падымаецца, як жыта, бы тое мора, каласіцца-наліваецца… З ранняй вясны да позняй восені ў хаце адно старыя ды малыя. Астатнія — хто ў полі, хто на лузе, хто ў лесе. А была ж яшчэ і рэчка, рыбы — што сабе, а больш на продаж. А ракі, велізарныя, дзясятак на цабэрак, клешні як абцугі. Наловіць бацька — і ў Шарашова. Глядзіш, залатоўка да залатоўкі, назбіраецца на кавалак зямлі, на каня добрага ці на кароўку. Толькі сталі абжывацца пасля

расейскага бежанства, а тут зноў вайна. Што яна не падабрала, тое дарэшцілі калгасы. (*Напявае*.)

Як я ехаў да яе —
Брычка на рысорах,
А прыехаў ад яе…

От жа прычэпіцца песня — гэтых, як іх, «Песняроў». У нас так не спявалі, нашы дзяўчаты як завядуць песню, то ажно душа вяне. І плыве тая песня нядзельным адвячоркам над ракою. Нашы пачнуць, а ў Галасяціне падхопяць. Ці сваю завядуць — чыя прыгажэйшая, хто галасісцейшы…

Але чаго ж гэта мне тая брычка на рысорах згадалася? Хаця адкуль там тыя рысоры?

Зямля. Вясковы падворак.

М а ц і. Бацька, а наш Мікола ўжо пра вяселле падумвае — упадабаў на кірмашы ў Шарашове дзеўку…

Б а ц ь к а (*пасміхаецца*). А жанілка ў яго вырасла?

М а ц і. Ты што, ужо зранку глыгнуць паспеў — дачок пасаромеўся б! Мікола, адкуль хоць дзеўка будзе?

М і к о л а. З Вяжнова…

В а с і л ь. З Вяжнова? Гэта ж кіламетраў дваццаць з гакам. Ну што ж, маці, трэба сватоў пасылаць і шыхавацца да вяселля.

Неба. Аднекуль здалёк пачынае гучаць вясельная песня.

Зямля. Выязджаюць вазы з вясельнікамі.

М а й с т а р. Выпіў бацька з брыгадзірам пляшку, і той даў нам тры падводы. Да Вяжнова ехалі кругам, там жа ў царкве павянчаліся. А на наступны дзень пасадзіў я маладую ў вэлюме на воз, і дунулі мы напрасткі — праз тры ракі. Першыя дзве неяк праскочылі, а на трэцяй — рукой падаць да хутара — ўбіліся па самыя драбіны. Конь з аглобляў пнецца — ні з месца.

Г о л а с. Но, но! А каб на цябе! Ну што, Маруся, задзірай сукню — не аднаму ж Міколу тваімі ляжкамі любавацца. А ты ж, Мікола, глядзі, каб у нагавіцы рак не запоўз: адгрызе прычындалы — сораму ноччу не абярэшся!

Жаночы голас задзірыста заводзіць песню: «Цячэ вада ў ярок, цячэ вада ў ярок, кладачку занясло…» Вяселле ад'язджае.

Неба. Хата, каля якой сядзіць самотны Майстар.

М а й с т а р. Забралі ў людзей зямлю, пазганялі да купы, бы тых авечак. І стала між людзей множыцца розная поскудзь. Сыдуцца мужыкі на калгасным двары пасля працы — пляшка. Бабы кароў падояць — яшчэ пляшка. І пайшлопаехала: «А якая ж то кума, што пад кумам не была!»

Зямля. П’яная кампанія. Гучыць песня: «…Сабралася бедна басота дый гарэлку п’е…»

М а й с т а р. Сталі ў вёсцы сем’і раскідвацца. Было такое, што і хату распалавінілі, і дзяцей падзялілі: баба з дочкамі з аднаго боку, мужык з сынамі — з другога. І тыя галодныя, і гэтыя, адзін у другога гатовыя апошняе зубамі вырваць. Але ж мы з Марусяй маладыя — як ні ёсць, то ўсё добра. Пасяліліся ў хаце дзеда Міхаля, разжыліся парай падсвінкаў, кароўкай — якая-ніякая, а свая гаспадарка. Налавіў я неяк рыбы ў рацэ, панёс у Шарашова прадаваць.

Царква. На адным з купалоў, ля крыжа, чалавек. Гук пілы. Вакол царквы людскі натоўп, крыкі, лямант.

Ж а н о ч ы я г а л а с ы. Нехрысць, што ж ты робіш! Бога пабойся!

Ч а л а в е к. А чаго мне яго баяцца — ён жа намаляваны. А гэтую гнілую дзеравяшку даўно трэба было скінуць.

Крыж падае, а разам з ім чалавек. Грукат. Натоўп ахае і заціхае.

Неба.

М а й с т а р. Я рэдка ў царкву хадзіў, ды й не было куды хадзіць: цэрквы вакол пазачынялі, а тыя, што засталіся, раптам адна за другой сталі гарэць па начах. Збягуцца людзі на пажар, а замок у дзвярах нечым заткнуты. Так і дагарыць тая царква разам з абразамі. Але, кажуць, недзе за Маларытай людзі злавілі падпальшчыка — каб не міліцыя, то, мусіць, забілі б. А тады зладзілі старожу па начах. Тая царква і дагэтуль стаіць, шыльду на ёй павесілі, што помнік. Прызнацца, я пасля Шарашова стаў маліцца. Моўчкі. На рэчцы, у лесе, у полі. Бог — ён усюды, але найперш у нас саміх. І калі чалавек губляе свайго Бога, ён губляе сябе самога…

Зямля. Дзіцячы гурт. Гучыць дзіцячая песня-гульня: «Явар, явар, яваровы дзеці…»

Неба.

М а й с т а р. Вясной, калі наша рака разлівалася, на паплавах зацвітала лотаць — ад вёскі да вёскі залаціста-жоўтае мора. Прыгрэе сонейка, і паміж кветак гуляе-плешчацца рыба. А па вечарах салаўі ажно заходзяцца! Пацiху рака ўбіралася ў берагі, і лугавіны пакрываліся чырванню зязюльчыных ручнічкоў. А на Купайлу белым-бела ад пушкоў — нібыта пуховая падушка разарвалася ў маладухі, калі іх выносяць з хаты праветрыцца…

Не думаў я, што ўласнымі рукамі вынішчаю ўсю гэтую прыгажосць, калі пайшоў працаваць у меліярацыю. Падрасталі дзеці, іх трэба было карміць, апранаць-абуваць, вучыць. За калгасныя грошыкі не разгонішся. І палез я з гарадской тэхнікай у балота. Побач з нашай ракой, што кружыла-віравала між алешын і чаратоў, лягла страла канала. Сышла-сплыла вадзіца з ціхіх тоняў, і ператварылася наша рака ў пусты рукаў інваліда…

Вылез я неяк са сваёй машынэрыі, прылёг на грудок, які ўжо пайшоў жоўтым пясочкам, задрамаў, і прысніўся мне чорт з колішніх бабуліных казак-страшылак…

Неба — Зямля. Атмасфера казкі пра апошняга чорта, якога меліяратары выгналі з балота.

Б а б у л я-к а з а ч н і ц а

Ноч такая выпадае рэдка:
Сціхлі песні, сціхлі галасы…
Зоры распускаюцца, як кветкі,
Светлячкамі — кропелькі расы.
Спіць над хатамі бусліны клёкат,
Лашчыцца вярбінка да вады…

Раптам — шусь! — і з Чортавага вока
Вылез Чорт, замурзаны, худы.
Вылез, азірнуўся палахліва…
Не, здаецца, гэта драч рыпіць…
Бокам-бокам, і да цуда-дзіва,
Што па-над канаваю стаіць.
Многа на сваім вяку пабачыў
Чорт страшыдлаў розных, ды цяпер
У балоце ўсё пераіначыў
Гэты ненажэрны, страшны звер.
Невядома, што чакае заўтра…
А нядаўна поўз сабе ды поўз
І зубастай пашчай дыназаўра
Паскубаў-такі ў чарцякі поўсць.
Напалохаў беднага да смерці…
Дурні-карасі залезлі ў мул…
Паўцякалі ўсе з балота чэрці —
Дзе падзецца беднаму яму?
Чорт перахрысціўся для парадку,
Паглядзеў на вёску, уздыхнуў
І падаўся моўчкі, без аглядкі
За раку, у казку, ў даўніну.

А над рэчкай зіхацела поўня,
І сляды цямнелі на траве…

«Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная?» —
Цёхкаў-перапытваў салавей…

Неба. Хата, каля якой сядзіць самотны Майстар. Знізу, на Зямлі, прыціхлая вёска.

М а й с т а р. Сплыла з нашай ракі вадзіца, а следам за ёю падаліся і людзі. Спачатку моладзь: хто вучыцца, хто ў замуж, хто на заробкі ў няблізкі свет. З'язджалі — і больш не вярталіся. Следам за дзецьмі пацягнуліся і бацькі. Аціхла без маладых песень, апусцела без вясёлых дзіцячых гульняў вёска. Сабяруцца адвячоркам старыя на якой лавачцы пад плотам і пераказваюць адно аднаму тое, што прыляцела да іх у рэдкіх лістах.

Зямля. Гамонка на лавачцы.

Ц ё т к а. Чуеш, Іван, гэта ж у майго Васіля сын нарадзіўся, а я й нявесткі не бачыла — дзе ты папрэшся ажно ў той Данбас!

І в а н. Некалі мой дзед на заробкі ў Амерыку ездзіў, дык тыя вярталіся дадому: заробяць грошы, прыедуць, зямлю купяць. А гэныя — ні саміх не бачым, ні іхніх грошай.

Ц ё т к а. А што тут купляць будзеш? Вунь сёння Грыгарчукі апошнюю карову павезлі: галаву ў багажнік, ногі на прычэп — і смех, і слёзы…

І в а н. Ну гэтыя хоць не далёка — да Берасця перабіраюцца, не тое, што твае.

Ц ё т к а. А Дзмітруковы ажно ў Казахстан, на цаліну папёрліся, там і прыжыліся. Божа ж мой, Божа! Пройдзешся вечарам па вёсцы — вокны чорныя, пустыя, дзе-нідзе агеньчык свеціцца. А раніцою і дыму з коміна не ўгледзіш…

І в а н. То ж нездарма па радзіве бясконца цягнуць: «Мой адрас не дом і не вуліца, мой адрас — Савецкі Саюз!» Бы ў тых цыганоў — ні кала, ні двара…

Зямля. Падворак Майстра.

М а й с т а р. Узяўся я неяк клуню перакрываць. Салома, яшчэ дзедаўская, ушчэнт згніла, а сын якраз у Берасці шыферу расстараўся. Стаў я тую салому здзіраць, а з-пад паветкі нешта ў шматку загорнутае мне і звалілася да ног. Разгарнуў — а там сякерка, ды такая ж ладненькая, шмаравідлам змазаная, абцёр, дык аж бліснула на сонейку. І рукі самі папрасіліся да палена. (Абчэсвае палена.) Згадалася, як яшчэ хлапчанём схаваешся дзе-небудзь за клуняй і лепіш з гліны ці ножычкам выразаеш з дрэва чалавечкаў, конікаў, каровак… Захопішся і забудзеш пра тых куранят, над якімі ўжо шуляк павіс, ці пра авечак, што ў грады ўбіліся… Ажно пакуль баба не выцягне са схованкі, паадбірае тыя цацкі, абазваўшы лайдаком, а то яшчэ і хлюбай перацягне…

Майстар на Зямлі рэжа, а на Небе адна за другой з'яўляюцца ягоныя працы.

Засталіся мы па тым часе ўдвох з гаспадыняй у хаце. Дзеці — хто ў Берасці, хто ў Пружане. Гаспадыня ляжыць на ложку, а я рубаю, цэлую ноч рубаю. Розныя гаспадарскія работы паўспамінаў — як араў мужычок, як касіў, як баранаваў.

Зямля. Побач з майстрам з'яўляецца праца пра тое, як п'яны мужык чым папала лупцуе жонку. А побач — да смерці напалоханыя дзеці.

М а й с т а р. Зрабіў неяк работу, як п'яны мужык чым папала лупцуе жонку, паставіў на стол і сам заплакаў. А мая гаспадыня пабачыла ды й кажа: зусім здурэў стары пянёк — сам зрабіў і над дрэвам плача. Пяць гадоў я так рэзаў. Лягаю — яно мне ў вачах стаіць. Прачынаюся — зноў яно перада мною. Як бы мною нехта кіруе. І так я раблю па ягоных падказках. Сякерка, пілачка, нож, бураўчык — усе мае інструменты. Сабраў неяк сын мае работы і павёз да Берасця, у культуру. Ажно праз тыдзень вяртаецца.

Заходзіць сын з чамаданам.

С ы н. Тата, спалі ты гэта ўсё, не муч рукі, нікому твае цацкі не трэба. Лепш выгадуй лішняга кабанчыка ды прадай — можа, за кватэру хутчэй разлічымся…

М а й с т а р. Ну, кабанчыкаў я вам выгадую, і табе, і сёстрам. А дзеці твае ці будуць ведаць, з чаго што бярэцца? А так глянуць на мой драўляны народ, паслухаюць дзеда — і, глядзіш, нешта зразумеюць…

Неба. Начальнік за сталом, да яго з чамаданамі цацак ідзе Майстар.

М а й с т а р. Сабраў я свае работы, каторыя меншыя, у чумайданы — два чумайданы напакаваў — і павёз у Пружану, у райком. Зайшоў у прыёмную: бегаюць туды-сюды мужчыны, жанчыны з паперкамі, а мне ніяк не ўбіцца. Стаяў я, стаяў, раззлаваўся — у мяне ж аўтобус, чакаць не будзе. За чамаданы і ў дзверы, ды й вываліў на стол перад самым галоўным начальнікам. Што там рабілася — з усіх кабінетаў пазбягаліся, абступілі, дзівяцца…

Зямля. У хаце майстра.

М а й с т а р. А праз нейкі час прыходзіць мне з сельсавета тэлеграма: прыбярыце хату, да вас едуць карэспандэнты. А гэта было пасля Раздва — снегу намяло па вокны! Думаю, чорта з два сюды хто даедзе. А ў мяне ў хаце і авечка, і парасяткі нарадзіліся — мароз! Думаю: ну, авечку то вынесу, а парасяты выносіць не буду, хто б там ні ехаў. Цэлую ноч не спаў, тыя павукі ганяў венікам з кутка ў куток — не хочуць на мароз з хаты вылазіць.

Ды тут чую, два бульдозеры пруць. Анголы нябесныя! Скінулі мне снег аж ад самага хлява і да Чабахаў. Накарміў я парасятак, каб жа хоць не вішчалі, а сам паглядаю на дарогу. Бачу — ідуць, ажно пяць карэспандэнтаў. Фатаграфуюць мае работы, распытваюць: а што гэта, а чаму так?

І пайшло-паехала, па ўсіх газетах, па тэлевізары…

Неба. Майстар у сваім музеі сярод наведвальнікаў.

М а й с т а р. Вось гэта млын ветраны, а былі яшчэ ў нас на рацэ вадзяныя. Змелеш на ім муку, гаспадыня замесіць цеста, на кляновым лісці яго ў печ — шух! Дастанеш з печы, трохі ад попелу адскрабеш, скарынку часныком намажаш, аж агонь у роце сягае — любата! Цяпер мы апранутыя, наетыя, а ваўком пазіраем адзін на аднаго. І ўсё вінаватых шукаем. А таго не разумем, што самі вінаватыя, самі сябе распусцілі… Бывае, што ў нашага мужыка выяўляецца сабачая мова: то ўправа брэша, то ўлева. І муцюны навокал: яшчэ не пасеялі, а ўжо важаць. А чыноўнікаў як тых камароў на балоце. А тут вось як на вячоркі некалі збіраліся, з кудзеляй, з вышыўкай. Хлопцы ноймуць гарманіста — і пайшлі полечку скакаць. Часам і басанож скакалі. Цяпер у нас таксама падаюць культуру танцуючай, хоць культура ў нас плачучая. А прырода зусім знішчаная. Я сказаў бы так: культуру прапілі, а прыроду з'елі. А чаму наша Беларусь плача? — Бо няма ў яе роднага бацькі, а айчым — ён толькі караць здатны.

Майстар на Небе рэжа. На Зямлі ягоны музей. На Неба да Майстра з'яўляецца Імпал.

Было ў нашым сяле 46 двароў, застаўся я адзін...

І м п а л. Не, Мікола, ты не самотны.

М а й с т а р. Хто ты, чалавеча, скуль будзеш?

І м п а л. З выраю я, Мікола, і сякерка твая адтуль. Ды й табе наспеў час у вырай збірацца…

М а й с т а р. А як жа мой драўляны народ?

І м п а л. А ён з жывым народам застанецца. Застанецца, як Прытулак памяці.

Майстар і Імпал сыходзяць разам. Музыка. З-за батлейкі выходзяць Гаспадыня і Гаспадар з лялькамі-сімваламі ў руках (Марусі і Майстра).

Г а с п а д а р

Вядзе дадому сцежка верасовая,
Над рэчкай захад ціха дагарэў.
Прыспалі песню вулачкі вясковыя, —
Ніхто яе каханнем не сагрэў.

Г а с п а д ы н я

А песня доляй нам была прызначана
І выспявала ў роснай цішыні,
Была яна бацькоўскаю па спадчыне,
Матулінай была па чысціні.

Г а с п а д а р

Схілюся долу сіратлівым коласам,
Прысню ручнік на матчыным крыжы…
І як ты будзеш, вёсачка, без голасу
Тваёй адвеку песеннай душы?!

Г а с п а д ы н я

Узыдзе месяц залатой падковаю…
Радзінная па долі і крыві…

Г а с п а д а р і Г а с п а д ы н я (*разам*)

Прачніся з песняй, вулачка вясковая,
І песенна, і сонечна жыві!

**Віктар Губарэвіч**

## Жонка Каіна

*Размова Дылетанта з Багасловам*

Д ы л е т а н т. Адкуль узяліся людзі на зямлі?

Б а г а с л о ў. «…и создал Господь Бог человека из праха земного, и вдунул в лице его дыхание жизни… и создал Господь Бог из ребра, взятого у человека, жену… Адам познал Еву, жену свою; и она зачала и родила Каина. И ещё родила брата его, Авеля» (Бытие, гл. 2, 3).

Д ы л е т а н т. Але ж потым Каін забіў брата свайго, Авеля. Адкуль жа людзі?

Б а г а с л о ў. «…и познал Каин жену свою, и она зачала, и родила Еноха…» (Бытие, гл. 4).

Д ы л е т а н т. Ды адкуль жа тая жонка ўзялася? Бо іншых людзей на зямлі яшчэ не было.

Б а г а с л о ў. Мушу прызнаць — гэта цяжкае пытанне. Цяжкіх пытанняў у Бібліі многа. Таму да сярэдзіны XX стагоддзя Царква не дазваляла вернікам чытаць Біблію. Бо вернікі маглі няправільна зразумець яе змест. Дакладна Біблію маглі тлумачыць вернікам толькі святары. У дапамогу святарам навукоўцы-багасловы друкавалі дапаможнікі. Так, у сваёй кніжцы «Сто цяжкіх пытанняў Бібліі» навуковец-багаслоў Бернар Гёцэ пра жонку Каіна пісаў, што ў Евы, згодна з Бібліяй, потым яшчэ былі дзеці. Магчыма, што сярод іх былі і дочкі. Можна выказаць здагадку, што Каін ажаніўся з адной з іх. Са сваёй сястрой.

Д ы л е т а н т. Бернар Гёцэ жыў з 1888 па 1962 год. У той час, калі ён пісаў свае навуковыя працы, яшчэ не існавала такой навукі, як генетыка. Гэтая навука сцвярджае і пераканаўча даказвае, што блізкародныя палавыя сувязі прыводзяць да зводу роду. Таму праз іх немагчыма стварыць жыццяздольнае племя.

Б а г а с л о ў. Для Госпада Бога няма нічога немагчымага.

Д ы л е т а н т. Дык не толькі навука, але і звычайны жыццёвы вопыт пацвярджае, што ў прыродзе, сярод жывёлаў, звычайна інцэсту няма. Так, ваўчыца ніколі не спарваецца са сваімі бацькам, братам ці сынам. Калі няма паблізу самца з аддаленай радні альбо наогул з другой зграі, то ваўчыца можа спарыцца нават з сабакам альбо наогул застацца непакрытай. У яе інстынкты закладзена, што нашчадства ад блізкароднаснай сувязі будзе слабым і не зможа вытрываць суровыя ўмовы ваўчынага жыцця. Ды і Царква хрысціянская таксама забараняе і не ўсвячае блізкародныя шлюбы з той жа нагоды.

Б а г а с л о ў. Магчыма, Гасподзь Бог у той час для размнажэння чалавечага роду часова памяняў гэтыя ўмовы.

Д ы л е т а н т. Гэта значыць, часова змяніў геном чалавека, а праз некалькі пакаленняў узрадзіў яго ў тым выглядзе, у якім ён існуе зараз?

Б а г а с л о ў. Для Госпада Бога няма нічога немагчымага.

Д ы л е т а н т. Ну што ж, супраць такога сцвярджэння цяжка што-небудзь запярэчыць. Але ж вернемся зноў да біблейскага тэксту. Бо ён святы і нязменны. Дык вось у главе 4 Быцця ў радку 17 сказана, што пазнаў Каін жонку сваю, і былі ў іх і сыны і дочкі. І толькі значна пазней, у радку 25, сказана аб тым, што пазнаў Адам яшчэ жонку сваю, і нарадзіла яна сына Сіфа, а пра дочак Евы няма зусім ні аднаго слова.

Б а г а с л о ў. Біблія апісвае толькі асноўныя падзеі. Аб многіх іншых у ёй можа і не быць ніякіх згадак.

Д ы л е т а н т. Добра. Вы мяне амаль пераканалі. Але вось тут жа ў Кнізе Быцця ёсць месца, тлумачэння якога пастараўся пазбегнуць нават выдатны багаслоў Бернар Гёцэ. Пасля таго, як Гасподзь Бог даведаўся, што Каін забіў свайго адзінага брата, ён сказаў Каіну: «…и ныне проклят ты… ты будешь изгнанником и скитальцем на земле. И сказал Каин Господу: наказание моё больше, нежели снести можно. …я буду изгнанником и скитальцем на земле; и всякий, кто встретится со мною, убьёт меня. И сказал ему Господь: за то всякому, кто убьёт Каина, отмстится всемеро. И сделал Господь Каину знамение, чтобы никто, встретившись с ним, не убил его. И пошёл Каин от лица Господа; и поселился в земле Нод… и познал Каин жену свою…» (Бытие, гл. 4). Але каго баяўся Каін? Тыграў? Чмялёў? کракадзілаў? Каму забараніў Гасподзь забіваць Каіна? У Бібліі няма тых месцаў, дзе Гасподзь Бог звяртаўся б са сваімі пропаведзямі да жывёл ці да казурак. Са сваімі пропаведзямі і запаветамі ён заўсёды звяртаецца толькі да людзей. Зусім відавочна, што і Каін баяўся людзей, якія даведаліся пра яго цяжкі грэх. І менавіта людзям забараніў гасподзь забіваць Каіна, і менавіта людзям пагражаў ён непазбежнай помстай за забойства Каіна. Нідзе ў Бібліі няма месцаў, дзе Гасподзь Бог пагражаў бы карамі жывёлам альбо казуркам. Заўжды ён пагражае карамі людзям і толькі людзям. Дык другіх людзей, акрамя Адама, Евы і Каіна, не было! Ці ўсё ж былі? Гэтую супярэчнасць нават Бернар Гёцэ пазбегнуў тлумачыць.

Б а г а с л о ў. Вашыя словы богапраціўныя. Гэта сатанінскае спакушэнне. Нельга сумнявацца ў праўдзівасці хрысціянскага вучэння.

Д ы л е т а н т. Але ж усё гэта можна растлумачыць дастаткова проста і пераканаўча. Трэба толькі дапусціць простае і відавочнае: не Бог стварыў чалавека, а Чалавек — Бога. А дакладней, людзі стварылі багоў. У розных раёнах зямлі розныя народы ў розны час стваралі багоў. Кожны народ — свайго. Што далёка хадзіць? Нават са школьных ведаў магу пералічыць многіх: Ра, Зеўс, Юпітэр, Пярун, Дажджбог, Вішну, Крышна, Саваоф, Іегова, Буда, Дао, Сінто, Одзін, Ісус, Алах. Калі звярнуцца да гісторыі народаў свету, то ўсплывуць сотні імёнаў багоў і чалавекабагоў, гэта азначае, тых багоў, што былі народжаны людзмі, а потым сталі багамі. Пры гэтым людзі ў старадаўнія часы, калі не было сродкаў масавай інфармацыі і хуткіх зносін, ведалі толькі сваіх багоў і разумення не мелі аб існаванні іншых народаў і іншых багоў. Кожны лічыў менавіта свайго і толькі свайго бога адзіным і ўсёмагутным. Дарэчы, амаль усе богачалавекі, такія як Ра, Буда, Ісус, нарадзіліся 25 студзеня па новым летазлічэнні. Можа, вы

самі сабе паспрабуеце знайсці разгадку гэтага феномена? Тым болей, што яна вельмі празрыстая. Для верніка Бог існуе. Але ж насамрэч ён існуе не звонку, а знутры чалавека, у яго душы, у яго думках. Бог як крытэрый маралі чалавечых учынкаў. Чалавек сам стварае сабе Бога. Для адных Бог — гэта ўвасабленне дабрыні і справядлівасці, для другіх — сілы і жорсткасці, трэція аддаюць перавагу матэрыяльнаму багаццю, чацвёртыя — славе і г.д. Людзі вераць у align рознае: у дабро, у сілу, у грошы, у каханне, у навуку, у карму, і гэты рад можна яшчэ значна падоўжыць. Такі погляд на рэлігію пацвярджаецца ўсім вопытам нашага жыцця. Ён не патрабуе натужлівых і непераканальных тлумачэнняў.

Б а г а с л о ў. Такімі развагамі вы ставіце чалавека вышэй за Бога. Гэта грэх.

Д ы л е т а н т. Кожная са шматлікіх існых на зямлі рэлігіяў патрабуе ад сваіх вернікаў сляпога пакланення перад Богам, без развагі і сумневу. У іншым выпадку пагражае разнастайнымі карамі. Наша размова ня можа завяршыцца ўзаемапаразуменнем, бо я разважаю, нічога не прымаючы на веру, а вы — верыце без развагі і лічыце ўсялякія развагі аб веры грахом.

Б а г а с л о ў. Так, гэта праўда. Я веру!

# КРАЯЗНАЎСТВА





**А л е с ь  З а й к а**

Нарадзіўся 12 жніўня 1948 г. у в. Заполле Івацэвіцкага раёна. У 1966 г. скончыў Косаўскую сярэднюю школу, у 1971 г. — філфак Брэсцкага пецінстытута. Празаік, краязнавец, фалькларыст. Лаўрэат Берасцейскай мядовай літаратурнай прэміі за 2011 год за кнігу прозы «Дым з коміна». Аўтар кніг «Дыялектны слоўнік Косаўшчыны» (2011), «Населеныя пункты Івацэвіччыны» (2012), «Фразеалагічны слоўнік Косаўшчыны» (2014). Жыў у роднай вёсцы, загадваў школьным этнаграфічным музеем. Памёр 26 чэрвеня 2018 г.

## Прамова Івана Мялешкі на сойме

У 1609 годзе ў Варшаве ў прысутнасці караля і вялікага князя Жыгімонта ІІІ Вазы (гады кіравання з 1587 па 1632) выступіў з прамовай пасол сейма Іван Мялешка. Яго выступленне стала сапраўдным выбухам, ускалыхнула прадстаўнічы орган, а пазней і грамадзянскую супольнасць Рэчы Паспалітай, бо разышлося па краіне ў шматлікіх спісах. Яно так і ўвайшло ў гісторыю беларускай літаратуры пад назвай «Прамова Мялешкі».

Не прамінем згадаць, усцешыць нашых чытачоў, што Іван (Ян) Мялешка — наш зямляк. Нарадзіўся ён каля 1552 года ў вёсцы Бусяж у сям’і маршалка Слонімскага павета (павятовы маршалак — камандзір павятовага войска) Івана Данілавіча і Анастасіі Васільеўны з роду Тышкевічаў з Бялавіч.

Службовая кар’ера Яна Мялешкі пачалася 23 чэрвеня 1593 года, калі Жыгімонт ІІІ даў яму прывілей на пасаду стольніка Гродзенскага павета (стольнік у час павятковых сеймікаў адказваў за сервіроўку стала, падачу страў, калі паслы збіраліся для агульнай трапезы, кіраваў сваімі памочнікамі — падстольнікамі). У 1598 годзе займаў месца мазырскага падкаморыя, гэта значыць, пасаду галоўнага межавага суддзі. З 2 студзеня 1602 года наш зямляк — слонімскі маршалак. З 1603 да 1620 года ён кашталян мсціслаўскі

(кашталян — камендант, начальнік крэпасці, замка, які таксама выконваў паліцэйска-судовыя функцыі. У службовай іерархіі займаў месца пасля ваяводы), потым да 1615 года — кашталян брэсцкі, з 1615 года — камендант смаленскага замка, крэпасці. У 1613 годзе ўваходзіў у склад сенатарскай рады пры Жыгімонце III Вазе. Асноўныя ўладанні меў на Слонімшчыне. Найперш тыя, што засталіся пасля бацькі — маёнткі ў Бусяжы і Дзявяткавічах. Ужо сам ён адкупіў ад Эстэр, удавы Іцка Міхалевіча (1606), Івана Солтана (1609) і Льва Сапегі (1621) часткі маёнтка Жыровічы з усёй рухомай і нерухомай маёмасцю, а таксама манастыр з цэрквамі, даходамі ад іх і манастырскім фальваркам. Пасля заключэння ў Бярэсці ў 1596 годзе царкоўнай уніі стаў яе актыўным паслядоўнікам і пераканаў мясцовага святара Рыгора Сулу падпісаць згодны ліст, тым самым падпарадкавацца ўніяцкаму мітрапаліту Іпацію Пацею. Акт падпісання датаваны 25 ліпеня 1609 года. У 1613 годзе наш суайчыннік склаў грамату, якой навечна дараваў манастыр і прыпісаныя да яго цэрквы ўніяцкаму ордэну базыльянаў. З гэтага часу кляштар здабыў поўную матэрыяльную незалежнасць, выйшаў з-пад улады багатых уласнікаў, пачаў весці самастойную гаспадарчую дзейнасць. Пры Яну Мялешку (1616 год) закончана будаўніцтва галоўнага храма — Свята-Успенскага сабора. Перад смерцю (памёр 13 мая 1622 года) ён яшчэ адным дарчым запісам ахвяраваў на карысць ордэна само мястэчка Жыровічы з вакольнымі землямі, лясную пушчу Вікня, некаторыя ўласныя дваровыя будынкі. Дзе ён знайшоў сабе вечны спачын, невядома. Хутчэй за ўсё ў Жыровічах. Дзесьці з таго часу знатных і багатых паноў Вялікага Княства Літоўскага пачалі хаваць каля сцен манастыра і ў падзямеллі сабора. Але ёсць і яшчэ адна версія пра апошні прытулак знакамітага грамадскага дзеяча. Версія свая, мясцовая. Яе мне паведаміла прыхаджанка Свята-Успенскай царквы, жыхарка вёскі Бусяж Сірыдзіна Ніна Фёдараўна. Вяскоўцы лічаць, што пахавалі Яна Мялешку ў Бусяжы, радзінным гняздзе роду Мялешкаў. У сутарэннях былога ўніяцкага храма, цяпер праваслаўнай царквы, знаходзяцца дзве дубовыя труны, у адной з якіх, паводле падання, і захоўваецца прах Івана Мялешкі.

Цяпер звернемся да зместу самой прамовы на сейме, што зрабіла імя Яна Мялешкі вядомым на вякі. Па сваіх поглядах гэта быў патрыёт, якому былі дарагія Бацькаўшчына, народ, яго лёс. Параўноўваючы, супастаўляючы сучаснае з мінулым, прамоўца звяртаў увагу на надзённыя, актуальныя праблемы грамадскага жыцця, закранаў унутрыпалітычнае становішча ў краіне, акцэнтаваў увагу паспалітага люду на іншаземным засіллі на землях ВКЛ, разбурэнні народных традыцый, нацыянальным адступніцтве, здрадзе. Паслухаем і мы Івана Мялешку:

«Найяснейшы міласцівы кароль і ласкавыя паны-браты. Выехаўшы з дому, Богу маліўся, каб сюды здаровы прыехаў і вашу міласць здаровымі ўбачыў.

Прыйшоў і мне з вамі час раіцца, а я на такіх пасяджэннях ніколі не быў і з каралём яго міласці ніколі не засядаў. Толькі князі нашыя, якія каралявалі і якія ваяводамі былі (ваявода — службовая асоба ў ВКЛ, кіраўнік мясцовай адміністрацыі ў ваяводстве — пэўнай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай адзінкі ў XV–XVIII стст. — *А. З.*), павучаннямі займаліся, ад сэрца казалі, палітыкі не

зналі, а ў рот праўдаю, бы соллю ў вочы, кідалі. Але ж хутка каралі больш немцаў, як нас, палюбілі, пачалі намі махлярыць, і што нашыя старыя князі сабралі, то ўсё немцам раздалі новыя гаспадары. Прэч Жыгімонта караля! (Прамоўца мае на ўвазе караля Жыгімонта II Аўгуста (гады кіравання з 1548 па 1572. — *А. З.*). Яго няма чаго і за чалавека лічыць, бо Падляшша (Падляшша — частка тэрыторыі на захад ад горада Брэста. — *А. З.*) і Валынь нашыя страціў, называў сябе палякам. А вось Жыгімонт I Стары (гады кіравання з 1506 па 1548. — *А. З.*) — салодкая памяць аб ім. Той немцаў, як сабак, не любіў, і палякаў з іх хітрасцю вельмі не любіў, а Літву і Русь (Літва, Русь — даўнейшыя назвы Беларусі. — *А. З.*) нашу любоўна мілаваў.

Дай, Божа, і зноў такой гадзіны прыждаці і цяпер. Усё мінаецца, усё мяняецца… І апранацца сталі зусім па-другому. Я сам, калі па-дамашняму ўбіраюся, то яе міласць пані Мсціслаўская, жонка мая, нацешыцца і наглядзецца на мяне не можа.

…Кажучы праўду, не так вінен кароль, як тыя радныя баламуцяць, што пры ім сядзяць ды круцяць. Многа тутака ёсць, што хоць наша костка, аднак сабачым мясам абрасла і смярдзіць».

Іван Мялешка — прыхільнік традыцыйнага, даўно ўсталяванага парадку, спосабу жыцця, побыту:

«І то вельмі вялікая непатрэбшчына бясхвостыя куры разводзіць, іх варыці і іншыя птушкі смажыць. Тарты тыя карыцай і міндалямі цукраваці. А за маёю памяццю прысмакаў тых не было. Добрая была гуска з грыбамі, качка з перчыкам, пячонка з цыбуляю і часнаком. А калі хацелася смачнага, то елі рыс з шафранам. Віна венгерскага не ўважалі, як цяпер. Малмазію (малмазія — вельмі каштоўнае загранічнае віно. — *А. З.*) сціпла пілі, медавуху і гарэлачку дзюбалі, але грошай у дастатку мелі. Муры моцныя муравалі, умелі ваяваць лепей, як цяпер».

Часам у парыве гарачнасці, палемічнага запалу ён траціў меру, станавіўся смешным:

«І то на свеце дурніца — гадзіннік. Псуецца, і грошай на рамонт трэба многа. Добры то наш гадзіннік — певень, што ніколі не памыляецца, а заўсёды дакладна ў поўнач кукарэкае».

Прамоўца ў сваім выступленні неаднойчы звяртаўся да маральных аспектаў жыцця, адзначаў зніжэнне маральных ацэнак, мерак, паслабленне духоўнага пачатку ў чалавеку:

«І то непаразуменне: у багатыя сукні паненкі апранаюцца, залатыя медальёны на шыю вешаюць. А падол той рухаецца, за нешта чапляецца. А дваранін (дваранін — шляхціц у ВКЛ, які служыў пры двары вялікага князя. — *А. З.*) на ножку, як сокал, паглядае, каб дзе ўшчыпнуць салодкага мяса…

Калі ж да цябе панічак прыедзе, то пачастуй яго ў дастатку ды яшчэ і жонку сваю каля яго пасадзі. А ён сядзіць, як чорт, надзьмуўшыся, маракуе, думае аб ганебным, нашэптвае ёй на вушка, шапкаю прыкрыўшыся, і яшчэ ў далоньку скрабе. А трэба гэтага д’ябла кулаком у морду, па хрыбце!»

І напаследак прамоўца як бы просіць прабачэння ў высокага сходу, зазначае, пасміхаючыся ў вусы:

«Сказаў бы хто з вас лепей, не баламуцячы, то і я перастаў бы».

Дзіўная, неверагодная, дасціпная, яркая прамова нашага земляка, выказаная жывой беларускай мовай, багатая на народную фразеалогію. На жаль, актуальная і цяпер.

## Марачоўшчына ці Мерачоўшчына

Назву ўрочышча, былога фальварка і сядзібы, дзе нарадзіўся вядомы ўсяму свету Тадэвуш Касцюшка, даследчыкі яго жыцця пішуць па-рознаму. Адны — Марачоўшчына, другія — Мерачоўшчына. Грунтоўны польскі «Слоўнік геаграфічны» (Варшава, т. 4, 1885, с. 259) падае найменне фальварка, дзе нарадзіўся Касцюшка, у форме Mereczowszczyzna. Гэтай формы прытрымліваюцца ўсе польскія біёграфы Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі: Т. Корзун, Ф. Канечны, Т. Раеўскі, Б. Шындлер, Л. Ратайчык ды іншыя. Айчынныя даследчыкі жыцця і дзейнасці славутага земляка дружна паўтараюць за палякамі назву месца народзін — Мерачоўшчына. Вядомы знаўца біяграфіі Тадэвуша Касцюшкі гісторык Уладзімір Емельяновіч у кнізе «Нарадзіўся я ліцвінам…», якую напісаў у сааўтарстве з Язэпам Юхо, называе месца, дзе нарадзіўся Касцюшка, Марачоўшчынай. Але ўжо ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» ў артыкуле пра ваяра той жа аўтар ужывае тапонім Мерачоўшчына. Якая з гэтых дзвюх форм напісання адпавядае праўдзе? Давайце звернемся да гістарычных крыніц, якія, на нашу думку, і павінны праліць святло на спрэчнае пытанне.

Фальварак упершыню ўпамінаецца 23 кастрычніка 1597 года. Тады быў складзены інвентар маёнтка Косава з выпадку падзелу яго паміж князем Рыгорам Сангушкам і Мікалаем Кішкам. Тэкст інвентара ў свой час быў занесены ў акты Слонімскага земскага суда (Т. 14. Акты. Инвентари имений XVI столетия, стр. 608–620). Чытаем: «Фольварок Косовский на Марачовщине, в котором будованье, то есть: светлочка з сенью, напротив комора, драницами побитая, дом добрый, клеточка на пивницы, пивничка старая, ворот двои лихих, сырница новая з кганком на столпьи, под нею холодник с прутья уроблен, драницами побит, гридня великая з сенью, напротив изба старая лихая, дощками покрыта, стайня новая великая, соломою покрыта, стаенка у ворот малая, соломою крыта, гумно великое у петнадцать стен, другое меньшое, обе гумне досыть добры…» Апісанне нерухомай маёмасці фальварка досыць падрабязнае, шматслоўнае. Адзначым, што ў гэтым інвентары назва фальварка падаецца яшчэ ў іншых формах: «…пашни фольварку Марачевского з пашнями фольварков заставных», «…а в пашни фольварку Марачовского отмероно и отогноно его милости князю Кошерскому волок чотыри, моркгов десять, прутов двадцать один», «огородники того фольварку Марачевского, в той же пашни в третьем полю седячие».

Як бачым, ужо ў XVI стагоддзі ў назве фальварка праяўляецца характэрная асаблівасць беларускай гаворкі — поўнае аканне, што якраз і неўласціва поль-

скай мове. Вось чаму яны пісалі — Mereczowszczyzna. А ў перакладзе з польскай на рускую — Меречовщина, а ўслед за імі па-беларуску — Марачоўшчына. І яшчэ. На нашу думку, асабліва важна: польскія мовазнаўцы абсалютна ігнаравалі вусную форму бытавання гэтага тапоніма. Адтуль, з сівой даўніны і да сёння, ваколічны люд называе гэтае месца Марачоўшчына. І толькі так. Гэтая назва і павінна быць замацавана ў гістарычнай навуцы.

Што датычыць лексічнага значэння тапанімічнай назвы Марачоўшчына, то ў аснове тапоніма ляжыць старабеларускі апелятыў «марач», яго форма «марочна», што значыць «балота», «дрыгва», «балоцістая мясцовасць». Вось што піша пра гэты геаграфічны тэрмін у сваёй кнізе «Славянская геаграфічная тэрміналогія» акадэмік Мікіта Талстой: «Тэрмін “марочна” прымяняецца ў адносінах да вялікіх пінскіх балот з беднай раслліннасцю. На такім марочным балоце не косяць, а збіраюць журавіны. Марочнае балота павінны, відаць, этымалагізаваць як змрочнае, цёмнае балота».

І сапраўды, кожны, хто знаёмы з мясцовым ландшафтам, пагодзіцца з такім тлумачэннем назвы. Глыбокая ўпадзіна, якая пачынаецца недзе каля вёскі Жамайдзякі, цягнецца праз мястэчка Косава ажно да ракі Грыўды. Гэтую ўпадзіну разразае рэчка. Некалі яна называлася Рудаўка, бо вада ў ёй была рудая, цёмная. Даўней яна круціла колы ажно трох млыноў. Берагі былі дрыгвяністыя, гіблыя, марочныя. Цяпер рачулка мае іншую назву — Муцвіца, і на шляху яе плёскаюць рукатворныя азёры, якія звязаны з ракою Грыўдай прамой плыткай канавай…

## Косаўскія брукаванкі

Дарогі… Ніці, ці, як іх вобразна называюць, артэрыі матухны-Зямлі. Бягуць, не канчаюцца. Ад горада да горада, ад вёскі да вёскі, ад сядзібы да сядзібы, і па ўсім свеце.

Цяжка было нам, малечы, разгадаць загадку, што прапанавала настаўніца: «Ляжыць Кася, на ўвесь свет расцяглася. Як устане, то да неба дастане». Доўга гадалі, урэшце нехта з нас радасна выгукнуў: «Гэта ж дарога!»

Вузкая і шырокая, пакручастая і прамая, грунтавая і насыпная, а цяпер вось і з цвёрдым пакрыццём. Яна вабіць чалавека за гарызонт, кліча ў нязведанае. Па-рознаму называліся дарогі: тут табе і гасцінец, і тракт, і бальшак, і шаша, і сучасныя шматпалосныя аўтабаны. Але адно найменне шляху чамусьці згубілася, выпала з гэтага сінанімічнага раду — дарогі-брукаванкі.

Кажуць, не конь вязе, а дарога. А дарогі ў Беларусі, лясной, балоцістай, у стужках шматлікіх рэчак ды рачулак, былі мала прыдатныя да язды. Сяляне, як, зрэшты, і шляхта, не ехалі далей ваколіцы, бліжэйшага горада, цалкам забяспечваючы сябе і ежай, і вопраткай. Мабыць, з гэтай прычыны непрыглядны стан дарог іх зусім не турбаваў. А вось замежным падарожнікам гасцінцы прыносілі шмат непрыемнасцяў. Пасол Свяшчэннай Рымскай імперыі Сігізмунд Герберштэйн, едучы праз Беларусь у Маскoвію ў 1527 годзе, занатаваў: «Нязмерныя лясы, дарогі, заслоненыя дрэвамі з навіслымі галінамі, часта затрым-

лівалі нас. Мы настойліва прарываліся праз гэтыя перашкоды: ламалі галлё, ссякалі дрэвы, гацілі гаць».

Ехалі яны летам. А каб гэта было вясною ці восенню? Найлепей падарожнікам было зімою: выручалі замерзлыя рэкі.

У канцы XVI — пачатку XVII стагоддзя назіраецца інтэнсіўнае ўзвядзенне будынкаў з даўгавечных матэрыялаў (добры прыклад Еўропы!) — чырвонай цэглы і бутавага каменю. Якраз у гэты час завяршаецца будаўніцтва Мірскага замка, узводзіцца палацава-паркавы комплекс у Нясвіжы, палац Сапегаў у Ружанах, ратушы-камяніцы ў Слуцку, Нясвіжы, Гродне, Віцебску, Клецку, мураваныя культавыя збудаванні: касцёлы ў вёсках Камаі (цяпер Пастаўскі раён), Гнезна (цяпер Ваўкавыскі раён) і інш. У нашай мове пачынаюць шырока ўжывацца запазычаныя з польскай словы: брук, брукаванка, брукаваць. Не толькі пад'язныя шляхі да панскіх сядзібаў брукаваліся, выкладваліся каменем і падворкі. У дакуменце, датаваным 1615 годам, чытаем: «Мешчане его милости Косовские местские коштом и накладом немалым переи (переи — вуліцы. — *А. З.*) мостить и бруковать хочуть. Направуючи тые месца и переезды трудные мостом и бруком, мешчане его милости Косовские немалый бы кошт и наклад подеймовати (подеймовать — браць на сябе расходы, выдаткі. — *А. З.*) мусели». Як бачым, косаўцы на выдаткі не глядзелі, бо «камору збудовали и мыта брали». Вядома, што Косава ляжала на старадаўнім шляху з Вільні на Валынь, «дорозе звычайной звечной». За праезд мясцовыя купцы плацілі 1 грош з кожнай капы грошаў у кошце тавару; замежныя — 2 грошы з капы (за адзін грош у той час можна было купіць дзве курыцы. — *А. З.*).

3 кастрычніка 1631 года на сесіі Слонімскага земскага суда (суддзя Міхал Палубінскі. — *А. З.*) разглядалася справа аб перадачы Стэфанам Кандзежаўскім свайго маёнтка Харошча на карысць «яе міласці пані Марыны з Хальча Халецкай, маці і дабрадзейкі нашай». У інвентары, складзеным 23 красавіка 1631 года і прадстаўленым на суд, апісваецца памешчыцкі двор, «агароджаны плятнём і выкладзены каменем».

У 1626 годзе Мікалай Трызна, падкаморы слонімскі, у Быцені пры кляштары заклаў каменную царкву і забрукаваў гандлёвую плошчу.

Цяпер, калі будавалі царкву ці касцёл, то стараліся абнесці іх каменнай агароджай.

У газеце «Літоўскія епархіяльныя ведамасці» за 30 студзеня 1886 года паведамляецца: «Дадзена архіпастырскае дабраславенне Яго Праасвяшчэнства ахвяравальнікам, якія асабліва пастараліся пры пабудове званіцы і агароджы Бялавіцкай царквы Слонімскага павета: царкоўнаму старасту (на той час абавязкі яго выконваў Адам Кляменцьевіч Зыбайла. — *А. З.*), прыхаджанам, членам царкоўнага апякунства і Косаўскаму валасному старшыні Андрэю Карповічу — за іх самаахвярную працу з выдачай Карповічу пахвальнага ліста».

Мелі каменныя агароджы царква і касцёл у Косаве, цэрквы ў Альбе і Бусяжы. У 1865 годзе ў вёсцы Міронім пабудавалі царкву з каменя і цэглы, а ў 1894 годзе міронімцы на свае грошы ўзвялі вакол яе мураваную агароджу з брамай.

У жніўні 1914 года пачалася Першая сусветная вайна. Уся Беларусь стала месцам жальбы і маркоты. Здольныя да ваеннай службы мужчыны былі мабілізаваны, ваявалі. Хутка фронт наблізіўся і да нашых мясцінаў. Большасць людзей, напалоханыя расказамі пра зверствы кайзераўскіх салдатаў, гарачым вераснем 1915 года з няхітрымі пажыткамі рушылі на ўсход, у бежанства. Некаторыя засталіся. З розных прычынаў, найболей па беднасці: не было каня, малыя дзеці. Былі такія, якія згаджаліся лепш памерці, чым пакінуць родны кут. Усіх іх германцы прыцягнулі да ўзвядзення абарончых збудаванняў і вузкакалеек. Пры будаўніцтве шырока выкарыстоўвалі палявы камень. І сёння яшчэ ўздоўж Агінскага канала можна ўбачыць замшэлыя каменныя бункеры.

У лютым 1919 года Заходняя Беларусь, у тым ліку і тэрыторыя сучаснага Івацэвіцкага раёна, была акупавана Польшчай, якая аб'явіла сябе ў лістападзе 1918 года незалежнай дзяржавай. 18 сакавіка 1921 года быў заключаны мірны дагавор паміж Польшчай і Савецкай Расіяй, згодна з якім Заходняя Беларусь апынулася пад уладай Польшчы. Быў утвораны Косаўскі павет. Ён дзяліўся на шэсць гмінаў: Косаўскую, Ружанскую, Пескаўскую, Святавольскую, Боркі-Гічыцкую, Целяханскую — і далучаны да Палескага ваяводства. Цэнтрам стала мястэчка Косава.

Косаўскі павет адносіўся да мясцовасцей, якія з'яўляліся адсталай ускраінай Польшчы. Большая частка насельніцтва жыла з кавалка зямлі.

Але жыццё паціху наладжвалася. Развівалася перапрацоўчая вытворчасць. Шмат было лесапілак, смалакурняў, вінакурняў. Налічвалася 27 цагельняў, 16 паравых млыноў, 26 ветраных, 3 турбінныя млыны, 8 гарбарняў, 13 бойняў.

Каб забяспечыць эканамічнае развіццё павета, яго жыхароў прыцягвалі да рамонту і будаўніцтва дарог, мастоў. Людзі адбывалі так званыя шарваркі. Стала болей брукаваных дарог, іх даўжыня ў павеце склала 946 км. Былі выкладзены каменем вуліцы ў павятовым горадзе Косава, у мястэчках Быцень, Ружаны, у Івацэвічах, Песках, у вёсках Гошчава, Квасевічы, Старажоўшчына, Лазаўцы, забрукаваная дарога з Быценя да Слоніма, пад'езды да чыгуначных станцыяў Івацэвічы, Косава-Палескае.

Звычайна рабілі так: збіралі грамадскі сход, на якім вызначалі выдаткі па брукаванні вуліцы, найме брукароў і аплаце іх працы. Каменне кожны гаспадар нарыхтоўваў сам, таксама як і пясок, жвір на падсыпку. За дзень брыгада з чатырох-пяці чалавек магла забрукаваць 10–15 метраў. Галоўнымі прыладамі працы рабочых былі драўляная рэйка, жалезны малаток, кельня. Брукары, якім даводзілася цэлы дзень стаяць на каленях, мелі мяккія накаленнікі. Улетку працавалі раніцай і вечарам, а днём, у спякоту, адпачывалі. Усе брукаванкі ў населеных пунктах былі ніжэй за сядзібныя пляцы: вада не павінна была сцякаць з вуліцы ў агароды (як гэта здараецца цяпер). Шмат дзе клалі тратуары, ці ходнікі. Іх рабілі з квадратных бетонных плітаў. Далей ішлі бар'еры, рыштткі (канавы для сцёкаў) і ўжо само брукаванае палатно. Парадак на вуліцы падтрымлівалі гаспадары. Пройдуць каровы, вядома, наслядзяць. Тады кожны насупраць свайго дома падбярэ, нават змые. Не давалі расці траве па бруку, вырывалі яе, вышчыпвалі. Бялілі вапнаю бар'еры. Чысціня была на вуліцах!

Пасля вайны, у канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў, з Івацэвічаў праз Ёлкі, Гічыцы да Святой Волі таксама паклалі брукванку. Але каменне на яе прывозілі аднекуль цягнікамі, у вагонах. На дарогу дастаўлялі машынамі. І брукары, і вадзіцелі былі не мясцовыя, прыезджыя.

Неўзабаве на змену каменю прыйшлі асфальт і бетон.

Старэйшыя людзі добра памятаюць брукаванкі. Цяпер жа яны сталі экзотыкай, дзівам. Трэба, пакуль не позна, захаваць брукаванкі як помнікі матэрыяльнай культуры.

…Косава. Летняя раніца. Сонца яшчэ не ўзышло, і ўсё агорнута лагоднай, мяккай сінню. Бацька пугай падганяе каня, за яго спінай мама ды я: мы вяртаемся з радзінаў ад бацькавай сястры да сябе ў Заполле. Дамы, платы, дрэвы, вуліца спяць. І толькі цокат капытоў ды звонкае бразгаценне колаў па кваціcтым бруку будзяць прастору. Гэта першы ўспамін з майго дзяцінства.



**Мікола Аляксандраў**

Нарадзіўся ў 1954 г. у с. Мегра Белазерскага раёна Валагодскай вобласці. Скончыў у 1978 г. Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. У Брэсце — з 1980 г. З 1990 г. — галоўны рэдактар першага ў рэгіёне недзяржаўнага выдання «Брестский курьер». Аўтар кніг «Кварта» (2002), «Далёкий путь в Китеж» (2009), публікацый у альманахах і часопісах. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## Алиса из Зазеркалья стала несчастьем в судьбе Дмитрия Карбышева

На Тришинском кладбище в Бресте в западной его части возле ограды приметен хорошо сохранившийся надгробный памятник с внушительным крестом из чёрного лабрадорита. Бетонный постамент по периметру окружён массивными цепями. Надпись на памятнике лаконична: «Алиса Карловна Карбышева». Дата рождения не обозначена, есть лишь год кончины — 1913. Но за этим кратким обозначением скрыта драматическая судьба первой супруги прославленного генерала, в ту пору капитана Д. М. Карбышева…

Странно, что в советской официальной историографии за все десятки лет не было обнародовано никаких сведений о ней. Даже такой основательный биограф, как Е. Г. Решин, ни словом, ни намёком не упомянул об Алисе в своей книге «Генерал Карбышев», изобилующей массою любопытных деталей, свидетельств и документов. Не сомневаюсь, что ему-то уж была известна история первого семейного альянса Д. Карбышева, но, видимо, не вписывался этот мелодраматический образ в официозную иконопись, кладбищенский крест в Тришине бросал тень на монумент в Маутхаузене, посему историки и жизнеописатели прибегли к фигуре умолчания. На мой взгляд, совершенно напрасно. Карбышев един в своей судьбе, целен характером — и с царскими погонами, и с советскими лычками. А история его взаимоотношений с Алисою являет собою образец высочайшей порядочности, что неразрывно связано и со всей его последующей жизнью, увенчанной жертвенным финалом.

Права библейская мудрость: всё тайное рано или поздно становится явным. Низкий поклон покойному ныне Владимиру Максимовичу Догадину, записавшему в пятидесятые годы прошлого века свои воспоминания о сослуживце и друге младых лет — «Вместе с Д. М. Карбышевым», в которых замечательно точно и человечно поведано о пребывании семьи Карбышевых в Брест-Литовске вплоть до ужасной развязки. Правда, довольно-таки долго эти записки доступны были лишь ограниченному кругу исследователей, а в виде публикации вышли только более полувека спустя («Отечественные архивы». 2002. № 2).

**Настоящий поручик**

Итак, для начала нашего погружения в тему отмотаем назад сто десять лет, когда, по воспоминаниям В. М. Догадина, «в августе 1908 г. в Петербург съехались со всех концов России сто офицеров разных родов оружия с целью держать вступительный экзамен в Военно-инженерную академию…» Далее описывается яркий эпизод первой встречи: «Так как держать экзамен полагалось в так называемой «обыкновенной» форме (мундир с погонами и красным кушаком при орденах), то на груди многих офицеров сияли орденские отличия. Особенно много этих отличий, привлёкших к себе общее внимание, было у одного офицера, прибывшего с Дальнего Востока, у которого ордена были не только на груди, где носились ордена 3-й и 4-й степени, но и на шее у воротника блистал орден Станислава 2-й степени с мечами. Больше ни у кого из приехавших офицеров такого ордена не было. Грудь этого офицера украшали ордена Владимира, Анны, Станислава, все с мечами и бантами, левее орденов располагались три медали, из которых одна за японскую войну, а другая — за поход в Китай…»

А вот беглый, но весьма ёмкий портрет, схваченный дружеской памятью: «Ростом он был ниже всех других офицеров. Волосы имел черные, короткие, зачёсанные кверху, и носил маленькие усы, закрученные на концах. Его продолговатое лицо носило следы оспы. По своему сложению он был худощав, строен и по-строевому подтянут. Говорил тихо, не повышая голоса, быстрым говорком, отрывистыми фразами, уснащая их афоризмами и острыми словечками. В произношении слов замечалось смягчение звука “р” в сторону “л”. Этот привлёкший наше внимание офицер был Дмитрий Михайлович Карбышев, поручик Владивостокского крепостного сапёрного батальона. Ему тогда было почти 28 лет…»

Милейший Догадин ещё не знал, что за плечами добротно скроенного поручика — тяжёлые бои под Ляояном и Мукденом, изнурительные переходы, немилости от штабных крыс, кровь и пепел. Был он старше других прибывших не только по возрасту, но и по воинскому опыту. А с Владимиром Максимовичем его сблизили общие казачьи корни.

После весенних экзаменов офицеры академии были направлены на практические занятия по геодезии в чухонские места севернее Петербурга. Расквартировали их в деревне Юкки. «В одной из дач этой деревни, — пишет Догадин, — поселились следующие офицеры: Карбышев с женой — в одной комнате, Борейко с женой — в другой, я с женой — в третьей, Коловертнов с Максимовым — в четвертой, и, наконец, пятая комната была общей и служила нам столовой».

Стоп, это первое упоминание о супруге Дмитрия Михайловича, которая была старше его на шесть лет, то есть пребывала на тот момент во вполне бальзаковском возрасте тридцати четырёх годков. Как позже разузнает поручик Догадин, семейный союз этой пары начался ещё во Владивостоке, где Карбышев отбил Алису Карловну у офицера-сослуживца. До дуэли дело вроде бы

не дошло, но и без нервного напряжения, видимо, не обошлось. Может быть, измотанному русско-японской кампанией поручику просто захотелось обычного домашнего тепла, который способна была обеспечить эта привлекательная дама немецких кровей? Впрочем, я склонен больше думать, что инициатором похода под венец была сама Алиса. Молодой Дмитрий Карбышев был чертовски хорош, умён и благороден. Не вертопрах, а вылитый Печорин.

Вернёмся к запискам Догадина, живописующим семейный быт наших поручиков: «В то время как мы, офицеры, работали с утра до темноты в поле, наши жёны проводили время в тесном единении дома. Этому содействовала исключительно дождливая погода, лишающая возможности выйти погулять на воздухе. В этом общении женщин руководящую роль заняла жена Карбышева — Алиса Карловна… На мою молодую жену Алиса Карловна производила особенно сильное впечатление своим знанием ресторанных развлечений. Рассказы об этом были настолько подробны и выразительны, что моя жена высказала мне предположение: не выступала ли Алиса Карловна на эстраде?..»

Исходя из этого пассажа у читателя может возникнуть мысль, что сия особа была чуть ли не вертихвосткой, прожигательницей жизни и дамою легкомысленной. Нет, Алиса придерживалась, мне представляется, иных правил. Хотя не исключаю, что в ранней молодости она не избежала искушений. Давайте по ходу нашего рассказа будем учитывать и саму атмосферу начала XX века — круг чтения, веяния декаданса, страсти немого чёрно-белого синема, модные суициды…

Итогом этого периода было окончание учёбы в академии и распределение Карбышева, Догадина и ещё трёх их сослуживцев в Брест-Литовск — на реконструкцию крепости. Перед этим офицеры-выпускники 22 мая 1911 года были высочайше представлены государю в Зимнем дворце, получив от него напутствие на прохождение дальнейшей службы во славу и преуспеяние Отечества.

## Семейные дни в Брест-Литовске

Начало лета, июнь, ещё поют соловьи над Мухавцом, подвенечно полыхают каштаны и акации. На булыжинах улиц и черепицах крыш пляшет солнце. Послушаем Догадина о той поре:

«Для нас, вновь приехавших прямо из академии, места в крепости не оказалось, и мы наняли себе квартиры в самом городе, расположенном от крепости в двух километрах.

Алексеев, Десницкий и я поселились в только что построенном двухэтажном доме, расположенном на юго-западном углу города, на Шоссейной улице (ныне пр-т Машерова. — *Н. А.*), против сада Шаповалова, где находился цирк и происходили гуляния с музыкой. В цирке же выступали и гастролирующие труппы из Москвы и Петербурга при проезде их в Варшаву или обратно. Против нашего дома находились два лучших ресторана — Прокопюка и Гржиба. Далее, также по Шоссейной улице, действовали два кинематографа. Если к

этому добавить традиционные субботние прогулки местного населения по тротуарам той же Шоссейной улицы, то можно сказать, что здесь были сосредоточены все зрелища и развлечения жителей Брест-Литовска…

Карбышев нанял квартиру в районе центра города, в значительном отдалении от остальных инженеров…»

По сведениям местных краеведов, жил он с супругою там, где сейчас размещаются корпуса БрГУ им. А. С. Пушкина.

Брестский период описан Догадиным очень пристально и памятливо, с занятными подробностями быта и развлечений офицерских семейств:

«Почти все свободные вечера мы собирались друг у друга, пили чай (обычно без вина), слушали новые пластинки граммофона, иногда играли в простейшую карточную игру "рамс", кончавшуюся проигрышем или выигрышем не более одного рубля, или всей компанией ходили смотреть новую картину в кинематограф. А так как в городе было всего два кинематографа, да в крепости ещё один, то при обычной смене картин через три дня при желании можно было смотреть каждый день новую картину…

Однако Карбышева с его супругой нам не приходилось видеть в своём тесном кружке. Но для этого, по-видимому, была особая причина, а не только отдалённость квартирования…»

Вот тут и вкрадывается в наше повествование вопросительно-тревожная нота, как предвестие грядущей катастрофы. Только ли домоседство Алисы было причиною ограниченного общения семьи Карбышевых с другими домами? Да, она умело свивала своё брестское гнездо:

«Я не помню, — отмечает Догадин, — сколько раз за все три года совместной службы в Брест-Литовске с Карбышевым я был у него, а он у меня на квартирах, но этих случаев было мало, и всякий раз по специальному приглашению или с официальным визитом, хотя, как известно, мы были близко знакомы ещё в академии. Из этих случаев я хорошо помню первое наше с женой посещение Карбышевых. Они занимали квартиру из нескольких комнат, которые были все хорошо и полностью меблированы, что произвело на нас с женой особое впечатление, потому что наша квартира из шести комнат была в это время достаточно пустовата. Тут на наши вопросы дали нам простое объяснение такому превращению. Оказалось, что Карбышевы не постепенно, по мере финансовых возможностей, приобретали разные вещи, как это делали все мы остальные, а сразу обставили все комнаты своей квартиры, закупив всю обстановку полностью в магазине за 2000 рублей в рассрочку на два года. Ни у кого из нас не хватило бы духу сделать долг на такую большую, с нашей точки зрения, сумму. Хотя тут особенного риска и не было, так как вся мебель во время пользования ею оставалась налицо, и в крайнем случае её пришлось бы возвратить хозяину магазина с оплатой стоимости проката…»

А вот ещё из подмеченного автором: «Существовало мнение, что немки являются прекрасными мастерицами вкусно готовить. Если это так, то Алиса Карловна Карбышева служила ярким подтверждением этого мнения. Нас было с хозяевами всего четверо. Однако приготовленный к обеду стол был не только

красиво сервирован, но и поданные блюда отличались своею изысканностью и оригинальностью. Особенно сильное впечатление произвело на нас разнообразие закусок, поданных к различным водкам перед обедом. Хозяева были радушны и приветливы, Дмитрий Михайлович, по обыкновению, говорлив, шутлив и остроумен…»

Как видим, характер у главы этого семейства был достаточно открытым для общения. Но даже и другие офицеры, помимо его младшего товарища, стали примечать, что в Брест-Литовске Карбышевы предпочитали «жить особняком и оторванно от остального общества инженеров крепости». Их не соблазняли ни вечеринки офицерских семейств, ни обязательные большие приёмы по случаю Рождества и других праздников. «Одновременно стали замечать частое посещение Карбышевыми ресторанов (ведь оба ресторана против наших окон), куда никто из нашей компании обычно не заглядывал ни в одиночку, ни с женой». Максимыч, видимо, не допёр, что Алиса потому и наведывалась с мужем в эти заведения, что туда не заглядывали другие офицерши.

Вот тут приходит момент истины, объясняющий многое в невольном затворничестве этой пары. Догадин как бы ненароком обранивает, что «Карбышев всегда нравился женщинам, хотя его и нельзя было назвать красавцем». В других воспоминаниях я нашёл фрагмент письма поручика Опацкого, также служившего в крепости в Брест-Литовске, адресованного сестре Лидии (кстати, будущей второй жене Дмитрия Михайловича — вот странные пересечения!), где с юмором говорилось следующее: «У нас два капитана; один бегает за всеми женщинами, за другим, напротив, все женщины бегают». Капитанами в крепости были Догадин и Карбышев. Не о них ли речь?..

Но дальше, дальше — в живое начало века вместе с нашим Максимычем:

«Сознательное уклонение Карбышевых от всего остального общества инженеров не могло не обратить на себя нашего общего внимания, и, доискиваясь причин такого странного их поведения, все пришли к единодушному мнению, что Алиса Карловна тщательно оберегала Дмитрия Михайловича от общества дам, боясь, что она сама сильно проиграет при сравнении с ними. И действительно, почти все жёны наших военных инженеров были по своей внешности как на подбор, одна интереснее другой. И хотя справедливость требует отметить, что моя жена Мария Васильевна среди этих красивых женщин занимала одно из первых мест (об этом свидетельствуют её многочисленные фотографии), однако для неё Алиса Карловна делала исключение, так как знала мою жену ещё по совместной нашей жизни в Юкках (когда учились в академии) и была уверена в её добродетели. Впрочем, надо сказать, что из всех членов нашего инженерного общества абсолютно никого нельзя было упрекнуть в предосудительности или легкомыслии; почти каждый из нас симпатизировал кому-либо, в компании которого охотнее проводил время в обществе, и обычно хозяева дома стремились разместить гостей за столом записками на приборах по соответствующим парам. Однако ни один супруг не мог сделать за это какого-либо упрёка другому. Только молодожёны Белинские Иван Осипович и Александра Андреевна очень обижались, если их сажали за стол порознь…

У Алисы Карловны были, по-видимому, свои соображения придерживаться чрезмерной осторожности. Она была разведённой женой владивостокского офицера, который, между прочим, однажды приезжал в Брест-Литовск на несколько дней, и мне даже пришлось их мельком издали видеть проезжающими втроём на извозчике…» Во как!

Похоже, что душа-Догадин недолюбливал Алису, потому и живописует её нелестными красками: «Она была старше всех наших инженерных жён Брест-Литовска. Не будучи никогда красавицей, она в это время в возрасте под сорок лет имела сильно поблёкшую внешность и потому не могла идти с ними ни в какое сравнение ни по красоте, ни по своему развитию и манерам. Вот почему Алиса Карловна, по нашему мнению, оберегала своего мужа от общества наших дам, усматривая в этом опасность для его супружеской верности. Ведь на себе она уже когда-то испытала силу его чар, забыв для него своего первого мужа.

А чтобы отвлечься от однообразия и скуки домашней жизни, она усиленно посещала с ним рестораны, где играла музыка, а на эстраде выступали шансонетки (или, по-русски, певички). Этих последних Алиса Карловна даже охотно приглашала к своему столу и усиленно угощала, в особенности если, случалось, замечала, что певица находится в интересном положении. Об этом она говорила нам сама. В таком обществе Карбышева, по-видимому, не видела конкуренции для себя».

Казалось бы, что нашёл в такой особе Дмитрий Михайлович? Но Догадин вслед за этим добавляет — пожалуй, с некоторой даже озадаченностью:

«Во время нахождения в командировке Карбышев всегда аккуратно писал письма своей жене, хотя мы были в отсутствии всего три дня. А когда возвращались из командировки, то Дмитрий Михайлович вызывал Алису Карловну в Варшаву, чтобы побыть там с нею вместе. Это показывает, каким внимательным супругом он был по отношению к ней…»

Э, братцы (и сестрицы), мы чуть было не упустили одну весьма значительную деталь, пробегом упомянутую Догадиным (а может, с намёком?) относительно повышенного внимания Алисы к шансонеткам, пребывающим «в интересном положении», то бишь беременным. Сама-то она не произвела с Дмитрием Михайловичем потомства. Похоже, что это её изрядно мучило. Должно быть, и для Карбышева это было душевною занозой. Его биограф Е. Г. Решин приводит воспоминания одной из брест-литовских дам того периода — жены офицера С. П. Лешкова, Нины Иосифовны:

«Дмитрий Михайлович, тогда инженер-капитан, по счастливому стечению обстоятельств оказался нашим добрым соседом. Мы жили в одном доме. Наши квартиры находились бок о бок. Естественно, часто встречались, вместе проводили вечера. Дмитрий Михайлович тогда ещё не имел семьи (?! — *Н. А.*) и в свободное время забегал к нам, чтобы немного поиграть с моей дочуркой Танечкой. Он очень любил детей, и дети любили его…»

То есть как это — «не имел семьи»? Тут или биограф подчистил воспоминания, или Алиса не навещала соседей и выпала из памяти воспоминательницы.

Кстати, у Карбышева во втором, значительно более счастливом браке (без «достоевщинки») было трое ребятишек — Елена, Таня и Алёшка.

**Роковые выстрелы**

Подходим к драматической развязке этой семейной истории. Догадин вспоминал о ней, как видно, с тяжёлым сердцем: «Наступила весна 1914 г., такая же прекрасная, как и все вёсны…» Странно, что обозначенная им дата расходится с цифрою на тришинском памятнике: 1913. Память подвела спустя без малого полвека? Возможно, возможно… В другом месте воспоминаний читаем: «За всё время жизни в Брест-Литовске я помню один-единственный раз Карбышева в большом обществе на именинах жены полковника Короткевича 24 декабря 1913 г., но без Алисы Карловны, причём он был очень оживлён и привлекал к себе внимание всех присутствующих…» Тоже издержки памяти относительно года? Или очередная загадка, требующая своего разрешения?

Вот как описывает Догадин тот громом среди весны грянувший день:

«Карбышев со своей женой собирался ехать в Петербург, где должен был рассматриваться разработанный им проект форта. К шести часам вечера одного из тёплых по-весеннему дней полковник Короткевич пригласил всех офицеров на собрание с целью решить, каким образом будем чествовать одного из наших сотоварищей, покидающего нашу крепость для службы в другом месте. К назначенному времени собрались все. Приехал из города на велосипеде и Дмитрий Михайлович. Собрание прошло быстро. Закрытым голосованием было решено внести каждому "с рыла" (как выразился с обычной шуткой Короткевич) по 10 рублей на товарищеский ужин в ресторане и ещё по 10 рублей на подарок. Так как всех офицеров налицо было 25 человек, то на 250 рублей собирались подарить уезжавшему хорошие золотые часы (за 100 рублей) с такой же цепочкой (за 150 рублей). После собрания все разъехались по домам.

Едва Карбышев вернулся к себе на квартиру и стал мыть руки, как к нему подошла его супруга, и между ними произошёл разговор следующего содержания: "Ты где был?" — спросила Алиса Карловна. "На собрании офицеров", — ответил он. "А почему же ты не говоришь, кого ты встретил по дороге?" (Алисе Карловне, видимо, уже успели доложить, что Карбышеву попалась навстречу жена одного пехотного офицера, с которой Карбышевы были знакомы по офицерскому собранию полка, стоявшего в Брест-Литовске близ вокзала в Граевской слободке.) — "Дай мне сначала вымыть руки". — "Нет, ты хотел эту встречу скрыть от меня". — "Ну, если ты будешь так разговаривать, то я не возьму тебя с собой в Петербург". — "Ах, ты так!" — воскликнула Алиса Карловна, бросилась в спальную, накинула на дверь крючок и, схватив маленький револьвер "Браунинг", начала стрелять в себя. Пока Карбышев взламывал дверь, она успела выпустить пять пуль, из которых одна попала в левую руку, а другая по направлению сверху — в живот. Последняя пуля оказалось смертельной, и на второй или третий день Алиса Карловна скончалась, умоляя врачей перед смертью спасти её, так как она хочет жить…

Потеря жены сильно потрясла Дмитрия Михайловича. Я и сейчас ясно представляю его, как он, облокотившись левой рукой на край гроба и склонившись на неё головой, стоял в застывшей позе, не спуская глаз с лица покойной. У меня не хватило духа прервать его мысли банальными фразами утешения, и я тихо вышел. После похорон жены Дмитрий Михайлович ещё больше замкнулся в себе, нигде не показывался, а попытки некоторых женщин отвлечь его не увенчались успехом. Вскоре, как и намечалось, он уехал в Петербург на защиту и утверждение своего проекта форта…

Затем была Первая мировая, революция, события накатывались шумными валами…»

И почему-то мне думается, что Дмитрий Михайлович в последние мгновения жизни, завершившейся на ледяном плаце германского Маутхаузена, извлёк из потаённого уголочка памяти образ своей несчастной немецкой лорелеи, замкнув времена…

# УСМІХНЁМСЯ





**Іван Мельнічук**

Нарадзіўся 15 верасня 1939 г. у в. Носава каля Бялай Падляскі, Польшча. Паэт, празаік. Выдаў кнігі для дзяцей «Кто разбудил солнце» (1982), «Сами диво сотворим» (1990), «Добрый лучик» (1997), «Как муравьишко Ишко себя наказал» (2003), «Сказки — добрые подсказки» (2008), «Хлеб насущный» (2008), «Гасцінец» (2014), «Добрыя падказкі» (2015). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыве ў Брэсце.

## Узорны прамоўца

Чытаў Рыгор прамовы і даклады
Пераканальна пра сямейныя разлады
І прыкладаў прыводзіў мноства класных
З жыцця сваёй сям'і, уласных.

## Свойскі падбор

Шэф падбіраў па-свойску ў офіс штат:
Кадравіком прызначаны быў сват,
Зяць — кансультант, а цешча — кантралёр,
Унучкі кавалер — шафёр,
Сваім наменнікам ён вылучыў куму…
Падлогу ж мыць, хоць плач, няма каму.

## Ваяка

— Я ветэран, — Кузьма дэкламаваў. —
Усё жыццё я ваяваў…
— А з кім?— спытаў Сымонка.
— Са сном. З начальствам. З жонкай.

## Даяр

Пятра ўзялі ў раённую ДАІ,
Жазло, як і належала, далі.
Загад быў лепшым чынам успрыняты:
Раз сказана даіць — «даіў»
І вінаватых, і невінаватых.

Сусед маланкі рассыпаў з гадзіну:
— Скрозь іншамаркі! Ставіць дзе машыну?!
— Дык там і твой, — яму казалі, — джып…
— Мой не мяшае, мой бачком прыліп.

## Напамін

Калі наведаў ты райцэнтр,
Адно запамятай:
Там, верагодна, рай для цэн,
Але не божы рай.

## Напаказ

Ёсць у вёсачцы «чайная»,
Людзі кажуць, паказная:
Напаказ там столь і сцены
Ды завоблачныя цэны.

## Асцярожны

Тлумачыў шэф, што на рабоце
Ён, нібы той цыркач на дроце:
Баіцца ў лічбах памыліцца,
А больш за ўсё — дарэшты спіцца.

## Асечка

Кароткая гамонка між сяброў:
— Адмучыўся нарэшце наш Пятроў…
— Быў дужы, быццам дуб, і ўрэзаў дуба?
— Ды не, да бізнесмена збегла яго Люба.

## Памылачка

Каб мець жыллё,
Узяў Стас жонку з хатай.
Глядзіць на свет цяпер, нібы з-за кратаў:
Абранніцай там створана «турма»:
Жыллё знайшоў,
А вось жыцця — няма.

## Занудa

На дошкі Стас наносіў лак.
А жонка з'едліва:
— Не так!
Сказаў бядак:
— Калі не так,
Дык пакажы, будзь ласка, як.
— Я не мастак,
Каб ведаць як.
Але ж упэўнена — не так!

## Дакладны адрас

Дапытвалася любая ў Алеся:
— Казаў, пярсцёнак пад ялінку мне паклаў?
Дык дзе ж ён? Можа, нехта ўкраў?
— Так гаварыць няма падстаў,

Я не ў піўной адпачываў,
— А дзе пярсцёнак ты паклаў?
— Каля ялінкі ў лесе.

## Пралік

Было на вёсцы пару «выдраў»,
Адну Антось па п’янцы выбраў.
Цяпер хвалюецца, што выдра,
Паддаўшы, можа вочы выдраць.

## Непаразуменне

Не раз, падвыпіўшы, Цімох
Гаворку з цуцкам весці мог,
А як вярнуўся на парог,
Не склаўся з жонкай дыялог.

## Праблема

Ясь да Зосі заляцаўся,
На руках насіць збіраўся.
А цяпер праблема ў Зосі:
Ад піўнушак Яся носіць.

## Хоць на Сатурн

Упадабала Віцю Тася.
У каханні паклялася:
— За табой хоць на Сатурн
Пацягнуся… у шоп-тур.

## Дыялог

Пеця радаваў Святлану:
— Хочаш, зорачку дастану!
А яна:
— Хай зоркі свецяць!
Лепш дастань мне футра, Пеця!

## Эканомны

Глеб прыгожы і харошы,
Толькі надта любіць грошы:
Папрасіла купіць кветкі…
Ён:
— Нарвеш на лузе ўлетку!..

## Мытня

Чуюць хлопцы бас Сымонкі:
— Няма мытні лепш ад жонкі, —
Як заначку адшукала
І ўначы канфіскавала.

## Прыклад

Так сына павучаў сусед:
— Гультай, гуляка, дармаед…
А жонка з болем:
— Слухаць прыкра:
Ва ўсім з цябе бярэ ён прыклад.

## Асілак

Дзед Яфрэм набраўся духу,
Клікнуў танчыць маладуху.
З танцаў жа таго асілка
Адпраўлялі на насілках.

## Выручалка

Дзед бабулі мімаходзь:
— На дыету пераходзь!
А яна:
— Дык хто ж паможа
Пхаць з гразі твой «Запарожац»?

## Парада

Дзед прыкульгвае ля печы,
П’е баржом і кашаль лечыць.
Баба дзеду:
— Стань маржом —
Не спатрэбіцца баржом!

## Першапраходзец

Дзед, прыехаўшы з курорта,
Па сяле бадзяўся ў шортах.
Бабы кпілі: пэўна, кралі
Калашыны адарвалі.

## Вось і зразумей

Скажыце, людцы добрыя, як быць:
Нас заклікаюць бліжняга любіць.
А кінеш ледзь на прыгажуню вокам,
Дык жоначка адразу зіркне воўкам.



## Мікола Сянкевіч

Нарадзіўся 20 лютага 1957 г. у в. Асіпавічы Драгічынскага раёна. Пасля завяршэння вучобы ў Брэсцкім педагагічным інстытуце (1982) на працягу трынаццаці гадоў працаваў настаўнікам пачатковых класаў у школах абласнога цэнтра. З 1995 г. — асістэнт, старшы выкладчык кафедры беларускай і рускай моў з методыкай выкладання Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С.Пушкіна. Аўтар навуковай манаграфіі, вучэбнага дапаможніка і шэрагу артыкулаў па праблемах навучання малодшых школьнікаў. Выдаў кнігі мастацкай прозы «Усё як было» (1997), «Хутар Паянтрый» (2002), «Незваротны шлях» (2012), а таксама зборнік вершаў «Мае пракосы» (2007). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

### «Балотны» чалавек

Чалавек я вясковы, нядаўна на пенсіі. Працаваў з дзецьмі ў школе, вёў урокі роднай мовы і літаратуры. Іншы раз і сам пад настрой нешта магу накідаць у сшытак. Ёсць за мной такі грэх: пад старасць стаў больш пільна прыглядацца да людзей. Тады-сяды лаўлю сябе на думцы: непрыстойна ж, немаведама што могуць падумаць. А мне цікава. Так і падпірае іншы раз пахваліць якую маладзіцу за ўдала падабранае паліто і капялюшык, за голас, за ўсмешку. Але ж і смешнымі мы, людзі, таксама бываем досыць часта. Тут неяк з месяц назад запрасіў мяне на вяселле гарадскі сват, які жаніў малодшага сына. Парадніліся мы нядаўна, то і не дзіва, што большасць гасцей былі незнаёмыя. У фабрычнай сталовай, куды прыехалі з загса, насупраць мяне — так выйшла — аказаўся даўгавусы мужчына гадоў мо пад пяцьдзясят. У кашулі навыпуск, з расшпіленым каўняром на загарэлай шыі, яшчэ густой, але ўжо пабітай сівізной русай чупрынай. Хоць невысокага росту, але каржакаваты, з шырокімі пакатымі плячыма. І сам напоўнены той жывой прыроднай сілай, якая ад ветру, сонца, дажджу, балотнага туману… Здавалася, паспрабуй перасяліць такога ў гарадскую кватэру, ён ужо ў ліфце самлее ад недахопу паветра. Іван, так звалі мужчыну, спадабаўся сваёй міжлюднасцю, гумарам, уменнем весці размову. Так атрымалася, што на вяселле ён прыехаў адзін, жонка, жартаваў, дазволіла дзянёк пахаласцякаваць, але ўзяла слова надта не хуліганіць.

Справа ад майго новага знаёмага, сядзела… Хто яго ведае, як тут сказаць. Не дзяўчына, не кабета, не спадарыня… Няхай будзе паненка. Яна была ў капялюшыку з вузкім брылём, у пальчатках, якія пакідалі вольнымі доўгія пальцы. Вузкая цёмная спадніца з разрэзам апускалася амаль што да пят. Зверху — такі ж завужаны пінжак, вышэй грудзей зашпілены на два вялізныя, з кішэнны гадзіннік, гузікі. Знізу да пояса ніякіх гаплікоў-маланак не было, і крысы пінжака раз пораз агалялі худое і бледнае цела. Дай такую адзежыну сакаўной

трыццацігадовай маладзіцы — раўнівыя жонкі адразу ж пасляпілі б сваіх паловаў, каб не зіркалі куды не трэба. Тут жа «кавалачак эротыкі» не наводзіў ні на якія грэшныя думкі, з чаго вынікае, што апранаць адзежыну такога крою ў паненкі не было аніякіх падстаў. Я нават сказаў бы, маладога права.

Паненка спажывала выключна гародніну, усё больш выбірала моркву ды баклажаны. Піла ж выключна шампанскае, маленькімі глыточкамі, падоўгу не выпускаючы келіх з рук.

Было заўважна, што вяселле паненцы не падабаецца. Зусім няма вартых увагі мужчын, ды і наогул, ці засталіся яны яшчэ на белым свеце. Хто і калі іх бачыў апошні раз, — нібыта пытаў яе стомлены позірк. Гэты вусач, да якога падсела нібыта незнарок, як бы і нішто, як збольшага «акультурыць». Але ж калі ён нарэшце пачне гаварыць кампліменты? Паненка і пра адно, і пра другое… Пра моду і тэатр, пра каханне і здраду. Сяджу, раблю выгляд, што слухаю. Разабрацца — агульшчына, чужыя думкі, перакручаныя цытаты. Добра, што гэта ўсё не да мяне. Узрост нейкім чынам засцерагае.. А Іванка ж, думаю, папаўся. Прыйшоў чалавек выпіць, закусіць, паспяваць, а трапіў немаведама куды. Аднак я хваляваўся марна. Чарговы ўзвышаны маналог, разлічаны на яго ўвагу і захапленне, «нахабнік» абарваў на паўслове.

— Не разумею я ўсяго гэтага. Прабачце вясковаму дзядзьку. Што ты возьмеш з балотнага чалавека? У мяне ж на нагах перапонкі. Разуцца?..

Мужчына нахіліўся да чаравікаў, яго ж суседка пакрыўджана адвярнулася на ўвесь вечар і толькі час ад часу запісвала нешта на папяровых сурвэтках, крадком кідаючы пагардлівы позірк на «балотнага» чалавека.

# ПАМЯЦЬ





## Мікалай Цялічка

20 лютага 2018 г. споўнілася б 95 гадоў з дня народзінаў вядомага берасцейскага паэта-франтавіка Мікалая Рыгоравіча Цялічкі. Ён застаецца і да гэтага часу адным з сімвалаў Брэста, які прайшоў усю Вялікую Айчынную вайну, меў адпаведныя баявыя ўзнагароды і званні. Ён гаварыў: «Жыву ў Беларусі, сам па нацыянальнасці ўкраінец, а вершы пішу на рускай мове». Пазней ужо, калі пачалася перабудова пры Міхаіле Гарбачове, калі разваліўся Савецкі Саюз, Мікалай Рыгоравіч перайшоў на родную мову — украінскую, выдаўшы некалькі паэтычных зборнікаў.

* * *

*В. Колеснику*

Мне не тесно в моём государстве:
то в степном,
то в берёзовом царстве.
Не грущу, не томлюсь, не тоскую,
что рождён я на долю такую.
За морями,
в далёком пространстве,
я устал бы от стрессов и странствий.
Здесь, поблизости, я замышляю
костерок сотворить на досуге,
позаботясь о спутнике-друге.
Заварить ему крепкого чаю
и уйти, будто в рощу, в беседу,

разложив пред собой бутерброды…
Вы пришли ко мне,
мудрые годы.
Никуда от себя не уеду.

## Вход в Брестскую крепость

Не говорите: «Проходит беда.
Время своё берёт».
Вход в эту крепость —
Сквозная звезда —
Это орущий рот.
Так политрук в контратаку зовёт,
Может, в последний путь.
Так, если пуля солдату — в живот
Или навылет — в грудь.
Это детей истерический крик
Камни раздвинул в стене.
Это калека на весь материк
Вдруг застонал во сне…
Здесь же минута молчанья.
И стык
Мая и гнева «катюш».
Розы на камне. Сверкающий штык.
И оркестровый туш.
Но для меня,
Как в атаке,
Всегда
Арка вместо ворот,
В вечной стене
Сквозная звезда —
Это орущий рот.

*Да 95-годдзя з дня нараджэння паэта-франтавіка Мікалая Цялічкі*



**Лявон Валасюк**

Нарадзіўся 13 снежня 1955 г. у в. Песцянькі Кобрынскага раёна. Мастак-дызайнер. Сябра Беларускага саюза мастакоў. Аўтар зборнікаў вершаў «Леаніды» (2003), «Чырвоная вежа» (2004), «Познія сны» (2006), «Знакі на валуне» (2010), «Вечаровы настрой» (2016), прозы «Сцежкі да сядзібы» (абразкі маленства) (2008), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012), кнігі эсэ «Непрыдуманыя партрэты» (2014). Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## Сляды мінулых часоў

Мікалай Рыгоравіч быў і застаецца для мяне прыкладам сапраўднага грамадзяніна, паэта, проста мужчыны. Ён, былы франтавік, быў не проста мужным баявым афіцэрам, але і культурным педагогам і выдатным паэтам.

Мне было прыемна чуць у слухаўцы тэлефона яго голас, калі ён прыязджаў у апошнія гады свайго жыцця з Кіева ў Брэст, запрашаў мяне разам з іншымі берасцейскімі літаратарамі да сябе на Усход, дзе ў яго была кватэра. Асабліва часта збіраліся там на Дзень Перамогі…

Апошні раз я бачыў яго летам 2013 года, калі завітаў да яго сам, пабыў каля гадзіны, зрабіў алоўкавы накід яго сабе на памяць, нібы прадчуваючы ўжо тады, што бачу яго жывым апошні раз…

Са школьных гадоў ведаю саліднага мужчыну ваеннай выпраўкі з элегантнымі кароткімі вусамі — Мікалая Рыгоравіча ЦЯЛІЧКУ. Ён часта выступаў са сваімі вершамі перад намі — вучнямі старэйшых класаў 16-й сярэдняй школы горада Брэста па вуліцы Чырвонагвардзейскай на Граеўцы. «Я — украінец, жыву ў Беларусі, а вершы пішу на рускай мове!» — так заўсёды гаварыў слухачам Мікалай Рыгоравіч.

Мікалай Рыгоравіч доўгі час працаваў у нашай школе лагапедам. І ягоны кабінет знаходзіўся ў будынку старой драўлянай (былой польскай) школы па вуліцы Карасёва, побач з новай, цаглянай. Туды я прыносіў яму і свае школьныя вершы, якія ён чытаў, рабіў крытычныя заўвагі і пажаданні. І тыя два блакноты з вершамі захаваліся з аўтографамі Настаўніка. Вялікі дзякуй яму за гэта! Ён быў першы з сапраўдных паэтаў, хто чытаў мае пробы пяра...

Акрамя таго, што Мікалай Рыгоравіч часта выступаў у школе перад вучнямі па запрашэнні настаўніц беларускай і рускай мовы і літаратуры Башчук Антаніны Васільеўны і Васільевай Маі Мікалаеўны, ён прыводзіў берасцейскіх

і ўкраінскіх літаратараў у школу на літаратурныя сустрэчы. Такія святы часта адбываліся ў сценах граеўскай школы.

На ўсё жыццё запомнілася паездка да паэтэсы і перакладчыцы Ніны Мацяш у вёску Нівы ля Белаазёрска вясною 1973 года. Мы, дзесяцікласнікі, атрымалі цудоўны падарунак ад кіраўніцтва школы — сустрэчу з Нінай Язэпаўнай. Цікава было не толькі паслухаць вершы паэткі, аповед пра творчасць, але і ў час паездкі пабачыць прыгожыя куточкі Берасцейшчыны.

Мікалай Рыгоравіч Цялічка — былы афіцэр-франтавік. (У 22 гады ён быў ужо капітанам!) І вершы яго пра вайну, пра цяжкія салдацкія будні, выпрабаванні, пра сяброў — афіцэраў-франтавікоў не пакідаюць нікога абыякавым да



• *У гасцях у паэтэсы Ніны Мацяш. Вёска Нівы, май 1973 г.*

цяжкіх падзей той шматахвярнай вайны.

У шэрагу твораў апавядаюцца гераічныя старонкі Берасцейшчыны, абарона Брэсцкай крэпасці, служба пагранічнікаў, лірычныя матывы...

Институт учительский кончаю.
Мне шинель солдатская — пальто.
На коленях мальчика качаю,
По-отцовски важен, как никто.
Я и сын (уже весны участник)
Греемся на солнечном тепле…
У меня в руках такое счастье,
Без какого страшно на земле.

А нарадзіўся Мікалай Цялічка ў 1923 годзе на Чарнігаўшчыне ў сям'і вайсковага ўрача, таму яму часта даводзілася пераязджаць з аднаго месца на другое. Пачатковую школу закончыў у мястэчку Носаўка Чарнігаўскай вобласці. Затым жыў і вучыўся ў Ленінградзе, Сталінградзе, Махачкале. Першыя яго вершы былі апублікаваны ў Сталінградскай абласной піянерскай газеце ў 1938 годзе.

Вялікую Айчынную вайну Мікалай Рыгоравіч сустрэў у горадзе Брады Львоўскай вобласці. Пашанцавала вырвацца з акружэння з бацькавай ваеннай часткай пад Кіевам, апынуцца з маці на Паўночным Каўказе. Там давялося капаць акопы і траншэі… Быў залічаны ў стралковы полк. У 1942 годзе паступіў у ваеннае вучылішча, пасля якога з красавіка 1943 года ўдзельнічаў у баях на многіх франтах, у тым ліку на 2-м і 3-м Беларускіх. Прымаў удзел у вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Крыма, Беларусі, Прыбалтыкі. Быў двойчы паранены, адзін раз кантужаны, меў баявыя ўзнагароды.

Ужо пасля вайны, на пачатку 50-х гадоў, працуючы настаўнікам у Кобрыне, ён закончыў завочна літаратурны факультэт Брэсцкага педагагічнага інстытута, потым завочна вучыўся на лагапедычным факультэце ў Маскве. Увогуле ўвесь пасляваенны час жыў на Берасцейшчыне, перабраўшыся на Украіну ўжо ў апошнія гады свайго жыцця да дачок Галіны і Святланы.

У 1963 годзе выйшла першая кніжка вершаў Мікалая Цялічкі «Добрый ливень», а праз некалькі гадоў — зборнік «Дерево в бору». І ўжо пазней пачалі



• *Мікалай Цялічка з дочкамі Святланай і Галінай. Брэст, 2010 г.*

трапляць у кніжныя крамы да чытача яго наступныя кніжкі вершаў «Соль на касках», «Следы времён», «Вещий свет» , «Рубеж сорок первого», «Стихи из полевой сумки» і іншыя.

У 1980 годзе свет пабачыў кніжку вершаў «Вещий свет», выдадзеную выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў Мінску накладам 8000 асобнікаў! Зараз пра такі наклад і ў сне не бачыцца. Тады для мяне, яшчэ студэнта архітэктурнага факультэта, гэта было паэтычнае свята ў год Алімнійскіх гульняў у Маскве: мой Настаўнік выдаў цудоўную кніжку вершаў!

У той памятны для мяне зборнік увайшлі вершы пра вайну, пра працоўныя будні сучаснасці з яе хваляваннямі і клопатамі. Асобны раздзел быў прысвечаны памяці сына Сяргея, які трагічна загінуў.

Мікалай Рыгоравіч Цялічка быў і адным з першых членаў Брэсцкай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў, якая была створана Уладзімірам Калеснікам у 1981 годзе. Да апошніх дзён свайго жыцця Мікалай Рыгоравіч плённа працаваў над словам, займаў актыўную жыццёвую пазіцыю, сустракаўся з калегамі па пяру…

Памёр Мікалай Рыгоравіч 19 красавіка 2014 года ў Кіеве. Пахаваны ў Брэсце на Вайсковых могілках ля Брэсцкай крэпасці.

*Да 75-годздзя з дня нараджэння Ніны Мацяш*



**Сяргей Амяльчук**
галоўны рэдактар альманаха «Жырандоля» № 10

## Лірычны герой паэзіі Ніны Мацяш
*(Літаратуразнаўча-гістарычнае эсэ)*

Асоба паэта звычайна асацыіруецца з лірычным героем яго паэтычных твораў. Але ці правільны такі падыход? Ці супадае па характары, паводзінах у жыццёвых варунках асоба аўтара з учынкамі лірычнага героя? А ўвогуле, хто ён, лірычны герой паэзіі Ніны МАЦЯШ?

Перачытваў паэтычныя творы Ніны Мацяш, і мне падалося, быццам бы сярод іх ёсць вершы… скажам так — не зусім беларускія і нават зусім не беларускія. І мяне зацікавіла, а хто ж у гэтых вершах лірычны герой. Ад чыйго імя Ніна Мацяш стварае паэтычны вобраз?

Для прыкладу, даволі просты на першы погляд верш — «Расчараванне». Напісаны ён у далёкім 1969 годзе. Спытаеце, а ў чым яго небеларускасць, чым верш вылучаецца ў шэрагу іншых? Ды хоць бы для пачатку — апісаннем горнага пейзажу, на фоне якога разгортваецца дзеянне. Скалістыя горы, а менавіта такія ў згаданым вершы, зусім не характэрныя для нашага раўніннага ландшафту. Калі казаць пра сюжэт твора, то ён даволі просты: горы, сцежка, з-пад нагі ў любы час можа выслізнуць каменьчык. А калі ўсё ж выслізне, то пры падзенні сутыкнецца з іншымі. І каменная лавіна будзе грукатаць уніз, да долу. А потым стане ціха-ціха. Расчараванне — як абвал.

**Расчараванне**

Расчараванне — як абвал.
Хіба ўгадаеш гэта ліха?
Уцёк каменьчык з-пад нагі,
За ім знянацку і другі,
Чацвёрты, восьмы… Шчэ імгненне —
І вось пад кручу ўжо, уніз,
Лавіна груку і камення!

Галёкне рэха ў катлавіне,
Заб'ецца спуду ў стромах сініх,
І раптам стане ціха-ціха…
Расчараванне — як абвал.

Прызнаюся, менавіта верш «Расчараванне» падштурхнуў мяне да вывучэння згаданай тэмы ў творчасці Ніны Мацяш, няхай ён і не першы па часе напісання з пазнакай «небеларускасці».

Можна меркаваць, што для большасці чытачоў — аматараў паэзіі Ніны Мацяш гэты твор — удалае параўнанне стану расчаравання лірычнага героя з каменяпадам у гарах. І калі глыбока не ўдавацца ў развагі, не спрабаваць разгадваць глыбінны сэнс выказаных думак, то сапраўды можна заўважыць гэтую ланцуговую паслядоўнасць расчаравання чалавека ў нечым. І яшчэ можна апісаць каменяпад формулай матэматычнай прагрэсіі альбо знайсці падабенства з ланцуговай ядзернай рэакцыяй. Гэта калі паспрабаваць паэзію «праверыць алгебрай». І праверка ні ў якім разе не прыадкрые сакрэтны механізм нараджэння Паэзіі, які насамрэч невядомы нават і самому Паэту. Бо вершы, у гэта верыцца, не пішуцца, а толькі запісваюцца пад дыктоўку з нябесных вышыняў. Дарэчы, тэма праблiску творчай іскры ў паэта вельмі цікавіла Уладзіміра Калесніка. Ён пытаў і ў Ніны Мацяш, і ў іншых паэтаў, як у іх адбываецца нараджэнне вершаў. У ягонай рукапіснай спадчыне, думаю, можна было б адшукаць адпаведныя меркаванні.

Але вернемся да згаданага верша, які стаў адпраўным пунктам майго шматгадовага літаратурнага, і не толькі, даследу.

Па-першае, чаму ўсё ж горы? Быццам бы Ніна Мацяш ніколі не была ў гарах. Гэта калі прымаць пад увагу інваліднасць паэткі. Між тым старэйшая родная сястра Ніны Алена Літвінчук сцвярджае, што ў 14-гадовым узросце будучая паэтэса усё ж такі была ў гарах Сярэдняй Азіі. Але, прынамсі, я не ўпэўнены, што Ніна ў тую паездку набыла хоць які вопыт рухацца вузкімі горнымі сцежкамі. Хоць, безумоўна, вобразы горнага краю маглі адбіцца ў дзіцячай памяці.

Верш «Расчараванне» быў напісаны паэткай ужо ў сталым узросце — у 26 гадоў. Трэба ўлічыць, што на той момант пра інтэрнэт ніхто не чуў, а тэлебачанне толькі-толькі набірала сілу. Пабачыць горы на відэа таксама было немагчыма. Выкажам здагадку, што менавіта пад канец 60-х у Ніны Мацяш маглі ўзнікнуць глыбокія расчараванні, звязаныя з тым, што бацька (зноў жа са слоў Алены Літвінчук) адмовіў хлопцу, які прасіў руку і сэрца дачкі, а хвароба перакрэслівала надзею на сямейнае шчасце.

А што горы?.. Вядома, што рухацца праз іх можна не толькі патаемнымі сцежкамі, але і даволі-такі ўладкаванымі дарогамі. Прычым дарогай і бяспечней, і хутчэй. Тут можна сустрэць спадарожніка, які паспагадае і суцешыць, калі ты расчараваны ў каханні альбо сяброўстве. Але аўтар чамусьці выбірае для лірычнага героя менавіта горную сцежку, на якой існуе небяспека сарвацца ў бездань, на якой цяжка размінуцца з сустрэчным. Можа быць, тут маецца на ўвазе нейкая невядомая нам прычына расчаравання. Іншая, прыхаваная, недаступная для чытача. Таму паспрабуем па ўскосных здагадках яе асэнсаваць.

Горная сцежка не пачынаецца ад вялікай дарогі, а ўзнікае раптам ля самой гары. І таму без праваднiка ў першы раз на яе не патрапiш. Значыць, лірычны герой быў падрыхтаваны да магчымага расчаравання. Яно было абвальным, але не неспадзеўным.

Нехта адмахнецца: «Герой выбірае горную сцежку, а не дарогу, бо так трэба для верша, для драматызацыі сітуацыі».

Дык з якой прычыны лірычнаму герою трэба было некуды рухацца так таемна, каб нікога на сваім шляху не сустрэць, ступаць так асцярожна, каб не «ўцёк каменьчык з-пад нагі»? З рызыкай сарвацца ў бездань і загінуць. З рызыкай выдаць сваё месцазнаходжанне незнарочным каменяпадам. Але і з магчымасцю адхіліцца ад сцежкі і зліцца з камянямі ў выпадку непажаданай сустрэчы…

І калі маюць месца такія меры перасцярогі, то можна меркаваць аб пераследзе, аб пагоні. І раптам заўважаеш, што стан расчаравання паказаны ў вершы не проста праз хаду па горнай сцежцы, а праз уцёкі.

Але ўцёкі куды? Той, хто ступіў на горную сцежку, першасна ведае, куды яна прывядзе. А яшчэ вядома, і так склалася гістарычна, што ў гарах праходзяць дзяржаўныя і этнічныя межы. Таму ў вершы, нам бачыцца, паказаны не толькі ўцёкі ад пераследу, але і… калі гаварыць юрыдычнымі тэрмінамі, спроба эміграцыі. ў іншую краіну. Што ж магло паслужыць прычынай для такіх дзеянняў? І хто ён тады, лірычны герой? Злачынца, які ўцякае ад справядлівага пакарання? Але ў вершы няма нават і намёку на тое. І чытач на баку ўцекача (альбо ўцекачоў). Але тое, што лірычны герой знаходзіцца ў шэрагу людзей, над галавою якіх занесены меч, якія падлягаюць знішчэнню, відавочна.

Толькі ў чым можна было расчаравацца да такой ступені, што трэба было ратавацца ўцёкамі ў іншую краіну. У сябрах? У каханні? Але ў эміграцыю ў такім разе можна выправіцца і звычайнай дарогай.

А ў чым яшчэ можна расчаравацца? Можа, у надзеі, у спадзяванні? Але ў надзеі, у спадзяванні на што? На нешта важнае, вялікае, такое, што калі будуць парушаны планы, то неабходна будзе ратаваць жыццё.

**Амо те**

> «Amo te, ama me, fides immortales» — «Кахаю цябе, кахай мяне, вернасць несмяротная», — пісалі старажытныя рымляне на заручальных пярсцёнках.

З Рыма, з даўніх давён,
Праз стагоддзі-вякі,
У абрадавым звоне крыштальным
Прыкаціўся пярсцёнак
Да жаночай рукі,
Прыкаціўся пярсцёнак
Да мужчынскай рукі, —
Amo te,
Ama me,
Fides immortales.

Блаславіў Гіменей,
Абяцаў Гіменей
Сонца, шчасце раскрыленых даляў.
І выстукваюць сэрцы
У цябе і ў мяне:
Amo te,
Ama me,
Fides immortales.

Па жыцці не прайсці,
Каб не зведаць бяды.
Нам бы толькі пярсцёнкі шапталі
Праз вясну і слату,
Праз гады і гады:
Amo te,
Ama me,
Fides immortales.

*1968*

Несумненна, гэты верш пра каханне і пра шчасце. Напэўна, Ніна марыла пра вяселле. Я помню, як і праз два дзясяткі гадоў яна натхнёна чытала гэты твор на сваіх творчых вечарынах. Але літаратурныя крытыкі чамусьці не звярнулі на яго належнай увагі. Мо былі зачараваныя паэтычным словам? Хто ведае. Дык пра што ж гэты верш? Скажу адразу — ён не пра беларускае і не пра сучаснае вяселле. Тут нават эпіграф напісаны лацініцай. А першае слова — «З Рыма» — адразу адсылае чытача ў Ватыкан. Папаў Рымскіх было шмат, але Ніна Мацяш указвае перыяд часу — «праз стагоддзі-вякі», — у якім мог правіць нейкі канкрэтны Папа Рымскі. А калі алічбаваць словы, то атрымаецца перыяд часу ад 200 да 900 гадоў.

Цяпер давайце вызначымся, пра каго напісаны гэты верш. Вядома, што Папа Рымскі не абслугоўвае праваслаўных, што лагічна, а толькі каталікоў. У дачыненні да Беларусі гэтая акалічнасць «падзяляе» краіну на дзве вялікія часткі, адна з якіх, калі можна так сказаць, застаецца «па-за вершам». Да таго ж Ватыкан не абслугоўвае і звычайныя вяселлі, а толькі вяселлі асобаў каралеўскай крыві. Яшчэ можна з упэўненасцю сказаць, што ў вершы апісваецца вяселле караля, і ні ў якім разе не князя альбо нейкага цара. Такім чынам, мы можам меркаваць, што апісанае ў вершы вяселле геаграфічна не адносіцца да Беларусі.



А пра вяселле якога ж караля можа ісці гаворка?

Тут узнікае здагадка: Мацяш — гэта сапраўднае прозвішча Ніны, а не псеўданім. Самы вядомы ўладальнік гэтага імя-прозвішча —

вугорскі кароль Маціяш. Кароль Маціяш нарадзіўся за 500 гадоў да нараджэння Ніны Мацяш — у 1443 годзе, праўда, не 20 верасня, як Ніна, а 23 лютага. Паміж Вугоршчынай і вёскай Нівы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці з гор — толькі Карпаты.

І падобна на тое, што ў згаданым вершы апісваецца вяселле караля Маціяша з Катарынай Падэбрад (Кунінгай), дачкой чэшскага караля Іржы Падэбрада ў 1463 годзе. А 8 сакавіка 1464 года пятнаццацігадовая жонка памірае пры родах, а праз дзве гадзіны памірае і ёю народжаны сын.

Уніклівае вывучэнне гісторыі караля Маціяша ў сеціве ў 2002 годзе прывяло да нечаканага выніку: у караля Маціяша не было законнанароджанага нашчадка… Усё, што назапасіў інтэрнэт пра род Маціяшаў, я прапанаваў Ніне на CD-дыску. Ніна прыняла яго, падзякавала, але не сказала, што ёй гэта не трэба…

Вось, здаецца, і казцы канец.

Грае сумная музыка з фільма пра неверагодныя вышукі доктара Холмса. Сцэна закрываецца.

### Хуньядзі, альбо Корвін

Мінула два гады. Інтэрнэт напаўняўся. А як там жыве кароль Маціяш Корвін? Аказваецца, па-ранейшаму ў яго няма законнанароджаных нашчадкаў. Добра, думаю, а як быць з тым, што каралі могуць усё, ды толькі не жэняцца па каханні. Калі няма законных нашчадкаў, то што скажа інтэрнэт на запыт пра незаконнанароджаных? І дзіва дзіўнае: аказваецца ў караля Маціяша быў сын Янаш, названы ў гонар бацькі караля Маціяша Яна Хуньядзі (1407 — 11.08.1456), вядомага военачальніка, які спыніў асманскае нашэсце на Еўропу і быў нават рэгентам Вугоршчыны з прычыны малалецтва яе караля.

А маці сына караля Маціяша была аўстрыйская прыгажуня Борбала Эдэльпек, якую ён выпадкова (лёс на кані не аб'едзеш) сустрэў у 1472 годзе на паляванні ў венскім лесе. Адно што… не была Борбала каралеўскай крыві… І тым не менш 2 красавіка 1473 года нарадзіўся Янаш. Янаш Корвін.



А што азначаюць «Хуньядзі» і «Корвін»?

Ды адно і тое ж. Толькі Хуньядзі — гэта Воран па-вугорску, а Корвін — на лаціне! Воран з залатым кольцам у дзюбе — гэта родавы герб Маціяшаў.

Легенда распавядае, што Ян, бацька караля Маціяша, быў незаконнанароджаным сынам вугорскага караля Жыгімонта Люксембургскага. Маці яго звалі Эржэбет, і была яна хоць і не са знатнага, але з вядомага роду Маржынаі. Каб не зглуміць



імя дзяўчыны, кароль аддаў прыгажуню-палюбоўніцу ў жонкі свайму найлепшаму рыцару. А народжанаму хлопчыку падараваў кольца са словамі, што яно будзе доказам яго каралеўскай крыві і прывядзе да каралеўскага трона. І адправіў усіх у адзін са сваіх шматлікіх замкаў.

Па дарозе маладая сям'я спынілася палуднаваць. Кольца было пакладзена на пялюшку ля хлопчыка. І тут, заварожаны яркім бляскам, з неба рынуўся воран і ўхапіў кольца. Рыцар ускочыў, схапіў лук і прыцэліўся. Але воран раптам развярнуўся і кінуў кольца на ранейшае месца.

Потым, калі маладая маці з сынам пасяліліся ў замку, рыцар вярнуўся ў двор да караля і расказаў гэтую неверагодную гісторыю. Уражаны пачутым, кароль надаў роду Маржынаі тытул Хуньядзі і падараваў герб: воран з залатым кольцам у дзюбе.

Але я вельмі заглыбіўся ў гісторыю. Цяпер — пра мару лірычнага героя.

**Балада мары**

Дзівосным пер'ем грае цёплы птах, —
Ажно шчыміць і замірае сэрца
Ва ўзбуджана-шчаслівай паняверцы
Раскошу гэту бачыць блізка так.
І рукі узлятаюць да яе,
І пальцы чуюць трапятлівасць цела
Але,
        зіхоткая,
                        амаль нясмела
Ірвецца птушка прэч
                                і растае…
Асірацела гойдаецца трон —
Вечназялёны куст, што цуд той гушкаў.
Была такой вясёлкаваю птушка —
Скуль на далоні чорнае пяро?

*1974*

Ключавы радкі «Балады мары»: «Дзівосным пер'ем грае цёплы птах», «Асірацела гойдаецца трон» і «Скуль на далоні чорнае пяро?»

Вядома, што мара — гэта журавель. А сініца ў руцэ — гэта рэальнасць. «Балада мары» складаецца усяго з 15 радкоў. І хоць памерамі да твораў гэтага

жанру не дацягвае, па зместу — гэта балада, але абысці яе ўвагай ніяк нельга, бо гэта адзін з ключавых твораў Ніны Мацяш.

«Дзівосным пер’ем грае цёплы птах». Як многа гэтым радком сказана! Тут і сініца, і… журавель. Тут тая птушка, якая ўжо была ў руках лірычнага героя, бо вядомая, адчутая яе цеплыня.

А яшчэ ў «Баладзе» згадваецца галоўнае слова, якое з’яўляецца марай для лірычнага героя. І гэтае слова «трон», які «асірацела гойдаецца». Янаш Корвін не можа яго заняць, бо ён незаконнанароджаны. А кароль Маціяш Корвін, які ўсё рабіў, каб Янаш заняў яго месца, «памёр у эпілептычным прыпадку» 16 верасня 1490 г.

Не, ён не памёр — яго, хутчэй за ўсё, атруціла жонка італійка Беатрыс Арагонская. Проста набліжаўся час, калі каралю трэба было пазбавіцца каралевы, якая не нарадзіла нашчадка кароны. А каралеве — караля, каб надалей заставацца каралевай. Хто каго апярэдзіць…

Мяцеж Янаша Корвіна быў пад задушаны ў 1491 годзе.

Расчараванне — як абвал…

## Скуль на далоні чорнае пяро?

Дзіўная Птушка была «вясёлкаваю», а пакінула — чорнае пяро. У творчасці Ніны Мацяш некалькі разоў упамінаецца воран. Напэўна, гэта не выпадкова. Як не выпадкова і яе ўменне ствараць карціны з пер’я птушак. Яна назвала гэты занятак перкаграфіяй.

**Воран кружыць**

Я шукала чараўніцу,
Ах, шукала,
Каб мяне ад варання
Паратавала,
Каб яно штодня-штоночы
Не кружыла,
Каб я цяжка так па сонцу
Не тужыла.

Абышла я паўкраіны,
Паўзямліцы,
Не знайшла нідзе жаданай
Чараўніцы,
Бо яны, бо і яны
Па сонцу тужаць,
Бо над кожнаю душой
Свой воран кружыць…

### Над кожнаю душой…




Паспрабуем прыдумаць надмагільны помнік Ніне Мацяш. Вядома — кніга і крыж. А яшчэ воран. Але воран на крыжы ў разуменні беларусаў быў бы вестуном бяды. Неяк так. Таму з'явілася стылізаваная птушачка. А яшчэ кольца. І «прыкаціўся пясцёнак да жаночай рукі». І проста неверагодна, што прыкаціўся партрэт-пясцёнак Ніны Мацяш з самой Італіі.

### Скарга дзікай яблыні

Калі складваецца вобраз лірычнага героя паэзіі Ніны Мацяш, то раптам і вершы становяцца зразумелымі.

Дык хто ж лірычны герой паэзіі Ніны Мацяш? Калі коратка, то, напэўна, той, хто быў каралём, хто мог заняць каралеўскі трон, хто знайшоў прытулак на чужыне, чый род захаваўся насуперак усім нягодам.

Я ў сад хачу!
У той прасторны сад,
Дзе вішанна, і яблычна, і грушна, —
Мне тут, на ўзмежку вольным гэтым,
Душна.
Мне млосна ад прасторы навакол,
Між быльнягу учэпістага стыну:
Там,
Блізкай дзе няма душы, —
Пустыня.
Я ў сад хачу!
Я клопату хачу!
Бязглузда ж усыпаць пладамі вецце,
Каб іх стаптаў,
Каб змарнаваў іх
Вецер.
Я ў сад хачу!

*1977*

*Згадкі пра Алеся Каско*

## Васіль Дэбіш

# Межавыя знакі Алеся Каско

Яшчэ 28 кастрычніка пераклікаўся з Алесем Канстанцінавічам па электроннай пошце. Дасылаў яму свае новыя творы. Напісаў і ён некалькі радкоў: «Васіль, я трохі акрыяў. Дапрацаваў “Кайданковую повязь”, пішу запоем: вершы, пераклады, мініяцюры. Баюся не паспець… Алесь». 25 лістапада я патэлефанаваў яму ў Жабінку, ды тэлефон зацята маўчаў. І вось праз дзень, у нядзелю, на пасяджэнні Рады такая сумная вестка: «Памёр Алесь Каско»!

26 лістапада 2017 года перастала біцца сэрца нашага сябра, таленавітага беларускага пісьменніка, які два тыдні не дажыў да свайго 66-годдзя. Ён ступіў за сваю апошнюю мяжу — мяжу жыцця і смерці.

### Паэт і чалавек

Межы-знакі вялі будучага паэта па ваколіцах старажытнага мястэчка Чудзін, дзе пашчасціла яму з’явіцца на свет, адкрываючы дзівосныя краявіды роднага краю. Уяўляю, як сямігадовы хлопчык з заплечнікам крочыць у суседнюю вёску Пярэвалакі да школы. Першы верш на роднай мове, першае каханне, першы пацалунак… Далей была вучоба на філалагічным факультэце Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. Пушкіна, праца настаўнікам у роднай вёсцы, карэспандэнтам Жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда», рэдактарам на Брэсцкай абласной студыі тэлебачання, старшынёй абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Алесь Каско — аўтар кніг паэзіі «Скразная лінія», «Набліжэнне», «Час прысутнасці», «Сорак пяць», «Трохкроп’е», «Нічога больш», «Два сонцы», «Межавыя знакі», кнігі народных казак «Чыстага ўсё нячыстае баіцца» і іншых. Ён адзін з найбольш вядомых беларускіх паэтаў, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова за паэтычны зборнік «Час прысутнасці», абласной прэміі імя Уладзіміра Калесніка (у 2008 годзе) за сумесную з Міколам Пракаповічам і Міхасём Рудкоўскім кнігу вершаў «Трохперсце».

Па натуры Алесь Каско быў чалавекам гарачым, запальчывым. І ў той жа час вельмі чуллівым і зычлівым. Ён браўся дапамагаць усім, хто б ні звяртаўся, і нават сам, па ўласнай ахвоце, клапаціўся пра больш сціплых. А як ён перажываў, калі знаходзіў у надрукаваных творах берасцейскіх літаратараў памылкі, хібы, рупліва даводзіў да ладу рукапісы сяброў. Калі я рыхтаваў да друку кнігу вершаў «Чуйнар», строгі, бескампрамісны рэдактар казаў: «Не спяшайся. Працуй. Расці… Кожны наступны зборнік павінен пераўзыходзіць у мастацкіх адносінах папярэдні. Калі такога не адбываецца, кідай пісаць, гэта не тваё».

Алесь Каско мог у любую хвіліну падставіць сваё плячо. Нават калі цяжка хварэў. Сяброў шанаваў, а чыноўнікаў і злых людзей стараўся абмінаць.

### Развітальная кніга

«Межавыя знакі» — зусім не выпадкова назваў аўтар сваю, як аказалася, апошнюю выдадзеную пры жыцці кнігу. (За вокнамі бралася вясна 2014 года.)

Чалавек і час, чалавек і грамадства, чалавек і прырода, чалавек і чалавек, чалавек і ягоныя мары і мроі — глыбокі філасофскі роздум на гэтыя няпростыя тэмы лёг у яе аснову.

У развітальнай кнізе-запавеце паэт часта звяртаецца да мовы сімвалаў і знакаў. Гармонія сімвалічных характараў, колераў, ліній і формаў мае ў творы не меншае значэнне, чым сюжэт.

Абсяг нерухомых нябёсаў,
без межаў, як вечнасць, разлог…
Што значу тут я?.. А здалося,
што быў ніадкуль мой спалох.

*(«Дрыжынка прабегла па жыце»)*

Мяжа паміж зямлёю і небам з’яўляецца ўмоўнай і зменлівай, як няма ў нашым жыцці дакладнай мяжы паміж «зямным» і «нябесным». Зямля і неба, лета і зіма, дзень і ноч, рэальнасці і мроі суіснуюць, змяняюцца, дапаўняюць адно аднога. Час бяжыць, плынь жыцця імчыцца. Але ёсць прыпынкі, калі чалавек знаходзіцца сам-насам з сабою, вядзе дыялог не толькі з «сусветным» розумам, а і са сваёю душою. Праца душы — да знямогі і душэўных пакут, не дзеля славы, а каб стварыць тое, што не існавала раней. Менавіта гэта дазваляе ўзняцца над шэрасцю быцця.

Спасцігаю сэнс і шлях
тых залётных аблачынак,
што плывуць па-над вачыма…

*(«Роднасць»)*

Мяжа ў літаратуры і ў жыцці — заўжды няўлоўная. Іншы раз яе нельга пераступаць, каб не забрысці ў глухія нетры, адкуль няма звароту. Другім разам яе трэба абавязкова перайсці, каб вырвацца з палону звыклага ў пошуках новага зместу і формаў.

Паэт пераступае мяжу Быцця, узносіцца над зямлёю … Што памеры Зямлі ў параўнанні з памерамі Сусвету?! Яна — маленькая пясчынка, і не болей.

Межавыя знакі — рэч далікатная, дзе не ўсё можна пакратаць, агледзець з усіх бакоў. Яна як завеса марыва над затокаю, такога густога, што, колькі ні ўзірайся, так і не ўбачыш услаўленага безліччу пёраў, зваблівага аквамарыну.

### Рыфма і рытміка

Назаўсёды застанецца ў памяці нашая вандроўка па малой радзіме Алеся Каско — вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна, яе ваколіцах. Пра гэта мной было напісана эсэ: «Тры дні на радзіме паэта», надрукаванае на старонках «Дзеяслова» (№ 6 (85), снежань 2016). А ўдзячлівая памяць дадае і новыя падрабязнасці.

Сутонее. Сядзім за сталом. Размаўляем пра жыццё. Алесь:

— Калі ўжо прыехалі ў Чудзін, то давайце пра паэзію. А дзе мы яшчэ пагаворым, як не тут?! Вось паслухайце адзін з маіх вершаў — «Страўсы»:

Замест прасторы цёплага пяску —
сталёвыя рабрыны, сеткі зонаў
для тых, хто мае шыі саксафонаў
і ногі алімпійскіх бегуноў…

Далей можна і не чытаць. Што заўважылі? — пытаецца. Усе маўчаць.— Падкажу: першы і чацвёрты радок не мае рыфмы, а верш гучыць, ці не так?..

— Так, Алеська, так! — згаджаецца Алесь Паплаўскі. — І на маю думку, галоўнае ў паэзіі не рыфма, а рытміка, настрой. Без настрою я не напісаў бы і радка.

— І дасканалае веданне мовы, законаў вершаскладання, — дапаўняе Каско. — Чалавек, які не ў поўным аб'ёме, нават слоўнікавым, ведае мову, не знае законаў вершаскладання і пачынае «кульгаць» у слове (сёння гэтым асабліва грашаць маладыя), лічыць, што за недасканаласцю, кульганнем — арыгінальнасць твора. На думку такіх, калі мы адмаўляем усякую філалагічную адукацыю, не прымаем вопыту мінулых пакаленняў, змятаем усю класіку і пачынаем «тварыць» на чыстым лісце, то і не абавязкова вучыцца дзе-небудзь. А як вы лічыце?

— Зараз большасць так і робяць, асабліва маладых, — выказаўся Алесь Паплаўскі. — Мода на мадэрнізм захліснула. Я, можа, не пагаджуся з табою толькі наконт таго, што маладыя змятаюць філалогію. Напэўна, не. Ну, калі яны філалагічна адсталыя, то наогул нічога не робяць. Справа не ў гэтым. Справа ў тым, што мову твораць пісьменнікі, а хто акрамя іх? Філолагі потым ужо карыстаюцца. Таму калі маладыя пісьменнікі твораць мову, то і добра. Але сутнасць у тым, што многія з іх проста мудрагеляць. І часта сваё невуцтва, кульганне лічаць мадэрнізмам, геніяльнасцю. Ну якая там паэзія? Там душы няма…

— Невуцтва… Мудрагелістасць, — гэта не што іншае, як страх, страх перад банальнасцю, прыгажосцю, дзівам, — падтрымаў я размову. — Незразумелае больш падабаецца графаманам. За ім можна схавацца. Яны фарсяць сваім татальным нігілізмам, выдаюць жах перад банальнасцю за смеласць. Яны сталі баяцца ўсяго відавочнага, як у вялікім, так і ў малым. Некаторыя маладыя пісьменнікі адрынулі не толькі рэалізм вонкавы, але і тое, што я назваў бы ўнутраным рэалізмам, — адмаўляюць чалавечую прыроду. Калі маладыя паэты напраўду хочуць выставіць доказы сваёй смеласці, ім варта напасці на монстра,

які завецца банальнасцю, і пастарацца адолець, прыручыць яго, а не баязліва кідацца наўцёкі. Трагедыя нашага сучасніка — усеагульны звярыны страх, у якім мы жывём так даўно, што ўжо звыкліся з ім. Таму сучасныя маладыя пісьменнікі забыліся на праблемы барацьбы са злом, баяцца паражэнняў і стратаў. А без паражэнняў і стратаў, спагады, самаахвярнасці любы твор асуджаны на забыццё. Гора без шнараў на душы — незразумелае гора, эфемернае, якое не кране…

— Сапраўды, — падхапіў нашу размову Алесь Каско.— Хрыстос жа пасля распяцця вярнуўся не проста мудры, а мудры сваёй душою. Адтуль і пайшла паэзія, мастацтва. У педагагічным інстытуце У. А. Калеснік прывучыў нас не мудрагеліць, а выказваць сябе. Тое, што ты перажыў: ці радасць, ці гора, — яно і выліваецца ў верш. Калі нічога не перажыў — верша не атрымаецца. Творчасць — гэта не заўсёды радасць. Радасць потым прыходзіць, ёй папярэднічае вялікая праца душэўная, яна многа вымагае сіл. Які ты быў і што ты змог зрабіць за сваё кароткае жыццё, тым жа словам напішуць на тваім магільным камені.

— Так! — пагадзіўся Паплаўскі. — І ў гэтым ёсць найвышэйшая боская справядлівасць.

— Шкада, — вярнуўся да тэмы гаспадар хаты, — што набор слоў, гэткую моўную абракадабру многія лічаць паэзіяй. Сабраў радкі ў салянку-мяшанку і выкінуў нам у твар, а вы разбірайцеся, што я там хацеў сказаць. Так?

— Так, — падтрымаў Сяргей Амяльчук. — Часта мы чуем ад маладых: «Ты не сучасны, ты не модны!» Тым самым перакручваецца значэнне паняцця. Я люблю класічную паэзію. Нашы вялікія папярэднікі ўмелі агарнуць у рыфму не толькі думку, але і душу, каб чытачы заглыбляліся ў сутнасць твораў, жылі імі не адно стагоддзе. Вось, на маю думку, задача паэзіі і паэта. І між тым, кожны верш мае свой твар, гэта значыць — форму. А змест — гэта душа верша. На маю думку — нельга бясконца эксплуатаваць чатырохрадкоўе. Гэта збядняе паэзію

Каско запярэчыў:

— Калі ты паўтарыў рыфму, гэта ўсё, канец, не рыфмуй, а пераходзь з рыфмы на другія формы вершаскладання ці на прозу. У нас спрэс адныя і тыя ж рыфмы. Можна пісаць усяк, але галоўнае — дайсці да сутнасці. Паэзія — гэта гульня, але гульня сутнасцей. Можна гуляць пляскannем па далоні, гуляць у шашкі, крыжыкі, у паддаўкі, а можна гуляць і ў сур’ёзныя рэчы, якія пахнуць не толькі крывёю, як сказаў аднойчы Алесь Разанаў, а нярэдка і смерцю. Як, напрыклад, можна гуляць у рускую рулетку, так і ў слова.

У вершы часта адчуваецца прымітывізм, а паэзіі мала. У прастаце, а не мудрагелістасці геніяльнасць паэта. Маладыя хочуць паказаць, што яны гульцы, а не проста гулякі. Мне здаецца, што за постмадэрнізмам яны хаваюць свой боль, сваё перажыванне. А розуму і таленту ім хапае, —падсумаваў Алесь.

— Я ім чамусьці не веру,— запярэчыў Паплаўскі. Часам невуцтва, недасканаласць, няведанне мовы, гарэлка, «калёсы», лянота выдаюцца за арыгіна-

льнасць. Але краса павінна заставацца красою, ці не так? Паэт мудры душою. Калі Алесь Разанаў складае свае вершасказы, то там і душа, і майстэрства…

— Алесь, хто з’яўляецца прыкладам моўнага майстэрства для цябе асабіста?— запытаў я сябра.

— У нас мова — гэта Янка Брыль, Ян Скрыган…

— А якім табе наогул падаецца сённяшні стан беларускай літаратуры, дзе, у якіх жанрах, мы на вышыні?

— Паэзія ў Беларусі на высокім узроўні. А вось з прозай кепска. Асабліва дзіцячай. Няма дзіцячай прозы.

— Ідзе час, мяняюцца пакаленні. У чым сутнасць, на твой пагляд, гэтай змены?

— У тым, каб новае пакаленне не адмятала так званыя вечныя каштоўнасці. Яны будуць існаваць, але вось у якой меры, у большай або меншай, залежыць ад таго, якое пакаленне мы выхавалі, якіх нашчадкаў пакідаем. А вечнае — яно будзе вечным заўсёды.

— А ў чым ты бачыш сваю ролю ў літаратуры?

— Як жыў, так і пісаў. І нічога больш…

Апошняе пытанне, якое мне карцела задаць Алесю: як трэба пісаць вершаваныя творы?

— Сутнасць паэзіі няўлоўная, — адказаў нам сябар, крыху разважыўшы. — Галоўнае — мелодыка твора, яе рытм і, вядома ж, якасць, даступнасць сэнсу чытачу. Не крануў верш чытача — ты вінаваты, а не чытач. Пішыце так, як дыктуе сэрца.

* * *

Наведалі магілу паэта ў вёсцы Федзькавічы недалёка ад Жабінкі. Могільнік сустрэў нас звонкім салаўіным пошчакам. Птушкі заліваліся на дзясяткі галасоў, нібы гаворачы свету пра жыццё, якое доўжыцца і пасля нашага адыходу ў іншасвет, бо чалавек жывы датуль, пакуль яго помняць.

Як бы доўга ні жыць — не дажыць
да канца… Зноў і зноў паўстае перад намі
грыўка спелых жытоў — недажын,
што асыплецца ветрам, прыб’ецца дажджамі.

От бы ўсё — ад зярнят да расы —
зберагчы і напоўніцу ўсім наталіцца!
Дакахаць, дапісаць… Папрасіць
даравання ва ўсіх, з паміраннем змірыцца…

…О, каб гэта! Але да мяжы
часу меней нашмат, чым да зжатага жыта.
Можна загадзя ўпасці, не жыць…
Ды з таго і жывём, што жывём недажынам.

Што вызначае межы жыцця і творчасці чалавека, паэта? Рэаліі, а можа, вобразы, якія суправаджаюць праз усё свядомае ці несвядомае жыццё? Недзе прачытаў, што «сутнасць людскога жыцця ў натуральным, без узрушэнняў і зрываў, існаванні, ва ўмовах, пры якіх чалавек дажывае да глыбокай старасці і памірае». Можа, і так, толькі гэта наўрад ці адносіцца да А. К. Каско, чые кнігі будуць выразнымі межавымі знакамі для ўсіх, хто імкнецца зразумець высокі свет сапраўднай паэзіі.



• *Алесь Каско. Ля бацькоўскага дома. 2016 г. Фота Сяргея Амельчука*

# ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА



Яўген Бяласін

## Культура самоты і смерці

«Шарай» — так перахрысцілі з расейскага «Ширяев» пана, які сядзеў у двары пры маіх родных Задворанях. Маці казала, добры быў чалавек. Лёс меў трагічны. У 1939 годзе мусіў уцякаць, бо быў белагвардзейскі афіцэр, жанаты з мясцовай медсястрой. Прабіваліся ў бок Вільні паасобку, усе чатыры браты. Трое загінулі. Сляды аднаго згубіліся.

Таму зацікавіўся, пачуўшы і потым пабачыўшы на вокладцы: «Шарай». Прачытаў. І вось як убачыў.

Каб зразумець, радапаложым.

Сшытачак вершаў Ігара Шарая «Разумець маўчанне» (аддрукаваныя ўвесну 2018 у Брэсцкай друкарні, наклад сто асобнікаў) не чытаецца настолькі хутка, наколькі ён невялікі. І гэта добрая прыкмета.

У вершах «літар мала, думак шмат», і яны эмацыйныя. Дадаткова спрыяе станоўчаму ўспрыманню шматпланавасць — яны бы карціны-імпрэсіі.

…Як цяжка ўсведамляць — было,
І як жахліва — больш не будзе.
Хай так. Зняможанай душы
Шчэ зразумець, што ўсё-ткі шчасце —
Не заганяць цвікі ў запясці,
А быць распятым на крыжы.

Паэтыка аўтара мае выразныя перагукі з двума тутэйшымі літаратарамі, Нінай Мацяш і Алесем Паплаўскім, і перагукі гэтыя розныя па характары.

Ніне Мацяш дык ёсць нават адно наўпроставае перайманне:

Шчэ не збылі ні мар, ні пачуцця.
Яшчэ не ўсё ахаяна й прапіта.
Шаную вас, аратаі жыцця!
Не помню вас, аратары нябыту.

Як алюзіі вычытваюцца згадкі страт, нястачаў, восені. Веда, якую маю, — што аўтар жыве ў Белаазёрску, што вершы кніжыцы напісаныя

яшчэ пры жыцці слыннай белаазярчанкі, на друкавальнай машынцы яшчэ, а таксама верш-прысвячэнне шчырай сяброўцы спадарыні Ніны, філалагіні Марыі Новік, — падмацоўваюць гэтае маё ўспрыманне.

Вярэда, наяўнасць «жахліва-цяжкай» лексікі фармальна зближаюць аўтара з паэтыкай Алеся Паплаўскага. Той таксама тэматызуе роспач, адзіноту, у лепшых узорах вершы Паплаўскага маюць лірызм, але глыбінна, як у маім успрыманні, то палягае выразная цэзура. Ёсць у яе і фармальны план выражэння. У Ігара Шарая маем эканомнасць моўных сродкаў у дэталях, Алесь Паплаўскі не шкадуе моўнага матэрыялу. Быў бы ён скульптарам, можна было б сказаць: лепіць і лепіць.

Ружовы далягляд безабаронны.
Разгубленасць, здзіўленне, мітусня.
Задушлівае карканне вароны —
Агонія канаючага дня.

Або гэта:

…Нас няма ўжо?! Як боль — недасяжнасць!..
Як пратэст — запазнелая споведзь…
Захмялелая праўдай прадажнай,
Гіне наша душа на паўслове.

У сістэмным плане галоўнае адрозненне — гэта іншая культура самоты, а і ўспрымання Танатасу.

Шараёвы вершы маюць часам ноткі гэтых «мужчынскіх пакутаў». У адным ці другім выпадку нават просяцца на пародыю, як верш-крыўда (даўняя, яшчэ з дзяцінства) за спілаваную з-пад акна рабіну. Мне дык па прачытанні згадалася гнеўная газетная філіпіка аднаго дастаткова паважанага мною літаратуразнаўцы на адрас камунальнікаў, якія спілавалі таполю пад вокнамі «хрушчобы» ў брэсцкім мікрараёне Усход. Прачытаў тады і падумаў: а каб мне тая таполя сонца забірала, нават на трэцім паверсе? Бо заблізка да дома пасаджаная? Дык, напэўна, сам ноччу ўзяў бы нажоўку і пайшоў бы чырыкаць.

Або як радок «Страчай, матуля. Прагну дапамогі». У суме са згадкай пра чарку і пра немач наладзіць жыццё ён стварае ўражанне інфантыльнасці. Яно яшчэ больш умацоўваецца, калі прачытаеш:

…я душою шчэ там,
дзе дзіцём усміхаюся маю.
І кажу, што ніхто
Не заменіць мне маму маю.

Асабліва гэтае «м-м-м» у мяне дык адразу выгайдала з памяці ўспамін дзіцячай кавярні «Mam-mam», шыльду якой выглядзеў быў сёлета ў Ляйпцыгу. Прапісаў гэты блок, хоць цалкам разумею, што цытаваныя радкі сустрэнуць вялікую жаночую прыхільнасць (смайлік).

Але лейтматыў вершаў Ігара Шарая іншы. Ён не здраджвае здароваму вітальнаму пачатку і выказвае адчуванне тонкай меры.

Чаму ж тады не сябрам я, а госцем
Штодзень вітаю гэты тлумны свет?
Куды ісці, туманны? Падкажы!
Мо й праўда: той, хто мае, той і страціць.
А мне б пражыць з душою немаўляці
Да самае апошняе мяжы.

Вось табе і маеш, скрушыцца той-сёй пільны чытач. Толькі што кпіў з інфантыльнасці, і далей адразу ўхваляе за «душу немаўляці». Так, тут форма напоўнена зусім іншым зместам. Слова «немаўля» з цытаванага кантэксту, хоць і належыць да сэнсавага абсягу «дзяціннае», але ў меркаваную пародыю няйдзе. Паэт сапраўды мусіць мець першароднa чысты слых, чуйнасць. Або ён не паэт.

Двойчы паказальны гэты абсяг:

О не, яшчэ не думаем аб смерці.
Адкуль жа яе прысмак на губах?
Ні шчырых стрэч, ні песень не стае.
І душыць сэрцы роспач і трывога…
Няпраўда! Нам не здрадзіла дарога.
Мы самі недзе збочылі з яе.

Тут мне пярэчыць гэтае «мы». Асабліва з вуснаў паэта. Як-ніяк, апошнім ужыве спалучэнне слоў «нашы дзеці» не ў дачыненні да канкрэтнай жанчыны менавіта паэт. Творцы — гэта вялікія індывідуалісты, яны як ніхто адчуваюць, што паміраем мы кожны сам па сабе. І ў вершах Алеся Паплаўскага гэтая самасць вычытваецца. Але, з другога боку, той у ёй варыцца, кіпіць і ці то выжывае, ці то высмярочвае гэта; часам спрабуеш прачытаць яго як Паўля Цэлана. А гэты хоць праз «мы», але не буксуе-гразне, — шукае, абазначае выйсце. І нават знаходзіць, як у вершы-прысвячэнні Міколу Арахоўскаму.

Кароткае накіраванне па абыходжанні са смерцю.

Вершы танатаічнага абсягу, пачынаючы ад насмерць сур’ёзных і да вартых пародыі, ёсць добрай такой кропкай адліку. Ацэньваць іх можна, калі толькі ўпісваюцца недзе паміж гісторыямі (сама)забойстваў, пачынаючы ад Цэланавай «Фугі смерці» і заканчваючы найбольш лёгкаважкімі, як на мой густ, «Пакутамі маладога Вертэра» Гётэ. Хоць і названыя творы даюць небясспрэчныя матывацыі. Так, добраахвотная смерць Паўля Цэлана адстаіць ад гвалтоўнай смерці яго бацькоў у Чарнавіцкім гета і ад даты напісання «Фугі смерці» на чвэрць веку і мае такія прамежкавыя станцыі, як стварэнне ўласнай сям’і, паспяховую працу на ўлюбёнай ніве літаратуры і псіхіятрычную клініку. Яго Высокасць правадзейны таемны дарадца і міністр урада герцага Саксонскага фон Гётэ, калі апошні раз закахаўся ў 17-гадовую дзяўчыну і праз два гады ў спаважным, пагадзіцеся, веку 74 гадкі зрабіў ёй прапанову рукі і сэрца, і думаць не думаў, а як там забраць сабе ў сваёй драматычнай сітуацыі жыццё, —

напісанне моднага твора пра маральныя пакуты і ўчыненне сабе смерці адстаяла ад яго новай сардэчнай інтрыгі амаль на 60 гадоў! Ёгана даўно пакінуў бязрадна-радыкальны настрой рамантычнага юнацтва і наведала заслужаная гадамі трэніроўкі мозгу мудрасць.

Калі вершы маюць тэмай або згадкай смерць і не ўпісваюцца ў паэтыку вышэйпрыведзеных «рэперных» твораў — іх можна смела разбіраць на пародыі або проста зусім не звяртаць на іх увагі. Чаму? — спытае абураны чытач. А таму, што ўсе мы памром. Няхай сабе кожны па-свойму, але ўсе без вынятку. Таму дублетна мае быць разуменне дзвюх рэчаў. Па-першае, навошта прыспешваць тое, што ад цябе і так нікуды не падзенецца? Замаеш, здрыганешся, торгнешся і сапнеш апошні раз у падушку. У траву. «1000 спосабаў ашчэрыцца ў траву» — мегапапулярны амерыканскі серыял. Або проста ў атмасферу. Падругое: самы цымус, гэтае жывенькае, прахадное, з якім можаш і, калі ўсё ў парадку, прагнеш сустрэцца, гэтая авантура жыцця — з ёю можаш і не сустрэцца, вось якая рэч! І гарантавана не сустрэнешся, размінешся, калі будзеш кіснуць у сваіх лухцяна-смяротных трызненнях.

Усё-такі літаратура мае тую выгоду, што, паралельна з навукай, дае ключ для пазнання свету. Яе ключ спецыфічны — гэта вобраз. Карыстаючыся ім, параўнаю творцаў «танатаікі роўнага месца» з людзьмі, якія падсочваюць дрэвы на могілках. Назбіралі свае слоікі, банкі, бутэлькі, гладышы, пакеты, трохлітровікі, потым даюць збродзіцца (іншым разам дамяшаўшы больш адпаведнага лексікону, а нават нейкага надуманага цукру) або не даюць — і ўпіваюцца. І — даюць сербануць іншым (публікуюць).

Больш адэкватным нашай смяротнай сітуацыі мне падаецца Ігар Шарай.

Вось і ўсё…
Засталося ісці,
На сябе спадзявацца, каб потым
Гэты сум, гэты жах адзіноты
Не пакінуць камусьці ў жыцці.

Дробязі і не.

Вартая падзякі праца Сяргея Амельчука, які дзейна і дзейсна паспрыяў аўтару не таму, што зямляк, а таму, што вершы таго вартыя. Як і папярэдні сшытак паэзіі «Жарсць кахання», да якога прыклаўся Амяльчук, гэты мае прыемна яркую вокладку (мастак Л. Валасюк). Графічны дызайнер часам перасаліў са шматкроп'ямі, а два карэктары не дапільнавалі некалькі літар. Ну ды не смяротна, мабыць. Колькі цяпер выходзіць кніжак-бутэлек. Прыгожая форма, яркая наклейка, ні памылкі табе, каб хоць за што зачапіцца. А змесціва кіслае. Або, лічы, зусім няма. Пуста. Таму адасобім значнае ад другаснага.

*Берасце, 28.04.2018*

## Не запамятаю — запомніцца
*Развагі над дэбютнай кнігай паэзіі маладога паляка*

Атрымаў падарунак — паэтычны стастаронкавік. Зацікавіла, што напісаў малады сусед «цераз рэчку», як у нас кажуць, — Дамінік Собаль. Прачытаная з нагодай за вечар ксёнжачка паклікала нямала рэфлексій. Напачатку звярталі ўвагу, натуральна, рэчы фармальныя.

### Фармальнае

Перад усім гэта быў назоў кніжкі. Ён абнадзеіў. «marzeniodajnia» — «марадайня» — наватвор са значнай канцэнтрацыяй асацыятыўна-эматыўна афарбаванага зместу, што азначае, што маем справу з «ушчытненнем», кампрэсіяй зместаў, з’явай, для паэзіі алгарытмічнай, — і гэта ў межах аднаго, самага першага слова. Каб канструкт не хістаўся, нагадаю пра кампрэсію: у нямецкай мове сам назоў паэзіі як жанру літаратуры так і гучыць — «Dichtung» — «ушчытненне», «кампрэсія».

Другая дэталь: гэта што маладзюсенькі, калі нават мераць меркамі класікаў, (1988 г. н.) аўтар жыве ў Тэрэспалі над Бугам. Каб не мяжа, дык, лічы, на суседняй вуліцы.

Трэці шэраг ужо фармальных акалічнасцяў — гэтая нізка з блізу ста вершаў выдадзена ў 2014 годзе ў бібліятэчцы Падляскага штогадовага культуровага квартальніка, выданне нумарное (№ 19) і без пазначэння накладу, затое з важкай прадмовай. Гэтае стылёва-знакавае мільгаценне падкрэслена згадкамі папярэдніх публікацый аўтара ў газетах / альманахах / часопісах (у тым ліку і ў беларускім «Маладосць»), якія спалучаны з паведамленнем пра Дамінікава лаўрэацтва «ў некалькіх агульнапольскіх літаратурных конкурсах, у тым ліку…».

Дык што ж ляжала перада мной? Хіба так: першая пасля «брацкіх магіл» кніжка, спалучаная з рэкамендацыяй мясцовага мэтра, — тым, што сёння разглядаецца некаторымі чытачамі як знак слабасці («давай адразу аўтара!»), — і са спісам рэгалій, стандартным для рэзюмэ мастакоў (…творы выстаўляліся ў В., Б., М., знаходзяцца ў прыватных калекцыях скрозь па свеце…)? Выглядала сумніўна… А які быў узровень тых конкурсаў? Ёдкія падазрэнні крытычнага розуму.

### Змястоўнае

Перайшоў да чытання. Так. Ніводнай рыфмы. Што ж, пытанне ў іншым. Вобраз ёсць? Рытуальнасць?

Ну, напачатку рытуальнасці дык і надта багата. Пра пахаванні, прадзедаў, іхнія смерці… «Над труной дзеда Яна», «Над труной дзеда Антэка» — такія загалоўкі. Ды й з дублямі яшчэ…

«Не люблю хаўтуры, застоллі…». Пагаджаюся: і праўда… Да песень і ў нас даходзіць. З іншага боку, у немцаў нават у назове тых памінак ёсць вялікі ядальна-дапамінавы пазітыў («Leichenschmaus» літаральна «пір з нагоды трупа», «Gedenkfeier» — даасноўна «свята памінавення»). Але ж і яны, напэўна, пераадолелі вясёлае ў старадаўнім абрадзе, а сваю грамаду аўтар дакладна заспеў за дэградацыяй да фактычнага піравання — і я знаходжу гэтую прыкрасць тут таксама, і мы кананічна гідзімся гэтым — паэт Дамінік Собаль, з ім я і яшчэ хто… Але ці гэта вершы? А мо проза? Кароткая, публіцыстычная? Рэчытатывам толькі, як яблык пладаножкай, завіслая ў садзе паэзіі?

Стоп, кажуць мне вочы. Прабабця наказала аўтару, каб не заседжваўся над магілай, каб рухаўся па жыцці: «zastosuj się do zaleceń nie marnuj czasu / na siedzenie przy moim nagrobku / bo wilka dostaniesz». Мае вусны растуляе ўсмешка. Не банальна. Вобраз ёсць. Хоць як для маладога, то нібыта не ў тэму…

Далей заценіў назовы рубрык. «nie pokorność?», «nie smialość?», «nie poprawność?» — чыста паэтаўскі прыёмчык здабывання сэнсаў і ўзварушэння чытачовых асацыяцый шляхам раздымання слова. У Беларусі ім часта і паспяхова карыстаецца Алесь Разанаў.

Мільгалі рэчы па-іншаму шчырыя, інтымныя, дзе аўтар далёкі ад стылістыкі «мужских страданий», якімі перапоўненая расейская папса — бо мае іронію і плоднасць да аб’ёму. «Па вуліцы, з боку другога, / ішла мая першая міласць / з жыватом заўважна выбітным / то трэцяя будзе цяжарнасць / ўсіх запар не я іх прычынай / здаўна не жыве бо са мною / і болей не будзе навекі» (падрадкоўнік тут і далей мой. — *Я. Б.*).

Густоўна-эратычным падаўся верш з такімі радкамі: «Прыгоства дзявочых абшараў / сляпіла выразна / і вось ты, нябога, не ў стане / сабраць свае думкі / …на хвілю ў змаганні мы гінем, каб больш панаваць над прыродай». Хоць дратуе прысвячэнне Władysławowi Hąsiorowi. Але, не буду хаваць, больш дратуе няпоўнае валоданне мовай. Нюансы не даюцца мозгу адразу, існуюць як цьмяныя інтуітыўныя здагадкі або і наогул выслізгваюць з поля ўспрымання. (Затое з’яўляецца матывацыя да лепшага вывучэння польскай.)

Падкупіў мяне аўтар абразком на старонцы 79. І заадно канчэльна сцвердзіў у думцы, што ма́ю справу з вершамі. Прычым сцвердзіў рафінавана, бо літаральна і праз трэцюю асобу. Асоба тая — гэта Пан з Паважанага Выдавецтва. Той прыслаў юнаку Дамініку Собалю кароткі мэйл з адмовай друкаваць вершы. «Ніхто болей не чытае паэзіі. Будзьце здаровы».

Скрышальны, здавалася б, удар маладзён адпрэчыў, адкрыўшы таямніцу, што ён не сам адзін у чытанні сваіх і чужых вершаў. «Вар’яты, роспачнікі, дэпрэсанты, / нешчаслівыя закаханцы, / літаратуразнаўцы / прафесары / будучыя самазабойцы, / а таксама знакамітыя і не надта графаманы / глядзяць на гэта дыяметральна процілегла». Жадання сысці з пераліку ў мяне нават не ўзнікала. Злавіў сябе адно што на думцы: «Глядзі ты. Адбіліся».

Не праміну, каб не працытаваць таксама і тое, што ўсё-такі, на мой погляд, прыпадымае аўтара над панылым эпатажным фізіялагізмам. Першы верш-прысвячэнне, не надпісаны больш крыптонімам, вядзе пералік тэмаў для размоў з

Каралінай: «алкагалізм бацькоў, недахоп паветра, усёўладнасць спажывецтва». Нечакана аўтар заўважае, што гэтыя тэмы «не суправаджаліся канструктыўнай дзейнасцю ўраблення эрагенных зон». І прыстаўляе да месяца, які прабавіў з дзяўчынай, эпітэт з вулічнага жаргону. Цікава было быць сведкам, што гэта застаецца ў межах інтэлектуалізму.

Калі вярнуцца да стартавай тэмы смерці, то да паэтыкі Паўля Цэлана яна імкнецца ў вершах пратэставых, а ў масіве сваім ад яе далёкая, бо прасякнутая іроніяй, маладой (як-ніяк) адстароненасцю і — здольная нават пераплятацца з прагматычнымі матывамі, такімі, як сацыяльная справядлівасць: «Пані Смерць з малой вёскі / не горшая за тых дам, якія бегаюць трушком / у Варшаве / Познані / Кракаве».

Нечаканасць вобраза — гэта алгарытмічны складнік паэзіі, і ён тут відавочна прысутны.

### Маладым і не толькі

Адзначу, што для маладых вершы Дамініка Собаля кідкія і прывабныя рассыпанымі даволі шчодра знакамі пратэставасці. Абсяг пра вясковую і гарадскую смерці падыдзе і сюды, але больш слоган «bawmy się razem / na pohybel krytyce!» або мулкае «aby zmarnować się pośród tłumu / takich samych krawaciarzy jak twój stary» («каб змарнаваць сябе пасярод тлуму / такіх самых гальштучнікаў, як твой стары») — што, калі браць пад увагу традыцыі паховінаў, само па сабе менш крыўднае за бытнуючае сярод пэўнай часткі маладых немцаў вызначэнне іхняга старшага пакалення як «Grufties» — скляпеннікаў. Менш крыўднае, бо адно адпрэчвае ўніфармаваную аднастайнасць і расчалавечванне зарэгламентаваных бацькоў, а не крыўдзіць суб'ектыўна, аперуючы аб'ектыўным фактарам. Адпаведна, няма ўжо болей пэўнай перспектывы атрымаць «z powrotem» назад па зубах: калі ў маладых адзіная вартасць — гэта ўзрост, то яна, як вядома, страчваецца хутка і, галоўнае, няўхільна.

Жывым суразмоўцам з чытачом робіць аўтара назіральнасць. З іроніяй прапісвае ён момант, калі пачуўся… старым — чытаючы ў ранішнім аўтобусе папяровую кнігу ў атачэнні школьнікаў, з іх смартфонамі і планшэтамі.

Таму папяровы «ўтвор» Дамініка Собаля хочацца пагартаць яшчэ. Ловіш сябе на думцы: запомніў гэты верш, і гэты не запамятаваў, а ў гэты яшчэ хочацца ўчытацца… Гартаючы, адчуваю, што той ці іншы верш, мабыць, слабаваты, бо хадульны, катурнавы ці шкілетаваны, без паэтычнага мяса…

Ды няхай лепш перакладнікі вызначаць, які верш варты, а які не. Нізку з кнігі палічыў патрэбным перакласці сам. Бо каго з суседзяў перакладаць, калі не гэтага маладога самабытніка — адным з першых. І не таму, што крыху там, у адным месцы, згадаў Брэст, свой побыт тут. У яшчэ адным напісаў пра царкву. Не, прычына ў іншым. Мабыць, таму што ў гэтым палягае цікавасць культуровага жыцця. Кніга Дамініка Собаля дае той матэрыял, які варта абмяркоўваць на творчых сустрэчах, у студэнцкіх аўдыторыях… Вершы Собаля вартыя таго, каб выйсці ў рамках праграмы, кшталту зладжанай паэтамі Берасцейскага Во-

гнішча супольна з літаратарамі суседняй Валыні два гады таму, вынікам якой былі кнігі-дублеты ўзаемаперакладаў.

Але заходні вектар мы пакуль толькі адкрываем. Мае ён сваю спецыфіку: творчасць беларусаў польскай дыяспары. Таму можа быць цікавы па-іншаму. Не можам быць задаволеныя тым, як ідзецца Украіне, як згортваецца кніжніцтва ў польскіх суседзяў і, мабыць, асабліва ў нас саміх. Дзеля лепшай будучыні варта і трэба працаваць. З гістарычнага наканавання, з мовы нам бліжэй народаў, чым гэтыя два, няма і не будзе.

*Брэст, 04.01.2015–30.04.2017*

**Мікола Сянкевіч**

## Заставацца на сваёй траекторыі

*У Брэсцкай гарадской бібліятэцы імя А. С. Пушкіна прайшло абмеркаванне новай кнігі Алены Ігнацюк «Дыярыуш для дзівалова», якая зусім нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор». Свой фантасмагарычны дыярыуш аўтарка выдала пад загадкавым псеўданімам Дора Гуш. У хуткім часе чакаецца прэзентацыя кнігі ў парафіяльнай бібліятэцы імя Адама Міцкевіча сталічнага касцёла Святога Сымона і Святой Алены.*

Жанр новай кнігі, па вызначэнні аўтара, — зімовая фантасмагорыя. Змест падзелены на восем невялікіх раздзелаў — па колькасці дзён тыдня, бо, акрамя звыклых для нас сямі, па волі творцы з’явіўся і яшчэ адзін — шчасніца. Дакладна акрэслены і прамежак часу, калі адбываліся неверагодныя падзеі — 7 лютага і наступныя за гэтай датай дні, а таксама месца дзеяння — горад Пінск і яго ваколіцы.

Фантасмагорыя — жанр асаблівы. У яго характарыстыцы найчасцей сустракаюцца словы «сумбур», «страх», «хаос», «фобіі»… Мне больш падабаецца паэтычнае азначэнне, дадзенае самім аўтарам: «Фантасмагорыя — мастачка, якая жыве ў палацы гарэзлівага пана Сну і распісвае ненадакучлівымі фарбамі яго сненні». Згадзіцеся, прыгожа і дакладна. Мы ўсе, сцвярджае пісьменнік, маем патрэбу ў маляўнічых снах, бо вельмі часта ў жыццёвай мітусні дарэшты разбіваюцца нашы спадзяванні, губляюцца надзеі, на нашых вачах падаюць ніц духоўныя аўтарытэты. І вельмі цяжка заставацца сам-насам са сваёй адзінотай.

Да фантасмагарычных дзённікавых запісаў Алена дадала і паэтычныя радкі, якія гучаць найперш з вуснаў koткі Евы, а яшчэ пінскіх паэтаў, знаўца латыні пацука-бібліяфіла і пасцільнай Музы. Калі гаварыць пра паэзію, то яна — мусім пагадзіцца з аўтарам — не апранута «ў пінскі кажушок з фальклорнымі элементамі». Яе ўбор эклектычны: тут ёсць месца філасофскім роздумам, алегарычнай вобразнасці ды іранічным інтанацыям.

Як заўважыла сама Алена ў кароткай прадмове, без згаданых вышэй «пацешных алегарычных кумачак» (маецца на ўвазе Фантасмагорыя і Паэзія) яе зімовая гісторыя не магла б адбыцца, паколькі акурат яны «кіруюць тут жанрава і нават стылёва ходам асноўных падзей». Менавіта такая супольнасць дазваляе кожнай з іх адчуць сябе філасафіняй, паразважаць пра рэаліі нашага няпростага быцця, а самому аўтару дае магчымасць стварыць асаблівы, фантастычны,невераемны свет, кідка паказаць сутнасць той ці іншай з’явы, урэшце, «раскрыць сваю душу і жыццё ў правінцыйным Пінску».

На працягу васьмі дзён тыдня «алегарычныя кумачкі» дапамагаюць зразумець філасофію «нуля», заканамернасць Метамарфозаў, яны разважаюць пра тое, як адшукаць Субстанцыю, зводзяць гераіню з Гандляром-прусаком і панам Буслом.

Фантасмагорыя Алены Ігнацюк мае «вострa загнутыя ўніз бровы, востры падбародак і востра-іранічную ўсмешку». На палосцы замацаванай на паголенай галаве тканіны — вянок са счэпленых калючкамі шарападобных кактусаў, якія штотыдзень перасаджваюцца ў гаршчочкі. Так што «колкасці» ёй таксама хапае. У «Дыярыушы», праз неадпаведнасць паміж сутнасным і знешнім, даволі часта сустракаюцца іранічныя і з'едлівыя малюнкі.

Аўтар насмешліва ставіцца да многіх сваіх персанажаў. Напрыклад, да правінцыйных літаратараў — плагіятараў-пераймальнікаў і папулістаў. Містычныя Карамелькі ў фанцікавых фраках (маларослыя, часовыя, хоць і салодкія) праводзяць кастынг сярод мясцовых паэтаў, каб запрасіць іх у краіну Карамелію на фэст. Ці яшчэ яскравы прыклад: усе дзяўчаты ў новым корпусе Палескага калегіума — Ксюшы, а ўсе хлопцы — Арцёмы. Літаральна ўсе студэнты закаханыя і ходзяць толькі парамі, узяўшыся за рукі. Да ўсяго, усе пары — на адзін твар. Яшчэ складаней з выкладчыкамі: тыя зусім не ўсміхаюцца і таксама ходзяць па-двое, як спрэжаныя, — навуковец і метадыст-кантралёр. Нават вядомы крытык Паўлін Казіцкі, знаўца рускай мовы і аматар выпраўляць у маўленні сваіх калег націскі, ходзіць з кантралёрам, які папраўляе і яго нацыскі. Тут ужо не іронія, а едкая гіпербала, гратэск. Але ж хто скажа, што не ў сук?!

Смех накіраваны і на Снегавікоў з мэрыі, што пад кіраўніцтвам жонкі першай асобы праводзяць акцыю пад назвай «Снегаманія» — збіраюць снег у кантэйнеры, каб пасля захоўваць яго ў халадзільных камерах і тым самым падоўжыць тэрмін знаходжання на высокай пасадзе.

Як ужо згадвалася, пасміхаецца аўтар і з тых недалёкіх людзей, што разлічваюць вярнуць сляпых павадыроў з мінулага, страціўшы дарэшты ўласную сістэму каардынат. Тое, як людзі па добрай волі губляюць свабоду ў думках і дзеях, аўтар ілюструе наступным выразным параўнаннем: купляючы ў краме новыя чаравікі, мы найперш клапоцімся пра тое, каб яны не ціснулі, былі па назе, але тут жа на ўсю сілу зяцягваем на іх шнуркі…

Як казаць пра найбольш уразлівае месца ў творы, — для мяне гэта эпізод, калі гераіня, шукаючы Субстанцыю, трапляе на прыпыначны павільён, у цэнтры каторага дзяўчына ў малінавым берэце з дзвюма доўгімі косамі на плячах. Калі яна на вачах у людзей заплятае правую касу, то бачыцца казачнай Васілісай Красой, а як расплятае, то робіцца пачварна старой. Разам з дзяўчынай мяняюцца і людзі з натоўпу. Такім чынам чараўніца пераводзіла ўнутраны духоўны стан чалавека ў знешні. Чамусьці адразу прыйшло на памяць некалі пачутае ад старых людзей: «Што чалавечае жыццё!.. Не паспее дзеўка косу расплесці, як і прайшло яно, прабегла». Праўда, я не зусім згодзен з героем-апавядальнікам, калі ён, падагульняючы ўрокі дня, гаворыць пра дыялектычную супрацьлегласць маладосці і старасці. Больш даспадобы некалі пачутае выказванне аднаго з іерархаў праваслаўнай царквы. Мудры пражытым святар, які выслухаў не адну тысячу чалавечых споведзяў, прыйшоў да адназначнай высновы: дарослых людзей наогул не існуе.

У «Дыярыушы ад дзівалова» ненавязліва падаецца даволі многа гістарычных звестак. Аўтар высока цэніць народныя традыцыі і культуру роднага краю.

Так, напрыклад, у раздзеле пра пана Бусла, рэчы самі бягуць да касцёла, калі там пачынае гучаць аўтэнтычная музыка. Яна прыцягвае і заварожвае.… Культура, па перакананні аўтара, тое адзінае, што можа выратаваць грамадства ад пагібелі. Калі па віне бязлікіх Масак з горада знікае Культура, на яе месца заступае такая ж бязлікая ціхоня-Пустата. «Я — замест Культуры…» — мармыча яна невыразна і вядзе людзей у масках праз снежнае поле да лініі абрыву. «Маскі! За полем — пастка! Выбірайце пастку! За мной!» — крычыць вар’ятка, і ўсе кідаюцца ўніз… Невясёлая, як кажуць, перспектыва. Але ж застанемся аптымістамі…

# НАШЫ НОВЫЯ ВЫДАННІ






**ГУШ, Д. Дыярыуш для дзівалова (зімовая фантасмагорыя)** / Дора Гуш (Ігнацюк Алена). — Мінск : Кнігазбор, 2018. — 84 с.




**ШАРАЙ, І. Разумець маўчанне : вершы** / Ігар Шарай. — Брэст : Брэсцкая друкарня, 2018. — 62 с.

У эпоху камп’ютарных тэхналогій напісаныя ад рукі і надрукаваныя на пішучай машынцы, некалі падоранай Нінай Мацяш, вершы Ігара Шарая нясуць у сабе пазнаку таленту, пранізліва кранаючы душу чытача вытанчанымі паэтычнымі вобразамі.




**БЕЛЫ, А. І. Жыві, дзе ўдосталь ветру… : вершы, эсэ** / Аляксей Белы. — Мінск : Ковчег, 2018. — 152с. : іл.

Чарговая кніга сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра і Беларускай асацыяцыі журналістаў Аляксея Белага мае некалькі раздзелаў. Найперш гэта новыя вершы. Пра дзяцінства, вучобу, работу, уласныя пачуцці і адчуванні. Вядома, не ўсе вершаваныя творы, што ўвайшлі ў гэты зборнік, напісаныя «на адным удыху». Некаторыя з іх чакалі дапрацоўкі доўгія гады…

Другі раздзел — твор, прысвечаны Ігнату Дамейку, паўстанцу, вучонаму, даследчыку, нацыянальнаму герою Чылі, які праз усё жыццё пранёс любоў да Беларусі. Яшчэ адзін раздзел зборніка — эсэ пра жыццёвы шлях і творчасць выбітных беларускіх літаратараў Дануты Бічэль і Міколы Купрэева, з лёсам якіх Аляксея Белага звязвала і звязвае шмат цікавых падзей і цёплых успамінаў.




**БАГРАНА, Г. Цітоцень : аповесць-казка для дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту** / Ганна Баграна ; пер. з укр. Сяргея Амельчука. — Брэст : Брэсцкая друкарня, 2017. — 44 с.

Не ўсе рэчы і істоты існуюць у прыродзе, большасць з іх існуе ў нашым уяўленні, хоць зрэдзь можа лёгка пераходзіць з выдуманага ў свет рэальны…




**АМЯЛЬЧУК, С. Зямля, якую бяруць з сабою : зборнік хайку** / Сяргей Амяльчук. — Брэст : Брэсцкая друкарня, 2018. — 88 с.

Хайку, яны абуджаюць раней прыспаныя думкі і змушаюць чытача да роздуму. Хайку — гэта тое, што падумаў чытач, а не тое, што напісаў паэт.




**ДЭБІШ, А. Пушчанскія дзівы : вершаваная казка** / Анатоль Дэбіш, Васіль Дэбіш. — Брэст : Брэсцкая друкарня, 2018. — 24 с. : іл.

Казачныя істоты, якім пакланяліся нашыя продкі, непаўторнае хараство прыроды, жыццё дрэў і кветак — усё гэта склала змест кнігі братоў Дэбішаў, якая дапаможа юнаму чытачу хутчэй сталець, адкрываць у навакольным свеце новае і незвычайнае.




**ЯРМАШУК, В. А. И слово обретает грань…** / В. А. Ярмашук. — Брест : Брестская типография, 2018. — 60 с.

Поэзия Василя Ярмашука — это размышления о сути художественного творчества, о его предназначении. Светлые чувства рождают стихи о природе родного края, наводят на раздумье стихи о любви.

# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

**Аляксандр Рызо**



**Ала Даніленка**



**Мікола Пацяюк**



**Уладзімір Данілюк**



**Ярына Дашына**



**Аляксей Белы**

# ПРОЗА

## Віктар Рачко



## Генадзь Пясчанскі



## Ірына Ляшкевіч



## Павел Ляхновіч



## Віктар Губарэвіч



## Мікола Ільючык



## Вадзім Жылко

## ПАД НЕБАМ АДЗІНЫМ

## КРАЯЗНАЎСТВА



## УСМІХНЁМСЯ

## ПАМЯЦЬ



## ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

12+

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# ЖЫРАНДОЛЯ

*Літаратурны альманах*
*Выпуск 10*

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Алесь Пашкевіч*
Вёрстка *Ларысы Гарадзецкай*
Карэктар *Алена Спрытніч*

Падпісана да друку 27.08.2018. Фармат 70x100 $^{1}/_{16}$.
Друк лічбавы. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 10,95. Ум. друк. арк. 18,80.
Наклад 200 асобнікаў. Зак. 345.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ЗАТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/182 ад 15.02.2016.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.